Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

Кн. 3 ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ № 3

# СЕЛЬСКАЯ І ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА



Выданьне Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту
Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна
і Народнага Камісарыяту Земляробства

МЕНСК

1927

**А. Шычко.**

# Зямельны фонд і проблема мэліорацыі ў БССР.

*1. Агульныя зьвесткі.* Земляробская Беларусь мае ня зусім спрыяючыя топографічныя і глебавыя ўмовы. Налічча вялікай колькасьці забалочаных і нявыгодных дзеля вядзеньня сельскае гаспадаркі зямель, стракатасьць глеб (ад сыпучых пяскоў да цяжкіх суглінкаў)—зьяўляюцца яе асаблівасьцямі.

З 4.979.702 душ усяго насельніцтва ў 1927 годзе каля 85 проц. займаецца земляробствам. Прамысловасьць у народнай гаспадарцы Беларусі пакуль што мае слабую ролю. Цэннасьць прамысловай вытворчасьці не дасягла яшчэ і 20 проц. кошту ўсяе прадукцыі. У эканамічным разьвіцьці Рэспублікі толькі пачынае зараджацца індустрыя, шырокае разьвіцьцё якой толькі і здольна перамагчы агульную гаспадарчую адсталасьць краіны, павысіць нізкую прыбытковасьць сялянскае гаспадаркі і, наогул, палепшыць эканоміку вёскі.

На пасьпяховае разьвіцьцё сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў БССР мела адмоўны ўплыў, і захавае адмоўны ўплыў яшчэ надоўга, вострая аграрная перанаселенасьць. У БССР на 1 кв. вярсту прыходзіцца душ:

| | |
|---|---|
| усяго насельніцтва . . . | 44,5 |
| сельскага насельніцтва . . . | 37,9*) |

Калі лік насельніцтва аднесьці толькі да сельска-гаспадарчай плошчы, дык на 100 дзес. гэтае плошчы прыдзецца 63,6 чалавекі. Сельска-гаспадарчая плотнасьць у БССР надта высокая, і калі яна ўступае ў гэтым паасобным раёнам Украіны, цэнтральнай і заходняй частак РСФСР, дык яна ў той-жа час стаіць далёка ззаду ад гэтых раёнаў адносна прамысловага разьвіцьця і ня мае іх прыродных умоў (выкапні, тучны чорназём і інш).

Плотнасьць насельніцтва павялічваецца нераўнамерна ў паасобных раёнах Рэспублікі. Паказваю гэта ў табліцы (бяз Гомельшчыны). Гл. стар. 4.

У акругах Мазырскай, Бабруйскай, Полацкай і Барысаўскай, як найбольш лясістых і з налічнам значных плошчаў няўдобных зямель, плотнасьць—найменшая.

Пры надмернай аграрнай перанаселенасьці—сярэдняя землязабясьпечанасьць сялянскае гаспадаркі (па даных за 1925 г. 7,84 дзес.). Такая землязабясьпечанасьць нават пры шпарка разьвіваючымся процэсе інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі не дае поўнага прыстасаваньня налічных у ёй рабочых рук, а другое,—далёка не забясьпечвае нават спажывецкіх па

*) Бяз быўш. Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, зараз далучаных да БССР.



| НАЗВА АКРУГ | На 1 кв. вярсту | На 100 дзес. сел.-гаспад. плошчы |
|---|---|---|
| Віцебская . . . . . | 46,7 | 63,5 |
| Полацкая . . . . . | 34,8 | 52,4 |
| Менская . . . . . | 37,6 | 56,5 |
| Слуцкая . . . . . | 37,0 | 55,3 |
| Барысаўская . . . . | 31,9 | 62,2 |
| Мазырская (Палесьсе) . . | 21,8 | 51,0 |
| Бабруйская . . . . | 34,5 | 61,7 |
| Магілеўская . . . . | 47,5 | 81,0 |
| Аршанская . . . . | 51,8 | 71,7 |
| Калінінская . . . . | 48,9 | 73,2 |
| Па БССР . . | 37,9 | 63,6 |

трэб сям'і, якая вядзе гаспадарку. Акрамя гэтага, далёка ня ўсе землі сельска-гаспарчага прызначэньня ўцягнуты сялянствам у правільную эксплёатацыю. Значная колькасьць іх (залежы, бросавыя вучасткі, аблогі, выганы, забалочаныя і запушчаныя сенажаці) знаходзіцца ў вельмі экстэнсыўным скарыстаньні. Такіх зямель па БССР па даных 1925 году лічыцца 1.306.200 дзес., што складае 20,4 проц. да ўсяе скарыстоўваемай сельска-гаспадарчай плошчы, альбо на адну гаспадарку 1,68 дзес.

Такім чынам, сялянская гаспадарка базуецца не на 7,84 дзес., а толькі на 6,16 дзес.

Аграрная перанаселенасьць выклікае таксама моцнае драбленьне сялянскіх гаспадарак, організацыю гаспадарак амаль выключна спажывецкага тыпу (карлікавых), аказвае свой уплыў на гарадзкі рынак працы, павялічваючы кадры гарадзкіх беспрацоўных*), а таксама дае пастаянны і вялікі кадр перасяленцаў, галоўным чынам земляробскага тыпу. Заявак на перасяленьне за межы БССР паступіла: у 1924-25 г. ад 52.626 душ, у 1925-26 г. ад 62.747 душ, а к гэтаму моманту мы маем іх ужо ад 239.239 душ. Фонду-ж на перасяленьне за межы БССР на 1927-28 г. ад Перасяленцкага Камітэту СССР намечана толькі на 28.000 душ (меней, чым у мінулым 1926-27 г. на 8000 душ). Выхад перасяленцаў з БССР у процантах да агульнай колькасьці перасяліўшыхся па гадох такі:

1925 г. . . . . $\frac{7{,}0 \text{ проц.}}{0{,}30 \text{ проц.}}$ **)

1926 г. . . . . $\frac{12{,}0 \text{ проц.}}{0{,}44 \text{ проц.}}$

1927 г. . . . . $\frac{14{,}5 \text{ проц.}}{0{,}83 \text{ проц.}}$

*) Сярэдні лік беспрацоўных у 1924-25 г. быў 31.300 чал., у 1925-26 г. ён падняўся да 38.800 чал., а ў 1926-27 г. ужо да 51.300 чал.

**) У лічніку—адносна СССР, у назоўніку—адносна БССР.

За пэрыод-жа з 1896 году па 1914 г. з Беларусі за Урал перасялілася 11,6 проц. усяе колькасьці перасяліўшыхся з Расіі, альбо 11,33 проц. агульнай колькасьці сельскага насельніцтва Беларусі.

Па напружанасьці перасяленцкага руху БССР займае першае месца. УССР і РСФСР за тыя-ж дарэволюцыйныя гады перасялілі—першая 9,7 проц. і другая 4,03 проц. агульнай колькасьці сельскага насельніцтва.

Такім чынам, аграрная перанаселенасьць, пры няпоўным ахопе зямель эксплёатацыяй з прычыны непрыстасаванасьці і нізкай якасьці глебы, вызначае ў БССР і сыстэму мерапрыемстваў па барацьбе з ёю.

1. Рацыяналізацыя і рэконструкцыя сельска-гаспадарчай вытворчасьці, організацыя сродкаў вытворчасьці, організацыя рынку для сельска-гаспадарчых прадуктаў і сельска-гаспадарчай прамысловасьці (індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі), а таксама ўзмацненьне абабшчаўленьня сельска-гаспадарчае вытворчасьці і капітальных укладаў у сельскую гаспадарку.

2. Некаторае скарыстаньне адыходзячай з вёскі рабочай сілы ў гарадзкой прамысловасьці, організацыя перасяленьня за межы Рэспублікі.

3. Уцягненьне ў правільную гаспадарчую эксплёатацыю па магчымасьці ўсяе зямельнае тэрыторыі БССР шляхам організацыі яе (земляўпарадкаваньня) і сельска-гаспадарчых і лясных мэліорацый.

Спынімся тут толькі на сыстэме мерапрыемстваў апошняга пункту.

*II. Зямельныя фонды і організацыя тэрыторыі.* Уся зямельная плошча БССР разьмяркоўваецца па ўгодзьдзях так:

| №№ па чар. | НАЗВА ЎГОДЗЬДЗЯЎ. | 1925 г. Тысяч дзес. | Проц. аднос. | 1926 г. Тысяч дзес. | Проц. аднос. | 1927 г. Тысяч дзес. | Проц. аднос. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Зямель с.-г. прызначэньня . . | 6400,7 | 55,7 | 6655,8 | 58,0 | 6692,3 | 58,3 |
| 2 | Лясная плошча (удобная) . . | 3220,8 | 28,1 | 2972,2 | 25,8 | 2947,5 | 25,6 |
| 3 | Зямель агульнага карыстаньня (гарадз. забудовы, ваенвед, шляхі, вазёры) . . . . | 178,5 | 1,5 | 180,0 | 1,6 | 181,0 | 1,6 |
| 4 | Нявыгодныя пяскі . . . . . | 140,0 | — | 140,0 | — | 139,0 | — |
| 5 | Тарпянікі . . . . . | | | | | | |
| 6 | Балоты . . . . . | 1199,0 | 10,4 | 1191,0 | 10,4 | 1178,7 | 10,3 |
| 7 | Абсалютн. нявыгодн. . . . . | 350,0 | — | 350,0 | — | 350,0 | — |
| | Разам нявыгодн. | 1689,0 | 14,7 | 1681,0 | 14,6 | 1668,2 | 14,5 |
| | Усяго зямельн. плошчы. | 11489,0 | 100 | 11489,0 | 100 | 11489,0 | 100 |

Рэзкае павялічэньне ў 1926 г. плошчы зямель с.-г. прызначэньня і паменшэньне лясной плошчы тлумачыцца пераходам у 1925 г. значнай плошчы падлесных зямель у асобы фонд дзеля надзяленьня безьзямельнай і данадзяленьня малазямельнай вясковай беднаты зямлёю.

Выгадных зямель с.-г. прызначэньня без балотнае сенажаці, як бачым, толькі некалькі больш паловы з агульнай плошчы ўсіх зямель Рэспублікі і разьмяркоўваюцца яны (зразумела, разам з нявыгоднымі) сярод 817.704 сялянскіх двароў, даючы наступны малюнак сярэдняга землязабесьпячэньня за тры апошнія гады:

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Сярэдні склад сям'і . . . | 5,40 | 5,39 | 5,40 |
| 2. Сярэдн. землязабясьпечан. аднае гаспадаркі (у дзес.) . . . | 7,84 | 8,09 | 8,03 |

Данымі спэцыяльна праведзенага Наркамземам у 1925 г. і праверанага ў 1926 годзе вучоту ўстаноўлена, што групіроўкі гаспадарак па фактычнаму разьмеру землякарыстаньня прадстаўляецца ў наступным відзе:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Безьзямельных і маючых у карыстаньні зямлі на 4 раб. сілы менш мінімальнай нормы (5,75 дз.) . , . . | 217.696 | двароў | 32,0 проц. |
| 2. Гаспадарак з землязабесьпячэньнем мінімальнай і ня вышэй максімальнай (5,75 — 11,5 дз.) . . . . . . . . | 445.764 | „ | 66,0 „ |
| 3. І звыш максімальнай нормы (11,5 дз.) . | 15.267 | „ | 2,0 „ |
| Разам*) | 677.261 | „ | 100 „ |

Фактычна землязабясьпечанасьць сялянскіх гаспадарак хістаецца ў граніцах ад 1 дзес. да некалькіх дзесяткаў дзес., у канцы-ж земляўпарадкоўчых работ граніцамі землязабясьпечанасьці зьявяцца мінімальная і максімальная нормы, устанаўліваемыя Наркамземам параённа.

У выніку Кастрычнікавай Рэволюцыі беларускае сялянства асвоіла ўжо 1.697.000 дзес. зямель быўш. непрацоўнага карыстаньня (панскія, царкоўныя і інш.). Цяпер у працоўным карыстаньні сялянства мы бачым 65,2 проц. (без лясоў мясцовага значэньня) усіх зямель, замест дарэволюцыйных 54,3 проц. Але ўсё-ж такі каля трэці гаспадарак зьяўляюцца карлікавымі, зусім няжыцьцёвымі, галоднымі.

Да гэтае трэці без памылкі можна аднесьці значную частку гаспадарак і з сярэдняй групы, бо нармальнае пабудаваньне працоўнай земляробскай гаспадаркі па БССР забясьпечваецца зямельнай нормаю (у сярэднім) 11,5 дзес., якая пры існуючай тэхніцы сельскае гаспадаркі з'яўляецца спажывецка-працоўнай і далёка не дасягаючай працоўнай нормы. Сапастаўляючы гэтую норму (11,5) на сярэдні сялянскі двор (4 рабоч. сілы) з сярэдняй па Рэспубліцы (7,84 дзес.), бачым, што недазабясьпечанасьць беларускага сялянства зямлёю раўняецца 31,8 проц.

З прыведзеных даных групоўкі гаспадарак бачым, якая вялікая патрэба ў зямлі беларускай вёскі і які вялікі там запас нескарыстоўваемай у сельскай гаспадарцы рабочай сілы.

Дзяржплян БССР збытачнасьць працы ў сельскай гаспадарцы ацэньвае ў 18,5 проц.; пры гэтым ён прымае пад увагу фактычнае разьмеркаваньне рабочага часу селяніна, не вылучаючы немэтазгодныя затраты рабочага часу на работы ў гаспадарцы, якія праводзяцца толькі таму, што ёсьць свабодны час. Пры выключэньні гэтых затрат процант збытачнасьці працы падымецца за 30.

Вастрата малазямельля і збытку рабочае сілы ў вёсцы выклікала не-

*) Бяз Гомельшчыны.

абходнасьць стварэньня спэцыяльнага фонду дзеля землянадзяленьня безьзямельных і малазямельных гаспадарак, у які на 1-е красавіка 1926 году ўваходзіла:

| | |
|---|---|
| а) зямель быўш. ляснога фонду . | . 285.944 дзес. |
| б) „ „ дзяржземмаемасьцяй . | 40.537 „ |
| в) „ бросавых . . . . | 69.694 „ |
| г) ад абрэзаных гаспадарак з земляза-бесьпячэньнем вышэй максімальн. | . 141.577 „ |
| Разам . | . 537.752 дзес. |
| За час з 1-га красавіка 1925 г. па 1-ае красавіка 1926 г. ужо было разьмяркована з данага фонду . | . 119.737 „ |
| А усяго . | . 657.489 дзес. |

Земляўпарадкаваньне гэтага фонду (з якога 100.264 дзес. патрабуюць асноўных мэліорацый) ажыцьцяўляецца з 1925 году і закончыцца да пачатку 1929 году. К гэтаму часу аформлена ўжо надзяленьне з яго 14.920 сямей безьзямельных і данадзяленьне 52.560 малазямельных гаспадарак.

Але паказанага фонду далёка не хапае дзеля таго, каб рэшту малазямельных і безьзямельных гаспадарак забясьпечыць зямлёю дзеля вядзеньня гаспадаркі, хаця-б спажывецкага тыпу.

Калі прыняць пад увагу, што за пяцігодзьдзе 1927/28—1931/32 г. прыросту занятай рабочай сілы ў гарадох (па матэрыялах Дзяржпляну БССР) можна чакаць на 28.219 чалавек (пры наліччы да 51.300 чалавек беспрацоўных у 1927 г.) дык бясспрэчна, што занятая ў сельскай гаспадарцы рабочая сіла павінна будзе знаходзіць свае прыстасаваньне ў ёй-жа і ў далейшым. Выхад двух-трох дзесяткаў тысяч сямей перасяленцаў за межы БССР таксама заметнага ўплыву на вастрату аграрнага перанасяленьня аказаць, зразумела, ня зможа.

Застаецца фарсіраваць інтэнсіфікацыю сельскае гаспадаркі, індустрыялізацыю яе, узмацненьне абабшчаствленьня сельска-гаспадарчай вытворчасьці, павышэньне вытворчасьці сельскае гаспадаркі і тым прытупляць вастрату аграрнага перанасяленьня.

Працэс інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі ў значнай ступені фарсуецца мерапрыемствамі па організацыі зямельнай плошчы, якія можна падзяліць на дзьве групы: 1) мерапрыемствы па палепшаньні ўмоў карыстаньня землямі, ужо знаходзячыхся ў с.-г. эксплёатацыі і 2) мерапрыемствы, маючыя мэтаю павялічэньне зямель с.-г. карыстаньня.

Першую групу мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца шляхам вытвару земляўпарадкоўчых работ з рэгуляваньнем разьмераў землякарыстаньня, палепшаньнем яго форм, зьнішчэньнем існуючых недахопаў у абрысу граніц—як цераспалосіца, далёказямельле і інш.,—пакуль што пакінем, адзначыўшы толькі, што гэты від работ выканан у БССР на 39,4 проц. Другую-ж групу, як цесна зьвязаную з разглядаемым пытаньнем і зьвязаную з мерапрыемствамі па ўцягненьню ў поўную і правільную гаспадарчую эксплёатацыю, па магчымасьці, усёй зямельнай тэрыторыі БССР шляхам правядзеньня с.-г. і лясных мэліорацый і організацыі засяленьня і скарыстаньня гэтых зямель,—закранём.

*III. Мэліорацыі і скарыстаньне мэліорыраваных зямель.* Раней ужо названыя нашы абсолютныя ўгодзьдзі падзяляюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Балотных сенажацяў . . | 590.600 | дзес. | 5,2 проц. |
| 2) Торфянікаў і балот . . | 1.178.700 | „ | 10,3 „ |
| 3) Выгану . . . . | 544.200 | „ | 4,8 „ |
| 4) Абсолютна нявыгодных . | 350.000 | „ | |

Па матэрыялах Дзяржпляну БССР мэліорацыйныя работы ў пяцігодзьдзе 1927-28—1931-32 г. г. трэба ажыцьцяўляць толькі на балотах, тарфяніках і балотных сенажацях (плошчаю ў 1.769.300 дзес.), застаўляючы без усялякага мэліорацыйнага ўплыву 544.200 дзес. выгану і „абсолютна нявыгодныя“ земли 350.000 дз. Трудна згадзіцца з тым, што выганы могуць заставацца без усялякага мэліорацыйнага ўплыву, адчуваючы ў іх патрэбуня менш, чым у балотных сенажацях (організацыя штучных выпасаў), але ня будзем зараз разьбіраць гэтага пытаньня. Нават і 1.769.300 дзес. даволі дзеля разгортваньня мэліорацыйнага будаўніцтва вялізарнейшых разьмераў, і толькі цаною вялікіх трат і энэргіі дзяржавы, зямельных працаўнікоў і насельніцтва можна будзе выканаць яго ў намечаны 15-цігодні тэрмін.

Калі Беларусь раней прызывалася клясычнай краінай балот і мэліорацый, дык цяпер тым больш; наліччa балот і патрэбнасьць у зямлі вызначаюць маштаб работ, а рознастайныя тыпы балот і нявыгодных зямель выяўляюць напрамак мэліорацыйнага будаўніцтва і яго сувязь з адпаведнымі галінамі сельскае гаспадаркі.

Усю разнастайнасьць нявыгодных зямель БССР можна прывесьці да наступных дзьвёх асноўных катэгорый: 1) балоты зялёныя альбо пярвічнай формацыі, бяз торфу і 2) балоты паўторнай формацыі з торфам, альбо тарфянікі.

Першыя пасьля асушкі робяцца ўгодзьзямі, якія могуць быць скарыстаны пад лугавую, палёвую і лясную культуру, а другія (тарфянікі), акрамя скарыстаньня іх пад паказаныя і інш. культуры,—зьяўляюцца яшчэ рэзэрвуарам мэханічнай энэргіі, угнаеньня дзеля мінэральных глеб, крыніцай матэрыялу для тэхнічнай перапрацоўкі і ўжываньня з тэхнічнымі мэтамі. Гэткае разнастайнае скарыстаньне мэліорыраваных балот і наогул нявыгодных зямель - пры гострым зямельным голадзе—абавязвае нас фарсіраваць мэліорацыйнае будаўніцтва, што і ня можа не праводзіць Беларускі Ўрад.

Калі царскі ўрад і паны з мэтай павялічыць непрацоўныя прыбыткі ад лясоў і балотных сенажацяй за час з 1873 па 1917 г. закранулі экстэнсыўнай асушкай каля 400.000 дзес. па ўсяму быўш. Палесьсю (экспэдыцыя Жылінскага і Кіраўн. Земляробства і Дзяржземмаем.), з затратай на гэтую работу (у часьці цяперашняй БССР) 5.693.944 р., альбо 128.113 р. у сярэднім на год, — дык разьмер затрат на мэліорацыйнае будаўніцтва з боку Беларускага Савецкага Ўраду і сялянства на працягу апошніх чатырох год у сярэднім на год быў у 6 раз больш гэтае сумы (756.844 р.).

Калі царская мэліорацыя праводзілася скарбам і панамі ў інтарэсах царскага скарбу і паноў, дык савецкае мэліорацыйнае будаўніцтва накіравана на здавальненьне перш за ўсё патрэбы ў зямлі безьзямельнага і малазямельнага селяніна, а таксама ў агульных інтарэсах працоўных і іх дзяржавы.

Нятрудна загэтым зразумець прычыну таго высокага ўздыму, з якім

беларускае сялянства пайшло ў паход на нявыгодныя землі, абвясьціўшы ім вайну да перамогі. Вось характарыстыка гэтага ўздыму:

| | Лік мэліор. таварыстваў. | Лік членаў. таварыстваў. |
|---|---|---|
| 1923—24 г. . . . . | 103 | 4.868 |
| 1924—25 г. . . . . | 254 | 13.811 |
| 1925—26 г. . . . . | 425 | 24.746 |
| 1926—27 г. . . . . | 617 | 35 871 |

За кароткі тэрмін работы таварыстваў імі асушана ўжо экстэнсыўна 28052,11 дзес. і інтэнсыўна 1598,10 дзес.

Пачынае разварачвацца і культура дэталёва асушаных балот; пачатак яе такі:

| | 1925—26 г. | 1926—27 г. |
|---|---|---|
| Узорана . . . . | 158,34 дз. | 1067,23 дз. |
| Засеена папярэдн. культ. | 100,68 „ | 442,08 „ |
| Залужана . . . . | 29,28 „ | 128,14 „ |
| Забаранавана . . . | 167,50 „ | 344,15 „ |

Прыцягвае да культуры балот і добры ўраджай, які атрымоўваецца з асушаных і засеяных таварыствамі балот.

| | |
|---|---|
| Сеяная сенажаць (сена) з дзес. . . | 400—500 пуд. |
| Капуста . . . „ | 3265 „ |
| Авёс (зярно) . . „ | 125 „ |
| Каноплі (зярно). . „ | 43 „ |
| Бульба . . . . „ | 1659 „ |

Беларускае сялянства шырока ўцягваецца ў мэліорацыйнае будаўніцтва.

Але посьпех працы сялянства па гэтаму будаўніцтву залежыць ад шэрагу ўмоў, галоўнейшымі з якіх зьяўляюцца: а) прывядзеньне ў парадак існуючых і пракладка новых вадапрыймальнікаў; б) рэгуліроўка іх; в) пракладка буйных магістральных каналаў: г) тэхнічнае абслугоўваньне мэліорацыйных работ насельніцтва; д) навукова-дасьледчыя, вопытныя і паказальныя мерапрыемствы; е) пабудаваньне і ўтрыманьне размножнікаў насеньня лугавых траў; ж) вучот, разьведачныя і вышукальныя работы дзеля папярэдняга выяўленьня вод і зямель, патрабуючых мэліорацыі.

Выкананьне пералічаных работ пад сілу толькі дзяржаве і ўсё яны ў БССР выконваюцца ею. Малазаможнаму беларускаму сялянству надзвычайна цяжка асіліць і тую частку работ, якая ім зараз у мэліорацыйным будаўніцтве выконваецца па: а) стварэньні бакавой праводзячай і ўласна рэгулюючай сеткі; б) стварэньне пабудоў на ёй і в) усе мерапрыемствы па культуры асушаных плошчаў.

Дзеля палягчэньня гэтай цяжкасьці—дзяржава ідзе на дапамогу таварыствам доўгатэрміновым крэдытам, організацыяй пракатных пунктаў лугавога інвэнтару, асабліва складанага і дарагога, як глеба-фрэзэры, трактары, лугавыя плугі і інш.

Дзяржаўныя мерапрыемствы (адрэгуляваныя вадапрыймальнікі, магістральныя каналы) зьяўляюцца прыводнымі рэмнямі, якія даюць і дадуць яшчэ большую магчымасьць шырока скарыстаць працу і сродкі насельніцтва ў справе культуры балот.

І хаця ў першыя 3 гады (1924/25—1926/27 г. г.) доля выдаткаў

на мэліорацыйнае будаўніцтва з боку дзяржавы была і больш за долю самога насельніцтва, але бязумоўна, што з кожным годам гэтыя суадносіны павінны і будуць мяняцца ў бок перавагі выдаткаў сялянства над дзяржаўнымі. Выдаткі дзяржавы ахопліваюць сабою ў большасьці дарага каштуючыя мерапрыемствы, якія досыць часта не забясьпечваюць магчымасьці сялянству тут-жа „разьлічвацца“ з дзяржаваю працай і сродкамі (работы на дасьледчых станцыях, дасьледчапаказальных пунктах па культуры балот, выдаткі на розныя навукова-дасьледчыя работы, стварэньне калёнізацыйнага фонду, асушка дзярж. лясных плошчаў і іншых дзяржзямельных маемасьцяй, пабудова і рамонт сплаўнай сеці і шмат іншых).

Выдаткі дзяржавы з разьвіцьцём мэліорацыйнага будаўніцтва, нават на працягу бліжэйшых трох-чатырох год, застануцца далёка ззаду кошту працы і сродкаў насельніцтва на мэліорацыю.

Магутным стымулам у разьвіцьці мэліорацый зьяўляецца Водна-Мэліорацыйны Кодэкс, у аснове прыняты апошняй Сэсіяй ЦВК БССР, канчаткова прапрацаваны і паступіўшы на канчатковае зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК БССР у бліжэйшыя тыдні. Ён унясе яскравасьць як у організацыю самой справы, так і вызначыць правы і абавязкі ўдзельнікаў мэліорацый, унясе яскравасьць у прававое палажэньне мэліорыруемых зямель і забясьпечыць устойлівасьць іх карыстаньня. З выхадам Кодэксу— зьнішчыцца яшчэ адзін з сур‘ёзьнейшых тормазаў пасьпяховага разьвіцьця мэліорацыйнага будаўніцтва.

З другога боку, мэханізацыя работ па мэліорацыі ў БССР нясумненна адыграе вялікую ролю, бо яна зробіць даступным выкананьне некаторых работ (як рэгуліроўка вялікіх рэк), удзешавіць кошт работ, палегчыць і ўдзешэвіць культуру балот (глеба-фрэзэры, трактар, канавакапацель і інш.). Скромныя крокі да гэтага ў БССР ужо зроблены: спробавана ўжо ў рабоце на балотах 6 трактараў (Фордзон), якія далі ў сваёй рабоце станоўчыя вынікі, бо ўзорваньне трактарам абыходзіцца ў 2-4 разы таней узорваньня канём, зрамнатаваны і праверaны папярэдняй спробай у рабоце на р. Арэсе дзьве землячарпалкі сыстэмы Орэнштэйн і Коппель, з вытворчасьцю 4 куб. саж. у гадзіну, заказаны на 1927-28 год яшчэ 3 землячарпалкі (дзьве сыстэмы Марыон, вытворчасьцю 7,5 куб. саж. у гадзіну і адна сыстэмы Менк і Гамброк, вытворчасьцю 5,00 куб. саж. у гадзіну).

Заказан пакуль для спробы адзін глеба-фрэзер сыстэмы Сіменс і Шуккерт, адзін сыстэмы Ланца.

Заказаны канавакапацелі, глыбокарыхліцелі, трактары і іншыя дробныя прылады.

Трывожным момантам у рабоце па мэліорацыі БССР трэба прызнаць забесьпячэньне культур-тэхнічных мерапрыемстваў на балоце мінэральнымі ўгнаеньнямі і насеньнем лугавых траў. Іх патрэбна будзе ўжо ў бліжэйшыя ж гады вялікая колькасьць, а з дастаўкай іх да гэтага часу, а асабліва цяпер, няладна. Перабоі ў забеспячэньні мінэральнымі ўгнаеньнямі могуць пагубіць усю справу культуры балот. З насеньнем—сьмялей, бо ўжо зараз працуюць два матачных размножнікі з пасевам на 64 гэктар насеньня лугавых траў.

Трэба прызнаць, што вопыт работы (шырокай работы), галоўным чынам па гідротэхніцы, у БССР асабліва за апошнія 3-4 гады накапіўся досыць вялікі і, ня гледзячы на тое, што пяцігодні пэрспэкцыйны плян мэліорацыйных мерапрыемстваў на 1925-26—1929-30 г. г. зацьверджан Ура-

дам БССР і Дзяржплянам пры СНК СССР толькі ў 1927 годзе, усё-ж само жыцьцё яшчэ далей штурхае пытаньні меліорацыі беларускіх балот, ставіць іх шырэй, каб у асноўным закончыць мэліорацыі ў БССР праз 15 год.

Зараз ужо прыступлена да складаньня гэнэральнага пляну мэліорацый БССР. Віткі выстаўлены; правільнасьць устаноўкі гэтых віткаў, як і наогул шляхі разьвіцьця культуры балот у Беларусі, правяраліся на аўторытэтнай міжрэспубліканскай мэліорацыйнай нарадзе з удзелам відных „балотных“ спэцыялістых, як проф. Спарро, проф. Дубах, проф. Дзьмітрыеў, член С.-Г. Сэкцыі Дзяржпляну СССР Бяляеў, інжынэр Брудастаў, інжынэр Пампулаў, інжынэр Калабугін, культуртэхнік Джыовані і шэраг іншых. У асноўным гэтыя віткі прызнаны расстаўленымі правільна.

Ёсьць, напэўна, яшчэ некаторыя моманты ў рабоце ня досыць ясна асьвятлёныя, як прэвіліраваньне аднаго над другім, альбо ўраўнаважваньне экстэнсыўнага і інтэнсыўнага асушэньня балот, а ў сувязі з гэтым і пытаньне аб глыбінах каналаў; не асьветлены яшчэ досыць перавагі таго ці іншага віду дрэнажу і некаторыя іншыя пытаньні, вырашэньне якіх да заканчэньня складаньня гэнэральнага пляну павінна быць забясьпечана.

Вывучэньнем і вырашэньнем галоўнейшага і кардынальнага пытаньня беларускага мэліорацыйнага будаўніцтва—пытаньня калёнізацыі балот у Беларусі—займаюцца ўжо другі год. Месцам вопыту калёнізацыі на дзяржаўных балотах абрана быўш. савецкая гаспадарка (балотная сенажаць) Мар'іна ў Бабруйскай акрузе, у басэйне ракі Арэсы (басэйн яе мае да 100.000 дзес. балот), плошчаю звыш 7000 дзесяцін. Проект асушкі ўжо ажыцьцяўляецца. Балотны масыў ужо перасекла дарога, працягам да 10 вёрст (коштам каля 50.000 руб.). Галоўны канал на гэтым масыве шырынёю ў вусьці 2,86 саж. па дну пракопан на працягу 12,5 вёрст з 18 вёрст яго проектнай даўжыні.

Работы на гэтым масыве абыйшліся ўжо звыш 200.000 руб. і павінны закончыцца да 1931 году. Да пачатку лета наступнага году будзе ўжо дэталёва асушаных для ўзорваньня звыш 200 дзесяцін. Вядзецца падрыхтоўка да іх засяленьня.

З мэтаю вывучыць умовы работы па выяўленьні, выдзяленьні, падрыхтоўцы, упарадкаваньню і засяленьню балотнага калёнізацыйнага фонду, выдзеленага з зямель розных катэгорый у басэйне аднае ракі (з адначасным правядзеньнем земляўпарадкаваньня зачэпленых землякарыстацеляў, як з платаю за земляўпарадкаваньне, так і за кошт дзяржавы, з уцягненьнем у мэліорацыйнае будаўніцтва ўсіх землякарыстацеляў і калёністаў) з лета бягучага году на плошчы ў 20.000 гэктараў балот, у басэйне р. Талькі і прытокі яе Суцінкі, Менскае акругі, вядуцца гідротэхнічныя вышуканьні, рэгуляваньне ракі Талькі, культуртэхнічныя і батанічныя, эканамічныя дасьледваньні і земляўпарадкоўчыя работы сяленьняў, якія знаходзяцца ў басэйне гэтае ракі. Гэтая работа зьяўляецца першаўзорам тых масавых работ, якія будуць выконвацца ў многіх раёнах Рэспублікі, асабліва-ж ў Прадпалесьсі і ў Палесьсі. Цікавасьць да сябе яна выклікае надзвычайны, бо зьяўляецца вопытам адначаснай работы на значным масыве дзяржавы і насельніцтва.

Зразумела, належыць яшчэ і яшчэ шукаць адпаведных масываў і, вывучаючы адначасна ўмовы работы і яе эфэкт, працаваць далей на паказаных масывах.

Правядзеньне навукова-дасьледчых работ, як па пытаньнях, зьвязаных з калёнізацыяй на балотах, так і інщыя пытаньні мэліорацыі—ажыцяўляе і будзе ажыцяўляць Беларускі Навкова-Дасьледчы Інстытут імя У. І. Леніна.

Тэхнічны пэрсонал дзеля ажыцьцяўленьня стаячых перад беларускай мэліорацыяй задач маецца ў наліччы, а папаўненьне яго дае Мэліорацыйны Факультэт Беларускай С.-Г. Акадэміі і Менскі Гідротэхнікум.

Вялізарныя задачы, труднасьці і адказнасьць за тымі, каму выпадзе быць удзельнікамі ажыцяўленьня гэнэральнага пляну мэліорацыі БССР. Выкананьне гэтага пляну апошняя Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР прызнала задачай усесаюзнага значэньня.

Воля да змаганьня з балотам ёсьць як у беларускага сялянства, шпарка організуючагася ў мэліорацыйныя таварыствы, так і ў яго ўраду. Мэта яскрава. А ў гэтым і залог перамогі.

---

**В. Р. Рыдыгер.**

# Аб выбары месца для Палескай Пяшчана-Балотнай дасьледчай станцыі *).

1. Грунтоўным пытаньнем пры выбары месца пад вопытную балотную станцыю, ня толькі на Палесьсі, але і наогул галоўным, з'яўляецца яе напрамак па асушцы і культуры балот (экстэнсыўны альбо інтэнсыўны), а ад гэтага залежыць і выбар адпаведнае тэрыторыі балота.

2. У выпадку перавагі экстэнсыўнага напрамку культуры перед інтэнсыўным, наступнай умовай пры выбары месца зьяўляецца суцэльнае, нечапанае мэліорацыяй балота, якое забясьпечвае ўсебаковае вывучэньне натуральнай дзярніны балота, як прыроднага кармовага фонду, з моманту спыненьня процэсу балотаўтварэньня да любое стадыі экстэнсыўнай ці інтэнсыўнай культуры і эволюцыйнага процэсу глебаўтварэньня, зьмены рэжыму зольных соляй і зьмены расьлінных згрупаваньняў у незакранутым мэліорацыяй і культурай балоце.

3. Балота для вопытных мэтаў павінна ахапіць ня толькі ўсе тыпы і пераходы балот, але і павінна прадстаўляць адно закончанае суцэльнае з усёй гамай рознастайнасьці пераходаў па шляху процэсу балотаўтварэньня, —ад сфагнавага да заліўнога тыпу,—зьмяшчацца ў адным масыве з усім, памагчымасьці, сухапутным вадазборам.

4. У адносінах да Прыпяці, Станцыя павінна займаць кіруючае цэнтральнае становішча, якое дазваляла-б карацэйшым водным шляхам пранікаць па пратоках і па асушальнай сетцы у самыя адлеглыя куты балот Палесься, у мэтах вывучэньня гэтых балот і ўплыву Станцыі на насельніцтва.

5. Выбар напрамку Станцыі залежыць ад таго, наколькі пажадана пакінуць без усялякага ўплыву асушкі і культуры тую вялікую частку балот, каля 90 проц., якую ня зможа абслужыць інтэнсыўны напрамак, для каторага і рэшта 10 проц. зьяўляюцца непасільнай нагрузкай у нашых умовах, дзеля таго, што яно прад'яўляе да насельніцтва акурат тое, што

*) Артыкул друкуецца ў парадку абгаварэньня (Рэд.).

апошняе менш за ўсе можа даць, г. е.—спэцыяльныя веды, збытковую працу ў гаспадарцы і капітал.

6. Экстэнсыўны напрамак узьнік сам па сабе, як сярод самога насельніцтва, у выглядзе самых элемэнтарных спосабаў асваеньня новых мэліораваных зямель, так і на ўсіх вопытных балотных станцыях ён нарадзіўся ўсьлед за мэтадамі нямецкай культуры, як рэакцыя на малую прыступнасьць яе для насельніцтва і абмяжованасьць яе распаўсюджваньня.

7. Месца і час, якія прызначаюцца на вопытных балотных станцыях распрацоўцы мэтадаў і спосабаў экстэнсыўнай культуры, да якой з посьпехам пачынае вобмацкам і сваім здаровым розумам даходзіць само насельніцтва, не адпавядае аднак той плошчы балот, якая кожны год уваходзіць у гаспадарчы зварот адных толькі мэліорацыйных таварыстваў.

8. Дасягненьні ў напрамку экстэнсыўнага выкарыстоўваньня балот на вопытных і дасьледчых установах маюцца толькі за самы апошні час, мала вядомы шырокім колам насельніцтва і ўтвараюць пакуль што маемасьць рэдакцый і рукапісаў.

9. Усе гэтыя дасягненьні, аднак, гавораць наступае: што а) самапаляпшэньне натуральнай дзярніны балота пасьля аднэй толькі асушкі ідзе няўхільна наперед з кожным годам, а ступень самапаляпшэньня залежыць ад багацьця самога балота; б) што ураджайнасьць балота залежыць ад працякаючых да яго вод, якія нясуць зольныя элемэнты, і ад ступені раскладу торфу; в) што балота здольна да самаасушэньня за кошт параваньня, калі адведзена адна верхаводка, асабліва калі яно знаходзіцца пад лесам; г) што ўкосы сена і паша жывёлы толькі паляпшаюць балоты; д) выпальваньне і прапальваньне вясной леташняе расьліннасьці балот зьяўляецца добрым сродкам да паляпшэньня травастою, а агонь—лепшым сродкам пры карчоўцы і зьнішчэньні купін; е) балота—самая раньняя і самая доўгачасовая паша, самой прыродай прызначаная служыць перш за ўсе выпасам для жывёлы; і вытворчасьць балота, як пашы, вышэй стаіць за сенажаць у продукцыі жывёлы; ж) карысная роля абваднeньня балот у Капацэвічах і Яхраме і ў Нэйгаммэрштэйне дае шырокія магчымасьці ў палепшаньні ня толькі заліўных, поймавых балот, якія атрымліваюць мул з палёў, але і прыводзяць да ўтварэньня новых заліўных, балотных лугоў за кошт таго самага мулу і вады.

10. Балота—жывы організм, вельмі чула рэагуючы на найменшыя зьмены заўсёды дзейнічаючых на ім фактараў; у гэтым далейшы посьпех пры паглыблёным вывучэньні экстэнсыўнай культуры.

*Тыпы балот.* Сенакосны фонд Палесься ў дзес.:

| | Заліўн. | Сухад. | Лясных. | Балотн. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйская акруга . . . . . . | 43087 | 63589 | 3384 | 75333 | 185393 |
| Мазырская „ . . . . . . | 47966 | 16466 | 10188 | 133191 | 207811 |
| Усяго . . . . | 91053 | 80055 | 13572 | 208524 | 393204 |

Агульны збор сена ў тысячах пудоў: 1924-25 г.

| | Заліўн. | Сухад. | Лясныя. | Балоты. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйская акруга . . . . . . | 5385,8 | 5620,5 | 226,7 | 5169,3 | 16402,3 |
| З 1 дзесяціны . . . . . . . | 125 п. | 90 п. | 69 п. | 70 п. | 90 п. |
| Мазырская акруга . . . . . | 4643,8 | 1477,5 | 808,4 | 10828,6 | 17758,3 |
| З 1 дзесяціны . . . . . . . . | 98 п. | 90 п. | 80 п. | 81 п. | 85 п. |

У Бабруйскай акрузе на 1 дзес. заліўнога сенакосу прыходзіцца 1,7

балотных, а ў Мазырскай—2,8 балотных і ўраджайнасьць іх ніжэй на 27 п., ці чуць ні 25 проц.

Балотны фонд у БССР—1.650 тыс. дзесяцін. З іх балотных сенажацяй—545.928 дзесяцін. Лясных балот і забалочаных лясоў—520.546 дзес., выганы і землі, якія не выкарыстоўваюцца—583.526 дзес. У лік балотных сенажацяй уваходзіць—208.524 дзес. Палесься; як разьмяркоўваюцца апошнія балоты Палесься—не вядома. Заболочаньне Палесься дасягае 30 проц. ад агульнай прошчы пры 16 проц. у сярэднім па усёй Беларусі.

Фактычны кармовы фонд—сенакосы і выпасы $^2/_3$, і пад лесам $1/_3$ частка фонду.

На Палесьсі трэба чакаць ня меншых суадносін. Загэтым патанцыяльны кармовы фонд балота з лесам павінен займаць таксама ня менш $1/_3$ часткі усяго фонду. Які процант складаюць альховыя балоты сярод лясных—ня ўпэўнена, але яны зьяўляюцца найбольш цэннымі, за імі па якасьці ідуць усе астатнія заліўныя з лесам балоты ў поймах рэк.

У ідэале ў склад балот дасьледчай Станцыі павінны ўваходзіць усе тыпы балот і ў такіх суадносінах іх плошчы, у якіх яны знаходзяцца на Палесьсі. Гэта мажліва дасягнуць хутчэй толькі, напрыклад, у лагчыне р. Яхромы, але вельмі трудна на Палесьсі, дзе розныя тыпы балот, як-бы раскіданы ў нейкім беспарадку, бяз усякай сыстэмы.

Калі прыглядзецца бліжэй да разьмеркаваньня паміж сабою асабовых тыпаў балот, дык прыкмячаецца некаторая заканамернасьць у іх паступовай зьмене ў залежнасьці ад рэльефу мясцовасьці, вадазбору, ухілу, асабліва, глыбіні самага балота.

У цэлым шэрагу месц Палесься—Лахва, Дзякавічы, лагчыны р. Стубю—Пінскае Палесьсе і іншыя павярховыя балоты з хвояй на вадаразьдзеле маюць адзін альбо два выхады для вады і паступова пераходзяць у травяна-махавое, а затым—у нізіннае травяное балота па тальвегах—стругах, альбо жылах паміж пяшчанымі ўзвышшамі і выспамі з лесам*).

Такія асобныя стругі злучаюцца і пашыраюцца ў адзін агульны балотны масыў, то большага, то меншага разьмеру і чым яно ніжэй знаходзіцца па ўхілу гэтага тальвегу, тым якасьць яго вышэйшая.

Балотны масыў як бы мае пачатак і канец і зьяўляецца нечым цэлым, альбо мае тэндэнцыю да паступовай зьмены свайго характару.

Найбольш яскрава гэта заканамернасьць выяўлена на Яхрамскай лагчыне ў Дзякавічах (вадаразьдзел Арэсы і возера Князь). Сьцёк вады на такіх балотах ад горшага да лепшага, ад сфагнавых да нізінных і лугавых

Ботанікам У. У. Адамавым прыкмечана таксама „некаторая заканамернасьць у паяўленьні больш часта сустракаемых махавых згрупаваньняў. Як відаць, яна залежыць як ад вышыні грунтовых вод, так і ад стопню іх мінэралізаванасьці“ **). Імшары зьмяняюцца пераходнымі балотамі, далей вальшанікамі і топкімі сенакосамі балотна-лугавога характару.

Чыстыя не заросшыя лесам тыповыя балоты адпавядаюць, як відаць, больш глыбокаму тарфяніку. Ліставы лес на балоце зьяўляецца прыметай блізкасьці мінэральнай падглебы пад торфам. Патокі вады, якія залівалі

---

*) „О болотах Полесья и естественных методах их культуры“. В. Ридигер. Самара 1917 г.

**) „Обзор растительности Белорусского Полесья“ В. Адамов и И. Ярошевич. Минск 1927 г.

некалі балота, прыносілі на балота мінэральныя элемэнты жыўленьня, больш адкладваючы іх у глыбокіх мясцох дна тарфяніка, чым у мелкіх, дзе зьявіліся сфагнавыя балоты, а ў больш глыбокіх—лугавыя. Загэтым трэба спадзявацца і адпаведнай зольнасьці балот—мінімальная на сфагнавых, дзе яна каля 3 проц. і максімальная на травяна-асаковых 8—12 проц., а для пераходных—6 проц.

Далей, у склад дасьледчай Станцыі павінен уваходзіць цэлы, закончаны масыў, з цьвёрдымі берагамі і поўнасьцю з усімі пераходнымі балотамі, як незалежны жывы організм, маючы сваю гісторыю на ўсёй сваёй плошчы, які вельмі чула і скора рэагуе на ўсе зьмены і фактары, якія робяць уплыў на яго.

Адразаць-жа ад цэлага масыву частку балота для Станцыі, гэта азначае аддзляць органічна зьвязаную з цэлым масывам плошчу як-бы ад жывога цела.

Дасьледчая Станцыя павінна вывучыць усе тыпы балот так добра, каб можна было меркаваць, якую гаспадарку карысьней весьці на кожным з іх, і наколькі той ці іншы тып распаўсюджаны. Ігнараваць-жа ўсе астатнія тыпы ў іх вывучэньні, хоць-бы і менш распаўсюджаныя, ня прыходзіцца таму, што тады атрымаецца аднабокае вывучэньне балота, як жывога організму, бяз усякай сувязі і з астатнімі яго часткамі, якія зьявіліся ў выніку адзінага працэсу забалочваньня, але пры розных умовах. Пры вывучэньні тыпаў балота неабходна ўвесь час трымаць сувязь з іх водным пахаджэньнем; толькі тады ўсе наступныя зьявы ў жыцьці балота стануць больш зразумелымі, як на Дасьледчай Станцыі, так і ў мэліорацыйных таварыствах. Спыняцца-ж на вывучэньні аднаго тыпу балота, гіпнава-асаковага, як гэта зрабіла Менская Вопытная Станцыя, без параўнаньня здабытых вынікаў з іншымі тыпамі, нельга, таксама і затым, што можна трапіць у другую гэтакую самую памылку—абраць для вывучэньня на Палескай Станцыі таксама толькі адзін тып балота, як найбольш распаўсюджаны на Палесьсі—гіпнава-асаковы, што і мяркуецца зрабіць у Мар'іне, на якіх будзе будавацца наступная культура балота і інш., як у мэліорацыйных таварыствах, так і ў колфондзе; ўсе-ж астатнія тыпы будуць забыты толькі затым, што іх мала і яны ня вывучаны.

Якая-ж дакладна культура і ў якім напрамку павінна разьвівацца на балотах мэліорацыйных таварыстваў і колфондзе? Пакуль што пытаньне зьяўляецца ня вырашаным як і пытаньне аб адводзе таварыствам балот тэй ці іншай якасьці ў тых ці іншых разьмерах.

Нам яшчэ невядома, які тып балот мэтазгодна адвесьці ў таварыствах пад тую ці іншую культуру, г. з. інтэсыўную ці экстэнсыўную.

Па пэрспэктыўнаму пляну Беларусі дапушчаецца, што мэліорацыйныя таварыствы змогуць заняць усяго толькі 10 проц. асушаных імі балот пад інтэнсіўную культуру з грунтоўным іх паляпшэньнем, а апошнія 90 проц. будуць выкарыстоўвацца экстэнсыўна з павярхоўным паляпшэньнем. На грунце якіх дадзеных прынята гэта норма 10 проц., невядома.

Посьпяхі культуртэхнікі на балотах мэліорацыйных таварыств за 1925 г.—2,5 гэктара, а ў 1926 г.—145 гэктараў*), на якіх зроблена культура, што на 85—90 тысяч дзесяцін, закранутых мэліорацыяй,—складае толькі ўсяго 0,002 проц.—0,16 проц., што вельмі далёка пакуль ад 10 проц.

Насельніцтва аказваецца занята у таварыствах перш за ўсё экстэн-

*) „Пути развития культуры болот на Белоруссии" К. Решетников.

сыўнай асушкай, расчысткай, раскарчоўкай і зрэзкай купін, г. з. тым, што перш-на-перш неабходна для асваеньня новай плошчы зямлі, быць можа толькі што ўваходзячай у гаспадарчы зварот, якая служыць перш-на-перш папасам жывёлы. А па Мазырскай, напрыклад, акрузе за 1925 г. ня зроблена нават і гэтай працы; на плошчы 22869,4 дзес. з 30 таварыствамі—вельмі вялікая гэта плошча—у кажнага таварыства налічваецца каля 762 дзес., а на кожнага сябра таварыства прыходзіцца ў сярэднім 5 дзес., у Бабруйскім 4,4 дзес.—дзе мае месца расчыстка, карчоўка і зрэзка купін.

Калі 10 проц. узята з нямецкай практыкі, дзе ў культуры знаходзілася да вайны толькі ўсяго 10 проц. ад усёй плошчы балот, дык у адносінах да Беларусі гэта лічба занадта оптымістычная, калі не сказаць болей.

У Нямеччыне балоты асушваліся яшчэ пры Фрыдрыху Вялікім, праходзілі стадыі гаспадарчага выкарыстоўваньня і толькі ў канцы мінулага стагодзьдзя сталі іх інтэнсыўна культававаць, як нявыстарчальна ўраджайныя глебы, калі зьявілася таннае калійнае ўгнаеньне. Між тым мы схіляемся лічыць, што асушыўшы нашы балоты, можна замяніць іх зараз у культуру з такім-жа посьпехам, усяроўна як яны былі-б даўно асушаны.

Выключыць фактар часу з эволюцыі балотнай глебы нельга, як і выключыць шэраг папярэдніх культур.

Разрыў *) паміж гідротэхнічнымі і культуртэхнічнымі працамі мае месца і ва ўсіх другіх раёнах РСФСР, паўтараецца тое самае зьявішча, што і ў Беларусі, з тэй-жа самай паступовасьцю, як і ў цэнтральна-прамысловых, так і ў паўночна-заходніх раёнах. Ня памагаюць ні трактары, ні спэцыялістыя, ні пропаганда. Ускладаць надзею на попыт угнаеньняў няпрыходзіцца, яны проста пакуль што непатрэбны насельніцтву, а інтэнсыфікацыя, ды яшчэ балота, проста не пад сілу насельніцтву—ня можа яна існці ўперадзе інтэсыфікацыі палявой зямлі, дзе наступіла толькі эра чатырохпольля. Пагэтаму, мы ня маем права прад'яўляць насельніцтву павялічаныя запатрабаваньні ў адносінах культуртэхнікі, яны яшчэ без пары, а прымусова навязваць іх нерацыянальна.

Па характару выкарыстоўваньня балота можна падзяліць на асвоеныя насельніцтвам, часткаю падсушаныя, звольненыя ад лесу,—і не асвоеныя насельніцтвам—пад лесам, хмызьнякамі, вадой,—непраходнае балота, дзе ўсяго толькі сухой восеньню можна часам выкарыстоўваць яго жывёлай.

З другога боку, тое балота, што належыць да самога насельніцтва, выкарыстоўваецца як папас і сенакос, а другія прадстаўляюць дзяржфонд і толькі ўсяго косяцца насельніцтвам, але не выпасваюцца насельніцтвам, напрыклад, як Мар'інскія балоты.

Выганы і зямельныя няўжыткі складаюць 1/3 усяго балотнага фонду Беларусі (583.526 дзес.). А колькі балотнай выганнай зямлі, і ў прыватнасьці на Палесьсі—Мазырскай і Бабруйскай акругах—невядома.

Наогул, у працоўным карыстаньні знаходзіцца 737.070 дзес. балот, каля палавіны ўсяго фонду (1.650.000 д.); загэтым сенакосаў у прыватнасьці і лесу па балоце ў насельніцтва (737070 — 583526 дзес.) = 153554 дзес., г. з. нязначная частка ў параўнаньні з балотнымі выганамі, калі іх лічыць поўнасьцю ў 583526 дзес. Выганных зямель па даных

*) Прычыны гэтага разрыву ляжаць глыбей, чым мы думаем, бо культуртэхніка заморская навука—якая не ўзрасла на расійскай глебе, а на нямецкай, патрабуе адпавядаючых умоў замежаў дзеля свайго красаваньня, а ў нашых умовах яна пакуль што не нарадзілася і ня ўжывалася ў умовах вёскі і яе запатрабаваньняў.

ЦСУБ ад 1924-25 г.—431624 дзес. у Беларусі. Калі лічыць, што выганы толькі па балоце, дык усёж суадносіны плошчы сенакосу на балоце і плошчы выгану будуць 153554 : 431624, чуць не 1 к 3; большая частка балот у насельніцтва пад выганамі, а не пад сенажацямі, бо запатрабаваньне ў выгане расьце з кожным годам і здавальняецца, як відаць, са скарачэньнем плошчы сенакосаў (пры ўмовах, калі запатрабаваньне на сена задавальняецца за кошт дзяржфонду).

Часьцей за ўсё балоты ў насельніцтва зьяўляюцца галоўным чынам папасамі, а затым ужо чыстым сенакосам, што поўнасьцю сьцьвярджаецца і ў другіх раёнах.

Балота, якое доўга і весь час служыла пад адным выганам, зьяўляецца большаю каштоўнасьцю для культуры, чым тое, якое ня было пад выганам—яно ўмялася, асела, угноена жывёлай і бактэрыямі і павінна даць бяз усякага падсеву самы каштоўны сенакос, калі зрабіць заказьнік. Пагэтаму, балота павінна прайсьці раней стадыю выпаса, перш чым папасьці ў якую небудзь культуру.

Мала гэтага, Яхрамскае дасьледчае поле выявіла, што выпас жывёлы паляпшае балотны сенакос, а загэтым і пастаянны выпас. З другога боку, сенакосы дзяржфонду ня служаць выпасам для жывёлы і загэтым ня поўнасьцю выкарыстоўваюцца, прападае і атава і акрамя таго адсутнічае стымул да паляпшэньня кармовай плошчы, бо ня ўмінаецца, ня ўгнойваецца і інш.

Вядома, што махавыя балоты—гіпнавыя—моцна рэагуюць на прыкачваньне, г. з. уціскаваньня, што часткова дасягаецца нагамі жывёлы; зьяўленьня купін баяцца няма чаго на прасторных папасах.

У склад зямельнага фонду дасьледчай Станцыі павінен уваходзіць і сталы выган, які быў пад жывёлаю ўвесь час бязьменна, пэўную колькасьць гадоў. Уплыў на ўраджай працягу сталага выпасу сьцвердзіць вельмі важна.

*Зямельны фонд Дасьледчай Станцыі.* Пасьля выгадных зямель на балоце, якія прадстаўляюць найбольшую каштоўнасьць, у склад зямельнага фонду балотнай Дасьледчай Станцыі, па прыкладу Яхрамскага дасьледчага поля, дзе найбольш удалы падбор балотных узгодзьдзяў, павінны ўваходзіць наступныя тыпы балот: а) лугавое заліўное балота, б) нізіннае хмызьняковае і вальшанікавае балота, в) пераходнае травянагіпнавае балота, г) мохава-гіпнавае балота, д) сфагнавае балота.

Ураджайнасьць гэтых балот ідзе па ўбываючай паступовасьці і павінна быць выяўлена Станцыямі ў абсалютных лічбах, незалежна ад распаўсюджанасьці таго ці іншага тыпу; калі грунтоўным тыпам лічыцца нізіннае альбо хмызьняковае балота, дык гэта яшчэ не азначае, што трэба адмовіцца ад вывучэньня другіх тыпаў. Яхрамскае дасьледчае поля дзеля мэт інтэнсыўнай культуры не баіцца вывучаць лугавыя і нават хмызьняковыя балоты, якія заліваюцца паводкаю вясною, заведама палепшаныя (ілам) мулам з адпаведным эфэктам апошняга на ўраджай.

Акрамя таго, вывучэньне інтэнсыўнай культуры Яхрамскае дасьледчае поле пачало з лепшага тыпу гэтых балот—нізіннага, і перайшло на яшчэ больш каштоўны тып—лугавое балота, дзе пры ўгнаеньні адным каліем (6 пуд.) атрымоўваецца да 600 пудоў ураджаю аўса, а самым неўраджайным лічыцца махавое гіпнавае балота, дзе пагэтаму няма месца інтэнсыўнай культуры, а толькі адпаведна і выгадна экстэнсыўная культура.

Тое самае можна сказаць аб Палесьсі—у культуру ідуць перш лепшыя балоты і ў апошнюю чаргу—горшыя. Вывучаць-жа трэба адначасова як тыя, так і другія, каб правільна ўявіць іх разьмежаваньня і ўраджайнасьць.

*Становішча балотнага фонду Станцыі.* I. Суцэльнае нечапанае мэліорацыяй балота, пакрытае вадой,—лепшы об'ект для вывучэньня, на што трэба зьвярнуць увагу ў першую чаргу.

II. Балота, якое было пад выганам у насельніцтва, дыамэтрычна процілеглае першаму, неабходна для параўнаньня эфэкту лугавой расьліннасьці альбо натуральнай флёры пасьля поўнага супынку выпаса.

III. Заліўное балота з вясеньнімі водамі ў пойме ракі—для вывучэньня працэсу замульваньня і ўплыў яго на расьліннасьць.

IV. Пакрытае лесам, хмызняком,—для вывучэньня карчоўкі лесу і моцы параваньня лесу.

V. Купы рознага пахаджэньня—расьліннага і мэханічнага.

*Напрамак мэліорацыі і культуры.* Грунтоўным напрамкам, падлягаючым вывучэньню, у першую чаргу і галоўным чынам павінен быць такі, які выяўляе сабою агульны напрамак сельскае гаспадаркі Палесься і ўзроўня культуры, г. з. экстэнсыўны, што асабліва яскрава выяўляецца ў выкарыстоўваньні мэл-ных зямель мэліорацыйных т-в., дзе інтэнсыўны зусім ня мае пакуль месца, а натугаю культуртэхнікаў дапушчаецца яе давесьці да 10 проц. агульнай плошчы балот і пры гэтым не вядома, за які працяг часу. Калі нават прыняць і гэтую норму 10 проц., дык адгэтуль будзе выразным увесь разьмер і маштаб вывучэньня экстэнсыўнай культуры. На долю інтэнсыўнай культуры пагэтаму застаецца ўсяго толькі 10 проц. плошчы дасьледчай Станцыі, падлягаючай адпаведнаму вывучэньню. Пагэтаму, на долю экстэнсыўнай культуры павінна прыходзіцца адпаведна і пропорцыянальна—90 проц. усей плошчы Станцыі, столькі сама ўвагі і сродкаў павінна ўдзяляцца гэтаму напрамку, як у асушцы, так і ў культуры ня толькі Станцыі, але і паказальных вучасткаў. Толькі пры гэтай умове можна чакаць пасьпяховага пашырэньня плошчы і лічбы мэліорацыйных таварыстваў, дзякуючы пропагандзе простых і прыступных для насельніцтва спосабаў і мэтадаў культуры.

У няпараўнаньні хутчэй надыдзе пры гэтым момант поўнага асваеньня запаснай кармовай плошчы, што і абумовіць няўхільны пераход да больш інтэнсыўных форм. У адваротным выпадку мы толькі адсоўваем гэты момант, прапануючы насельніцтву спосабы і мэтоды інтэнсыўнай культуры. Станцыя павінна чула сачыць за зьменай запатрэбаваньняў насельніцтва ў тых ці іншых новых і старых спосабах і мэтодах культуры, вышукоўваючы найбольш простыя і прыступныя для яго. Момант пераходу да больш інтэнсыўных форм культуры балот у асаблівасьці будзе залежаць ад павышэньня шчыльнасьці насельніцтва, якое па Мазырскай акрузе дасягае 14 чалавек на 1 кв. вярсту.

Паміж іншым, такая шчытнасьць насельніцтва раёнаў Беларусі, якая вызывае цеснату і перасяленьне, вынікае пры пэўнай шчытнасьці насельніцтва на 1 кв. вярсту.

Шчытнасьць-жа насельніцтва адваротна пропорцыянальна колькасьці нячапанай мэліорацыяй плошчы болот. Да гэтага часу ўсякая штучная насадка і прышчэпліваньне інтэнсыўных форм у выкарыстоўваньні балот не магчыма лічыць нормальным зьявішчам, няухільна выцякаючым з умоў гаспадаркі. І калі магчыма інтэсыфіцыраваць частку дзяржаўнага фонду ў

Мазыршчыне, утварыць самастойную, шчытна залюдзеную выспу сярод рэдкага насельніцтва, гэта ня значыць, што ён заразіць сваім прыкладам каранное насельніцтва. Нам вядомы такія культурныя оазы, якія, аднак, ня робяць уплыву на наўкольнае насельніцтва. Зрабіць уплыў на каранное насельніцтва многа цяжэй, чым на калёністаў.

*Выбар месца пад дасьледчую станцыю.* Калі прыняць пад увагу ўсе папярэднія ўмовы, дык выбар месца пад балотна-пяшчаную Палескую станцыю будзе залежыць поўнасьцю ад запатрабаваньняў і умоў, якія прад'яўляе гэтая станцыя сваім напрамкам і праграмай да зямельнага фонду.

Пагэтаму грунтоўнае запатрабаваньне—адказваць запатрабаваньням экстэнсыўнай культуры балот у асяродку Палесься; адносна пяскоў справа стаіць многа прасьцей—патрэбна тыповасьць Палескай пяшчанай грады, як пакрытай лесам, так і пад пахатай, якая ня ўгнойвалася (пусткі), і акрамя таго выдмы, якія не разсяваюцца ветрам.

Для дасьледчай Станцыі патрэбна наступнае:

1) Суцэльнае, нечапанае мэліорацыяй балота.

2) Асобны балотны масыў з усімі тыпамі Палескіх балот, як нешта закончанае, жывое, цэлае з паступовым пераходам, якое знаходзіцца паміж мінэральнымі берагамі, і з выхадамі з яго.

3) Прысутнасьць крыніцы дзеля ўгнойваючага абваднення балот, рэчка і пойма, якая залівается.

4) Ліставы лес на балоце, пераважна чыстая вольха, затым бяроза і мяшаны лес.

5) Чыстае балота бяз лесу і нават хмызьняку з купінамі і бяз купін.

6) Малая адлегласьць чыгуначнай станцыі і судаходнай ракі.

7) Увесь зямельны фонд павінен быць па магчымасьці ў адным месцы.

8) Пахаджэньне балота павінна быць загадзя выяўлена.

9) Плошча балот ня менш 500 дзес.

10) Прысутнасьць гатовых будынкаў, па магчымасьці.

11) Спэцфонд для станцыі ў якасьці лесу і іншых прыбытковых стацей.

12) Выган найбольш старадаўні, на балоце з зямель насельніцтва, плошчаю каля 20 дзес.

*Раён Станцыі і яе значэньне.* Правільна кажучы, раён Станцыі павінен абмяжоўвацца вадазборамі лагчыны р. Прыпяці з усімі яе прытокамі, пяшчанымі глебамі, балотамі і лясамі. Пагэтаму, месца Станцыі ў Цэнтральным Палесьсі, па магчымасьці на самай Прыпяці, адкуль адчыняюцца балотныя водныя шляхі па прытоках і каналах у самыя адлеглыя куты Палесься, што вельмі важна, як для вывучэньня іх з цэнтру Станцыі, так і для ўплыву Станцыі на насельніцтва.

Пойма ракі Прыпяці да 10—15 вёрст шырыні, якая затапляецца розна вадой, у залежнасьці ад рэльефу і адлегласьці ад русла, прадстаўляе вельмі багаты кармавы фонд, які далёка ня поўнасьцю выкарыстоўваецца, і зусім нечапаны мэліорацыяй і ня вывучаны ў адносінах алювія, як галоўнай крыніцы ўраджайнасьці поймы; тое самае можна сказаць і аб усіх астатніх поймах на прытоках р. Прыпяці. Між тым, пашырэньне плошчы поймавых сенажацяй і іх паляпшэньне ёсьць адно з галоўных пытаньняў Станцыі, зусім новае ў програме дасьледчых Станцый, акрамя Яхрамы, бо паляпшэньне балот тэй самай вадой з мулам зьяўляецца найбольш натуральным працягам працэса ўтварэньня расьліннай масы на балоце, лепшай якасьці і ў большай колькасьці.

Чыстыя вальховыя насаджэньні ў поймах рек займаюць другое месца пасьля чыстых поймавых балот, знаходзяцца звычайна на алювіі, а рэчкі нясуць такі алювій у паводкі далей без належнага скарыстаньня, калі не пасьпелі яго адлажыць поўнасьцю. Пытаньне скарыстоўваньня глебы для мэт угнойнага абваднянньня балот з посьпехам вывучаецца на Яхрамскай станцыі, што яшчэ больш важна для умоў Палесься са збыткам водных яго рэсурсаў, асабліва левых прытокаў Прыпяці, сьцякаючых з Слуцкіх суглінкаў; з правых-жа—р. Гарынь нясе многа мулу з гор і адкладае на правым беразе Прыпяці ў раёне Турава. На трэцім месцы стаяць усе тыя балоты на лагчынах ракі, якія не затапляліся вадой паводкі, але маглі-б заліваацца пры адпаведнай каналізацыі.

Станцыя павінна арганізаваць вывучэньне поймавых балот каля ўсіх рэчак з алювіяльнай дзейнасьцю апошніх. Для гэтай мэты трэба вясной зьбіраць цэлыя атрады і нават экспэдыцыі на маторных лодках, якія павінны інструктавацца на Станцыі выяжджаць адтуль, як з цэнтру, па прытоках і апрацоўваць пасьля матэрыял на Станцыі.

Апрача гідролёгічных і гідротэхнічных досьледаў рэк, патрэбна таксама паставіць добра вывучэньне алювія—гэтага дармовага калійнага ўгнаеньня балот, які безкарысна зносіцца ў мора праз Прыпяць. Патрэбны таксама стацыянарныя пункты для нагляданьняў, акрамя спорадычных, у поймах тых-жа рэк і нават каналаў, дзе будзе вывучацца адклад мулу і ўплыў яго на расьліннасьць.

Для ўсяго гэтага неабходна мець заўсёды сталую базу, якая займала-б кіруючае становішча ў адносінах да ўсямго Палесься, адкуль як з асяродку можна было-б прабрацца вадзяным шляхам на тэрыторыю. Грунтоўная папраўка магістральных каналаў, упадаючых у Прыпяць, дазволіць цяпер іх выкарыстоўваць таксама, як і рэчкі дзеля вывучэньня балот у паводку. Шляхі злучэньня ў Палесьсі самыя хворыя месцы, яны павінны быць заменены вадзянымі, па магчымасьці, і Станцыя павінна першая паказаць прыклад насельніцтву ў магчымасьці іх шырокага выкарыстоўваньня, таму што ў гэтым зьмяшчаецца ўся будучына Палесься,—ня будзе шляху—ня будзе і культуры, а вадзяныя шляхі—самыя танныя і прыступныя для насельніцтва.

Два плывучыя экскаватары, якія прывезлі на раку Арэсу, павінны значна палепшыць рачныя водныя шляхі ня толькі для сплаву лесу, але і дапамагчы калёнізацыі Палесься, бо без шляхоў зносін, прыбліжаючых рынкі збыту, не магчыма і калёнізацыя. Значэньне такой Дасьледчай Станцыі, утворанай на зусім новых началах, з ахопам, па магчымасьці, усіх вытворчых сіл Беларусі, падлягаючых вывучэньню, бязумоўна, ня можа абмежавацца адным Палесьсем, а павінна распаўсюджвацца і на многа дальш, дзеля таго што станцыя паставіла ў аснову ўсёй работы шырокую падрыхтоўку мэліорыраванага фонду каранного насельніцтва і дзяржфонду, шляхам экстэнсыўных мэтадаў дзеля больш хуткага пашырэньня матадаў інтэнсыўнай культуры балот разам з павялічэньнем шчытнасьці насельніцтва, дзе гэта будзе магчымым і рэнтабельным, імкнучыся паставіць бліжэй да каранного насельніцтва ўсе дасягненьні ўсёй дасьледчай навукі.

*Будова Станцыі.* Напрамак Станцыі і вырашае яе пабудову, якая, прыкладам, павінна складацца з наступных аддзелаў:

1. Папасны і лугавы аддзел.
2. Палявы аддзел.
3. Вопытна-мэліорацыйны.
4. Аддзел жывёлагадоўлі.

П а д ' а д д з е л ы:

1. Садаводзтва і гародніцтва.
2. Геоботанічны.
3. Папулярызацыйна-выдавецкі.
4. Колёнізацыйны і сувязі з насельніцтвам.

Д а п а м а г а л ь н ы я ў с т а н о в ы:

1. Лябораторыя.
2. Дзьве мэтэоролёгічных станцыі—сухадольная і балотная.
3. Вэгэтацыйны павільён.
4. Двор жывёлы, сьвінарнік і пчальнік.
5. Музэй і аўдыторыя.
6. Памяшканьне дзеля прыёму экскурсыяў, сталых даведывальнікаў і курсаў.
7. Клюб і кіно.
8. Памяшканьне для служачых.
9. Гідромэтрычныя пасты.
10. Стацыянарныя пункты для наглядання за мулам.

А б с т а л я в а н ь н е:

1. Сродкі зносін—коні, маторныя лодкі, аўтамабілі.
2. Жывы і мёртвы інвэнтар.
3. Тэлефон.

*Прызначэньне Станцыі.* 1. Адказваць на запатрабаваньні дадзенага моманту па эксплёатацыі балот і пяскоў каранным насельніцтвам у першую чаргу, а затым і колёністымі, саўгасамі і інш.

2. Працаваць у шчытным кантакце з непасрэднымі вытворчымі органамі па мэліорацыі балот і пяскоў, па культуры палявых пяшчаных зямель і з культуртэхнічнымі органамі.

3. Акрамя чыста навуковай програмы Станцыі, павінна быць выпрацавана програма вузка-практычнага характару для вырашэньня найбольш цікавых пытаньняў паказальнага характару для популярызацыі здабытых ведаў.

4. Станцыяй павінны быць вывучаны усе мясцовыя спосабы і мэтоды выкарыстоўваньня балот і пяскоў.

*Заключэньне.* Не вырашаючы пытатьня аб месцы для Балотнай Станцыі, здавалася-б раней неабходна абгаварыць тыя прынцыпы, на якіх павінна будавацца гэтая дасьледчая Станцыя, незалежна ад таго, дзе яна павінна быць, у Мар'іне альбо ў Скрыгалаве. Толькі пасьля канчатковага высьвятленьня пытаньня аб напрамку Станцыі—можна гаварыць аб выбары месца для яе. Толькі пры гэтых умовах можа быць захавана неабходная об'ектыўнасьць пры выбары месца для Станцыі.

———

Г. Эркін.

# Аб асушцы няпрыгодных лясных зямель.

Пытаньні асушкі ў лясной гаспадарцы даўно цікавілі лепшых гаспадароў ляснога багацьця.

Ужо з пачатку разьвіцьця правільнай лясной гаспадаркі, а таксама дасьледчай лясной справы, ў дзяржаўных і вучэбных лясьніцтвах было высьветлена, якое вялізарнае значэньне мае вада ў лясной гаспадарцы.

Так, на поўдні ў чарназёмнай паласе глыбокія грунтавыя воды, а таксама і недахоп атмосфэрных вод, дзесяцігодзьдзямі хвалявалі розум лесаводаў у пытаньнях стэпавага лесаразьвядзеньня; шмат энэргіі і працы затрачана дзеля падысканьня найбольш сталых лясных парод і „тыпаў" іх комбініраваньня. Часта лясныя пасадкі павінны былі дапамагаць награмаджэньню і паступоваму расходу вільгаці дзеля мэтаў лясной гаспадаркі.

У сярэдняй паласе, а асабліва на поўначы, дзе меўся збытак вады, лясы цярпелі ад забалочваньня. Вялізарныя яловыя лясы, займаючыя глiністыя і сугліністыя грунты, а таксама сасновыя і мешаныя лясы ў мясцовасьцях, дрэнна дрэнаваных, хутка падпадалі процэсу забалочваньня і тым самым значна паніжалі вытворчасьць грунту, паніжалі бонітэт насаджэньняў. Асабліва хутка забалочваліся, амаль што на вачох у лясьнічых, лесасекі. Агульныя рубкі палосамі зараз-жа спынялі транспірацыю вады з грунту, чаму там вада стаяла на паверхні, утвараючы непраходныя багны. У такіх умовах лесаўзнаўленьне адсутнічала, а забалочаныя месцы быўшых лесасек, пажарышч, бураломаў і г. д. сталі крыніцай далейшага ўзмацненьня і распаўсюжваньня балот*).

На гэту акалічнасьць упяршыню зьвярнулі ўвагу гаспадары паўночных лясоў і першыя пачалі асушваць забалочаныя лясы. Асушка ў такіх выпадках радыкальна „вылечвала" забалочаныя лясы, павялічваўшы прырост дрэвясіны, палепшаўшы рост і ўзнаўленьне. Клясычным прыкладам дзейнасьці асушкі зьяўляецца Лісінская вучэбна-дасьледчая дача Ленінградзкай губ., дзе на месцы быўшага балотнага асяродку пад назвай „Суланда", пасьля асушкі, зараз находзіцца будаўляны сасновы лес. Аднак, галоўныя крыніцы дзеля распаўсюджваньня забалочваньня лясоў, балячкі лясных дач—балоты заставаліся някранутымі. Вялікі збытак іх, як на поўначы, так і ў сярэдняй паласе,—асабліва ў Беларускім Палесьсі,—малая прыбытковасьць лясоў, залежнасьць і консэрватызм расійскай лясной гаспадаркі—усё гэта ня спрыяла праніканьню ідэй мэліорацыі забалочаных абшараў у мэтах іх лесагаспадарчага выкарыстоўваньня. Вымагаўся ўдзел дзяржаўных органаў з спэцыяльнымі асыгнаваньнямі сродкаў дзеля таго, каб пакласьці пачатак асушцы лясных балот. Такім чынам, былі створаны экспэдыцыі па асушцы балот, паклаўшых шмат працы на асушку балот і забалочаных лясоў быўшых дзяржаўных лясьніцтваў: на поўначы працавала экспэдыцыя Аўгустыновіча, а на захадзе і ў цэнтральных губ.—экспэдыцыя Жылінскага.

Гэта было ў другой палове мінулага стагодзьдзя. У сучасны момант, калі народная гаспадарка Беларусі перажывае вялікі ўздым, а мэты соцыялістычнага будаўніцтва вымагаюць плянавага падыходу да ўсіх мерапры-

*) Па даных паўночна-заходняй краіны там ёсць да 700.000 дзес. лесасек, неаблесеных, галоўным чынам, з прычыны забалочанасьці.

емстваў, накіраваных к развіцьцю і ўздыму, як народнай гаспадаркі наогул, так сельскай і лясной у частковасьці,—пытаньне мэліорацыі балот і забалочаных абшараў усёй Беларусі атрымала свае вырашэньне ў проэкце гэнэральнага пляну асушкі балот на працягу пятнаццацігодняга пэрыоду часу. У гэтым гэнэральным пляне, бязумоўна, вялікае значэньне будуць мець пытаньні асушкі балот у мэтах іх лесагаспадарчага выкарыстоўваньня. З агульнага ліку балот Беларусі 1.650.000 дес. на долю забалочаных лясоў і лясных балот (балот, якія знаходзяцца ў межах лясных дач) прыпадае 520.000 дес. Аднак, паказаная лічба балот, якая будзе асушацца дзеля зарашчэньня лесам, бязумоўна, павялічыцца, бо ня ўсе балоты будуць прыгодны для мэтаў сельскай гаспадаркі, як напрыклад, балоты сфагнавыя верхавога тыпу. Калі лічыць, як лічыць праф. Дубах, што 1/4 усёй колькасьці балот прыходзіцца на долю сфагнавых, дык вышэй паказаная лічба (520.000 дес.) павялічыцца на 280.000 дзес. і мы будзем мець агульны лік балот, якія павінны быць асушанымі дзеля зарашчэньня лесам,—800.000 дзес.

Па вылічэньнях аддзелу мэліорацыі Н. К. З. асушка 520.000 д. лясных балот абойдзецца 18,2 мільёнаў руб. У сучасны момант мы маем распрацаваны сьцыслы плян асушкі лясных балот на пяцігодзьдзе 1925/26—1929/30 г. Кіраўніцтва лясамі Б.С.С.Р. мяркуе „наладзіць цесную сувязь з аддзелам мэліорацыі Н.К.З.Б дзеля асушкі лясных вучасткаў, тым балей, што гэтае пытаньне мае вельмі вялікае значэньне для лесасплаву. У гэтым напрамку ў працягу пяцігодзьдзя аддзел мэліорацыі меціцца зрабіць рамонт сушыльнасплаўных каналаў, грунтоўны і значны рамонт бакавой асушальнай сеткі з пракладкай новых каналаў, падубовай мастоў і правядзеньнем дасьледаваньняў. Выдаткі на гэтыя працы па рамонту асушальных каналаў выразяцца:

| у 1925—26 г. | 26—27. | 27—28. | 28—29. | 29—30 г. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 64.552 р. | 80.575 р. | 144.408 | 288.925 | 388.150 | 966.610 р. |

Па рамонту пабочнай сушыльнай сеткі.

| 1926—27 г. | 27—28 г. | 28—29 г. | 29—30 г. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 29.200 | 49.850 | 158.950 | 316.250 | 557.250*)“ |

Такім чынам, ня лічачы рамонту асушальна-сплаўных каналаў, на рамонт існуючай бакавой сеткі і правядзеньне новай каналізацыі мяркуецца ў працягу бліжэйшых гадоў выдаткаваць 557.250 р. На гэтыя грошы мяркуецца адрамантаваць асушыльную сетку, якая займае 34.600 дзес., асушыць новую плошчу ў 13.260 дзес., а ўсяго—47.860 дзес. мэліораваная плошча павінна будзе часткова пакрыць той выдатак прыгоднай лясной плошчы, якая адойдзе дзеля мэтаў сельскай гаспадаркі. „У працягу бліжэйшага пятігодзьдзя будзе перададзена у Дзяржаўны лясны фонд 54.000 дзес. мэліорыраванай плошчы, прыгоднай для мэтаў лясной гаспадаркі і вынута з ляснога фонду пад сельска-гаспадарчае карыстаньне 74.000 дзес.“ **). Такая праграма конкрэтных мерапрыемстваў па пытаньню мэліорацыі няпрыгодных зямель у мэтах замены яе на прыгодныя лясныя вучасткі ў бліжэйшыя гады.

Аднак, тэхніка мэліорацыі лясных забалочаных вучасткаў нам яшчэ сьцісла не знаёма. У адзнаку ад сельска-гаспадарчей мэліорацыі і куль-

*) Перспективный план развития сельского и лесного хозяйства БССР. на 1925/26 г.—1929/30 г. Стр. 818.

**) Стенограмма заседания С.Н.К. Б.С.С.Р. от 27-го мая 1927 г. по вопросу о 5-тилетнем перспект. плане развития народного хозяйства Б.С.С.Р. Стр. 150.

туры балот, адносна якіх сучасная практыка ў злучэньні з дасьледчымі данымі зможа даць зусім сьціслыя паказаньні,—мэліорацыя забалочаных лясоў і балот для мэтаў лесагаспадарчых прадаўжае заставацца ў некатрым выпадку загадкай для тэхніка. Адсутнасьць досьледаў дзейнасьці, існуючых асушыльных сыстэм лясных дачаў, можа быць прычынай таго, што меркаваныя вышэй паказаныя выдаткі будуць у значнай колькасьці затрачаны нерацыянальна. Ужо зараз, напрыклад, можна a priori сказаць, што рамонт каналізацыі па некаторых адменнасьцях вярховых балотаў не палепшыць узросту сасны; асушка-ж новых балотаў павінна весьціся *ледзь толькі на падставе сучасных дасьледчых прац дзейнасьці асушальных сыстэм.* Ставячы перад сабой такое вялікае заданьне, якім зьяўляецца асушэньне лясных балот, развязаньне якога вымагае аграмаднага ліку сродкаў, нельга ня прыпомніць таго вялікага вопыту, які мы маем у выніку дзейнасьці Заходняй экспэдыцыі па асушцы балот Палесься. Экаломічныя вынікі яго былі выяўлены досьледамі проф. Дубаха і апісаны ў спэцыяльных брошурах і кнігах.

Гэтыя дасьледаваньні, якія праводзіліся на падставе апрацоўкі гадавых справаздач лясьніцтваў, паказалі з бязумоўнасьцю, што эканомічны эфэкт ад зробленага пярвічнага, экстэнсыўнага, асушэньня вельмі значны, але гэты-ж эфэкт неацэнімы, калі прыняць пад увагу summa summarum усіх вынікаў, якія атрымаліся ад асушкі балот, як напрыклад, аздараўленьне мясцовасьці, памяншэньне беспрацоўя і г. д.

Але гэты вопыт асушкі дае нам наглядны прыклад, як трэба і як ня трэба асушаць балоты. У сучасны момант, калі шмат якія асушальныя сыстэмы маюць саракагадовую і болей даўнасьць, мы бачым, што ня ўсе балоты перавярнуліся ў прыгодныя землі і заняты пад лес, што многа балот і да гэтай пары засталіся нязьмененыя асушкай, што, урэшце, шмат сродкаў і працы было затрачана нерацыянальна і бяз пользы. Выяўленьне ўсіх бакоў уплыву асушкі ў натуры, знайсьці прычыны безпасьпяховай дзейнасьці каналізацыі,—складае адно з галоўнейшых заданьняў, якое стаіць пры перамозе будучых цяжкасьцяй.

Вытлумачэньнем уплыву дзейнасьці асушэньня на рост лесу займаліся шмат дасьледчыкаў, але амаль што ўсе яны займаліся апісаньнем дравеснай расьліннасьці, узьнікаўшай на асушаным балоце, не цікавячыся тым, што находзіцца пад гэтай расьліннасьцю, не разьмяжоўваючы тыпаў балот, ня ведаючы іх будовы і г. д. З прычыны таго, данымі гэтых апісаньняў нельга карыстацца пры проэктаваньні, бо часта гэтыя данныя пярэчаць адзін аднаму.

Ніжэй мы пастараемся паказаць, як дзейнічае асушэньне на замену балот у прыгодную глебу, занятую гаспадарча-каштоўнымі насаджэньнямі, на падставе папярэдніх даных апрацоўкі матэрыялаў дасьледаваньняў над дзейнасьцю асушальных канаў у лясных дачах Беларусі. Гэтыя дасьледжваньні вядуцца і яшчэ будуць весьціся ў далейшым Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І Леніна.

## II.

Прадметам дасьледаваньня служылі Цэльская і Лапічская лясныя дачы Бабруйскай акругі. Галоўная маса балот знаходзілася ў Цэльскай дачы; у Лапічскай пераважнае распаўсюджаньне складалі значна забалочаныя вольшатнікі, якія асушаліся Заходняй Экспэдыцыяй, ня гледзячы

на тое, што гэтыя месцы ў таксацыйным апісаньні лічыліся, як добрыя лясныя плошчы. Балоты Цэльскай лясной дачы прадстаўлялі сабой тарфянікі рознай (ад 1 да 6 mt.) глыбіны і розных стадый развіцьця. Пераважна тут былі сфагнавыя балоты. У момант асушкі ў дачы лічылася прыблізна 3050 дзес. няпрыгодных абшараў, якія, судзячы па пляцах, якія захаваліся падзяляліся па роду балотнай дрэўнай расьліннасьці наступным парадкам:

| | | |
|---|---|---|
| Балот, пакрытых ніцаю сасной (сфагнавыя) . | 2367,5 | дз. |
| „ „ лісьцянымі пародамі . . | 494 | „ |
| „ „ сасной і бярозай . . | 188,5 | „ |
| Усяго . . | 3050 | дз. |

Дзеля высьвятленьня ўплыву каналізацыі на рост дрэўнай расьліннасьці на розных тыпах балот было закладзена 11 спробных месц-плошчаў у наступных насаджэньнях:

У сасновых насаджэньнях (з дамешкаю бярозы) 6 пл. (Цэльск. д.)
„ бярозавых „ . . . . 2 пл. (Цэльск. Лап. д.)
„ вольхавых „ . . . . . 3 пл. (Лапіцк. д.)

Метод дасьледаваньня складаўся з наступнага.

Простападна да канавы адводзілася плошча, якая дзялілася на шэраг вучасткаў. У кожным вучастку адбываўся пералік дрэў, палучэньне модэльных дрэў, вымералася глыбіня торфу, глыбіня стаяньня грунтавой вады, апісвалася трававое ўкрыцьцё, ніволіравалася паверхня і, нарэшце, браліся пробы торфу дзеля лябораторнага дасьледаваньня. Часамі ўзамен плошчы прасякаўся толькі візыр, і дрэвы высякаліся каля гэтага візыра на розных адлеглясьцях ад канавы, і толькі ў пачатку візыра і ў канцы візыра адвозілася па плошчы ў $^1/_4$—$^1/_5$ гэкт, у якіх і наводзіўся пералік дрэў і інш. Такім чынам, было высечана больш чым 160 дрэў, з якіх для аналізу хода росту ўзята каля 150 шт. У сучасны момант увесь матэрыял яшчэ не апрацован, але папярэднія даныя даюць магчымасьць меркаваць аб выніках асушальнай дзейнасьці канаў. У кароткіх рысах яны прыводзяць да наступнага.

1) *Нізінныя балоты* ўсюды пераходзяць у прыгодныя лясныя плошчы, занятыя лісьцяным лесам—бярозай з дамешкай асіны. У дасьледаваных выпадках інтэнсыўнасьць росту прыметна не зьмяншалася па меры аддаленьня ад канавы.

Ужытая Заходняй экспэдыцыяй вярстовая адлегласьць між канавамі дзеля далучэньня нізінных балот да прыгоднай лясной глебы трэба прызнаць *магчымай*.

2) *Вярховыя балоты* (сфагнавыя з сасной) ня ўсе пераходзяць у прыгодныя лясныя плошчы. Стадыя разьвіцьця балот і, значыцца, таўшчыня сфагнавага пласту тарфяніка грае выключную ролю ў гэтым процэсе. Па меры аддаленьня ад канавы рост дрэў памяншаецца. Хоць уплыў асушкі, прыметны для вока, распаўсюджваецца і далей, але існуе оптымальнае распаўсюджваньне ўплыву канавы, меншае агульнай даўжыні. Асушаныя імшары прадстаўляюць сабой сасновыя насаджэньні з дадаткам бярозы. Матэрыял досьледваньня яшчэ не багаты, каб сказаць, што небудзь пэўнае аб даўжыні распаўсюджваньня ўплыву асушкі вярховых балот на рост лесу. Як прыклад добрага ўплыву асушкі можа служыць наступная пробная плошча, якая закладзена на сфагнавым балоце. Яна падзелена на 8 вучасткаў, астатні вучастак канчаецца на адлегласьці 365 mt.

ад канавы. Як паказалі аналізы дрэў, да асушкі тут рос ніцы сасьняк ва ўзросьце ад 20 да 70 гадоў, вышынёю ад 3 да 7 mt. Таксацыя дала наступныя лічбы:

| №№ нучасткаў | Адлегласьць ад кянавы ў mt. | Глубіня торф. вуч. ў mt. | Лік дрэў у пераліку на гэкт. | | | | Запасы ў куб. mt. на гэкт. | | | | Паўната | Сярэдняя вышыня ўзятых модэляў у mt. | Бонітэт | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сасна | Бяроза | Елка | Усяго | С | Б | Е | Усяго | | | | |
| 1 | 4—30 | 2.8 | 710 | 394 | 250 | 1354 | 258.3 | 14.2 | 12.0 | 284.5 | 0.7 | 20. 1 | I | Бонітэт вылічаўся па гаспадарчаму ўзросту насаджэньня. |
| 2 | 30—70 | 3.2 | 544 | 300 | 106 | 950 | 208.6 | 9.0 | 3.2 | 220.8 | 0.6 | 19. 2 | II | |
| 3 | 70—120 | 2.6 | 555 | 125 | 60 | 740 | 211.2 | 6.5 | 4.3 | 222.0 | 0.6 | 18. 8 | II | |
| 4 | 120—170 | 2.1 | 450 | 205 | 25 | 680 | 157.6 | 6.2 | 3.0 | 166.8 | 0.5 | 17. 6 | II | |
| 5 | 170—220 | 2.2 | 535 | 215 | 10 | 760 | 160.7 | 7.7 | 0.4 | 168.8 | 0.5 | 18. 1 | II | |
| 6 | 220—270 | 2.1 | 1375 | 210 | — | 1585 | 90.1 | 7.6 | — | 97.7 | 0.5 | 10.88 | IV | |
| 7 | 270-320 | 1.8 | 1745 | 5 | — | 1795 | 75.3 | 0.3 | — | 75.6 | 0.4 | 10.12 | IV | |
| 8 | 320—365 | 0.9 | 1617 | 237 | — | 1854 | 50.0 | 6.1 | — | 56.1 | 0.4 | 8.48 | V | |

З гэтай табліцы відаць, як з аддаленьнем ад канавы зьмяншаюцца такія і таксацыенныя элемэнты, як вышыня, запас і бонітэт насаджэньня.

3) *Пераходныя балоты* пакрываюцца саснова-бярозавымі насаджэньнямі. Яны таксама, як і нізінныя, лёгка пераходзяць у прыгодныя плошчы, але, бязумоўна, патрабуюць меншай адлегласьці паміж канавамі.

4) Падпаўшыя ўплыву асушэньня вольхавыя насаджэньні IV клясы ўзросту не паказалі палепшаньня росту. Аднак, маладыя (II кл. узросту) вальховыя насаджэньні, якія зьявіліся на асушанай дрыгве, пасьля высечкі першабытнага насаджэньня, уяўляюць сабой насаджэньні I-га бонітэту.

5) На ўсіх тыпах балот глыбіня торфу *ня грае ролі адмоўнага фактару,* дзеля правядзеньня балот у прыгодныя лясныя плошчы. Для вярховых балотаў адмоўным фактарам зьяўляецца таўшчыня сфагнавага пласту тарфняка.

6) Пасьля высечкі сасновых насаджэньняў на асушаных балотах сасна натуральным шляхам ня ўзнаўляецца. Гэтыя месцы пакрываюцца бярозай і асінай з нязначнай дамешкай іншых парод. Вось, для прыкладу, пералік дрэў з плошчы ў 25 кв. mt. на месцы быўшага сасновага насаджэньня. Глыбіня торфу больш 2-х mt. Лічбы паказаны на гэктар. Насаджэньню 12 гадоў.

| Бяроза | Асіна | Ів. | Усяго |
|---|---|---|---|
| 29.200 | 1.200 | 1,200 | 31.600 |

Зсечаная бяроза на вышыні грудзі мела 4,5 см. і ў вышыню 6,6 mt.

Такія першыя вынікі зробленага дасьледаваньня ўплыву асушкі. Да асушкі ў Цэльскай лясной дачы лічылася, як было вышэй зазначана, 3050 дзес. няпрыгодных зямель, але ўжо праз 25 гадоў, згодня рэвізіі лесаўпарадкаваньня, няпрыгодных зямель лічылася 1645 д. Такім чынам,




Маштаб: ў 1 см.—1,78 клм.

Рыс. 1. Цэльская дача ў момант асушкі, ў 1884—86 г.




Рыс. 2. Цэльская дача праз 25 год пасля асушкі ў 1910 г.

плошча няпрыгодных зямель скарацілася на 1404,4 дзес. ці 46 проц. Дзеля ілюстраваньня даюцца пляны Цэльскай лясной дачы да асушэньня і праз 25 гадоў пасьля асушкі. Пазастаўшыя нязьмененымі асушкай балоты складаюць так званыя „злосныя“ імшары, пазнаць прыроду якіх, а таксама спосабы іх культуры ў мэтах леса-гаспадарчага выкарыстоўваньня,—складае заданьне будучых дасьледаваньняў.

---

Х. А. Пісаркоў.

# Рост махавога балота Горацкай лясной дачы і ўплыў забалачваньня на прырост сасны.

Вядома, што балота, як і кожны жывы організм, расьце ў вышыню і ў бакі, гэты рост асабліва ясна прыметны на махавых балотах.

З году ў год імшара падымаецца ў вышыню, а таксама паступова насоўваецца на суседнія сухадолы, увесь час захопліваючы карысныя плошчы і пераводзячы іх у балота.

Проф. Р. П. Спарро паказвае, напрыклад, такія выпадкі, што з-за насоўваньня балот на сядзібныя землі людзям прыходзілася зьнімацца з плошчы, якой пагражала забалачваньне, і пераносіць будынкі і сядзібы на іншыя плошчы.

Зробленыя ім досьледы ў Цьвярской губ., у Кастрэцкім лясьніцтве, на сфагнавым балоце, паказалі, што тут у сярэднім у год захаплівалася балотам паласа ад 3—1,25 саж., і прырост насаджэньня пад уплывам забалачваньня зьменшыўся да 8 разоў.*).

1, *Велічыня забалачваньня.* З мэтаю вызначэньня велічыні забалачваньня або шыбкасьці росту балота ў бакі, на махавым балоце Гарацкай лясной дачы, Аршанскае акругі, у кварталах №№ 65, 66, 60, 64 і зроблены былі пададзеныя ніжэй дасьледваньні, пачатыя ў 1922 г. проф. Р. П. Спарро. Мэтодыка досьледаў складалася з наступнага; па пэрыферыі балота, пры дапамозе сьвердзела Прэслера, адшуквалася сасна, якая расла ў пачатку свайго жыцьця на сухадоле і ўпасьледку апынулася на балоце. Вызначыць такую сасну было даволі лёгка па гадавых адкладах (колцах) драўніны; на цыліндрыках, здабытых сьвердзелам са ствала, можна было бачыць у сярэдзіне буйныя гадавыя колцы, каторыя адпавядалі пэрыоду росту сасны на сухадоле, і на пэрыфэрыі ствала надзвычайна дробныя гадавыя колцы, каторыя ўтварыліся за пэрыод росту сасны на балоце; такая сасна сьсякалася і ад яе браліся адсекі, вымяралася глыбіня торфу каля сасны, вымяралася таксама адлегласьць ад сасны да сухадолу.

Па ніжнім адсеку (каля пня) пры дапамозе лупы вызначаўся лік вузкіх колцаў ствала; далей прымалася, што сасна апынулася на балоце столькі год таму назад, колькі налічвалася вузкіх колцаў; ад дзяленьня адлегласьці сасны да сухадолу на лік колцаў вузкіх атрымоўвалася сярэдняя велічыня гадавога росту балота ў бок, альбо сярэдняя хуткасьць руху балота па пэрыфэрыі ў паземным кірунку. Ад дзяленьня-ж глыбіні торфу на

*) Проф. Р. П. Спарро. „Уплыў забалачваньня і асушкі на расьліннасьць“.

калькасьць вузкіх колцаў атрымоўвалася велічыня сярэдняга гадавога нарастаньня торфу каля сасны ў вышыню.

Усяго па пэрыфэрыі балота ўзята было 49 сасонак. Велічыні росту балота ў бок атрымаліся даволі стракатыя (табліца VI). З мэтаю сыстэматызацыі атрыманага матэрыялу паступлена было наступным парадкам. Дапушчана было, што разрастаньне балота знаходзіцца ў цеснай залежнасьці ад сярэдняга ўхілу акраін дна балота.

Для знаходжаньня такое залежнасьці належыла-б зрабіць нівэліроўку дна балота—ад кожнае сасны да сухадолу, але гэта зроблена ня было па наступных меркаваньнях: 1) гэта ўскладніла-б і ўдаражыла-б работу, 2) для нашых мэт нівэліроўка была-б, як відаць, залішняю.

Як вядома, адметка дна балота атрымоўваецца ў выніку розьніцы адметкі паверхні і глыбіні торфу, і калі прыняць паверхню балота за паземную роўніцу, дык памылка ад такога дапушчэньня будзе невялікая ў параўнаньні з памылкаю пры вызначэньні глыбіні торфу шляхам зондыроўкі.

Грунтуючыся на гэтых меркаваньнях, зьявілася магчымым вылічыць сярэдні нахіл акраін дна балота простым дзяленьнем глыбіні торфу каля сасны на адлегласьць ад сасны да сухадолу.

Разьбіўшы ўсе атрыманыя намі для кожнае сасны нахілы на інтэрвалы цераз 0,005 і вылічыўшы для кожнага інтэрвалу сярэдні нахіл і адпаведную сярэднюю велічыню гадавога росту балота ў бок, атрымоўваем наступныя рэзультаты.

ТАБЛІЦА I.

| Сярэднія нахілы акраін дна балота | Сярэдні гадавы рост балота ў бакі ў mt | Колькасьць сасон |
|---|---|---|
| 0,004 | 5,34 | 7 |
| 0,008 | 3,48 | 18 |
| 0,012 | 1,92 | 17 |
| 0,017 | 1,75 | 4 |
| 0,021 | 1,30 | 2 |
| 0,030 | 0,91 | 1 |
| | | 49 |

З гэтае табліцы бачым пэўную залежнасьць паміж нахілам акраін дна балота і ростам балота ў бакі з памяншэньнем нахілу—рост балота павялічваецца і наадварот.

Калі атрыманую табліцу паказаць графічна,—адкладаючы на паземнай восі нахілы І ў тысячных, а на старчаковай восі велічыні сярэдняга гадавога росту балота ў бакі *e*,—дык выходзіць даволі плынная крывая.

Дапасаваўшы да дадзенай крывой раўнаньне роўнабокай гіпэрбалі адносны асымптот, віду—$Ie=a^2$ і знайшоўшы праўдападобнае значэньне „$a^2$“, з падлікам хістаньня знаходзім раўнаньне—$Ie=25{,}37$.

Вылічыўшы па гэтаму раўнаньню велічыні росту балота ў бакі і параўнаўшых іх з велічынямі назіраньня, атрымоўваем наступную табліцу.

ТАБЛІЦА II.

| 1 Нахілы ў тысячных $t$ | 2 Сярэдні гадавы рост балота ў бакі $e$ з назіраньняў у mt | 3 Сярэдні гадавы рост балота ў бакі е па раўнаньню ў mt | 4 Розьніцы $\Delta$ | 5 Сярэдняя квадратычная памылка асобнага назіраньня m | 6 Сярэдняя квадр. памылка арытмэтычнае сярэдзіны M |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 5,34 | 6,34 | —1,00 | ±0,77 | ±0,30 |
| 8 | 3,48 | 3,17 | +0,31 | 0,44 | 0,10 |
| 12 | 1,92 | 2,11 | —0,19 | 0,31 | 0,08 |
| 17 | 1,75 | 1,49 | +0,26 | 0,32 | 0,16 |
| 21 | 1,30 | 1,21 | +0,09 | 0,21 | 0,11 |
| 30 | 0,91 | 0,85 | +0,06 | 0,19 | 0,19 |

Далей паглядзім, наколькі здавальняе раўнаньне гіпэрбалі дадзеным непасрэднага назіраньня, наколькі блізка яна ахоплівае велічыні нашых назіраньняў.

Для адказу на пастаўленае пытаньне неабходна ўстанавіць дакладнасьць нашых назіраньняў. Сярэдні гадавы рост балота ў бакі мы вылічалі па формуле $e=\frac{L}{t}$; дзе $e$ ёсьць функцыя двух зьменных; сярэдня, квадратычная памылка такое функцыі мае від:

$$m=\pm\sqrt{\left(\frac{\Delta L}{t}\right)^2+\left(\frac{d}{t^2}\Delta t\right)^2}$$

Прыняўшы памылку ў вызначэньні адлегласьці ад сасны да сухадолу $\Delta L$ 3 роўнай мт.,—памылку ў вызначэньні ліку тонкіх гадавых колцаў $\Delta t$ роўнай 3 гадом, велічыні L і t бяром сярэднія для кожнае групы нахілаў.

У выніку вылічэньняў знаходзім сярэдн. квад. памылкі асобных назіраньняў (табл. II). Памылку-ж арытмэтычнай сярэдзіны вылічаем па формуле $m=\frac{m}{\sqrt{n}}$, дзе „m“ сяр. кв. памылка асобнага назіраньня, n—лік назіраньняў. З табліцы II-е відаць, што патройная памылка арытмэтычнае сярэдзіны толькі ў I-ым выпадку менш адхіленьня велічыні назіраньня росту балота ад вылічанае па раўнаньню гіпэрбалі; у астатніх-жа выпадках рэзультаты атрымоўваюцца зусім здавальняючыя.

Калі-ж знайсьці сярэднія кв. памылкі (асноўныя адхіленьні) для цэлых радоў 4-га і 6-га табл. II-е па формуле: $\pm\sqrt{\frac{\Delta^2}{n}}$, дык атрымоўваеш такія вялічыні—для раду 4-га—±0,450 мt, для раду 6-га—±0,174 мt, г. з. асноўныя адхіленьні вылічаных вялічынь ад назіральных не перавышаюць патройнай памылкі назіраньняў; гэта дае падставу лічыць, што раўнаньне гіпэрбалі выстарчаюча поўна характарызуе залежнасьць велічыні росту балота ў бакі ад нахілу акраін дна балота.

Карыстаючыся гэтым раўнаньнем, магчыма меркаваць і аб будучым росьце балота ў бакі, дзеля чаго неабходна мець толькі плян у горызонталях прылягаючых сухадолаў. Сапраўды, вылічыўшы па пляну нахіл—І, падставіўшы яго ў раўнаньне гіпэрбалі $Ie = 25,37$, знаходзім надта проста шуканую велічыню *e*.

2. *Нарастаньне моху.* Падрабязныя дасьледваньні над нарастаньнем моху былі зроблены на балоце проф. А. Д. Дубахам*), але мэтодыка дасьледваньняў у яго была іншая: нарастаньне моху вызначалася па дробных соснах і па масаваму матэрыялу; у нас-жа вызначэньні рабіліся па буйных соснах і па значна меншай колькасьці іх.

Усё-ж цікава прывесьці знойдзеныя рэзультаты і параўнаць абодвы мэтоды.

ТАБЛІЦА III

| Час нарастаньня (пэрыод часу) гады t | Сярэдняе гадавое нарастаньне моху, вызначанае па буйных соснах у mm I | Лік назіраньняў. | Сярэдняе гадавое нарастаньне моху, вызначанае на дробных соснах у mm II | Лік назіраньняў | Адхіленьні Δ паміж І і ІІ |
|---|---|---|---|---|---|
| 6—10 | 30,0 | 1 | 13,5 | 25 | 16,5 |
| 11—15 | 36,1 | 2 | 10,4 | 39 | 25,7 |
| 16—20 | 26,9 | 12 | 10,3 | 109 | 16,6 |
| 21—25 | 23,8 | 30 | 9,8 | 134 | 14,0 |
| 26—30 | 20,4 | 3 | 9,7 | 116 | 10,7 |
| 31—35 | 12,9 | 1 | 9.3 | 147 | 3,6 |
| | | 49 | | 570 | |

Ня гледзячы на невялікі лік назіраньняў, зробленых па буйных соснах, усе-ж такі і тут зьмяншэньне сярэдняга гадавога нарастаньня моху з павялічэньнем пэрыоду ясна выражана.

Атрыманыя-ж абсолютныя велічыні паміж сабою не параўнальны; велічыні сярэдняга гадавога нарастаньня моху, знойдзеныя па буйных соснах, надта павялічаны. Павялічэньне гэтае адтрымалася, галоўным чынам, дзякуючы недакладнасьці вызначэньняў глыбіні торфу шляхам зандыроўкі; апрача таго магчыма, што на акраінах балота і энэргія нарастаньня моху іншая, як на астатняй частцы балота, на якой зроблены былі дасьледаваньні на дробных соснах.

3. *Уплыў забалачваньня на рост сасны.* З мэтаю высьсьненьня ўплыву забалачваньня на прырост сасны ад усіх 49 сасонак браліся адсекі; першы адсек браўся на ўзроўні моху, другі на вышыні аднаго мэтра ад паверхі моху, і далей цераз кожныя два мэтры.

Па гэтых адсеках быў зроблены аналіз усіх дрэў: 1) вылічаны былі

*) Проф. А. Д. Дубах. „Нарастаньне моху і торфу на балотах". Навукова-дасьледчыя працы 1925 г. НКЗБ.

аб'ёмы дрэў па пяцігодзьдзя, 2) бягучыя прырасты, 3) процант бягучага прыросту па формуле Прэсьлера:

$$P = \frac{200}{t} \cdot \frac{V-v}{V+v}$$

дзе P—процант бягучага прыросту, V і v—аб'ёмы ствала ў канцы і пачатку дасьледавальнага пэрыоду часу t; у нашым выпадку t—раўняецца 5 гадам, 4) вылічан быў ход росту сасны ў вышыню.

З прычыны таго, што ўзятыя з балота сосны аказаліся рознаўзростнымі, і зьмена ўмоў росту пад уплывам забалачваньня адбывалася ў розныя пэрыоды іх жыцьця, дык дзеля параўнаньня бягучых прыростаў сасонак, якія расьлі ў нармальных умовах (да забалачваньня) і ненармальных умовах (пасьля забалачваньня), зроблена было наступным парадкам.

Выбіраліся для пэўнага ўзросту і пяцігодзьдзя з усіх 49 сосен тыя сосны, каторыя расьлі ў нармальных умовах, і для іх вылічаўся сярэдня-арытмэтычны бягучы прырост; далей для таго-ж узросту і таго-ж пяцігодзьдзя, але па другіх соснах, вызначаўся таксама сярэдні бягучы прырост для ненармальных умоў росту сасны.

Гэтай комбінацыяй зьявілася магчымым параўнаць бягучыя прырасты пры паказаных вышэй дзьвюх умовах росту сасны і пазбавіцца ўплыву ўзросту на велічыню бягучага прыросту.

ТАБЛІЦА IV.

| Узрост модэляў па пяцігодзьдзях | Да забалачваньня | | | Пасьля забалачваньня | | | У колькі разоў зьменшыўся абсалютны бягучы прырост пад уплывам забалачваньня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бягучы прырост у mt³ | Проц. бягучага прыросту | Лік сосен | Бягучы прырост у mt³ | Проц. бягучага прыросту | Лік сосен | |
| 0—5 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5—10 | 0,0010 | 36,69 | 29 | — | — | — | — |
| 10—15 | 0,0019 | 24,15 | 48 | — | — | — | — |
| 15—20 | 0,0029 | 16,87 | 24 | 0,0007 | 4,74 | 19 | 4,1 |
| 20—25 | 0,0031 | 11,31 | 15 | 0,0006 | 2,94 | 28 | 5,2 |
| 25-30 | 0,0020 | 5,31 | 12 | 0,0006 | 2,24 | 37 | 3,3 |
| 30—35 | 0,0009 | 7,47 | 3 | 0,0006 | 1,83 | 44 | 1,5 |
| 35—40 | 0,0013 | 7,87 | 3 | 0,0008 | 1,85 | 24 | 1,6 |
| 40—45 | 0,0017 | 10,43 | 2 | 0,0007 | 1,41 | 18 | 2,4 |
| 45—50 | 0,0040 | 13,89 | 2 | 0,0009 | 1,53 | 5 | 4,4 |
| 50—55 | 0,0060 | 11,69 | 2 | 0,0011 | 0,97 | 2 | 5,5 |

З гэтае табліцы відаць рэзкае падзеньне бягучага прыросту пад уплывам забалачваньня—ад 1,5 да 5,5 разоў. Праўда, для ўзростаў сосен ад 30—45 гадоў мала аказалася сосен, якія расьлі ў нармальных умовах у параўнаньні з лікам сосен, каторыя расьлі на балоце, а дзеля таго параўнаньне бягучых прыростаў у гэтым узросьце ня зусім характэрна.

Найбольш пэўная лічбіна зьмяншэньня прыросту пад уплывам заба-

лачваньня атрымалася для зростаў сосен ад 15 да 30 гадоў—ад 3,3 да 4,1 разоў, тут лік сосен у абаіх выпадках адносна вялікі.

Для характарыстыкі ходу росту сасны ў вышыню пры нормальных умовах росту і на балоце, знойдзены быў сярэдні гадавы рост сасны ў вышыню за кожнае пяцігодзьдзе і для параўнаньня дапасаваны быў вышэйпаказаны мэтод.

Рэзультаты атрыманы наступныя:

ТАБЛІЦА V.

| Узрост модэляў | Да забалачваньня | | Пасьля забалачваньня | | У колькі разоў зьменшыўся прырост сасны ў вышыню пад уплывам забалачваньня |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдні гадавы прырост сасны ў вышыню ў mt | Лік сосен | Сярэдні гадавы прырост сасны ў вышыню ў mt | Лік сосен | |
| 5—10 | 0,40 | 49 | — | — | — |
| 10—15 | 0,37 | 49 | — | — | — |
| 15—20 | 0,26 | 24 | 0,07 | 19 | 3,7 |
| 20—25 | 0.17 | 15 | 0,06 | 28 | 2,8 |
| 25—30 | 0,14 | 3 | 0,06 | 37 | 2,3 |
| 30—35 | 0,13 | 3 | 0,05 | 44 | 2,6 |
| 35—40 | 0,12 | 3 | 0,05 | 24 | 2,4 |
| 40—45 | 0,10 | 2 | 0,05 | 17 | 2,0 |
| 45—50 | 0.29 | 2 | 0,05 | 5 | 5,8 |

Адгэтуль відаць, што прырост сасны ў вышыню пад уплывам забалачваньня зьменшыўся ад 2 да 5,8 разоў; выстарчаюча абаснавана зьмяншэньне прыросту для ўзростаў сосен ад 15—25 гадоў, дзе прырост зьменшыўся ад 2,8 да 3,7 разоў, бо для гэтых узростаў лік сосен, узятых для параўнаньня, аказаўся найбольшым.

*Вывады*. Адносна данага балота на падставе прыведзеных вышэй рэзультатаў дасьледаваньня магчыма зрабіць наступныя вывады:

1) Велічыня росту балота ў бакі знаходзіцца ў функцыянальнай залежнасьці ад нахілу акраін дна балота.

2) Гэта залежнасьць здавальняюча характарызуецца раўнаньнем гіпэрбалі віду:

$$je = 25,37$$

дзе j—нахіл ахраін дна балота, l—сярэдні гадавы рост балота ў бакі.

3) Велічыня сярэдняга гадавога росту балота ў бакі зьмяняецца ў граніцах ад 5,34 да 0,91 mt; максімум росту адпавядае мінімальнаму нахілу акраін дна балота і наадварот.

4) Мэтодыка вызначэньня нарастаньня моху на балоце па буйных соснах-груба, і рэзультаты атрымоўваюцца надта павялічанымі.

5) Бягучы прырост сасны для ўзростаў ад 15 да 55 гадоў пад уплывам забалачваньня зьменшыўся ад 1,5 да 5,5 разоў.

6) Гадавы прырост сасны ў вышыню ва ўзростах ад 15 да 50 год пад уплывам забалачваньня зьменшыўся ад 2 да 5,8 разоў.

## ТАБЛІЦА IV

(пачатковая).

| №№ сосен | Адлегласьць сасны да сухадолу ў mt | Кольkасьць вузкіх гадавых колцаў | Сярэдняя гадавая велічыня росту балота ў бок у mt | Нахіл дна акраін балота | Глыбіня торфу каля сасны ў cm | Сярэдняе гадавое нарастаньне моху ў mm |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15 | 20 | 22 | 0,91 | 0.030 | 60 | 27,3 |
| 16 | 30 | 23 | 1,30 | 0,023 | 70 | 30,4 |
| 17 | 30 | 23 | 1,30 | 0,020 | 60 | 26,1 |
| 48 | 32 | 23 | 1,39 | 0,0170 | 55 | 23.9 |
| 24 | 42 | 22 | 1,91 | 0.0166 | 70 | 31,8 |
| 47 | 34 | 20 | 1,70 | 0,0162 | 55 | 27,5 |
| 18 | 40 | 20 | 2,00 | 0,0160 | 65 | 26,1 |
| 21 | 39 | 21 | 1,86 | 0,0140 | 55 | 26.2 |
| 45 | 40 | 21 | 1,90 | 0,0137 | 55 | 26,2 |
| 32 | 45 | 21 | 2.14 | 0,0133 | 60 | 28,6 |
| 22 | 40 | 21 | 1,90 | 0,0130 | 50 | 23,8 |
| 19 | 34 | 21 | 1,62 | 0,0130 | 45 | 21,4 |
| 20 | 31 | 24 | 1,29 | 0,0129 | 40 | 16,7 |
| 2 | 20 | 16 | 1,25 | 0,0125 | 25 | 15,6 |
| 46 | 40 | 23 | 1,74 | 0.0125 | 50 | 21,8 |
| 23 | 50 | 24 | 2,08 | 0.0120 | 60 | 25,0 |
| 25 | 48 | 19 | 2,53 | 0,0115 | 55 | 29,0 |
| 26 | 48 | 18 | 2,67 | 0,0115 | 55 | 30,6 |
| 31 | 48 | 21 | 2,29 | 0,0115 | 55 | 26.2 |
| 44 | 48 | 19 | 2 53 | 0.0115 | 55 | 28.9 |
| 29 | 40 | 22 | 1.82 | 0,0110 | 45 | 20.5 |
| 30 | 40 | 21 | 1,90 | 0,0110 | 45 | 21,4 |
| 50 | 37 | 31 | 1,19 | 0,0110 | 40 | 12,9 |
| 49 | 39 | 20 | 1,95 | 0,0100 | 40 | 20,0 |
| 33 | 46 | 23 | 2,00 | 0,0098 | 45 | 19,6 |
| 13 | 69 | 24 | 2,88 | 0,0094 | 65 | 27.1 |
| 6 | 80 | 27 | 2.96 | 0,0094 | 75 | 27,8 |
| 1 | 27 | 23 | 1.17 | 0,0093 | 25 | 10.9 |
| 10 | 102 | 21 | 4.86 | 0,0088 | 90 | 42,9 |
| 14 | 80 | 25 | 3,20 | 0,0088 | 70 | 28.0 |
| 9 | 102 | 20 | 5,10 | 0,0083 | 85 | 42,5 |
| 34 | 74 | 21 | 3,52 | 0,0081 | 60 | 28.6 |
| 27 | 88 | 21 | 4,19 | 0,0079 | 70 | 33,3 |
| 35 | 52 | 30 | 1,73 | 0,0077 | 40 | 13,3 |
| 12 | 60 | 24 | 2 50 | 0,0075 | 45 | 18,8 |
| 28 | 60 | 20 | 3,00 | 0,0075 | 45 | 22,5 |
| 36 | 47 | 22 | 2.14 | 0,0074 | 35 | 16,0 |
| 37 | 100 | 20 | 5.00 | 0,0070 | 70 | 35,0 |
| 43 | 70 | 22 | 3,18 | 0,0064 | 45 | 20,5 |
| 7 | 78 | 18 | 4.33 | 0,0054 | 45 | 25,0 |
| 41 | 108 | 15 | 7,20 | 0,0055 | 60 | 40,0 |
| 42 | 108 | 30 | 3.60 | 0,0055 | 60 | 20,0 |
| 38 | 100 | 22 | 4.55 | 0,0045 | 45 | 20,5 |
| 39 | 100 | 14 | 7,14 | 0,0045 | 45 | 32,1 |
| 8 | 68 | 10 | 6,80 | 0,0044 | 30 | 30.0 |
| 4 | 95 | 20 | 4,75 | 0,0042 | 40 | 20,0 |
| 40 | 102 | 23 | 4,44 | 0,0039 | 40 | 17,4 |
| 5 | 97 | 25 | 3,88 | 0,0036 | 35 | 14,0 |
| 3 | 140 | 24 | 5,83 | 0,0032 | 45 | 18,8 |

H. A. Pissarjkov. Der Wuchs des Moosmoores im Forstrevier zu Gorki und der Einfluss der Versumpfung auf den Iährwuchs der Kiefer.

Schlussfolgerung:

1. Die Grösse des Moorwuchses nach den Seiten hin befindet sich in unfktioneller Abhängigkeit von der Randneigung des Moorgrundes.

2. Dise Abhängigkeit wird genügend charakterisiert durch die Gleichung der Hyperbel folgender Art:

$$je = 25,37,$$

wo j die Randneigung des Moorgrundes, l—den durchschnittlichen jährlichen Wuchs des Moores seitwärts iu Metern bezeichnet.

3. Die Grösse des durchschnittlichen jährlichen Moorwuchses seitwärts schwankt in gen Grenzen von 5,34 bis 0,91 Meter; das Wuchsmaximum entspricht der minimalen Randneigung des Moorgrundes und umgekehrt.

4. Der laufende Iahrwuchs des Kiefer für Alter von 15 bis 55 Iahren hat sich unter dem Einflusse der Versumpfung von 1,5 bis 5,5 Mal vermindert.

---

С. Маргелаў.

# Да пытаньня аб штандорце бэконных заводаў на Б. С. С. Р.

*1. Асноўныя рысы эволюцыі сельскае гаспадаркі Беларусі.* Парэформенная эпоха, склаўшая ўмовы спэцыялізацыі земляробства Расіі, спасобнічала інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі. Гэтая інтэнсыфікацыя, як вынік параённай спэцыялізацыі, закранула і сельскую гаспадарку Беларусі. Праф. М. В. Доўнар-Запольскі, у сваёй працы „Народное Хозяйство Белоруссии 1861-1914 г. г.“, робіць падзел гістарычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі ў парэформенны пэрыод на 3 часткі. Першая частка—гэта „эпоха 60-80 г. г. эпоха поўнага бытаваньня рэшткі падданнага права ў умовах падаючай абшарніцкай гаспадаркі і першых спроб самастойнага вядзеньня сялянамі ўласнае гаспадаркі“. Другая частка—„эпоха 80-900 г. г., эпоха першага руху ў нэдрах напалову фэодальнае гаспадаркі“. І, нарэшце, трэцяя частка — „эпоха 900 гадоў, эпоха прысьпешанай капіталізацыі сельскае гаспадаркі“. [1]) Капіталізацыя сельскае гаспадаркі расла і ўзмацнялася на разьвіцьці таварнасьці, а найлепшым грунтам апошняй была спэцыялізацыя. Такім чынам, разуменьні—спэцыялізацыя, таварнасьць і капіталізацыя сельскае гаспадаркі зьяўляліся сынонімамі. Сельская гаспадарка Беларусі, пачаўшы сваё капіталістычнае разьвіцьцё ў 90-х гадох мінулага сталецьця, паступова разьвівалася і інтэнсыфікавалася ў напрамку жывёлагадоўлі.

Апошняе можна бачыць з наступных таблічак. (гл. наст. стар.)

За пэрыод з 1887 па 1916 г. мы маем—1) павялічэньне ўдзельнай вагі больш інтэнсыўных ужыткаў наогул і 2) павялічэньнеп % сенажаці і выгану.

---

[1]) Паказаная праца ст. 232.

Эволюцыя ўжыткаў на Беларусі з 1887 па 1917 год. [1]).

| Г О Д Ы. | У % % | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сядзіба. | Ральля. | Сенажаць. | Выган. | Лес і кусты. | Неразьмярк. па ўжыт. | Усяго ўдобнай. | Няўдобіцы. | У с я е. |
| 1887 | 2,2 | 27,5 | 8,4 | 3,1 | 39,2 | 2,1 | 82,5 | 17.5 | 100 |
| 1917 | 2.1 | 33,0 | 15,1 | 4 1 | 30.3 | 5.1 | 89,7 | 10,3 | 100 |

Эволюцыя палявых культур на Беларусі з 1887 па 1925 г. [2])
(проц. да ўсяе плошчы засеву).

| Культуры | 1887 г. | 1901 г. | 1913 г. | 1917 г. | 1920—21 г. г | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зернавыя . . | 89.8 | 85,2 | 79.6 | 82,2 | 85,9 | 82.7 | 79.7 |
| Бульба . . | 6,7 | 9,0 | 12,3 | 9.5 | 9,5 | 10,4 | 11.3 |
| Травы . . . | 0,5 | 2,6 | — | 4,6 | 1,5 | 3,6 | 4,3 |

Тут мы бачым паступовае павялічэньне проц. бульбы і траў з адначасовым памяншэньнем проц. зернавых. Наогул-жа, як з першае табліцы, так і з другой табліцы яскрава відаць узмацненьне кармавога грунту. Пры гэтым, з працягам часу вырашэньне кармавога пытаньня ўсё больш сьведчыць аб павышэньні інтэнсыўнасьці жывёлагадоўлі.

Інтэнсыфікацыя жывёлагадоўлі ішла: 1) па шляху пераважнага разьвіцьця больш інтэнсыўных відаў жывёлы (каровы, сьвіньні), аб чым яскрава сьведчыць наступная табліца: [3])

| Гады . . | % раб. коні—% раг. жыв. | —% авечак (без ягнят) | —% сьвіней (без парасят). |
|---|---|---|---|
| 1883 . . | 100 100 | 100 | 100 |
| 1900 . . | 127 173 | 166 | 155 |
| 1905-6 . | 116 154 | 114 | 127 |
| 1913 . . | 129 162 | 130 | 156 |

і 2) па шляху пераходу да больш інтэнсыўных форм, аб чым сьведчыць інтэнсыфікацыя ў вырашэньні кармавога пытаньня. Падобнай эволюцыі сельскае гаспадаркі БССР спасобнічала яе блізкасьць да Заходня-Эўропейскага рынку і мясцовая рыначная коньюнктура, якая трымалася ўвесь закрануты час на ўзроўні даволі спрыяючым разьвіцьцю данага напрамку. Для сьцьвярджэньня сказанага даволі прывесьці дзьве таблічкі параўнаўчай вышыні і росту цэн на прадукты жывёлагадоўлі і на збажыну.

[1]) Пэрспэктыўны плян НКЗ.
[2]) Даныя Ц.С.К. „Статыстыч. штогоднік за 23—24 г.".
[3]) Р. Бонч-Осмоловский. „Эволюцыя с.-х. БССР". Савецкае Будаўніцтва № 1 за 1926 год.

Сярэднія асеньнія цэны ў кап. за пуд. [1])

| РАЁН. | Жыта. | | Авёс. | | Ячмень. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1891-900. | 1901-10. | 1891-900. | 1901-10. | 1891-900. | 1901-10. |
| Беларусь . . . | 67 | 82 | 54 | 68 | 62 | 77 |
| Нечарн. паласа . . | 73 | 89 | 56 | 71 | 68 | 83 |
| Эўроп. Расія . . | 65 | 79 | 52 | 66 | 59 | 70 |

Па цэнах на зярновае збожжа Беларусь стаіць пасярод узятых раёнаў. Калі-ж мы параўнаем вышыню і ўзрост цэн на прадукты жывёлагадоўлі, то будзем мець такі малюнак:

Сярэднія цэны на мясныя прадукты ў кап. за пуд. [2]).

| РАЁНЫ. | Ялавічана. | | Сьвініна. | | Сьвіное сала. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1891-900. | 1901-10 | 1891-10 | 1901-10. | 1891-900. | 1901-10. |
| Прывісьлінскія г. г. . | 387 | 475 | 501 | 611 | 752 | 874 |
| Беларусь . . . | 271 | 372 | 368 | 495 | 663 | 829 |
| Нечарн. паласа . . | 268 | 368 | 368 | 489 | 555 | 715 |
| Эўрап. Расія . . | 260 | 358 | 331 | 445 | 561 | 719 |

Цэны на прадукты жывёлагадоўлі зьяўляліся праз увесь час спрыяючымі для разьвіцьця апошняй.

*2. Роля сьвінагадоўлі ў народнай гаспадарцы БССР.* Такім чынам, агульныя рысы эволюцыі выразна сьведчаць аб жывёлаводным напрамку разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР. У гэтым разьвіцьці даволі віднае месца займала сьвінагадоўля, удзельную вагу якой можна бачыць з наступнага. Па даных Г. І. Гарэцкага („Народны прыбытак Беларусі" ст. ст. 88, 89 і 118) у частцы нацыянальнага прыбытку, якая належыла да жывёлагадоўлі, на прыбытак ад сьвіней прыпадала ў 1900 годзе 19,7 проц. і ў 1913—27,0 проц. Па даных народнага камісарыягу фінансаў БССР („Очерки по народному хозяйству и финансам Белоруссии". Минск 1925 г. ст. 42) гадавая прадукцыя ад жывёлагадоўлі за 1923-24 г. г. была роўнай:

| | | |
|---|---|---|
| Ад забою . . . . . . . . . . . . | 36.589.658 | рублёў. |
| Ад малака і шэрсьці авечай . . . . . . | 27.014.792 | „ |
| Ад паўшай жывёлы за скуры . . . . . | 00.724.422 | „ |
| Усяго. . . . . | 64.331.872 | „ |

Пры гэтым, удзельная вага прадукцыі сьвінагадоўлі была роўная (ад забою) 25.706.423 руб., што складала 70,2 проц. у адносінах да кошту прадукцыі ад забою і 40 проц. да ўсяе прадукцыі ад жывёлагадоўлі. Такім чынам, у разьвіцьці жывёлагадоўлі БССР ідзе паступовае павялічэньне ролі сьвінагадоўлі. Падобнае разьвіцьцё сьвінагадоўлі выдзяляе Беларусь з другіх раёнаў саюзу, робячы,—як кажа проф. Аганоўскі [3]),—характар яе жывёлагадоўлі пераходным да Заходня-Эўропейскага тыпу. Апошняе можна назіраць з наступнае табліцы:

[1]—[2]) Абедзьве таблічкі ўзяты з працы С. Ждановіча і А. Ярашчука: „Характарыстыка сельскае гаспадаркі Беларусі" і г. д. Менск 1926 г.

[3]) („Очерки по экономической географии СССР." ст. 209. Москва, 1924 г.).

| Краіны. | Гады. | Колькасьць сьвіней. | Сьвіней на 100 душ. |
|---|---|---|---|
| Злучаныя Штаты. | 1924 | 68.400.000 | 68,9 |
| Кітай | 1916 | 44.700·000 | 10,2 |
| Брытанская Індыя | 1917 | 22.895.000 | 9,4 |
| Нямеччына | 1923 | 17.269.000 | 25,5 |
| С. С. С. Р. | 1924 | 16.811·000 | 12,6 |
| Польшча | 1921 | 5.170.000 | 21,0 |
| Канада | 1923 | 4.405.000 | 38,5 |
| Паўднёвая Славія | 1921 | 4.370.000 | 30,0 |
| Вэнгрыя | 1922 | 2.470.000 | 40,0 |
| Данія | 1923 | 2.853.000 | 90.0 |
| Б. С. С. Р. | 1926 | 1.809.000 | 42,6 |

3. *Раёны сьвінагадоўлі ў БССР*. Разнастайнасьць умоў сельска-гаспадарчага жыцьця ў БССР абумоўлівае разнастайнасьць тыпаў сельскае гаспадаркі наогул і яе паасобных галін. Так, у пэрспэктыўным пляне разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР вызначаецца, што частка нашае сельскае гаспадаркі „даўно стала на шлях інтэнсыфікацыі і даволі хутка разьвіваецца ў гэтым напрамку,—сюды можна аднесьці Меншчыну і Віцебшчыну,—а з другога боку, значная тэрыторыя, якая абымае ўсё Палесьсе, знаходзіцца на самай нізкай ступені разьвіцьця сельскае гаспадаркі. І нарэшце, даволі значная тэрыторыя, якая абымае раён Магілеўшчыны, перажывае пераходны пэрыод ад экстэнсыўнага да інтэнсыўнага земляробства“.

Цяпер, калі мы скарыстаем даныя Ц. С. К. за 1923—24 і 1924—25 г. г. і возьмем у якасьці паказчыкаў—1) колькасьць сьвіней на 100 гаспадарок, як паказчык гушчыні сьвінога пагалоўя і 2) проц. маладняку ад 4-х месяцаў да 1 году, як паказчык напрамку і інтэнсыўнасьці, дык па асобных акругах для 1924—25 г. г. мы будзем мець наступны малюнак:

| № | НАЗВА АКРУГ. | Кольк. сьвін. на 100 гаспад. | % маладняку ад 4-х мес. да 1 году. |
|---|---|---|---|
| 1 | Бабруйская | 290,3 | 24,2 |
| 2 | Барысаўская | 227,5 | 27,1 |
| 3 | Віцебская | 139,6 | 33,2 |
| 4 | Калінінская | 243,6 | 26,8 |
| 5 | Менская | 317,2 | 31,7 |
| 6 | Магілеўская | 242,6 | 25,2 |
| 7 | Мазырская | 235,0 | 18,9 |
| 8 | Аршанская | 197,1 | 30,6 |
| 9 | Полацкая | 145,0 | 33,5 |
| 10 | Слуцкая | 295,0 | 23,5 |

Прымаючы пад увагу, што з павялічэньнем проц. маладняка ў стадзе зьвязана, як большая інтэнсыўнасць сьвінагадоўлі, у сэнсе перанясеньня кармавой базы з пашы на прадукты палявой гаспадаркі і на адкіды хатняй і малочнай гаспадаркі, так і паляпшэньне самой пароды сьвіней, іх скарасьпеласьці для адкорму, а значыць—паляпшэньня тэхнікі сьвінагадоўлі наогул,—мы можам падыйсьці да вызначэньня раёнаў сьвінаводзтва. Пры гэтым трэба памятаць, што „зьмены ў організацыйных тыпах сьвінаводзтва больш за ўсё зьвязаны з становішчам кармовага пытаньня ў гаспадарцы. Зьмены ў земляробстве цягнуць за сабою зьмены ў організацыі сьвінаводзтва, бо зьмяняецца склад і колькасьць корму“ [1]). Па даных, паказаных у табліцы, мы можам вызначыць наступныя раёны сьвінагадоўлі ў БССР.

*1 раён*,— раён інтэнсыўнае сьвінагадоўлі,—Менская, Полацкая і Віцебская акругі. Першая з іх мае самую большую лічбу сьвіней на 100 гаспадарак і вялікі проц. маладняку ў стадзе, а дзьве астатнія акругі маюць вялікі проц. маладняку, але малы лік сьвіней на 100 гаспадарак. Апошняе тлумачыцца тым, што інтэнсыўная сьвінагадоўля Віцебшчыны і Полаччыны з 1900гадоў, разам са зьменаю ўгэтых акругах тыпу сельскае гаспадаркі, пачала пераходзіць на другі кармавы грунт і выціскацца разьвіцьцём малочнае жывёлы, што можна назіраць па зьніжэньню вывазу сьвініны з 47 тыс. пуд. 1900—02 г. на 21 тыс. пудоў у 1911—13 годзе [2]).

Палявая гаспадарка гэтых акруг (Віцебскай і Полацкай) пачала спэцыялізавацца ў напрамку тэхнічных культур (лён) і пасеву траў на палёх, а з апошнім шчыльна зьвязана разьвіцьцё малочнай жывёлы. Сьвінаводзтва, стаўшы на шлях пераходу ад кармоў, атрыманых з палявой гаспадаркі да адкідаў малочнае гаспадаркі, зрабілася падпарадкаваным малочнай жывёле і на першых парах згубіла сваю рыначнасьць.

Менская акруга па разьвіцьцю сьвінаводзтва стаіць на першым месцы. Кармавым грунтам гэтага раёну зьяўляецца, галоўным чынам, прадукцыя палявой гаспадаркі—зерня і бульба. Рыначнасьць сьвінаводзтва Меншчыны ўвесь час узрастала і далей мае шырокую пэрспэктыву ўзросту на азначаным кармавым грунце, паколькі разьвіцьцё палявой гаспадаркі мае ў пэрспэктыве пашыраць пасеў траў, а з тэхнічных культур—бульбу.

Такім чынам, мы маем інтэнсыўны раён з двума подраёнамі: а) Падраён, разьвіцьце якога будзе ісьці на грунце кармоў, паходзячых ад малочнае гаспадаркі, па меры яе інтэнсыфікацыі,—сюды ўваходзяць акругі Полацкая і Віцебская і б) Падраён з зярнёва-бульбяна-трявяным кармавым грунтам,—сюда ўваходзіць Менская акруга.

*2 раён*,—раён пераходнага тыпу сьвінагадоўлі, абымае акругі: Бабруйскую, Барысаўскую, Калінінскую, Магілеўскую, Аршанскую і Слуцкую. Гэты раён менш інтэнсыўны, чым першы. Раён многасьвінны, але з малым проц. маладняку ў стадзе. Кармавым грунтам разьвіцьця сьвінагадоўлі тут зьяўляюцца, галоўным чынам, адкіды ад палявой і хатняй гаспадарак, бульба, а месцамі вялікую ролю іграе і выпас. Наагул-жа гэты раён не зьяўляецца зусім аднародным; паасобныя яго часткі падыходзяць да зусім экстэнсыўнай гаспадаркі, а другія часткі набліжаюцца да 1 раёну (Меншчына), як, напрыклад, Бабруйская, Слуцкая і Аршанская акругі: Бабруйская, Менская і Слуцкая акругі яшчэ да вайны выявілі сябе, як раёны прамысловага сьвінаводзтва, а Аршанская, ў павялічэньні сьвінога пага-

[1]) Н. П. Макаров „Организация сельского хозяйства“ ст. 388.
[2]) Пэрспэктыўны плян Н. К. З.

лоўя і павышэньні проц. маладняку вельмі хутка ідзе ўперад зараз. Наогул-жа, ўся гэта частка Беларусі (2-гі раён) мае ў далейшым пэрспэктыву шырокага разьвіцьця сьвінаводзтва, што цалком супадае з пэрспэктывай разьвіцьця яе палявой гаспадаркі і будзе залежыць толькі ад рынку.

*3 раён*. Сюда ўваходзіць Мазырская акруга, якая трымаецца зусім паасобку і зьяўляецца прадстаўніком самага экстэнсыўнага тыпу сьвінаводзтва, якое грунтуецца на нагуле і адкідах палявой зярновай гаспадаркі. Далейшая інтэнсыфікацыя сьвінаводства гэтае акругі будзе залежыць ад тэмпу падняцьця яе сельскае гаспадаркі наогул.

Далей у двух табліцах характарызуем рынчачную частку сьвінагадоўлі БССР на 1926-27 г.

Чысты ўвоз (+) або вываз (—) прадуктаў сьвінаводзтва:

| АКРУГІ | 1907—10 | | 1910—13 | | 1922—26 | | 1907—10 | | 1910—13 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Жыв. сьвіньні | | | | | | Сьвіное мяса | | | |
| | + | — | + | — | + | — | + | — | + | — |
| Бабруйская | — | — | 656 | — | 45 | — | 2 | — | 13 | — |
| Барысаўская | — | — | — | — | 206 | — | 5 | — | 13 | — |
| Віцебская | — | — | — | — | 211 | — | — | 21 | — | — |
| Менская | 10.782 | — | 12.164 | — | 4.536 | — | — | 30 | — | — |
| Магілеўская | — | — | — | — | — | — | 2 | — | 2 | — |
| Мазырская | — | — | — | — | 17 | — | — | — | — | — |
| Аршанская | — | — | — | — | 6 | — | 4 | — | 5 | — |
| Полацкая | — | — | — | 680 | 19 | — | — | 7 | — | 42 |
| Слуцкая | — | 696 | — | 17.579 | — | 19.320 | — | — | — | — |

Убой сьвіней на бойнях БССР.

| № | АКРУГІ | 1923—24 г. II-е паўгодзьдзе | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г. I-е паўгодзьдзе |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Забіта штук сьвіней | | | |
| 1 | Менская | 5.774 | 19.128 | 24.481 | 12.441 |
| 2 | Барысаўская | 268 | 0.434 | 504 | 258 |
| 3 | Бабруйская | 12 | 0. 69 | 81 | 368 |
| 4 | Мазырская | 1 | 0. 49 | 103 | 135 |
| 5 | Слуцкая | 330 | 1.183 | 2.989 | 2071 |
| 6 | Віцебская | 286 | 394 | 880 | 432 |
| 7 | Полацкая | — | 35 | 191 | 175 |
| 8 | Аршанская | 11 | 10 | 76 | 27 |
| 9 | Магілеўская | 499 | 1427 | 1.103 | 383 |
| 10 | Калінінская | — | 5 | 4 | 81 |

Як бачым з гэтых двух табліц, найбольш устойлівую рынчачнасьць дае сьвінагадоўля Менскай, Слуцкай і часткаю Бабруйскай акругі. Пры гэтым, Слуцкая акруга мае вывоз сьвіней, а Менская канцэнтруе ў сябе забой, вывозіць сьвініну. У пасьляваенны час пачынаецца разьвіцьцё мясцовай рынчачнасьці сьвіней у Барысаўскай, Магілеўскай і Віцебскай акр., пры гэтым Барысаўская і Магілеўская акругі яшчэ не дасягнулі ў разьвіцьці свае рынчачнасьці да вывазу, а Віцебская, як і Полацкая, перайшлі ад вывазу да спажывецкага рынку.

*4. Пэрспэктывы і значэньне бэконізацыі сьвінаводзтва на Беларусі.* Цяпер нам вядомы раёны з прыблізна аднолькавым тыпам сьвінаводзтва. Мы бачылі, што паасобныя раёны сьвінаводзва зьяўляюцца прамысловымі. Далей застановімся ў некалькіх словах на пэрспэктывах і значэньні бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. У момант, калі эволюцыя сельская гаспадаркі Белорусі, шчыльна зьвязаная з натуральна-гістарычнымі ўмовамі нашае краіны і зьяўляючаяся вынікам шматгадовага прыстасаваньня да гэтых умоў, прынята пад увагу дзяржаўнай політыкай Савецкай улады і калі на вучобе гэтае гістарычнае эволюцыі будуецца плянавае кіраўніцтва разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, саўсім зразумела, чаму высоўваецца пытаньне бэконізацыі, як жыцьцёвае пытаньне і чаму яно не абойдзена ў пэрспэктыўным пляне Наркамзему.

Разьвіцьцё бэконізацыі з шэрагам папутных мерапрыемстваў становіць на моцны грунт далейшае разьвіцьцё і інтэнсыфікацыю, як жывёлагадоўлі наогул, так і сьвінагадоўлі ў прыватнасьці і асабліва. Разьвіцьцё сьвінагадоўлі зробіць прыбытковай пераапрацоўку адкідаў малочнае гаспадаркі і прадуктаў поляводзтва, а апошняе будзе выклікаць інтэнсыфікацыю гэтых галін. Прымаючы-ж пад увагу хуткасьць абароту капіталу ў сьвінаводзтве, а таксама яго параўнаўчую невялікасьць, мы будзем мець пэўную крыніцу накапленьня абаротнага капіталу ў сельскай гаспадарцы.

Такім чынам, на грунце плянавых мерапрыемстваў дзяржавы, у шчыльна-організацыйнай сувязі паасобных галін, сельская гаспадарка Беларусі пойдзе хуткімі крокамі ў сваёй социялістычнай адбудове. Апошні элемэнт будзе ўнасіцца такімі мерапрыёмствамі, як бэкзаводы, а ўзмацняцца—вытворчай коопэрацыяй навакол гэтых індустрыяльных мерапрыёмству. Прымаючы пад увагу вялікае і ўсебаковае значэньне такога дзяржаўнага мерапрыемства, як пабудова бэконных заводаў, трэба праводзіць гэтыя мерапрыемства з вучотам усіх фактараў, робячых уплыў на іх штандорт. Папытаемся-ж на падставе ўсяго вышэйсказанага зрабіць спробу тэорэтычна-уцілітарнага меркаваньня па гэтаму пытаньню.

Пры гэтым, усе развагі я буду грунтаваць на тэорыі штандорту прамысловасьці (А. Вэбэра), прыстасоўваючыся да асаблівасьцяй прамысловасьці данага віду.

*5. Штандорт бэконных заводаў на Беларусі.* На разьвіцьці бэконізацыі, як нельга ляпей, можна прасачыць сувязь і ўзаемны ўплыў паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю, прасачыць узаемазалежнасьць іх штандортызацыі. Прадукты сельскае гаспадаркі—сьвінагадоўлі ў даным выпадку—уяўляюць сабою сырызны—грунт бэконізацыі, а гэта і ёсьць ажыцьцяўленьне штандортнага ўплыву сельскае гаспадаркі на прамысловасьць. Адначасова з гэтым, ні ў якім разе ня можна лічыць паўсяменай, як гэта дапушчаецца ў тэорыі штандорту Вэбэра, рознага роду сельска-гаспадарчую сырызну: апошняя лёкальна, як лёкальны організацыйныя тыпы сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў.

Географічная-ж лёкальнасьць—штандорт сельска-гаспадарчых тыпаў, у сваю чаргу, залежыць ня толькі і ня проста ад натуральна-гістарычных умоў, а пераважна ад экономічных, праз якія ідзе найбольш поўнае выкарыстаньне і натуральных. У конкрэтным выпадку ўся гэтая штандортная ўзаемазалежнасьць паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю ўяўляецца такім чынам: сельская гаспадарка Беларусі пад уплывам заходня-

эўропейскага рынку, штандортавала свае тыпы, апошнія пачынаюць рабіць уплыў на штандорт прамысловасьці для таго, каб у сваім штандорце яшчэ з большаю сілаю адчуваць уплыў прамысловасьці.

Лёкалізаваная сырызна бэконнае прамысловасьці (сьвіньні) зьяўляецца толькі адным з штандортных фактараў, якія ўяўцяюць сабою нішто іншае, як карысьць, якую атрымоўвае тое ці іншае прадпрыемства, дзякуючы таму, што яно знаходзіцца іменна тут, а не на другім месцы.

Гэта карысьць, кіруючая штандортам, відавочна, складаецца з двух частак: 1) з мажлівасьці зрабіць на даным месьце больш танным сабекошт вытвару і 2) зрабіць больш таннай вартасьць збыту; інакш кажучы, гэта карысьць зьмяшчаецца ў памяншэньні сабекошту прадукту франкарынак. Сабекошт прадукту складаецца з многіх элемэнтаў, колькасна большая частка з якіх не залежыць ад месцапалажэньня.

Частка-ж элемэнтаў вытвару, якія залежаць ад месцапалажэньня, у сілу свайго накіраваньня штандорцізацыяй не аднолькавы для ўсіх відаў прамысловасьці і вызначаюцца іхнімі суадносінамі ў сабекошце прадукту. У бэконным вытвару мы можам выдзеліць наступныя элемэнты сабекошту, якія знаходзяцца ў залежнасьці ад месцапалажэньня прадпрыемства:

1. Страты на спажываемую сырызну і апал.
2. Страты на рабочую сілу.
3. Страты па транспарту сырызны і гатовага прадукту.

Гэтыя элемэнты сабекошту зьяўляюцца агульнымі, прасторавымі фактарамі,—фактарамі, якія ўласьцівы кожнаму віду прамысьловасьці. Застаецца разглядзець, у якіх суадносінах рэалізуюцца даныя фактары для бэконнай прамысловасьці.

Першы элемэнт сабекошту бэкону, відавочна, будзе залежаць, у сваёй сырызнай частцы, ад цаны на сьвіней, а апошняя вызначаецца сабекоштам адкорму.

Вартасьць-жа адкорму залежыць, як ад стандарту рацыёнаў, так і ад пароды і ўзросту сьвіней.

Так, па даных Носаўскай дасьледчай станцыі[1]) сабекошт прыросту аднаго пуда жывой вагі бэконнае сьвіньні, у залежнасьці ад пароды, быў наступны:

| | |
|---|---|
| Мясцовая сьвіньня | 11 руб. 94 кап. |
| Паўкроўка-мэтыс белай ангельскай з мясцоваю | 7 „ 41 „ |
| Белая ангельская | 4 „ 62 „ |

Па даных-жа Палтаўскай дасьледчай станцыі (И. А. Новиков — „Беконный откорм“) сабекошт 1 фун. прыросту жывой вагі для сьвіней розных парод і ўзросту такі:

| Узрост. | 2 м. | 9 м. | 12 м. |
|---|---|---|---|
| Простая сьвіньня | 7 к. — | 12,5 к. — | 18 к. |
| Паўкроўка | 5 „ — | 7,5 „ — | 8 „ |
| Белая ангельская | 3 „ — | 8,5 „ — | 7 „ |

Як бачым,—чым карацей адкорм, тым больш ён карысны і тым больш, чым культурней парода сьвіней. Залежыць сабекошт адкорму і ад варыянтаў у кармовым рацыёне. Напрыклад, Палтаўская дасьледчая станцыя пра-

[1]) А. Редькин. „Вгодовування свиней на м'ясо (бекон)“.

водзіла досьлед з 4 групамі парасят, на розных вырыянтах рацыёну, досьлед цягнуўся 85 дзён і меў такі характар:

| № груп | Кармовы рацыён на 1 галаву за 85 дзён. | Прырост на 1 галаву | Сабекошт 1 п. прыросту |
|---|---|---|---|
| I | Люцэрны 13 п. 18 фун. | 3,5 фун. | 7 р. 77 к. |
| II | „ 12 п. 21 ф. + кукурузы 1 п. 27 ф. . | 34,5 фун. | 2 р. 25 к. |
| III | „ 13 п. 13 ф. + „ 4 п. 1 ф. . | 70,5 фун. | 2 р. 20 к. |
| IV | „ 6 п. 6 ф. + „ 6 п. 25 ф. . | 92,5 фун. | 2 р. 15 к. |

Усе гэтыя моманты вызначаюць велічыню страт на сырызну і маюць пагэтаму вельмі вялікае значэньне.

Прымаючы пад увагу, што: 1) для разьвіцьця бэконізацыі патрэбна прамысловае сьвінаводства, 2) што простыя сьвіньні для бэкону зусім няпрыгодны і 3) што раён бэконнага сьвінаводзтва павінен быць забясьпечан кармамі (зернавымі, травамі, бульбай і адкідамі малочнай гаспадаркі), мы будзем мець толькі адзін раён сырызны, які больш-менш адказвае гэтым запатрабаваньням, гэта—раён Меншчыны.

Адначасова тут можна разгарнуць дасьледчую працу з непасрэднымі практычнымі мерапрыемствамі па зьніжэньню страт на сырызну, праз палепшаньне сьвіней і выбару рацыянальных стандартаў адкорму.

У другую частку першага элемэнту сабекошту (апал) уваходзяць: электрычнасьць, нафта і дровы. Дровы складаюць у сабекошце нязначную частку і ў нашых умовах не зьяўляюцца лёкалізованым матэрыялам. Нафта, хаця і лёкалізована, але яна таксама ўжываецца ў нязначным размеры. Такім чынам, гэтыя два энэргэтычных матэрыялы, у даным выпадку штандортнага значэньня ня маюць.

Патрэбнасьць у электрычнасьці, бязумоўна, павінна быць прадугледжана, але электрычнай энэргіі патрабуецца ня надта многа і гэта патрэбнасьць можа быць здаволена ад *гарадзкой станцыі. Такім спосабам, мы маем вызначаным матэрыяльны склад*[1]) *сырызны і даволі рухомы энэргэтычны склад (электрычнасьць).*

*Другім элемэнтам сабекошту* бэкону мы маем страты на рабочую сілу. Гэты штандортны фактар (эканомія ў стратах на рабочай сіле), маючы вялікае значэньне ў капіталістычных умовах, па маей думцы, вельмі паслабляе сваю ролю ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці для данага віду прамысловасьці на Беларусі.

У нас ня такая вялікая тэрыторыя і ня так разнародны ўмовы, каб маглі скласьціся рэзка адрозьненыя, па сваёй гушчыні, рынкі на рабочую сілу, а каб яны і склаліся, дык тарыфы ЦСПБ і НКП ліквідуюць усякую мажлівасьць розьніцы ў зарплаце. Што-ж датычыцца налічча неабходных рабочых рук, дык іх, дзякуючы вялікаму аграанаму перанасяленьню, хапае па ўсёй Беларусі.

Можа паўстаць толькі пытаньне аб спэцыялістых (сартаўшчыкі і інш.), якіх нам мусіць давядзецца выпісваць з-за межаў, дык зноў-такі мы маем у гэтых адносінах, дзякуючы блізкасьці да Заходняй Эўропы, лепшыя

[1]) Матэрыяльны склад, па Вэбэру, азначае месца здабываньня, як сырызны, так і энергэтычных матэрыялаў.

ўмовы, чым больш далёкія ўсходнія часткі саюзу; у сваіх-жа межах Беларусь ня будзе адчуваць розьніцы ўплыву на бэконную прамысловасьць з боку страт на рабочую сілу. Такім чынам, экономія ў стратах на рабочую сілу, як штандортны фактар для бэконнае прамысловасьці, адпадае.

*Трэцім і самым галоўным элемэнтам сабекошту* і штандортным фактарам бэконнае прамысловасьці будуць страты па транспарту сырызны і гатовага прадукту. Задача тут зводзіцца да таго, каб скараціць сабекошт перавозак, а гэта азначае: знайсьці такі пункт для пабудовы заводу, у якім-бы сума перавозак была найменшай.

Вызначальным момантам тут будзе велічыня матэрыяльнага індэксу (м. і. завецца: адносіны вагі лёкалізаваных матэрьялаў да вагі прадукту), які вырашае барацьбу паміж штандортным уплывам спажывецкага рынку і матэрыяльным складам (месцам здабычы сырызны). Проф. Т. Брынкман („Dùnskie rolnictwo“,—польскі пераклад Rus Kusrtelan-ам ст. 85) дае для нармальных умоў наступнае разьмеркаваньне бэконнае тушы сьвіньні пры жывой вазе ў 170 фунтаў: Убойная вага 130 фунтаў, з якіх на бэкон ідзе 100 фунт. і на другарадныя прадукты 30 фун. (ногі, галава, косьці), а 40 фунтаў ідзе ў адкід. У процэнтных адносінах да жывой вагі сьвіньні гэта будзе выражацца:

| | | |
|---|---|---|
| Убойная вага . . . | 76,5 | проц. |
| Выхад бэкону , . . | 58.8 | „ |
| Другарадныя прадукты . . | 17,7 | „ |
| Адкіды . . . . | 24,5 | „ |

Далей, прымаючы пад увагу, што 100 фунтаў, якія ідуць на бэкон, павялічваюць сваю вагу пасьля засолкі і іншае апрацоўкі да 102 фунтаў мы можам вылічыць матэрыяльны індэкс.

Апошні будзе ровен$=\frac{\text{Вага лёкал. матэрыялаў}}{\text{Вага прадукту}}=\frac{170}{102}=1,6,$

а гэта азначае: 1) што бэконная сырызна зьяўляецца вагатрацячай (не цалком уваходзячай у прадукт) і 2) што спажывецкі рынак, па свайму штандортнаму ўплыву, будзе ровен штандортнаму ўплыву матэрыяльнага складу (месца здабычы сырызны) толькі тады, калі перавозачны тарыф на гатовы прадукт будзе ў 1,6 разоў больш перавозачнага тарыфу на жывых сьвіней.

Паглядзім-жа, у якіх суадносінах будзе стаяць кошт перавозкі жывых сьвіней і бэкону па чыгунцы, як аснаўному віду транспарту.

Па спраўках, атрыманых мною на Менскай гарадзкой чыгуначнай станцыі, перавозка 80 сьвіней у спэцыяльным двух'ярусным вагоне да Масквы будзе каштаваць 154 рублі, ды станцыя бярэ за страты па 7,5 кап. ад сьвіньні, што роўна $7,5\times 80=6$ руб. Усяго 160 руб.

Прымаючы сярэднюю вагу сьвіньні за 5,5 пудоў, а адлегласьць Масквы роўнай 749 кілёмэтраў, мы будзем мець—тонна-кілём$=\frac{5,5.80.749}{62}=5.42$ 3 т. к-т., а кошт перавозкі за тонна-кілём. $=\frac{160}{5.243}=3$ кап.

Перавозка малай скорасьцю ад Менску да Масквы вагону сьцёгнаў (вандліны) каштуе за тонну 19 руб. 11 кап., а за тонна-кілёмэтр, відавочна, плата будзе$=\frac{19 \text{ р. } 11 \text{ к.}}{749}=2,5$ кап.

Як бачым, перавозка тонна-кілёмэтру вандліны, якая сходна з бэконам (тарыфных справак па якому я ня мог знайсьці), нават таньней, чым

перавозка жывых сьвіней. Апошняе яшчэ больш повялічвае матэрыяльны індэкс. Калі да сказанага яшчэ дадаць, што перавозка жывых сьвіней мае, акрамя платы за правоз, шмат другіх страт (страта вагі, пошасныя страты, праваднікі, кармленьне і г. д.), дык мы будзем мець бязумоўную карысьць ад большага скарачэньня перавозу жывых сьвіней, г. ё. будзем мець памяншэньне сабекошту бэкону. Такім чынам, бэконная прамысловасьць у сучасных умовах Беларусі ўяўляе сабою самую простую з усіх Вэбэраўскіх штандортных фігур, а і менна: мы будзем мець простую лінію, на працівалеглых канцох якой будуць знаходзіцца спажывецкі рынак і лёкалізаваны матэрыяльны склад. У спажываньні-ж матэрьялаў мы маем такі выпадак, калі ўжываецца толькі адзін вагатрацячы матэрыял з матэрыяльным індэксам больш адзінкі, а ў такім выпадку, па тэорыі Вэбэра, пункт вытворчасьці саўпадае з матэрыяльным складам. Конкрэтнае саўпадзеньне будзе даваць найбольшую экономію ў стратах па транспарту. На гэтым мы скончым з, так званымі, рэгіанальнымі штандортнымі фактарамі агульнага парадку. Цяпер застаецца толькі сказаць некалькі слоў аб спэцыяльных штандортных фактарах, якія датычаць і абумоўліваюцца тэхнічнымі альбо іншымі асаблівасьцямі паасобных відаў прамысловасьці.

Гэтыя фактары, зьяўляючыся для некаторых відаў прамысловасьці вызначальнымі, у даным выпадку ня маюць вялікай вагі. Мы маем толькі адзін з спэцыяльных фактараў,—гэта патрэбнасьць у вадзе каля 500—600 ведзер у гадзіну (Производство бэконной свинины и бэкона. П. С. Апальков под редакцией и с дополнениями проф. П. Н. Кулешова. Москва 1926 г.). Гэтая патрэбнасьць у вадзе павінна быць прадугледжана пры пабудове бэкон. заводу, але наогул гэты фактар у даным выпадку ня можа быць вызначальным.

Такім чынам, мы разглядзелі ўсе фактары, якія, у выніку ўзаемнай барацьбы штандортных уплываў, павінны вызначыць штандорт бэконнае прамысловасьці ў сучасных умовах Беларусі.

*Мы бачылі, што з усіх разгледжаных фактараў вызначальным зьяўляецца транспартная орыентацыя, якая без'агаворачна патрабуе пабудовы бэконнае прамысловасьці выключна ў раёне рыначнае сьвінагадоўлі інтэнсыўнага тыпу; ці, інакш кажучы, штандорт бэк. прамысловасьці саўпадае з матэрыяльным складам.*

*Асяродкам рыначна-інтэнсыўнае сьвінагадоўлі зьяўляецца Менская акруга, а пагэтаму бэконізацыя павінна распачацца ў гэтай акрузе. Месцапалажэньне заводу павінна: 1) зьяўляцца географічным асяродкам сырызнага раёну, 2) быць найлепш, пры існуючых умовах, зьвязаным шляхамі зносін з сырызным раёнам, 3) мець мажлівасьць карыстацца таннай электрычнаю энэргіяй і 4) мець мажлівасьць карыстацца ў неабходнай колькасьці вадою. Усім гэтым запатрабаваньням найбольш, а мусіць і толькі, адказвае г. Менск.*

* * *

Далей паўстае пытаньне аб велічыні бэконнага заводу, што на мове штандортнай тэорыі Вэбэра завецца нізшай ступеньню агломерацыі (концэнтрацыя вытвору ў форме простага пашырэньня прадпрыемства). Кожнае прадпрыемства зьяўляецца тым больш рэнтабельным, чым яно больш (да пэўнай мяжы) па размеру (лепш скарыстоўваюцца машыны, рабочыя рукі, спэцыялістыя, крэдыт і інш.), але пашырэньне прадпрыемства абмяжавана, ёсьць максымум, за якім страты ад пашырэньня робяцца больш,

чым карысьць. Такім чынам, у пытаньні агломерацыі мы маем дзьве групы фактараў, з якіх—адна спасобнічае пашырэньню вытвору,—гэта так званая агломерацыйная група (пералічаная вышэй), а другая дзейнічае ў працівалеглым напрамку і завецца дэгломерацыйнымі фактарамі (страты на перавозку сьвіней і інш.). Разважаючы аб вялічыні бэк. заводу, трэба кіравацца рэзультантаю ўзаемадзейнічаньня гэтых дваякага роду фактараў.

Калі мы будзем вымяраць агломерацыі натуральнаю сумаю прадукцыі, то мы будзем мець пэўную суму страт на адзінку прадукту, а стала быць і зьберажэньні пры розных ступенях агломерацыі. Адклаўшы па восі абсцысс велічыны бэк. заводаў (1—2—3—4 . . . 5), а на восі ардынат—зьберажэньні, мы атрымаем крывую, вышэйшы пункт якой будзе адпавядаць максымум'у прадпрыемства. За мінімум у даным выпадку можна ўзяць завод, пераапрацоўваючы 500 штук сьвіней у тыдзень (25—30 тысяч у год), якія па даных з практыкі бэконізацыі ў Польшчы (Rolnik Ekonomista. Rok I. 15.VIII, 1926. № 16 артыкул: Wsprawie wywozu bekonów do Anglji. M. Teodorowski.) зьяўляецца найменш карысным, а максымум, нормаціўна або па номэнклатуры сабекошту існуючых заводаў, можна вылічыць. Ня маючы пад рукамі ні нормаў, ні номэнклатуры, я спыняюся ў гэтым пытаньні на выказаных меркаваньнях.

---

Выкажу яшчэ некалькі меркаваньняў па пытаньні аб поўным вырашэньні штандорту бэконізацыі сьвінаводзтва на Беларусі ў пэрспэктыве. Усе папярэднія развагі я грунтаваў на сучасных умовах і таму атрыманы штандорт трэба лічыць толькі для гэтых умоў. Як мы ўжо ўстанавілі, бэконная прамысловасьць мае месцам свайго штандорту матэрыяльны склад, але гэты склад не зьяўляецца чым-та назаўсёды даным, пад уплывам агульнае эволюцыі сельскае гаспадаркі і гаспадаркі краіны наогул, ён можа зьяўляцца ў другім месьце, можа і зусім перамяшчацца, калі ў гэтым будзе воля політыкі дзяржавы. Але ўсё-ж такі, паколькі для плянавага кіраўніцтва патрэбна пэрспэктыва, дык з агульнай сумы няўстойлівых экономічных фактараў можна выбраць найбольш устойлівыя, прыстасаваць да штандортных асаблівасьцяй (якія зьяўляюцца больш пастаяннымі) данага віду прамысловасьці і пабудаваць схэму не на адзін, а на колькі будзе патрэбна—бэконных заводаў. Толькі трэба заўважыць, што без папярэдняга досьледу, як чыста спэцыяльна-зоотэхнічнага (рацыянальныя стандарты адкорму і стандарты бэконнага матэрыялу), так тэхнічнага (устанаўленьня сувязі паміж кармамі, бэконнага матэрыялу стандартамі і якасьцю бэкону) і нарэшце—эканомічнага (узгадненьне зоотэхнічных і тэхнічных досьледаў, дасьледаваньне раёнаў і нашых потэнцыяльных мажлівасьцяй разьвіцьця, характару і разьмераў рынку і г. д.),—бяз гэтага сталага дасьледаваньня ня можа быць сталага вырашэньня штандортнага пытаньня, як найгалоўнейшага пытаньня пэрспэктыў нашага соцыялістычнага разьвіцьця. Пагэтаму, разам з пачаткам разьвіцьця бэконізацыі, павінен вясьціся плянавы досьлед у вызначаным напрамку*).

*) Гэтая праца выканана мною пад кіраўніцтвам Г. І. Гарэцкага, чаму і лічу сваім абавязкам выказаць яму шчырую і глыбокую падзяку (Аўтар).

---

**А. Дзямідовіч.**

# Да пытаньня аб организацыі Беларускай Цэнтральнай Бульбянай Станцыі.

Організацыя Беларускай Цэнтральнай Бульбянай Станцыі выклікана самым жыцьцём. Сьветкай гэтаму зьяўляюцца плошча пад бульбай, нізкая якаснасьць пасяўнога матэрыялу, ураджай бульбы і шмат іншых прычын. У сучасны момант можна налічыць да трох тысяч сартоў бульбы, з якіх многія выраджаюцца, гібеюць ад розных хвароб, а другія, зноў вывезеныя, больш трывалыя ў адносінах да розных хвароб (хваробы выраджэньня і розныя грыбныя хваробы) і найбольш прыстасаваныя да даных глебавых, кліматычных, эканомічных і іншых умоў—займаюць сваё месца.

Ня трэба даказваць, якую значную ролю адыгрывае бульба ва ўмовах сельскае гаспадаркі БССР. Яна зьяўляецца галоўным прадуктам харчаваньня селяніна і яго жывёлы. Бульба дае мажлівасьць селяніну падтрымаць сваю гаспадарку шляхам адкорму сьвіньні на сала і г. д.

У дзяржаўнай прамысловасьці бульба гэтак-жа займае значнае месца, зьяўляючыся незамянімым сырцом для бровару, бульбяна-цёрачных, патачных, дэкстрынных заводаў і г. д.

Немцы практыкуюць (асабліва ў час імпэрыялістычнай вайны) сушку бульбы, перапрацоўваючы яе ў т. зв. „хлопья“.

Хлоп'я і мука з іх могуць быць скарыстаны на яду, ідучы на прыгатаваньне яе выключна, ці прыбаўленьнем да мукі пры выпечцы хлеба.

Хлоп'я гэтак-жа маюць вялікае значэньне на корм жывёлы: коняй, кароў, сьвіней. Па крухмальных эквівалентах*) Кельнэр раўняе сушаную бульбу да ячменю. Сушаная бульба захоўвае спажыўнае значэньне, выйграваючы як корм скату, бо можа замяняць часткаю ячмень, кукурузу і авёс.

Хэмічны склад сухое бульбы і хлоп'яў блізкі да складу кукурузы і аўса.**).

| | Белок (у % %). | Жыр (у % %). | Безазотна-экстр. матэрыі (у % %) |
|---|---|---|---|
| Сухая бульба . . . | 6,4 | 0,2 | 70,3 |
| Хлоп'я . . . . . | 6,3 | 0,2 | 74,2 |
| Кукуруза . . . . | 10,1 | 4,7 | 68,6 |
| Авёс . . . . . | 8,5 | 4,0 | 62,8 |

Як відаць з табліцы, кармовая якасьць іх, можна сказаць, роўнацэнная. Пераварымасьць сухое бульбы добрая і пры належнай сушцы пазбаўляе страт ад загніваньня; сухая бульба становіцца найбольш транспартабельнай, ня псуецца пры хаваньні зімой і г. д.; значэньне яе для насельніцтва і рынку відавочны.

*) Проф. Д. Н. Прянишников—Картофель, Москва 1020 г.
**) Інжэнэр Бабкоў—„Промышленная сушка картофеля“.

На падставе эканомічнага досьледу Г. І. Гарэцкі*) з прамыслова-тэхнічных культур, галоўную ролю ўскладае на бульбу і кажа: „Каб навукова-дасьледчая праца адпавядала тыпу сельскае гаспадаркі БССР, яго эволюцыі і інтэнсыўнасьці, яна павінна об'ектам сваёй дзейнасьці ўзяць гандлёва-тэхнічныя культуры, у першую чаргу бульбу, гуртавы прыбытак ад якое па БССР за 1911—15 г. г. складае 34.176 тысяч рублёў.

Нарэшце, калі ўзяць плошчу пад бульбаю за гады 1906—25 (ад усёй пасеўнай плошчы), дык у сярэднім яна раўняецца 12—15 проц., а па Рэчыцкаму павету, напрыклад, яна роўна 18 проц. (Гл. Стат. свед. Картофель 1912 г.), а ўраджай прогрэсыўна з кожным годам падае, у некатофых сав. гаспадарках дзесяціна дае толькі 165 пуд. (гасп. Чарвякова, б. Дарашэвічы, Мазырск. акр.). Сярэдні ўраджай на ўсёй БССР—519 п.**), таму, бязумоўна, ня можа быць ніякага параўнаньня з ураджаем бульбы ў Нямеччыне, дзе морг дае 4000 пудоў. Праўда, гэтакі ўраджай даюць рэкордныя сарты, але і наогул у Нямеччыне ўраджайнасьць досыць выраўненая і высокая, дзякуючы працы нямецкіх селекцыйных станцый, увесь час працуючых над бульбай у сэнсе яе аздараўленьня, павышэньня проц. крухмалу і г. д. Толькі былі такія гады, калі ўсе пасевы бульбы, па усёй Нямеччыне гіблі ад хваробы т. з. „ракa“, які літаральна зьнішчае пасевы, але дзякуючы аздараўленьню сартоў і нават такая страшэнная хвароба, як рак, там ня страшна.

Адгэтуль становіцца зразумела, наколькі сур'ёзна нас павінна заняць вывучэньне бульбы і наколькі неадкладныя і рашучыя крокі трэба зрабіць, каб пазбавіцца гэтага катастрафічнага становішча.

Беларуская Цэнтральная Бульбяная Станцыя павінна будзе, галоўным чынам, зьвярнуць увагу і вырашыць практычныя бакі гэтае культуры. Яе мэтаю павінна стаць:

1) Зьмена нашае разнастайнае і хворае бульбы па ўсёй БССР больш трывалымі і высокаўраджайнымі сартамі.

2) Пазбавіць нашу прамысловасьць вінакуранную і крахмальную ад гнілых, нікчэмных, ужо вырадзіўшыхся сартоў бульбы заменаю высокаўраджайнымі і высокакрухмалістымі заводзкімі сартамі.

Вось гэтыя дзьве галоўныя і вельмі важныя задачы цалкам апраўдваюць організацыю і існаваньне Станцыі.

Вось што кажа Prof. Dr. E. Parow***). „Пры сушцы бедная крухмалам бульба—горш пераапрацоўваецца, чым бульба з вялікаю колькасьцю крухмалу. У сьпірытусавай прамысловасьці буйныя зярнята крухмалу хутчэй і лепей ацукроўваюцца; буйна-зёрная бульба (буйныя зярняты крухмалу) дае большы выхад сьпірытусу і што багацьце бульбы буйным крухмальным зярном стаіць у сувязі з якасьцю сорту, а ўжо ў сваю чаргу разьмер буйнасьці крухмальнага зярняці праяўляецца ня толькі ў розных сартох, а нават і ў межах аднаго сорту ў залежнасьці ад глебавых, пажыўных, кліматычных і іншых умоў“.

Гэта якраз зьяўляецца доказам і перасьцярогаю ад увозу, і асабліва масавага ўвозу, замежных сартоў на замену нашым нізкаякасным сартом бульбы. Можа пры такой замене якраз здарыцца, што нашы, праўда, нізка-

*) Аснаўныя лініі навук.-дасьледч. працы па С. і Л. гаспадаркі БССР.

**) Лічбы ЦСУ і Белсельтрэсту.

***) Die Grössal der Stärkekörner verschiediener kartoffelsorten—„Die Umschau“ 4 Nowember 1922. № 44.

якасныя сарты былі-б заменены сартамі замежнымі, выведзенымі для сваіх умоў і апраўдваючымі сябе ў гэтых умовах, але ў нас-бы яны сябе не апраўдалі і, такім чынам, праз вельмі кароткі тэрмін іх гэтак-жа прышлося-б замяняць. Жыцьцё-ж ня сьпіць, яно патрабуе ад нас самага рашучага аздараўленьня нашых бульбяных палеткаў. Нашы крухмальныя заводы ня могуць здаволіцца тэй помесьсю сартоў *), хварэючых самымі разнастайнымі хваробамі, што ня можа ў сваю чаргу не адбіцца на прадукцыі і якасьці крухмалу.

Броварная прамысловасьць ад нас патрабуе таксама чыстага, высокакрухмалістага і буйназёрністага сорту; калі арганізаваць сушку бульбы, мы гэтак-жа мусім мець справу выключна з чыстасортным, здаровым матэрыялам, бо дамешка хворых, напрыклад, бурай гнільлю (якой зьверху ня відна), ці іншымі хваробамі, сартоў нашчэнт псуе справу. Спажывец да нас таксама прад'яўляе пратэнзію на пастаўку для яго—1) добрай харчавой раньняй бульбы, 2) пастаўку позьніх харчавых сартоў і нарэшцэ—на сарты высокаўраджайныя кармавыя.

Пры абследваньні ў гэтым годзе бульбы, якое праводзілася на БССР Корэнеўскай Сэлекцыйнай Бульбянай Станцыяй,—давялося быць сьведкаю такога зьявішча: у сав. гаспадарцы „Высокае", Аршанскае акругі і раёну, на браварні не хватала сырцу для выкуркі і гэта паграджала спыніць працу браварні. Тады загадчык гаспадаркі вымушан быў не пашкадаваць свайго насеннага матэрыялу (які па думцы вінакура і іншых быў чысты Вольтман, а мажліва, што ня зусім чысты, але здаровы, бо быў надта ўраджайны наогул і з крухмалам у 22 проц.) і распарадзіўся выкурыць яго. Вясною-ж ня было чым сеяць і таму прышлося купіць недзе ў Магілеўшчыне за чысты сорт помесь сартоў—Вольтмана, Браваркі, Сілезіі, Ранняе Розы, і Махраткі, на якіх знойдзена 22 проц. хваробаў выраджэньня, 2 проц. чорнае ножкі і фітофтара. Зразумелая рэч, што гэтая хворая помесь сартоў павінна быць ліквідавана, бо на насеньне яе пакідаць нельга, але гаспадарка ня мае адкуль атрымаць чыстасортнага пасеўнага матэрыялу ў патрэбнай колькасьці і таму мусіць здаволіцца сваімі хворымі, нізкаўраджайнымі, з нізкім проц. крухмалу, зьмешанымі сартамі.

Наогул гаворачы, трэба прызнаць, што бульбяныя пасевы на БССР знаходзяцца ў далека нездавальняючым становішчы. Пры абсьледваньні 5-ці акруг (старае раёнаваньне) БССР у сэнсэ бульбяное флёры і яе здароўя, гэта надзвычайна яскрава выявілася. Сав. гаспадаркі, для прыкладу, даюць такі малюнак: (гл. табл. на ст. 48).

Прыведзены малюнак ёсьць звычайны па ўсёй БССР, а таму ён дазваляе зрабіць вывад, што калі ня будзе зьменены пасеўны матэрыял, дык мы станем перад фактам прогрэсіўнага падзеньня ўраджаю бульбы наогул і падзеньнем проц. крухмалу.

Гэта ўжо здарылася ў сав. гаспадарках: Слабада імя Славінскага, Мазырскае акругі, дзе ўраджай 217 п. з дзесяціны; Чарвякова (б. Даршэвічы) Мазырскае акругі—ўрадж. 165 пудоў з дзесяціны; Чыжэвічы на Случчыне—230 п. з дзесяціны; Рудня Менскае акр.—233 п. з дзесяціны *) і шмат іншых гаспадарак.

Самыя высокія ўраджаі такія: Кашарычы, Мазырск. акр., 504 п. з дзес.; Н. Зелькі, Менскае акр.—907 п. з дзесяц.; Сьвіслач, Бабруйскае

*) Лічбы Белсельтрэсту за 1926 г.

| НАЗВА МЯСЦОВАСЬЦІ | САРТЫ | Хваробы выраджэньня (крапчатасьць, мазаіка) %% | Чорная ножка %% | Фітофтара %% хворага куста |
|---|---|---|---|---|
| 1. Лошыца-фэрма. Усесаюзн. Ін-та Прыкл. Бот. і Новых Культур. | Сілезія, Вольтман, Браварка, Махратка, Р. Роза . . . . | 100 | 2 | — |
| 2. Старыца б. Слуцкае акр. | Вольтман, Браварка, Сілезія, Букса, Махратка, Р. Роза, Піражок . | 50 | 10 | — |
| 3. Жлобін-ваколіца мястэчка Бабруйскае акругі. | Вольтман, Сілезія, Р. Роза, Махратка, Браварка . . . . | 57 | 1 | 25 |
| 4. Вэйна, Магілеўскае акругі. | Вольтман, Браварка, Р. Роза, Махратка, Бабчынка, Гэрой . . | 20 | 5 | 20 |
| 5. Высокае, Аршанск. акругі. | Сілезія, Рублеўка, Вельтман, Браварка, Р. Роза, Махратка . | 22 | 2 | 3 |

акр.—1079 п. Гэтыя лічбы якраз паказваюць, што працу з бульбай весьці на БССР не безнадзейна і што калі ўмяшаецца ў гэтую справу Беларуская Цэнтральная Бульбяная Станцыя, дык нашы ўраджаі выраўняюцца і ў сярэднім будуць даваць не 579 п. з дзес., а да 1000, а найвышэйшыя ўраджаі павінны будуць дасягнуць па крайняй меры 2000 п. з дзесяціны, бо нізкія ўраджаі галоўным чынам залежаць ад таго, што мы ня маем высокаякасных выведзеных для нашых умоў сартоў і што ў нас ёсьць вырадзіўшыяся, патрабуючыя зьмены сарты. Бульбяная флёра БССР складаецца з такіх сартоў: Сілезія, Браварка, Вольтман, Гэрой, Раньняя Роза, Рублёўка, Бабчынка, Махратка і астаткаў (рэдкай прымесьсю) калісь насаляўшых Беларусь: Букса, Хлоп'я, Піражок, Чыгунка, Гаўронак, Алкаголь і інш.

Пры гэтым трэба сказаць, што раёны бравароў населены імі, з перавагаю броваркі і вольтмана, раёны-ж далёкія ад бровару (раёны адкорму сьвіней) населены гэтак-жа ўсімі памянёнымі сартамі, з значнай перавагай Сілезіі.

Усе пералічаныя сарты бульбы розна імунны, г. з. парознаму трывалы ў адносінах да розных хвароб. Так, напрыклад, на вольтмане і інш. сартох можна назіраць вельмі часта да 50 проц., а то і больш хваробаў выраджэньня (пры наліччы крапчатасьці звыш 5 проц. на сорту, апошні. як пасеўны матэрыял, бракуецца *). Гэтак-жа значны проц. назіраецца маршчыністае мазаікі, палосчатае мазаікі, скручваньня і інш. Асабліва Вольтман, а за ім і Сілезія, у помесі з кволымі сартамі, хварэюць чорнаю ножкаю; гэтая хвароба зьнішчае бульбяныя пасевы ў УССР і, як бачым з табліцы, яе і ў нас ужо налічваецца да 10 проц.

Што датычыцца фітофтары, то яе можна лічыць эпідэмічнай, прыўрочанай да выключна мокрага лета. Вось, дзякуючы гэтаму, у 1927 г. і ў

*) Гл. Проф. А. А. Ячевский—Памятная кніжка фітопатолёга.

нас, у Бабруйскай і Магілеўскай акругах, бульба захварэла яшчэ ў пачатку красаваньня і ўжо ў жніўні была ўся чорная. Трэба адзначыць, што гэтую злосную хваробу прывілі нам кволыя сарты, як Махратка, Раньняя Роза, Бабчанка і інш., якія ня маюць ніякага гаспадарчага значэньня, а толькі засьмечваюць пасевы бульбы.

Найбольш трывалымі да фітофтары вызначаецца Сілезія, затым Бра-варка і Вольтман, але і яны нарэшцэ паддаліся.

Як ужо было сказана вышэй, фітофтара—гэта эпідэмія, і яна прай-ходзіць, але зразумелая рэч, што хворыя на яе клубні трэба выкінуць і тагды пасеў можа ачуняць. Што-ж тычыцца хваробаў выраджэньня, дык тут справа іншая. Яны пакуль незьлячымы і таму барацьба з імі павінна весьціся толькі шляхам зьмены пасяўнога матэрыялу. Наогул-жа бульба такая расьліна, на якой найбольшая колькасьць розных хвароб, а таму з ёю павінна весьціся нясупынная, сэлекцыйная праца ў выніку якой вырадзіўшыяся сарты маглі-б замяніцца імуннымі, ураджайнымі, высокакрухмалістымі сартамі.

Бульба вельмі чутка да клімату, глебы, колькасьці ападкаў і інш., і таму часта трудна пазнаць сорт перанесены, напрыклад, з Менску ў Маскву, ці з Масквы ў Кіславодзк. Вельмі добра вядомы ў Маскве сорт „Эпікур" быў пасланы на Каўказ, дзе настолькі дэфармаваўся, што, паслаўшы яго туды, супрацоўнік Корэнеўскае Станцыі не пазнаў. Гэты прыклад гэтак-жа падсказвае, што ўвоз бульбы з пазамеж—рэч зусім ня пэўная.

Адгэтуль сама-сабою вырастае установа, высунутая самім жыцьцём, на долю якой ляжа вялікая і адказная праца па вывядзеньні, адбору і аздраўленьні рэнтабельных для ўмоў БССР сартоў бульбы.

Цэнтральная Бульбяная Станцыя ўсю сваю навуковую дзейнасьць павінна строга конкрэтызаваць і зрабіць яе жыцьцёва-практычнай, ухіляючыся ад адарванага акадэмізму.

Праца Станцыі павінна скдадацца: 1) з непарыўнае сэлекцыі бульбы; 2) сыстэматызацыі сартоў; 3) гэнэтычнага вывучэньня; 4) фізыолёгацыталёгічнага вывучэньня; 5 вырашэньня пытаньняў угнаеньня пад сарты бульбы і месца ў севазвароце; 6) фітопаталёгічнае вывучэньне і кантроль бульбы; 7) дасканальнага абследваньня сучастнае бульбяное флёры БССР, з мэтаю выяўленьня старых трывалых для нашых умоў сартоў.

Пасяўная плошча пад бульбай у 1926 годзе складала 383.103 дзесяц.; у гэтым 1927 г. яна роўна 401.805 дэесяц. *) Калі будучай Бульбянай Станцыі ўдасца (а гэта ёй пры звычайных умавах удасца зусім лёгка) павысіць ураджай на 100 п. на дзес., а лічачы пуд 25 кап. мінімум**), дык будзем мець прыбытак 10.095.125 руб. у год.

Узятая лічба 100 п., гэта самая мінімальная лічба, зьдзейсьніць гэтую задачу вельмі лёгка адборам здаровае і ўраджайнае бульбы нават у сялянскіх пасевах помесі сартоў. Проф. Эрвін-Бауэр (Навуковыя асновы сэлекцыі) пра бульбу кажа: „Дзякуючы вядомаму спосабу адбору, разьлічча паміж аддзельнымі клонамі ня зусім заметна. Па надворных адзнаках, г. з. па колеру, кветках, форме лісьцяў, форме і афарбоўцы клубняў, розныя клоны гаспадарчага сорту могуць быць вельмі сходны, але тым ня менш яны ясна адрозьніваюцца па ўраджайнасьці, трываласьці ў лежцы, проц. крухмалу, смаку і г. д.

*) Лічбы Ц. С. У.

**) Нашы бровары і крухмальні плацяць да 50 к. пуд.

Першая задача пры сэлякцыйным паляпшэньні сорту заключаецца ў тым, каб знайсьці лепшы клон у помесі нераўнацэнных форм і разводзіць яго далей у чыстым відзе“.

Паляпшаючы сорт, мы гэтак-жа павысім яго крухмальнасьць, што ў сваю чаргу павысіць проц. вытворчасьці браварні, крухмальні і г. д.

І так, зьмяніць наш пасеўны матэрыял мы павінны. Увозіць-жа новыя сарты з пазамеж (Нямечыны, Ангельшчыны) непасрэдна ў гаспадарку, гэта значыць увозіць новыя хваробы бульбы, і мы зусім не гарантырованы ад увозу бульбянае хваробы „рака“, які павальна нішчыць засевы бульбы. Некалькі сартоў (без гарантыі на ўраджай і здароўе ва ўмовах с. г. БССР) можна атрымаць ад „Картофельн. Саюзу“, з Масквы, рэпродуцыруючага эліту Корэнеўскай Бульбянай Сэлекцыйнай Станцыі. Толькі думаецца, што атрымаць свае сарты на організаванай Станцыі было-б шмат лягчэй, чым купіць у бульбянай коопэрацыі, дзе сарты прадаюцца па такой цане: *)

| САРТЫ. | ЦАНА. | | САРТЫ. | ЦАНА. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Пуды. | Клг. | | Пуды. | Клг. |
| Сталова-Завад.: | | | | | |
| 1. Сілезія . . . | 2 р. 26 к. | 13,80 к. | 10. Бовэ . . | 1 р. 44 к. | 8,42 к. |
| | | | Завадзкія сарты: | | |
| 2. Проф. Меркер . | 2 р. 64 к. | 16,11 к. | 11. Вольтман . . | 1 р. 62 к. | 9,89 к. |
| 3. Леў . . . | 2 р. 50 к. | 15,26 к. | 12. Зьніч (2 репрад) | 1 р. 20 к. | 7,32 к. |
| 4. Смыслаўскі . . | 1 р. 38 к. | 8,42 к. | 13. Аза . | 1 р. 35 к. | 8,24 к. |
| 5. Рыхтэр . . . | 1 р. 62 к. | 9,89 к. | 14. Сьвітязь . . | 1 р. 54 к. | 9,40 к. |
| | | | Сталова-кармовыя: | | |
| 6. Галяндзкі . . | 2 р. 20 к. | 13,43 к. | 15. Розавы Мілета . | 1 р. 54 к. | 9,40 к. |
| 7. Гаўронак . . | 1 р. 48 к. | 9,03 к. | 16. Заўсёды харошы | 1 р. 54 к. | 9,40 к. |
| Сталовыя сарты: | | | Кармовыя сарты: | | |
| 8. Эпікур . . . | 1 р. 68 к. | 8,42 к. | 17. Кругер . . | 1 р. 43 к. | 8,72 к. |
| 9. Іорскі . . . | 2 р. 73 к. | 16,61 к. | 18. Балотны . . | 2 р. 21 к. | 13,49 к. |

Калі-б палічыць у сярэднім кошт бульбы на 1 руб. 50 кап. за пуд. і абсеманіць ім хаця-б 2.000 дзесяц., лічачы па 100 пуд. на дзесяціну, дзяржаве гэта абойдзецца мінімум 300.000 р. без гарантыі за якасьць матэрыялу і галоўнае без кантролю за іх размнажэньнем. А таму, што пасеўны матэрыял праз 5 гадоў, а самае вялікае праз 10, павінен быць пераменен, дык становіцца зусім немажлівай такая частая і вялікая затрата. Пры гэтым трэба памятаць, што плошча пад бульбай у БССР—401.805 дзес., якія ня могуць абсеманіцца за год матэрыялам размножаным на 2000 дзес.

*) Каталог сартавога картофеля—Саюзкартофель 1926/27 г.

Наша бульбяная Станцыя зможа палепшыць тутэйшыя сарты—Сілезію, Браварку, Вольтман шляхам адбору, які трэба лічыць як пасьпяховую меру.

Тады кошт пуда ў дзяржкультуры будзе самае вялікае 70 к., што дасьць мінімум 50 проц. эканоміі, г. з. з разрахунку на 2000 дзес. прымерна 150—160 тыс. руб. Разумеецца, што гэта відавочная эканомія дазволіць існаваць і пашырацца Цэнтральнай Бульбянай Станцыі, адбудоўваючыся па тыпу заходня-эўропейскіх станцый.

Як было ўжо сказана вышэй, Станцыя павінна будзе разгарнуць шырокую практычную працу, што выльецца ў атрыманьні ня голых лічбаў, а новых сартоў бульбы, адпавядаючых нашым разнабаковым умовам. Такая вялізарная практычная праца, бязумоўна, павінна будзе быць строга абаснованай навукова, на што патрабуецца належнае абсталяваньне, штат, будынкі і г. д., ну, а гэта само-сабой зразумела, патрабуе некаторых затрат. Акрамя таго, на шырокую практычную працу, на замену нашых нікчэмных сартоў, патрэбны будуць гэтак-жа спэцыяльныя опэрацыйныя сродкі, якія Станцыя мусіць атрымаць ад тых устаноў, якія дастануць ад Станцыі эліту.

У жыцьці і пасьпяховай працы Станцыі зацікаўлены, акрамя кожнага саўгасу, кожнай сялянскай гаспадаркі, яшчэ НКЗ, Белсельтрэст, Цэнтрасьпірт, В. С. Н. Г. (крухмальна-патачнае дэкстрынавае, сагавае і др. прамысловасьці), Белсельсаюз і інш. Станцыя якраз і будзе працаваць для ўсіх гэтых устаноў, вырашаючы найбольш актуальныя жыцьцёвыя пытаньні і даючы для іх трывалыя надзейныя сарты бульбы.

Таму трэба, каб Цэнтрабелсьпірт даў Станцыі $1/2$ ці 1 кап. з кожнага вядра выкуранага сьпірту, г. з. заплаціў-бы Станцыі за падняты проц. крухмалу ў ва ўсей Б. С. С. Р., за які селяніну Цэнтрасьпірт плаціць ня будзе (купляючы пуд бульбы браварня ў нашых умовах пакуль не разьдзяляе высокага проц. крухмалу ад нізкага і плаціць усім аднолькова, будзь то чысты высокакрухмалісты сорт, ці помесь нізкапрацэнтных сартоў—усё роўна). Так,напрыклад, робяць украінскія станцыі, працуючыя для цукровае прамысловасьці. Такія выдаткі робіць Цэнтрасьпірт РСФСР, адлічваючы вядомую суму Корэнеўскае бульбянае Сэлекцыйнае Станцыі зьверх дзяржаўнага бюджэту і г. д.

Выпушчаныя Станцыяй сарты бульбы адразу пападуць у рукі Белсельтрэсту, дзе яны павінны быць рэпрадуцыраваны і абавязкова пад наглядам Станцыі, якая штогодна вымушана будзе праводзіць апрабацыю сартоў (кантраляваць чыстасортнасьць і здароўе бульбы). Такім чынам, Белсельтрэст стане пасрэднікам між станцыяй, селянінам і сваім саўгасам, выігрываючы на цане, аздараўляючы свой матэрыял і г. д. Белсельтрэст зробіць вялікую дзяржаўную і грамадзкую працу. А калі гэта так, дык зразумела, што ён (Белсельтрэст) павінен будзе заплаціць за эліту і за працу па абследваньню, за апрабацыю і кантроль бульбы. Гэтак-жа неабходна, каб і іншыя зацікаўленыя ўстановы, на тых-жа ўмовах падтрымалі Станцыю, даючы ёй мажлівасьць адбудавацца і купіць належнае абсталяваньне.

З гэтаю мэтаю неабходна, напрыклад, з Белсельтрэстам заключыць гэнэральны пяцігадовы дагавор, па якому-б Станцыя для яго праводзіла вядомага роду працу, а трэст з сваіх прыбыткаў плаціў-бы Станцыі вядомую суму грошай. Для Цэнтрасьпірту вельмі будзе важна знаць раёны сваіх

заводаў, каб ведаць месьціны найлепшых сартоў, якія і закупіць для заводу і г. д.

Адным словам, у працу трэба ўнесьці вядомую плянавасьць і тады сэнс яе ўдвоіцца. Ня можна, напрыклад, зрабіць так, што існуе станцыя, выпушчае сарты бульбы, якія патрэбны трэсту, а трэст чамусьці ня хоча ў станцыі купіць, а купляе ў Бульбсаюзе ў Маскве, ці купіў сарты, размножыў іх без кантролю і прадаў, бо Станцыя за гэты кантроль дорага прасіла, а сарты захварэлі, бо ня былі сваечасова ачышчаны і г. д. Трэба рабіць плянава, абмеркаваўшы патрэбы і карысьць ад усёй гэтай працы.

Месца пад Бульбяную Станцыю не павінна быць абрана на цяжкіх глебах. Глеба і асабліва падглеба на беларускіх падзолавых суглінках, настолькі няроўная, што калі-б весьці на ёй глыбокую навуковую працу, прышлося-б з кожным кв. мэтрам мець справу хіміку, г. з. што трэба было-б выявіць пажыўную якасьць кожнага паасобнага куска разнастайнасьці глебы, што вельмі-б ускладніла працу.

Па нашай схэме значыцца праца на цяжкіх глебах, суглінках і балоце, але гэта як дапаможная праца, бо трэба лічыцца з гэтымі тыпамі глебы таму, што на БССР іх хоць і меншасьць у адносінах да супяскоў і пяскоў, але усё-ж колькасьць вельмі значная.

Станцыя павінна будавацца на супяску—гэта найбольш роўны тып глебы, папершае, а падругое,—бульба ня любіць цяжкіх глебаў. На глебах лёгкіх бульба найбольш імунна, г. з. трывала да розных хвароб. На цяжких глебах працы з бульбаю мяшаюць сьметнякі, для барацьбы з якімі было-б неабходным мець цэлы аддзел станцыі.

На сырых і цяжкіх глебах ідуць толькі некаторыя сарты, як Гранат, Брокен, Пяст, прычым паўсямесна гэтыя сарты выпадаюць ад хваробы выраджэньня. Найлепшыя сарты, як Сілезія, Вольтман, Нестар Сьвіцязь—любяць лёгкія супясковыя гдебы *). Лёгкія глебы ня бываюць забалочаны, аэрацыя на лёгкіх глебах шмат большая, чым на зьвязных; супясковыя глебы лёгка прамываюцца і таму на іх цяжка захавацца розным хваробам, у той час, як на суглінках хваробы бульбы могуць дачакацца яе прыходу ў любым севазвароце.

Большасьць на БССР глебаў—лёгкіх і вось, дзякуючы ўсім гэтым прычынам, галоўную бульбяную базу трэба будаваць на супясках з дапаможнымі палямі на суглінках і на балоце.

Усім гэтым умовам якраз адпавядаюць зямельныя плошчы саўгасаў Вялікай і Малай Сьляпні.

*) А. Лорх—Выбор сортов картофеля.

З. Ф. Прышчэпаў.

# Асноўныя моманты водна-мэліарацыйнага кодэксу БССР.

## I.

Перад складаньнем в-м. закону паўсталі былі спрэчкі, якую даць назву новаму кодэксу? Было дзьве прапановы—назваць гэты кодэкс „водным“, з таго поваду, што вада зьяўляецца асноўным прыродным фактарам, пры лішках якого назіраецца забалочанасьць мясцовасьці, і наадварот,—пры недастачы бывае сухмень і, такім чынам, у залежнасьці ад рэгуляваньня воднага рэжыму павінны ўтварацца ўмовы, спрыяючыя рацыянальнаму і гаспадарчаму скарыстоўваньню зямельных участкаў. Другая думка, якая і прынята,—гэта назваць новы закон „водна-мэліарацыйным кодэксам“.

Чаму-ж прынята гэта апошняя прапанова? Мы выдаем закон не для таго, каб ім вызначаць адны нашы тэхнічныя задачы і магчымасьці ў галіне мэліарацыі, якія досыць добра распрацаваны ў навуковай літаратуры, а для таго, каб утварыць, і, па магчымасьці, дасканальна рэглямэнтаваць прававыя ўмовы, з аднаго боку на воды, як на адну з частак народнае гаспадаркі, а з другога,—на тыя землі, якія шляхам грунтоўнага палепшаньня іх (мэліарацыі) неабходна ўцягнуць у гаспадарчы зварот Рэспублікі і здабыць ад іх максымальную карысьць. Для нас зразумела, што, калі мы ня створым, праз нормы свайго закону, пэўнага стымулу зацікаўленасьці для насельніцтва ўкладваць працу і сродкі на палепшаньне гэтых зямель, дык ня гледзячы на ўсю патрэбу ў зямлі, ня гледзячы на зямельны голад, гэтыя землі, як і да гэтага часу, застануцца ў дзікім стане. Пагэтаму, пры складаньні водна-мэліарацыйнага закону, мы павінны ўлічваць і класьці ў падваліну вугла тыя гаспадарчыя задачы, якія належыць дзяржаве і, галоўным чынам насельніцтву, выканаць пры правядзеньні такіх вялізарных мерапрыёмств у мэліарацыі зямель у разнастайных яе выглядах.

Тым болей, што пад мэліарацыяй разумеецца ня толькі рэгуляваньне воднага рэжыму, але і кожнае грунтоўнае палепшаньне зямель, як напрыклад,—раскарчоўка зямель ад пнёў, хмызьняку, курганьня, каменьня, абляўсаваньне пяскоў і г. д. і, калі ўлічваць такое шырокае азначэньне мэліарацыі, якое цалкам адпавядае нашым гаспадарчым задачам ва ўмовах Беларусі, дык назва кодэксу толькі водным будзе супярэчыць і навуковаму азначэньню.

Воды-ж Беларусі, складаючыя ў сваей суцэльнасьці водную гаспадарку Рэспублікі, не займаюць і наўрад ці будуць займаць прэваліруючае месца ў агульнай сыстэме нашае народнае гаспадаркі, як гэта мае месца ў іншых Рэспубліках. Надаваць такое прэваліруючае значаньне адной толькі воднай гаспадарцы ў нашым мэліарацыйным заканадаўстве было-б няправільным і не адпавядала-б сапраўднаму стану справы. Наадварот, большая частка водазьмясьцілішчаў Беларусі, па меры разьвіцьця мэліарацыйнае справы, будзе служыць водаўспрыёмнікамі, і так ці інакш будзе складаць адно суцэльнае з будоўляй мэліарацыйнай сыстэмы. Адным словам, водная гаспадарка, выконваючы сваё спэцыяльнае прызначэньне і абслугоўваючы транспорт (у адносінах суднаходства, сплаву) і прамысловасьць у адносі-

нах скарыстоўваньня водаў для мэтаў прамысловасьці, адначасна будзе адыграваць вялікае значэньне для мэтаў мэліарацыі ў цэлым.

Калі даць назву нашаму кодэксу толькі „водны“, дык мы гэтым самым толькі зацямнілі-б тыя аграмадныя гаспадарчыя задачы, якія практычна ўжо стаяць перад насельніцтвам і якія з кожным годам будуць пашырацца, уцягваючы ў гэту справу ўсё большыя і большыя сродкі і сілы насельніцтва, дзяржавы і розных грамадзкіх організацыяў. Урэшце, нам не так важна ў даны момант урэгуляваньне пытаньняў, зьвязаных з воднай гаспадаркай, як важна і жыцьцёва неабходна дацьтакае воднамэліарацыйнае законадаўства, на падставе якога-б склаліся пэўныя ўмовы, зьявіўся-б гасцадарчы будаўнічы стымул у насельніцтва для культурнага скарыстоўваньня вагромністых абшараў дзікіх земляў, якія зараз ня толькі самі-па-сабе зьяўляюцца адмоўным фактарам у нашай народнай гаспадарцы, але аказваюць руйнуючае дзеяньне (падтопліваюць, падплываюць) і на землях сельска-гаспадарчага карыстаньня. Побач з гэтым законадаўства павінна накіраваць сур'ёзную ўвагу гаспадарчага насельніцтва, ня толькі на так зв. няўдобныя землі, якія на гэта празваньне (няўдобных, бросавых) маюць пэўную атэстацыю, як ад насельніцтва так і ад дзяржаўных органаў, але і на тыя, якія звычайна па непаразуменьню,—а можа быць і таму што лепшых няма,—завуць удобіцай, але якія таксама патрабуюць грунтоўнага палепшаньня (мэліарацыі) для максымальнага разьвіцьця вытворчых сіл гэтых зямель. Пагэтаму, на падставе ўсіх прыведзеных вышэй меркаваньняў, мы і надаем нашаму кодэксу назву *водна-меліярацыйнага*, лічучы, што такая назва будзе цалкам адпавядаць пастаўленым перад намі задачам у гэтай справе.

Кодэкс, мы лічым, павінен быць пабудаваны з двух частак—воднай і мэліарацыйнай. Пісаць-жа два кодэксы па дадзенаму пытаньню, ў нашых умовах, мы лічым практычна ня мэтазгодным і не патрэбным.

Агульныя прынцыпы права на воды, як на адно з прыродных багацьцяў Рэспублікі, ужо вызначаны з першых дзён рэвалюцыі нашымі папярэднімі пастановамі з'ездаў і законадаўчымі актамі ў такім сэнсе, што воды складаюць дзяржаўную ўласнасьць. Да рэвалюцыі воды зьяўляліся, галоўным чынам, аб'ектам прыватнай уласнасьці, і ўсялякае карыстаньне імі з боку насельніцтва абшанік-уласьнік мог і не дапусьціць. Нашаму сялянству добра на памяці часы паноў і тых гісторыяў з вадапоямі, калі той ці іншай вёсцы або сялу, якія ня мелі свайго вадапою, прыходзілася карыстацца панскім; і як за гэта прыходзілася потым адбываць талакой пану нешта напамінаючае паншчыну за тое толькі, што сялянская жывёла пап'ець „уласнай панскай“ вады. Праводзячы ў свой час так званае „вызваленьне“ сялян, паны, карыстаючыся правам прыватнай ўласнасьці, абгарадзілі сялянскую зямлю такім павуціньнем сваіх уладаньняў, што селяніну воляй-няволяй прыходзілася да самае рэвалюцыі быць крапасьніцкі залежным ад бліжэйшага суседа-пана і фактычна несьці паншчыну.

Але пасьля рэвалюцыі, калі прыватная ўласнасьць на воды была адменена, да каго павінна было перайсьці права ўладаньня і распараджэньня водамі? Ці магла дзяржава перадаць водную гаспадарку, як прыроднае багацьце, напрыклад, у працоўнае карыстаньне сялянскаму насельніцтву, зямельным вобчаствам, ці асобным гаспадаркам? Такая пастаноўка была-б не правільнай.

Возьмем, напрыклад, суднаходную або сплаўную раку, па якой пры-

ходзіцца перавозіць тавары, сплаўляць лес, будаваць электра-станцыю для абслугоўваньня дзяржаўнай прамысловасьці і г. д. Насельніцтва, у чым працоўным карыстаньні знаходзіліся-б гэтыя бягучыя воды, магло-б запратэставаць і, такім чынам, магло-б зрываць такую дзяржаўную працу, якая павінна абслугоўваць інтарэсы насельніцтва цэлага раёну, ці інтарэсы ўсёй Рэспублікі. Зразумела, што пры такім прававым становішчы ўзьнікалі-б пастаяныя канфлікты, непаразуменьні, якія толькі-б затрымлівалі наша будаўніцтва, не прыносячы, дзякуючы гэтаму, карысьці ні насельніцтву ні дзяржаве. Возьмем другі прыклад. Дапусьцім, некалькі селішчаў раськінуты па берагох вялікага возера, якое, пры разумнай пастаноўцы рыбнае гаспадаркі, можа даваць бальшы прыбытак дзяржаве і дастаўляць рыбу вялікай колькасьці насельніцтва. Пры перадачы гэтага возера зямельным вобчаствам, прыбытак ад яго пойдзе на карысьць гэтых вёсак толькі таму што яны выпадкова знаходзяцца навокал возера. Перадача-ж возера насельніцтву—гэта ўсё роўна, што калі-б мы перадалі нафтавыя крыніцы тым вёскам, якія знаходзяцца паблізу ад гэтых крыніц. Такія паселішчы, эксплёатуючы іх, багацелі-б, ператвараліся-б у капіталістых за кошт прыродных багацьцяў, якія (з прыватнай уласнасьці асобных уласьнікаў,—што было да рэвалюцыі) павінны знаходзіцца ў агульна дзяржаўным карыстаньні. Наш савецкі строй павінен адрозьнівацца ад старога тым, што ўсе прыродныя багацьці складаюць уласнасьць дзяржавы і ня могуць зьяўляцца аб'ектам нажывы дзеля асобных прыватных асоб, або вобчастваў, пагэтаму прыватная ўласнасьць на воды ў нас назаўсёды адменена, ўсе воды нацыяналізованы і складаюць дзяржаўную ўласнасьць.

Воды абслугоўваць самыя рознастайныя нашы гаспадарчыя запатрабаваньні і пагэтаму для больш рацыянальнага і ўсебаковага іх скарыстоўваньня мы лічым неабходным, каб усе воды ў суцэльнасьці складалі адну дзяржаўную водную гаспадарку і каб кіраваньне гэтай гаспадаркай знаходзілася-б пад загадам у Наркамзема. Бязумоўна, адносна таго, у чым распарадку павінна знаходзіцца водная гаспадарка, могуць быць прэтэнзыі і з боку НКШЗ і ВРНГ, якія таксама зацікаўлены водамі для мэтаў суднаходзтва, сплаву, скарыстоўваньня вадзяное энергіі для організацыі рознага характару прадпрыёмстваў. Мы лічым, аднак, што ўсялякія такія пытаньні лёгка будзе ўзгодніць і вырашыць не распыльваючы кіраваньня гэтай справай па розных ведамствах і, акрамя таго, дэтальныя пытаньні можна вырашыць спэцыяльнымі правіламі і пастановамі, але той прынцып, што ўся водная справа павінна знаходзіцца пры НКЗ, бязумоўна павінен быць выяўлен у законе. Прадугледжваць-жа падрабязна ў кодэксе правы і компэтэнцыю паасобных ведамстваў па воднай гаспадарцы,—гэта азначала-б перапаўняць закон непатрэбнымі падрабязнасьцямі, якія, у залежнасьці ад часу і месца кожнае водагаспадарчай адзінкі, могуць зьменьвацца. Такая пабудова не адпавядала-б і нашаму кодэксу, як галоўнаму закону ў гэтай галіне. Закон, пакідаючы агульнае кіраваньне і рэгуляваньне воднае гаспадаркі ворганам Наркамзему, прадугледжвае ўсякага роду водакарыстацяляў, для каторых парадак і ўмовы карыстаньня водамі будуць ўстаноўлены дадзеным кодэксам, а таксама спэцыяльнымі ўзаканеньнямі, якія будуць выдавацца па меры патрэбы у іх.

Наша рэвалюцыйнае законадаўства павінна быць пабудована такім чынам, каб ад тых абмяжаваньняў, якія існавалі ў старыя часы,—ад прыватнай уласнасьці на гэтыя ўжыткі, у дадзены момант і сьледу не заста-

лося. Сялянству і саматужнікам павінны быць прадастаўлены магчыма шыршыя правы для асабістых мэтаў і патрэб—карыстацца ўсімі відамі водных ужыткаў, тым больш, што вельмі часта гэткае карыстаньне цесна зьвязана з самымі жыцьцёвымі патрэбамі самое сельскае гаспадаркі і дробнае вытворчасьці.

Асабліва павінна быць падтрымана ідэя выкарыстоўваньня воднае энэргіі для організацыі на каапэрацыйных асновах рознага роду прадпрыёмстваў па абслугоўваньні ўсебаковых патрэбаў сельскае гаспадаркі.

Такім чынам, наша задача ляжыць у тым, каб прынцып дзяржаўнай эксплёатацыі ўмела злучыць з прадастаўленьнем магчымасьці насельніцтву шырокага карыстаньня гэтымі ўжыткамі для сваіх патрэбаў. Толькі пры такіх умовах сялянскае насельніцтва ацэніць і адабрыць пераважнасьць нашага савецкага права ў параўнаньні з тым, якое існавала да рэвалюцыі, і якое па існасьці было правам паноў, накіраваным супроць інтарэсаў сялян.

Застаюцца такія водагаспадарчыя адзінкі, якія створаны уласнымі сіламі і сродкамі паасобных сялянскіх гаспадарак. Да такое катэгорыі вод будуць належаць, галоўным чынам, студні, сажалкі і іншыя пабудовы. Прынцып працоўнага карыстаньня ў дадзеным выпадку неабходна будзе захаваць, таму што толькі пры гэтай умове можна разьлічваць на пасьпяховае будаўніцтва такога роду будовы, як, напрыклад, студні, маючыя вялікае, акрамя эканамічнага, і санітарна-гігіенічнае значаньне, альбо сажалкавыя рыбныя гаспадаркі, якім у нашых умовах,—калі амаль у кожным месцы можна організаваць гэтую працу,—прадстаіць вялікая будучыня ў зьвязку з разьвіцьцём штучнага рыбаразьвядзеньня.

Сажалкавая сялянская гаспадарка, напэўна, у недалёкай будучыне, будзе мець вялікае эканамічнае значаньне і для яе зараз-жа патрэбна стварыць адпаведныя, спрыяючыя прававыя ўмовы і магчымасьці.

Берагі, якія прылягаюць да водных ужыткаў, зьяўляюцца па існасьці неабходнай часткай дадзенае воднае гаспадаркі і пэрыодычна скарыстоўваюцца пры тэй ці іншай эксплёатацыі водаў. Мы лічым, што законам павінна быць пакінута права працоўнага карыстаньня і на гэтыя землі, але гэта права павінна быць абмяжована, ў залежнасьці ад таго прызначэньня, якое будзе ляжаць на гэтай паласе, пры скарыстоўваньні вадазьмясьцілішча.

Да выпадкаў такіх абмяжаваньняў будуць належаць: бечаўнікі, права доступу да вады цераз землі працоўнага карыстаньня розным асобам і аб'яднаньням, калі карыстаньне водамі выклікаецца ўскрайняй неабходнасьцю і немагчымасьцю мець гэты доступ іншым шляхам і г. д.

Акрамя таго, закон прадугледжвае права і на тыя землі, якія будуць стварацца шляхам тых ці іншых прыродных умоў; прыкладам—павялічыцца бераг, або зьменіцца рэчышча, утворацца выспы і г. д. У розных такіх выпадках будуць ствараца новыя зямельныя кавалкі, права на карыстаньне якімі павінна быць вызначана. Бязумоўна, такія выпадкі будуць можа і вельмі рэдка, але ўсё-ж практыка паказала мажлівасьць гэтага, а калі так, дык трэба гэта і прадугледзіць законам. Па нашай думцы неабходна тут прылажыць той прынцып, які мы прынялі ў нашым зямельным праве ў адносінах да вымарачных зямель,—гэта тое, што такія землі павінны паступаць пад распарадак зямельных органаў, як запасны фонд, які потым разьмяркоўваецца сярод тамтэйшага насельніцтва ў працоўнае

карыстаньне. Даць-жа самому насельніцтву права вырашаць такія супярэчныя пытаньні няможна таму, што яно само напасрэдна ніколі іх ня вырашыць. Прыкладам можа быць такі выпадак, калі рака зьменіць свой шлях і пойдзе па тых землях, якія знаходзяцца ў працоўным карыстаньні; тут, бязумоўна, паўстануць спрэчкі аб тым, каму будзе належаць права эксплёатацыі старое рачадзі,—ці тым землякарыстацялям, землі якіх папалі пад новы шлях ракі, ці тым, да зямлі якіх прылягае старое рэчышча. Альбо калі новае павялічэньне берагу пойдзе за кошт памяньшэньня працоўнага карыстаньня з процілежнага боку,—тады і зноў паўстануць спрэчкі. Па гэтаму мы лічым, што лепш за ўсё спрэчкі па такіх пытаньнях вырашаць у Зямельных Камісіях, а ўсялякія такія прыроднаствараючыя землі правільна будзе залічаць у дзяржаўны фонд, і толькі пры такіх умовах можна будзе правільна вырашаць такія і падобныя пытаньні. Участкі-ж працоўнага карыстаньня, якія будуць адрэзаны пры перамене вадазёму, застаюцца за старымі землякарыстацялямі.

Асабліва важнай катэгорыяй зямель, прылягаючых да ўзьбярэжнае паласы, зьяўляюцца так зв. „бечаўнікі" *).

Бечаўнікі аддаюцца ў дарэмнае карыстаньне для розных гаспадарчых патрэб, якія будуць праводзіцца пры тым ці іншым водакарыстаньні, напрыклад для патрэб суднаходзтва, сплаву, рыбалоўлі і г. д. Але фактычна скарыстоўваньне бечаўнікоў для паказаных мэтаў ня будзе адбывацца кожнаднёўна на працягу году, пагэтаму Кодэксам даецца права ўзьбярэжным землякарыстацелям карыстацца землямі, якія знаходзяцца пад бечаўнікамі, для розных сельска-гаспадарчых патрэб, як напрыклад,—выпасу жывёлы, выгану, пасеву, сенажаці. Алеж, такое карыстаньне бечаўнікамі не павінна прыносіць шкоды вадабегу, берагом і рознага роду будове, якая знаходзіцца ў сувязі з воднай гаспадаркай. Такім чынам, у дадзеным выпадку, у праве эксплёатацыі бечаўнікоў устанаўліваецца падвойны прынцып: з аднаго боку,—усебаковая эксплёатацыя бечаўнікоў праводзіцца ў інтарэсах воднае гаспадаркі, а з другога боку,—даецца права прыбярэжнаму насельніцтву карыстацца гэтымі землямі для розных сельска-гаспадарчых патрэбаў, праўда, з дазволу адпаведных ворганаў. Такая пастаноўка пытаньня зьяўляецца найбольш правільнай і гарантуе максымальнае і ўсебаковае скарыстоўваньне бечаўнікаў і поўную ўвязку інтарэсаў дзяржавы і насельніцтва.

У адносінах да карыстаньня водамі, Кодекс прадугледжвае тры асноўных моманты карыстаньня. Першае,—гэта для патрэб хатняе гаспадаркі. Гэты момант датычыцца, галоўным чынам, селянскага насельніцтва і прадугледжвае дарэмнае карыстаньне. Другі момант,—для патрэб суднаходзтва і сплаву, якія адбываюцца ў большасьці выпадкаў без пабудовы водападпорнае і водадзейнічнае будоўлі. Трэці момант,—гэта карыстаньне водамі, якое абавязкова знаходзіцца ў сувязі з водападпорнымі і водадзейнічнымі пабудовамі.

Для асабістых патрэб дапушчаецца дарэмнае карыстаньне водамі ўсяму насельніцтву, калі гэта ня будзе супярэчыць інтарэсам грамадзкім (сплаву, суднаходзтву, рыбагадоўлі і г. д.).

Такім чынам, старае права, пабудованае на прыватнай уласнасьці,

---

*) Бечаўнікам завецца ўзьбярэжная паласа зямлі вядомага разьмеру (па Кодэксу намячаецца ад 5 да 15 мэтраў), якая знаходзіцца ў поўным і непасрэдным карыстаньні і распарадку дадзенае воднае гаспадаркі.

па якому правы сялян былі страшэнна абмяжованы правам узьбярэжных уласьнікаў, з нашага законадаўства выкідваецца разам з прыватнай уласнасьцю на гэтыя ўжыткі. Таксама для таго, каб было магчыма больш шырокаму колу насельніцтва даць магчымасьць карыстацца водамі, у законадаўстве павінны быць прадугледжаны і тыя моманты, калі нейкай частцы насельніцтва, або шэрагу асоб, інакш нелга будзе карыстацца водамі, як толькі праз пераход чужых зямель.

У падобных выпадках, мы гэты доступ павінны дазволіць, праўда шляхам папярэдняга разгляду такіх пытаньняў у зямельных камісіях, з дапушчэньнем магчымасьцяў адплаты за прычыненую шкоду, калі такая будзе мець месца. Неабходнасьць такога карыстаньня водамі можаназірацца даволі часта, асабліва ў тых разох, калі будзе адчувацца патрэба ў вадапою для жыхароў, якія знаходзяцца паводаль ад водазьмясьцілішчаў, пры карыстаньні вадой, як для асабістага, так і для гаспадарчага ўжываньня, для падвозкі розных цяжараў у выпадку адсутнасьці іншых шляхоў і г. д.

Пераезды, перавозка цяжараў і сплаў дазваляюцца ўсім грамадзянам, прычым усялякае падобнае карыстаньне водамі будзе рэгулявацца спэцыяльнымі правіламі, якія будуць выдавацца дадаткова да Кодэксу.

Асаблівы гаспадарчы інтарэс выклікае карыстаньне воднай энэргіяй для розных гаспадарчых мэтаў праз пабудову вадападпорнае і вададзейнічаючае будовы (грэбляў, шлюзаў ды інш.).

У нас, на Беларусі, значная колькасьць дробных прамысловых прадпрыёмстваў карыстаюцца вадзяной энэргіяй і, дзякуючы значнай забалочанасьці нашых зямель і асаблівасьцям рэчак, якія працякаюць праз балотныя абшары, бывае шмат выпадкаў, калі такія дробныя прадпрыёмствы сваім існаваньнем прычыняюць у некалькі разоў большую шкоду рознымі абтопамі і інш., чым прыносяць карысьці для насельніцтва і дзяржавы.

Усе гэта тлумачыцца, галоўным чынам тым, што пабудова іх утваралася большай часткай у старыя яшчэ часы, калі існавала прыватная ўласнасьць на воды і калі абшарнік ня толькі ня лічыўся з агульнымі інтарэсамі сялян, а наадварот, учыняў розную шкоду, абы толькі атрымаць для сябе большую выгаду, а там, у сялян,—хоць трава не расьці.

І за старыя часы такіх прадпрыёмстваў, якія сваімі затопамі ды іншымі дзеяньнямі ўчыняюць больш шкоды, чым-ся даюць карысьці, напладзілася вельмі многа і, мажліва, зараз патрабуецца навукова-тэхнічная праверка мэтазгоднасьці іх існаваньня. Мажліва будзе патрэбна некаторыя з іх і прыкрыць, як прадпрыёмствы, учынаючыя вялікую шкоду.

З другога боку, мы нават і да апошняга часу яшчэ ня маем ніякіх дадзеных аб тэй воднай энергіі, якую мы маглі-б з посьпехам скарыстаць для гаспадарчых патрэб дзяржавы (для пабудовы буйных электрастанцыяў ды іншых прадпрыёмстваў), а таксама для патрэб кааперpraванага насельніцтва ў мэтах індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі. У гэтай галіне, да апошняга часу вядуцца толькі пустыя размовы, а тым часам, у зьвязку з пашыраным гаспадарчым будаўніцтвам, патрэба ў такіх матарыялах і зьвестках адчуваецца заўсёды, і, ня маючы падобнага матарыялу, мы можам зрабіць шэраг гаспадарчых памылак.

Прыкладам, у якім-небудзь месцы, маюцца ўмовы і магчымасьці будаваць прадпрыёмствы на вадзяной энэргіі, а мы пачнем будаваць іх на паравой; у выніку будзе нерацыянальнае скарыстоўваньне ўсіх магчымась-

цяй, і заместа плянавага будаўніцтва, якое ўлічвае ўсе магчымасьці, у нас будзе выпадковая праца саматужнага характару.

Важна, асабліва зараз, калі мы прыступілі да сацыялістычнага будаўніцтва краіны, каб перад намі, як на мапе, было ясна відна, якімі магчымасьцямі мы абладаем у гэтым кірунку, тым часам як мы, покішто, па-манілаўскаму мяркуем, ня маючы пад рукамі самых простых зьверстак.

Усе гэтыя гаспадарчыя мяркаваньні стаўляюць перад намі вялікую задачу ў галіне воднае гаспадаркі, і закон, дапушчаючы, з аднаго боку, магчымасьць і нават неабходнасьць скарыстоўваньня вадзяное энэргіі для дзяржаўных і грамадзкіх організацыяў, а таксама для розных асоб, для ўсебаковых іх патрэб, у той час прадугледжвае неабходнасьць адпаведнае пабудовы (вадападпорнае і вададзейнічнае), правядзеньня навукова-тэхнічных досьледаў і абавязковага захаваньня ўсіх правілаў і ўмоў, пры якіх карыстаньне вадзяной энэргіяй праходзіло-б з найменьшай шкодай для іншых відаў гаспадаркі. Нам так сама неабходна ў бліжэйшыя-ж часы правесьці навукова-дасьледчую працу, для таго каб па магчымасьці дасканала ведаць, якімі крыніцамі вадзянае энэргіі мы ўладаем, каб з посьпехам магчыма было скарыстоўваць вынікі гэтае працы для дзяржаўнае, мясцовае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Бяручы-ж пад увагу, што пры пабудове такое вадападпорнае і вададзейнічнае будовы няўхільна пэўная шкода будзе ўчыняцца, галоўным чынам паўзьбярэжным землякарыстацелям, закон предугледжвае неабходнасьць адплаты страт за ўчыненую шкоду. Усе спрэчкі па гэтаму пытаньню таксама павінны будуць разглядацца ў Зямельных Камісіях.

II.

Нашы вадазьмясьцілішчы Беларусі зьяўляюцца, як вядома, значнай каштоўнасьцю ў адносінах разьвіцьця прамысловае рыбагадоўлі. Тым часам, гэта галіна гаспадаркі (рыбагадоўля), як у старыя часы, таксама і зараз, пры Савецкай уладзе, з боку вадакарыстацяляў падпадала самай безгаспадарчай эксплёатацыі, без наяўнасьці самых нязначных мерапрыёмстваў, накіраваных да адраджэньня гэтае галіны і да яе разьвіцьця. І гэта у той час, калі навуковыя досьледы вадазьмясьцілішчаў паказалі, што падаўляючая большасьць іх цалкам прыгодна для разьвядзеньня розных каштоўных сартоў рыбы, і што разумная пастаноўка гэтае справы можа даць вялікі прыбытак дзяржаве.

Задача нашая, як улады, будуючай сацыялістычную дзяржаву, ляжыць у тым, каб коштам пашырэньня эксплёатацыі розных прыродных багацьцяў, у тым ліку і водных абшараў, паступова зьменшаць падатковы цяжар насельніцтва. І разьвіцьцё рыбнае гаспадаркі павінна будзе адыгрываць значную ролю ў гэтых адносінах.

Надаючы такое вялікае значэньне рыбнай гаспадарцы, якое, па меры яго адраджэньня і разьвіцьця, павінна заняць значнае месца ў народнай гаспадарцы, мы лічым, што ў законе павінен таксама быць прынят прынцып, які цьвёрда вызначыў-бы прыналежнасьць дзяржаве рыбнае гаспадаркі ўва ўсіх вадазьмясьцілішчах рэспублікі (за выключэньнем сялянскіх сажалак), як з боку вядзеньня гэтае гаспадаркі, так і з боку яе эксплёатацыі. У дадатак да гэтага Кодэксу неабходна будзе выдаць правілы, на падставе якіх будзе кіравацца і рэгулявацца дадзеная справа.

Наша сялянскае насельніцтва з часу паноў прывыкла ня лічыцца ні з якімі правіламі рыбнае лоўлі і да гэтага часу, напрыклад, яно лічыць самым лепшым момантам для ўлова рыбы той, калі адбываецца нераст; між тым як у гэты час, у мясцох нерасту не павінна быць і блізка чалавечая нага, каб злажыць самыя спрыяючыя ўмовы для размножаньня рыбы, без чаго нельга ўявіць сабе правільнага разьвіцьця рыбнае гаспадаркі. Прывучыць-жа насельніцтва да строгага выконваньня неабходных правілаў зьяўляецца задачай сур'ёзнай і неабходнай. Да асоб, якія будуць парушаць гэтыя правілы, трэба будзе ўжываць неабходныя крокі і меры. Гэта зьяўляецца першай умовай для правільнага і нармальнага разьвіцьця рыбнай гаспадаркі, і калі мы не ўтворым гэтых умоў, цяжка і нават немагчыма будзе пашырыць і адбудоўваць гэтую зьнішчаную гаспадарку.

Лічучы цьвёрда рыбную гаспадарку ва ўсіх вадазьмясьцілішчах рэспублікі агульна-дзяржаўнай гаспадаркай, мы, строга праводзячы такі прынцып у жыцьцё, у той-жа час павінны правесьці ў законе і другі прынцып, які дае насельніцтву права вольнага карыстаньня лоўляй рыбы ва ўсіх вадазьмясьцілішчах (за выключэньнем штучных сажалак, незалежна ад таго, будуць яны дзяржаўнымі ці працоўнага карыстаньня) для асабістых патрэб, а не для прамысловых мэтаў, абавязваючы насельніцтва дакладна і сьцісла выконваць правілы рыбнае лоўлі.

Праводзячы па закону такое права, якое дапушчае вольна лавіць рыбу для асабістых патрэбаў, мы гэтым самым зусім адкідаем тыя абмяжаваньні, якія ў гэтых адносінах існавалі ў дарэволюцыйны час. А калі прыняць пад увагу, што ўсе гэтыя выпадкі тычацца, галоўным чынам, сялянскага насельніцтва, дык мы бачым, што інтарэсы сялянства ў дадзеным выпадку ў здавальняючай меры ўлічаны і прадугледжаны.

Акрамя сялянскіх інтарэсаў, пры арганізацыі рыбнае гаспадаркі, павінна быць законам прадугледжана і захаваньне вадазьмясьцілішчаў і берагоў для патрэб суднаходзтва, сплаву, эксплёатацыі вадзяная энэргіі для ўсякіх прамысловых мэт. Такія пытаньні заўсёды павінны ўзгадняцца спачатку і вырашацца ў кожным асобным выпадку адносна таго, якім галінам народнае гаспадаркі належыць аддаваць перавагу. Бязумоўна, што пры гэтым неабходна прадастаўляць усе неабходныя ўмовы і для разьвіцьця іншых галін. Уся гэтая праца, згодна закону, будзе ўскладацца на тыя ворганы, якія будуць кіраваць водна-мэліарацыйнай справай.

Што тычыцца права карыстаньня бечаўнікамі, пры лове рыбы, дык яно павінна дазваляцца ўсім, за выключэньнем несплаўных і не суднаходных рэк і каналаў, дзе гэткае карыстаньне можа адбывацца з дазволу землякарыстацеля дарэмна або з адплатай за прычынёную пры гэтым шкоду.

У зьвязку з штучнай рыбагадоўляй у нас у пэрспэктыве адчыняецца даволі відная будучына, як перад працоўнай селянскай рыбнай гаспадаркай, таксама і перад дзяржаўнай, але толькі для яе разьвіцьця неабходна стварыць адпаведныя прававыя ўмовы, якія-б спрыялі гэтай справе. Што тычыцца дзяржаўных сажалкавых гаспадарак, дык іх прававое становішча даволі яснае і не патрабуе ў заканадаўстве асаблівых тлумачэньняў.

Зусім іншага падыходу заканадаўчых гарантый і ўпэўненасьці ў нярухомасьці карыстаньня патрабуе разьвіцьцё сажалкова-рыбнае гаспадаркі ў сялян. Сапраўды, у нашых умовах, амаль што кожная сялянская гаспадарка мае магчымасьць мець сажалку і пры разумным вырашэньні такая

справа можа даваць значны прыбытак сялянскай гаспадарцы. Вядома, мы павінны ўсялякімі спосабамі прапагандаваць арганізацыю грамадзкіх сажалак на каапэрацыйных падставах, але поплеч з гэтым будуць бязумоўна ўтварацца сялянскія сажалковыя гаспадаркі і адзінковага карыстаньня.

Як каапэрацыйныя, таксама і адзінковага карыстаньня сялянскія сажалкі патрабуюць для свайго разьвіцьця ў водна-мэліарацыйным законадаўстве выразнага аб іх тлумачэньня. Мы лічым, што пабудова такое гаспадаркі патрабуе вялікае затраты сродкаў і працы. Пагэтаму, неабходна ў законадаўстве прыняць пад увагу ўсе гэтыя асаблівасьці гаспадаркі і ў адпаведнасьці з гэтым даць належнае права і магчымасьць сялянскаму насельніцтву бяз боязьні ўчыняць гэтыя затраты. Толькі пры ўтварэньні законам такіх умоў можна спадзявацца на шырокае разьвіцьцё гэтае гаспадаркі ў вёсцы і разам на ўважлівыя адносіны да гэтае справы. Прымаючы ўсё гэта пад увагу, закон павінен прадугледзіць, што сажалкавыя гаспадаркі ніякаму адчуджэньню не падлягаюць і знаходзяцца ў сталым працоўным карыстаньні тых асоб, якія іх наладзілі, што карыстацелі сажалак маюць права ў залежнасьці ад сваіх гаспадарчых патрэб здаваць іх у арэнду, напр., у выпадку перасяленьня і іншых пераездаў, прадугледжаных законадаўствам. Яны маюць права на аплату затрат, панесеных пры наладжаньні гаспадарак. Прадастаўленьне такіх правоў насельніцтву, бязумоўна, дасьць мажлівасьць пашырацца сажалкавым рыбным гаспадаркам, што ў сваю чаргу дасьць магчымасьць вытворча скарыстаць лішкі працоўнай сілы вёскі, і тым самым у вядомай меры паслабіць наша аграрнае перанасяленьне.

III.

Згодна праэкту закона, карыстаньне водамі будзе знаходзіцца ў дзяржавы, у карыстаньні розных установаў, арганізацый (ВРНГ НКШЗ, каапэрацыі) і насельніцтва. У залежнасьці ад водакарыстацеля, закон мяркуе ўстанавіць і парадак правільнага ўтрыманьня водных цёкаў, а таксама ўскладае абавязкі на адпаведных карыстацеляў ў галіне палепшаньня гэтых цёкаў.

Закон ускладае ўтрыманьне ў добрым выглядзе суднаходных вадзяных цёкаў на органы вадзянога транспарту, а вадзяных цёкаў, якія служаць галоўным чынам для сплаву,—на зямельныя органы; на карыстацеляў-жа вадападпорнае і вададзейнічае будоўлі ўскладаецца ўтрыманьне ў дакладнасьці тых частак вадзянога цёку, якімі яны будуць карыстацца.

Дакладнае ўтрыманьне ўсіх іншых вадазьмясьцілішчаў ускладаецца на мясцовае насельніцтва, якое карыстаецца адпаведнымі водамі і для якіх мэтаў яно будзе аб'яднана ў водныя таварыствы.

Такое разьмяркаваньне абавязкаў па дакладнаму ўтрыманьню вадзяных цёкаў ня можа выклікаць супярэчаньняў, за выключэньнем хіба тых выпадкаў, калі гэтыя абавязкі будуць ускладацца на сялянскае насельніцтва і на водныя таварыствы, у адносінах да якіх гэта мажліва, дзякуючы навіне справы. Трэба помніць аднак, што дзяржава ня зможа ўзяць на сябе гэту працу ў зьвязку з недахопам сіл і сродкаў. Тым больш, што эксплёатацыя падобных вадазьмясьцілішчаў будзе амаль што цалкам знаходзіцца ў насельніцтва, якое ад гэтага будзе дабываць бязумоўную карысьць. Так, напрыклад, мы добра ведаем, што пры правядзеньні земляўпарадкаваньня кожны селянін згодзен пайсьці на пушчэйшую зямлю, абы толькі яна была

каля рэчкі ці возера, незалежна ад таго, якіх разьмераў гэтае вадазьмясьцілішча.

Бязумоўна, гэту выгаду цяжка і нават амаль што немагчыма вызначыць лічбамі, але такое імкненьне насельніцтва асесьці бліжэй да вадазьмясьцілішчау ўжо само па сабе даволі красамоўна гаворыць аб гэтым. Аднак насельніцтва, якое знаходзіцца паблізу вадазьмясьцілішчаў, толькі ў тым выпадку будзе здабываць найбольшую карысьць ад свайго вадакарыстаньня, калі яно, аб'яднаўшыся ў водныя таварыствы, будзе прымаць усе меры да таго, каб вадацёкі знаходзіліся ў магчыма лепшым становішчы.

Звычайна селяне лічаць, што на вадазьмясьцілішчы ня трэ' зьвяртаць ніякае ўвагі; тым часам, як запушчаныя вадазьмясьцілішчы могуць зьяўляцца крыніцамі розных заразьлівых хвароб, як для людзей, таксама і для жывёлы. Закінутыя вадазьмясьцілішчы могуць таксама ўчыняць затопы і прыносіць вялікую шкоду удобным сельска-гаспадарчым ужыткам.

Ці могуць, аднак, паасобныя землякарыстацелі па адзіночцы справіцца з працай па ўтрыманьню ў дакладным выглядзе вадацёкаў, калі іншая рэчка працякае на працягу некалькіх дзесяткаў вёрст і калі ля яе раскіданы цэлы шэраг сёл, вёсак, хутароў? Вядома, што не. Такая праца будзе пад сілу толькі таварыству і то не аднаму, а шэрагу іх, якія ахапляюць усё насельніцтва, якое знаходзіцца паблізу вадацёку. Пагэтаму, з якім бы недавер'ем ні адносілася насельніцтва і асобныя працаўнікі да гэтае справы, мы, незалежна ад гэтага, павінны правесьці ў кодэксу такі артыкул, які прадугледжваў-бы неабходнасьць ускласьці абавязкі на насельніцтва па дакладнаму ўтрыманьню вадацёкаў і па організацыі насельніцтва для гэтае мэты ў водныя таварыствы. Бязумоўна, справа гэта новая, і магчыма ў першыя часы ня будзе мець посьпеху, але-ж кодэкс пішацца не на адзін год, і трэба думаць, што па меры пашырэньня правільнае пастаноўкі воднае гаспадаркі, разьвіцьця мэліарацыйных работ, селянскае насельніцтва зразумее неабходнасьць такіх мерапрыемств і такіх аб'яднаньняў, як водныя таварыствы. Быў жа час, калі у нас на тэрыторыі Рэспублікі ня было ніводнага мэліарацыйнага таварыства, а зараз у зьвязку з разьвіцьцём дзяржаўных мерапрыемств, яны пачынаюць расьці, як грыбы пасьля добрага дажджу. Прыкладам тое самое адбудзецца ў недалёкай будучыне і з воднымі таварыствамі,—неабходнасьць у іх ужо насьпела.

Якія-ж работы будуць ускладацца на водакарыстацеляў па дакладнаму ўтрыманьню і палепшаньню вадацёкаў? Да такіх работ будуць належаць падтрыманьне правільнага стоку, ачыстка тальвягу ад парогаў, меляў, наносаў, перашкаджаючых суднаходзтву і сплаву, выпрамленьне рэк, каналаў, дамб, грэбляў, шлюзаў, замацоўка берагоў, ператварэньне несплаўных водных шляхоў у сплаўныя і г. д. Вядома, што ўсе такія больш буйныя мерапрыемствы будуць утварацца ў першую чаргу на тых вадацёках, якія маюць агульна-дзяржаўнае значэньне; паколькі яны будуць знаходзіцца ў руках дзяржавы, ці дзяржаўных прадпрыемств, пастолькі і правядзеньне гэтых работ будзе справай дзяржавы, праводзячай гэтыя работы на падставе адпаведных каштарысных асыгнаваньняў. Пляны такіх работ, як правіла, павінны ажыцьцяўляцца пасьля разгляду і ўхваленьня іх спэцыяльнымі водна-мэліарацыйнымі органамі, якія з навукова-тэхнічнага боку будуць рэгуляваць усёй водна-мэліарацыйнай справай Рэспублікі. Такі разгляд плянаў у памянёных органах мы лічым неабходным для таго, каб

усялякія такія буйныя работы ўтвараліся ня толькі ў вузка ведамсьцьвеных інтарэсах, але у кожным такім выпадку прымаліся-б пад увагу і агульна-гаспадарчыя інтарэсы. Некаторыя такія работы могуць патрабавацца адначасна і для мэтаў мэліарацыі, для прамысловых прадпрыёмств і для суднаходзтва, і будуць вымагаць адпаведнага ўзгадненьня ў такой справе, дзе зацікаўлена некалькі ведамстваў, дык мімавольна можа здарыцца лішняя работа і нямэтазгодная трата сродкаў. Могуць мець месца і працівалеглыя прыклады, калі пабудовы, зробленыя для прамысловых патрэб, не дадуць магчымасьці правесьці мэліарацыйных работ, якія могуць мець большае гаспадарчае значаньне, чым зробленыя прамысловыя прадпрыёмствы. Значыцца, з агульна-гаспадарчага і плянавага пункту погляду неабходнасьць такога адзінага рэгуляваньня ўсяго будаўніцтва, адкуль-бы яно ні выходзіла (хай гэта дзяржаўныя органы, насельніцтва ці грамадзкія арганізацыі), зьяўляецца відавочнай неабходнасьцю.

Вось тыя асноўныя прынцыпы і моманты на падставе якіх пабудована частка Кодэксу, якая тычыцца галоўным чынам, воднай гаспадаркі.

## IV.

Мы маем вялікую колькасьць забалочаных зямель—16,4 проц. Калі да гэтага дадаць пяскі, якія зьяўляюцца ў большасьці няўдобіцай і наогул мала-прыгодныя сялянскія землі, патрабуючыя грунтоўнага палепшаньня, дык мы будзем мець, прыкладна, палову зямель, патрабуючых таго ці іншага віду меліарацыйных работ. Такая дрэнная якасьць аграмаднай плошчы зямлі у зьвязку з агульнымі задачамі па адраджэньню сельскае гаспадаркі, высоўвае перад урадам і насельніцтвам мэліарацыйнае пытаньне, як адно з найбольш важных заданьняў сучаснай аграрнай палітыкі.

Здаецца, кожнаму зразумела, хто больш-менш мае сувязь з працай замельных органаў, што далейшае пасьпешнае правядзеньне аграрнага пытаньня ўпіраецца ў неабходнасьць фарсіраваць і пашыраць мэліарацыйныя работы. Але правесьці на працягу бліжэйшых год такія вялікія мерапрыёмствы толькі сіламі дзяржавы, пры недастачы ў сродках, бязумоўна немагчыма. Пагэтаму, вырашэньне мэліарацыйнага пытаньня ў значнай меры будзе залежаць ад таго, як шырока зможам мы ўцягнуць у гэту працу насельніцтва вёскі, з яго сіламі і сродкамі. Для гэтага, акрамя ўсякіх іншых дзяржаўных мерапрыёмстваў, спрыяючых мэліарацыйнай справе, нам неабходна перш за ўсё дэталёва распрацаваць прававое пытаньне на мэліарыраваныя землі і пабудаваць права ў гэтых адносінах такім чынам, каб насельніцтва бяз усялякіх хістаньняў, а з ахвотай прыступіла-б да правядзеньня мэліарацый.

Пакуль што мы многа гаворым аб мэліарацыі, хацця, праўда, ня менш таго і робім, але ўсё-ж, ня гледзячы на гэта, прававых нявыразнасьцяў у гэтай справе хоць адбаўляй. У насельніцтва, прыступаючага да гэтых работ, адразу паўстае цэлы шэраг пытаньняў, на якія сучаснае зямельнае права не дае адказу, або калі і дае яго, дык вельмі няздавальняюча. Акрамя таго, сучаснае зямельнае права пры усёй сталасьці землякарыстаньня яшчэ не дае насельніцтву здавальняючых гарантый на тое, каб яно ў шырокіх разьмерах укладвала працу і сродкі ў мэліарацыю.

Поплеч з гэтым паўстае і яшчэ цэлы шэраг пытаньняў: аб нормах надзяленьня, аб гарантыях на ўкладзеную ў зямлю працу і сродкі, аб выняцьці няўдобных зямель з працоўнага карыстаньня, аб тых, хто адмаўляецца

праводзіць мэліарацыйныя работы, аб арэндзе мэліарыраваных зямель, аб парадку правядзеньня мэліарацыйных работ, аб прымусным правядзеньні мэліарацыйных пабудоў праз чужыя землякарыстаньні і цэлы шэраг іншых пытаньняў, ад умелага вырашэньня якіх будзе залежаць разьмер мэліарацыйнае справы.

Напэўна сяляне і працаўнікі з месц, як практычна блізка знаёмыя з мэліарацыйнай справай, могуць высунуць яшчэ шмат пытаньняў, якія неабходна будзе ўключыць у гэты закон, і тым самым, з прававога боку стварыць усе спрыяючыя магчымасьці, дапамагаючыя мэліарацыі. Але перш, чым пісаць мэліарацыйнае законадаўства, мы павінны высьвятліць, што мы будзем разумець пад тэрмінам мэліарацыя. Такім чынам мы вызначым задачы і кірунак нашага законадаўства. Бязумоўна, мы гэта азначэньне павінны даць, прыняўшы пад увагу тыя асаблівасьці, з якімі прыходзіцца мець справу ў нашай Рэспубліцы. Асноўным кароткім азначэньнем мэліарацыі будзе *грунтоўнае палепшаньне зямель, накірованае да зьмены іх прыродных уласьцівасьцяй*, напрыклад,—абсушка і культуртэхніка якоганебудзь балота дае карысныя с-г ўжыткі, якія прыгодны для разьвядзеньня на іх самай зыскоўнай культуры. Альбо скажам, у выніку мэліарацыйнай работы адбылася грунтоўная зьмена прыродных уласьцівасьцяй вучастка зямлі; заместа асакі, усякіх кіслых траў, моху ды інш., пасьля мэліарацыі балота можна мець багаты укос канюшыны, урадлівасьць капусты і вялікія ўраджаі збожавых культур.

Возьмем іншы прыклад,—на пясках, якія не давалі ніякага прыбытку, а наадварот, пад заўсёгдашнім дзеяньнем ветру шырэй распаўсюджваліся і заносілі кругом добрыя землі, праведзена штучнае аблясеньне. У выніку, праз некалькі год, замест дзікіх пяскоў, мы можам мець вельмі каштоўны лес і пясок спыніць свае пустошуючае дзеяньне.

Словам, дзякуючы мэліорацыі, утвараюцца грунтоўныя зьмены прыродных уласьцівасьцяй зямельнага вучастку. Прыкладаў у гэтым кірунку можна прывесьці бязлічную колькасьць, але і прыведзеныя ў здавальняючай меры абмалёўваюць агульнае паняцьце мэліарацыі. Аднак, у законе мы неабмяжоўваемся агульным паняцьцем мэліарацыі, а для дакладнасьці прыводзім пералічэньне цэлага шэрагу мэліарацый, якія мажліва прымяніць ў нашых умовах, каб гэтым самым унесьці канчатковую яснасьць у гэтае пытаньне, якое зьяўляецца важнейшай часткай нашай аграрнай палітыкі. Насельніцтва, ды і працаўнікі месц, большай часткай пад мэліарацыяй разумеюць толькі абсушку і культуру балотаў, якія, бязумоўна, зьяўляюцца адным з відаў грунтоўных мэліарацый, але ўсё-ж яны не вычэрпваюць сабой усіх тых задач, якія стаяць перад намі ў галіне гэтага будаўніцтва. Мы, акрамя абсушкі і культуры балотаў, павінны праводзіць яшчэ цэлы шэраг мэліарацый для таго, каб сапраўды грунтоўным чынам зьмяніць прыродныя ўласьцівасьці нашых зямель, якія ў большай сваёй частцы патрабуюць таго ці іншага віду мэліарацый. Па гэтаму, па праэкту нашага кодэксу мы пад мэліарацыяй зямель павінны разумець наступныя тэхнічныя мерапрыёмствы па грунтоўнаму палепшаньню зямельных вучасткаў: *абсушку, абвадненьне, утварэньне сажалак, студняў і іншых крыніц сельскае вададастаўні, закрапленьне пяскоў і яроў, правядзеньне сплаўных каналаў, рэгуляваньне рэк*, як з мэтамі сплаву, таксама і для пабудовы абсушнае сеткі, *лесанасаджэньне* ў мялалесных і бязлесных раёнах, *культура балот, ачыстка зямельных вучасткаў ад пнёў, курганоў, каменьня* і іншыя ме-

рапрыёмствы, маючыя на мэце, шляхам затраты працы і сродкаў на грунтоўныя палепшаньні прыродных уласьцівасьцяў вучастка, узьняць прыбытковасьць няўдобных ці бросавых зямель.

Для паўнаты азначэньня мэліарацыі неабходна тут жа падкрэсьліць, што пад няўдобнымі землямі разумеюцца такія зямельныя вучасткі, якія хаця і даюць некаторы прыбытак гаспадарцы, але для падвышэньня яго патрабуюць грунтоўных палепшаньняў (мэліарацыі), а пад бросавымі землямі разумеюцца такія вучасткі, якія а ніякага прыбытку не даюць,—ні дзяржаве, ні насельніцтву.

І вось, калі мы зараз добра ўдумаемся ў пералічаныя віды мэліарацыі, дык адразу прыдзем да таго вываду, што ўсе паказаныя мерапрыёмствы па грунтоўнаму палепшаньню зямель у нас ужо больш-менш праводзяцца, або ў бліжэйшы час запатрабуюць свайго правядзеньня. Супроць абсушкі і культуртэхнікі, як галоўных відаў мэліарацыі ў нашых умовах, ніхто ўжо і не супярэчыць.

Побач з гэтым, у нас надзвычайна многа зямельных вучасткаў, якія патрабуюць абвадненьня, і такая мэліарацыя можа быць не як першачарговая, але стаіць перад намі як пэўная задача. Таксама і арганізацыя здаровай сельскай водастаўні стаўляецца ў ва ўсю шырыню, асабліва ў зьвязку з разьвіцьцём земляўпарадкаваўчых работ.

Акрамя таго, у. нас пры агульных лішках вады маецца многа вёсак, якім прыходзіцца карыстацца вадой за тры-пяць вёрст і для якіх пытаньне дастаўкі вады зьяўляецца першачарговай гаспадарчай задачай. Закрапленьне пяскоў, лепш сказаць—іх аблясеньне, стаіць перад кожнай акругай, раёнам і патрабуе да сябе ўважлівых адносін, асабліва ў зьвязку са скарачэньнем плошчы лясное гаспадаркі. Такое-ж самае значаньне мае пабудова каналаў, як для патрэб сплаву, так і для падубовы мэліарацыйнаабсушальнае сеткі, зразумела ў мэтах мэліарацыі і разьвіцьця лясное гаспадаркі і яе эксплёатацыі.

Іншыя лічаць раскарчоўку зямлі ад пнёў проста раскарчоўкай, а не мэліарацыяй, запамінаючы аб тым, што ў дадзеным выпадку адбываецца грунтоўнае палепшаньне зямель. Для таго, каб які-небудзь участак з-пад сьвежа-высечанага лесу асвоіць у сельска-гаспадарчых адносінах, неабходна затраціць процьму працы і сродкаў. Многія сяляне, асеўшы на такіх вучастках, часта на некалькі год застаюцца падарванымі ў гаспадарчых адносінах.

І калі не дапамагчы ім у дадзеным выпадку мэліарацыйным крэдытам, дык гэта можна сказаць—рабіць злачынства, асабліва калі мець на ўвазе, што мы зараз праводзім працу па землянадзяленьню бяднаты, якой часта прыходзіцца садзіцца без усялякіх сродкаў, проста на карчы.

Акрамя таго, мы тут павінны мець на ўвазе і яшчэ адно вельмі важнае пытаньне нашай аграрнай палітыкі—гэта паступовае правядзеньне замены шматлікіх няўдобных сельска-гаспадарчых ужыткаў на лясныя-удобныя. Мы добра ведаем, што дзякуючы раней існаваўшаму панскаму ладу сяляне карысталісі самымі дрэннымі землямі, асабліва такі надзел няўдобнымі землямі ў значных разьмерах прайшоў пасьля падзеньня прыгоннага ладу, і адначасна з гэтым, землі прыгодныя для сельска-гаспадарчага карыстаньня засталіся пад лесам. Паступова, з цягам часу дзяржава, якая ў плянавым парадку праводзіць адраджэньне і адбудову сельскае і лясное гаспадаркі, павінна гэту нездаровую зьяву зьнішчыць і зрабіць перасоўку лесу на непрыгодныя землі ў сельска-гаспадарчых адносінах. Гэта задача

была зусім нявырашальнай у час існаваньня прыватнае ўласнасьці, цяперша гэта лёгка можна здейсьніць.

Зразумела, што пры правядзеньні гэтае палітыкі мы сустрэнемся з пытаньнем раскарчоўкі і аблясеньня быўшых селянскіх землякарыстаньняў,—і такім чынам адразу будзе праводзіцца два віды мэліарацыі, што запатрабуе адпаведны мэліарацыйны крэдыт.

Далей, возьмем куп'я. Праўда, што ў нас няма статыстыкі аб гэтым, якая плошча пакрыта куп'ямі на Беларусі , але з упэўненасьцю можна сказаць, што ня менш паловы ўсяе плошчы. Супроць гэтага, для грунтоўнага палепшаньня зямель, неабходна прыняць адпаведныя крокі.

Альбо ачыстка сел.-гасп. ужыткаў ад каменьня. На гэтую справу мы таксама не зьвярталі належнае ўвагі, тым часам як у нас маюцца цэлыя раёны густа ўсланыя каменьнем, дзякуючы якому амаль-што немагчыма весьці сельскую гаспадарку, а самая праца па ачыстцы поля ад гэтага каменьня зьяўляецца проста катаржнай. Можна бачыць у некаторых мясцох, як на межах сялянскага карыстаньня падымаюцца цэлыя каменныя горы, схожыя з эгіпецкімі пірамідамі. Такая праца па уборцы каменьня зьяўляецца грунтоўным палепшаньнем зямель (мэліарацыяй) і патрабуе з боку дзяржавы крэдытнага падтрыманьня, а можа і неабходных бюджэтных асыгнаваньняў.

Такім чынам, такое шырокае тлумачэньне мэліарацыі, якое праводзіцца ў законе, па самай справе нічога лішняга ня мае і цалкам адказвае як навуковай пастаноўцы пытаньня, таксама і тым яго асноўным практычным задачам, якія мы перад сабой стаўляем ва ўмовах Беларусі.

## V.

Галоўным тормазам на шляху разьвіцьця мэліарацый у дарэвалюцыйны час была прыватная ўласнасьць на зямлі, якая праводзілася да неабмяжаванасьці ў праве карыстацца ей такім чынам, як гэтага хацелася самому земляўласьніку, і ніхто ня меў тады права ўмешвацца ў гэта карыстаньне, хоць-бы гэта і выклікалася карыснай неабходнасьцю. Пры такім палажэньні і праве, якое было да рэвалюцыі нельга было і думаць аб разьвіцьці мэліарацыйнае справы, асабліва на сялянскіх землях, якія былі ў большасьці выпадкаў абкружаны панскімі землямі, праз якія было забаронена праводзіць мэліарацыйныя пабудовы. Пагэтаму, ўсе мэліарацыйныя работы, якія праводзіліся да вайны, адбываліся галоўным чынам на ўласьніцкіх і казённых землях, што-ж тычыцца селянства, дык яно зусім не было ўцягнута ў гэту справу. У сучасны момант, калі землі зьяўляюцца дзяржаўнаю ўласнасьцю, усе прычыны і акалічнасьці, перашкаджаўшыя раней разьвіцьцю мэліарацыйных работ, зьнікаюць. Перад нашым заканадаўствам зараз адчыняюцца шырокія магчымасьці і пэрспэктывы прадугледзіць і стварыць усё неабходнае для разьвіцьця работы ў шырокіх разьмерах, каб, такмі чынам, усе дзікія землі, скаваныя да гэтуль прыватнай уласнасьцю і ляжаўшыя вякамі нявыкарыстанымі, зараз культывіваць і ўцягнуць у гаспадарчы зварот краіны.

Апроч прыватнай уласнасьці на землі, земляўласьнікі не маглі пашыраць мэліарацыі яшчэ і таму, што буйныя з іх, маючыя значныя абшары прыгоднае зямлі, атрымоўваўшыя без таго вялікія прыбыткі, мала цікавіліся дадзенай справай, а што-ж тычыцца дробных, дык яны ня мелі неабходных уласных капіталаў, каб за свой кошт праводзіць мэліарацыю. Мала таго, ў большасьці з іх маёнткі былі заложаны і перазаложаны і яны ня мелі магчымасьці карыстацца банкаўскім крэдытам. Царскі-ж урад, які

бараніў інтарэсы землеўласьнікаў, накіроўваў банкаўскі крэдыт, галоўным чынам, на крэдытаваньне тых, хто купляў панскія землі. З другога боку, самім землеўласьнікам было не да балотаў, шраг з іх, баючыся хваляў надыходзячай рэвалюцыі і пэрспэктыў захопу іх зямель сялянамі, сьпяшаліся як найхутчэй ліквідаваць свае маёнткі на больш-менш выгадных, а калі можна было, дык і па спэкуляцыйных цэнах. У дадзены момант, нашаму Савецкаму Ураду, які правёў нацыяналізацыю зямлі, прыходзіцца і трэба праводзіць працівалеглую палітыку той, якая праводзілася царскай уладай. Нацыялізаваўшы ўсе землі і перадаўшы іх у працоўнае карыстаньне сялян, дзяржава зараз зацікаўлена разьвіцьцём усяе народнае гаспадаркі, дзеля паслабленьня крызісу аграрнага перанасяленьня нашага малазямельнага раёну, а сялянства зацікаўлена ў пашырэньні землякарыстаньня і падняцьця вытворчых сіл зямлі. Пагэтаму, неабходна аб'яднанымі сіламі дзяржавы і насельніцтва пачаць, як мага ў большых разьмерах, грунтоўнае палепшаньне зямель (мэліарацыю).

Пры нашай вострай патрэбнасьці ў зямлі і той значнай колькасьці няпрыгодных зямель, якія ў нас маюць месца, нам неабходна правесьці гэтую працу, каб у бліжэйшыя-ж гады мы ня мелі ў Рэспубліцы ні адзінага кавалачка няпрыгоднае зямлі. Разьвіцьцё мэліарацыі будзе таксама досыць добрым спосабам да выкарыстоўваньня лішкаў працоўнае сілы нашае вёскі.

Наш водна-мэліарацыйны закон павінен рашуча адкінуць усе тыя перашкоды, якія былі дагэтуль тормазам у разьвіцьці мэліарацыі.

## VI.

Пасьля таго, як мы адзначылі, што такое мэліарацыя, нам неабходна вызначыць, на якія землі і ў якім парадку могуць пашырацца мэліарацыйныя мерапрыемствы. Мы лічым, што дзяржава, на падставе закона і прынцыпа нацыяналізацыі зямлі, мае неабмяжаванае права ўтвараць мэліарацыйныя мерапрыемствы на ўсіх землях, якія ў гэтых мерапрыемствах маюць патрэбу, незалежна ад таго, у чым карыстаньні гэтыя землі знаходзяцца,—будуць гэта землі працоўнага карыстаньня, ці ў эксплёатацыі дзяржаўных органаў. Але гэтага мала.

Тут, па мойму, трэба ісьці яшчэ далей. У закон неабходна ўнесьці яшчэ адну новую думку, сэнс якой заключаецца ў тым, каб усіх землякарыстацеляў (незалежна ад таго, хто гэта будзе) абавязаць вядомым дагаворам: у абавязковым парадку (пад страхам пазбаўленьня зямлі) утвараць грунтоўныя палепшаньні зямлі. У нашых беларускіх умовах мала таго, што мы здаем дзяржаўную зямлю ў працоўнае карыстаньне сялян, якое абумоўліваецца толькі абавязковым вядзеньнем гаспадаркі на ей і правільнай ее эксплёатацыяй. Пры такім становішчы грунтоўныя палепшаньні зямель, зьвязаныя з мэліарацыей, залежаць, галоўным чынам, ад добрай волі землякарыстацеля і дзяржава ў гэтых адносінах не накладвала на яго ніякіх абавязкаў і адказнасьці. Зараз-жа, калі мы приступілі да агульнае мэліарацыі зямель, мы гэтыя абавязкі павінны ўскласьці на ўсіх землякарыстацеляў і гэта будзе практычнай мерай ураду, якая будзе спрыяць хутчэйшаму разьвіцьцю сельскае гаспадаркі. Пры гэтым, мэліарацыя будзе ахапляць усе землі, незалежна ад таго, ці гэта будуць вучасткі прыроднага выгляду—дзікае балота, якое нікім не эксплёатуецца, ці гэта будуць землі, якія ўжо апрацоўваюцца і скарыстоўваюцца тым ці іншым чынам.

Пры пабудове мэліарацыйнага законадаўства паўстала пытаньне, аб

прынцыпах, на падставе якіх належыць утварыць гэта законадаўства. У гэтых адносінах мы ўжо мелі даволі багатую практыку па прыстасаваньню існуючага зямельнага права, якое сбяе цалком спраўдзіла ў нашым сельскагаспадарчым будаўніцтве.

Гэта права добра вядома кожнаму нашаму селяніну і прынцып яго ў аснове заключаецца ў тым, што зямля зьяўляецца нацыяналізаванай уласьнасьцю дзяржавы і дзяржава ўжо ад сябе прадастаўляе землі ў працоўнае карыстаньне сялянства, ці ў арэнднае карыстаньне або ў дарэмнае карыстаньне якіх-небудзь організацый. Адмяніўшы права куплі зямлі, права дараваньня, права водпісу і ўсякую мажлівасьць зьбіраньня сродкаў для эксплёататарскіх мэтаў і абмяжваўшы да вядомых граніц ужываньне арэнды і права карыстацца наймам працоўнай сілы, спрыяючых хутчэйшаму разьвіцьцю вёскі, дзяржава, адначасна з гэтым, захавяла за сабой магчымасьць праз нацыяналізацыю зямлі, крэдыт, падатковую палітыку, коопэрацыю і інш. способы кіраваць працэсам сельска-гаспадарчага будаўніцтва і пасоўваць яго ў вядомым кірунку. Асноўныя прынцыпы і палажэньні існуючага зямельнага права, якія выходзяць з ідэі НЭП'а да максімуму разьвязалі гаспадарчую ініцыятыву селянства, пашырылі да вялікіх разьмераў мерапрыемствы дзяржавы і вёска шпаркім крокам ідзе да перабудовы свае гаспадаркі. Па гэтаму, у падставу нашага мэліарацыйнага закону мы лічым мэтазгодным пакласьці прынцып сталага працоўнага землякарыстаньня, прадугледзіўшы спэцыфічны характар тых зямель, якія патрабуюць мэліарацыі, а разам і неабходнасьці ўкладваньня вялікіх затрат працы і сродкаў з боку землякарыстацеляў. Што тычыцца ў дадзеным выпадку нацыяналізацыі зямлі, дык гэта пытаньне даўно вырашана З'ездамі Саветаў і Зямельным Кодэксам, якія прадугледжваюць нацыяналізацыю ўсіх зямель, у тым ліку, само сабой зразумела, і тых, якія патрабуюць мэліорацыіі.

Значыцца, у аснову мэліарацыйнага заканадаўства кладуцца грунтоўныя прынцыпы існуючага зямельнага права, якія прыспасабляюцца да гаспадарчых задач па асваеньню няпрыгодных зямель і іх культываваньню.

---

Некаторыя лічылі патрэбным, каб у мэліарацыйнае заканадаўства ўносіць таксама разьдзелы, прадугледжваючыя і ўдзельнікаў, якія будуць праводзіць мэліарацыйныя работы. Высунутыя меркаваньні супроць гэтага разьдзелу як-раз абараняюць неабходнасьць такога палажэньня ў нашым заканадаўстве. Адзіным аргументам супраціўнікаў было тое, што к дадзенаму часу, у працэсе нашага мэліарацыйнага будаўніцтва, ўдзельнікі, якія праводзяць мэліарацыю, ужо больш-менш у здавальняючай меры высьветлены і прадугледжваць іх заканадаўствам пагэтаму няма патрэбы. Па мойму, як раз наадварот. Калі да гэтага часу мы ў гэтых адносінах пры практычным зьдейсьненьні мэліарацыйнага будаўніцтва ішлі вобмацкам і яшчэ з нездавальняючай выразнасьцю дагэтуль ставілі перад кожным удзельнікам яго задачы, дык зараз, на падставе вопыта нашых работ, мы такія асноўныя моманты павінны прадугледзіць.

Такая вялікая справа, як мэліарацыя, якая пачалася праводзіцца ў агульна-рэспубліканскім масштабе, магла-б быць праведзена толькі ў тым выпадку, калі мы ўмела правядзем і злучым інтарэсы, мэты і задачы справы, і беспамылкова вызначым долю ўдзела кожнага ўдзельніка гэтых мерапрыемстваў. Ня можа быць асаблівага посьпеху у гаспадарчым будаў-

ніцтве, калі той, хто ўтварае яго, ня ведае сваёй задачы і сваіх магчымасьцяй.

Для большага высьвятленьня гэтага пытаньня перойдзем да разбору таго, хто ў канкрэтных умовах нашай савецкай рачавістасьці будзе актыўным удзельнікам мэліарацыйнага будаўніцтва?

У сучасны момант яны ўжо ў здавальняючай меры вызначыліся ў асобе дзяржаўных органаў і шырокіх пластоў працоўнага сялянства, аб'яднанага ў мэліарацыйныя таварыствы. Злучэньне гэтых двух сіл закон і прадугледжвае. Мы лічым, пагэтаму, што ўдзельнікі мэліарацыйных работ будуць па-першае—дзяржава, у данным выпадку ў асобе сваіх зямельных органаў, праз якія практычна і будуць праводзіцца мэліарацыйныя мерапрыемствы; па-другое, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, якія будуць праводзіць мэліарацыю для сваіх гаспадарчых мэтаў (саўгасы, фабрыкі, заводы); і па трэйцяе—сялянскае насельніцтва, аб'яднанае ў мэліарацыйныя таварыствы, а таксама і асобныя землякарыстацелі *).

Праўда, што дзяржава, у большасьці выпадкаў, абмяжоўваецца арганізацыяй адпаведнага мэліарацыйнага крэдыту і некаторым рэгуляваньнем права прыватнай уласнасьці ў бок стварэньня хаця-бы мінімальных магчымасьцяй для мэліарацыйнага будаўніцтва. Але мы з гісторыі нашае працы ў галіне мэліарацыі ведаем, для якой клясы стварыліся гэтыя магчымасьці. Аб гэтым гаворыць той факт, што ня гледзячы на вялікія мэліарацыйныя мерапрыемствы царскага ўраду, ва ўмовах Беларусі ніякіх мэліарацый на сялянскіх землях ня было. Яны разьвіваліся выключна на казённых землях, пры дапамозе якіх царская казна потым эксплёатавала сялянскія масы на землях паноў.

Пры правядзеньні мэліарацыйных работ, сялянства, як больш за ўсё зацікаўленая і самая шырокая частка насельніцтва, была выкрэсьлена з гэтага будаўніцтва, і мы бачым там аб'яднаньне дзьвёх сіл—царскага ўраду, як улады паноў і капіталістых,—і самых паноў, як клясы буйных земляўласьнікаў. Параўнаваўшы зараз нашы мэліарацыйныя работы, якія праводзяцца савецкай уладай, можна ясна бачыць, што наша дзяржава накіроўвае ўсе сілы і сродкі да таго, каб у магчыма большых разьмерах дапамагчы сялянству разьвіваць мэліарацыі. Яно прымае ўсе меры да таго, каб па магчымасьці ўсё сялянства, землякарыстаньне якога патрабуе мэліарацыі, а таксама тыя вёскі, якія знаходзяцца паблізу балотных дзяржаўных масываў, уцягнуць у мэліарацыйныя таварыствы, каб шляхам правядзеньня неабходных мерапрыемстваў пашырыць і палепшыць сялянскае землякарыстаньне.

Вось на гэтых гаспадарчых мерапрыемствах, якія праводзяцца савецкай уладай у вёсцы і выказваецца ўся істота савецкае ўлады, таксама як сваю істоту выказвала царская ўлада, якая праводзіла ў мінулыя гады мэліарацыю толькі на карысьць паноў і на іх землях, і ні адзінага кроку не рабілася на карысьць сялян. Калі царскі ўрад і праводзіў мэліарыраваньне сваіх казённых зямель, дык карысьці селяніну ад гэтага ня было а ніякай. Зусім іншае становішча ствараецца зараз, калі дзяржава мэліарыруе казённыя землі. Усе гэтыя землі, прыстасаваныя пад сельска-гаспадарчыя ўжыткі перойцуць у працоўнае карыстаньне сялян у парадку каленізацыі (засяленьня) гэтых зямель. З тэхнічнага пункту гледжаньня, як і ў мінулым, так і ў сучасным, абсалютна аднолькавыя мерапрыемствы па мэліарацыі

*) У буржуазным мэліарацыйным заканадаўстве таксама прадугледжваецца большая роля ў гэтай галіне дзяржавы.

зусім зьмяняюць сваё гаспадарча-сацыяльнае нутро, у залежнасьці ад таго, якая ўлада іх праводзіць.

———

Якія-ж, прыкладам, асноўныя задачы бярэ на сябе савецкая дзяржава і коло якіх абавязкаў яна адводзіць насельніцтву, якое ў першую чаргу і павінна будзе скарыстаць вынікі мэліарацыйных мерапрыемств? Мы, нашым законадаўствам адводзім і кладзем на плечы дзяржавы ўсе асноўныя работы, правядзеньнем якіх можна было-б стварыць усе неабходныя ўмовы сялянскаму будаўніцтву ў гэтай справе. Можна сказаць безпамылкова, што ніводная, самая найдэмакратычная буржуазная дзяржава, у галіне мэліарацыі не праводзіла для сялянства такіх вялізарных мерапрыемств, і ніколі і нідзе не стварыла такіх магчымасьцяй, як гэта ў дадзены момант стварае і праводзіць савецкая ўлада. Па замыслу нашага законадаўства ў гэтай галіне, мы лічым, што дзяржава перад тым, як будзе праводзіцца сялянская мэліарацыя, павінна будзе ўзяць на сябе зьдзейсьненьне тых асноўных рэгулюючых мерапрыемстваў, якія па існасьці будуць зьяўляцца першым неабходным этапам і пачаткам мэліарацыйных мерапрыемстваў, якія нават аб'яднанаму ў мэліарацыйныя таварыствы сялянскаму насельніцтву будуць не пад сілу і якія з пункту погляду нашага навукова-плянавага будаўніцтва, рызыкоўна даручаць самому насельніцтву.

Сюды, па-першае, будуць палежаць нав.-дасьледчыя і вопытныя работы.

Балот мы маем шмат, зямель, якія патрабуюць таго ці іншага віду мэліарацыі,—яшчэ больш і, разам з тым, да гэтага часу ня маем нават простага падліку гэтых зямель.

Чарговай задачай нашага мэліарацыйнага будаўніцтва на бліжэйшыя часы будзе зьяўляцца—правядзеньне гэтае работы па падліку памянёных зямель. Але тут нельга будзе абмежавацца толькі простым арытмэтычным падрахункам зямель, а неабходна шпяхам навукова-дасьледчых работ высьвятліць, якія гэта землі, для якіх гаспадарчых патрэб іх можна найлягчэй прыстасаваць і пры якіх абставінах, затратах па правядзеньню тых ці іншых тэхнічных мерапрыемстваў, іх можна максімальна эксплёатаваць.

Пры правядзеньні такіх работ, перад дасьледчыкам паўстае цэлая сэрыя тэхнічных, эканамічных, ды іншых пытаньняў, без належнага высьвятленьня якіх нельга пачынаць мэліарацыю, таму што ў такой справе лягчэй за ўсё напароцца на ўсялякія сыстэмы, дзякуючы якім могуць дарэмна прапасьці сродкі і праца і падарвацца добрая і зараз папулярная ідэя мэліарацыйнага будаўніцтва. Такая работа ў агульна-рэспубліканскім маштабе пад сілу толькі дзяржаве, якая можа запрасіць неабходную колькасьць спэцыялістых, затраціць патрэбную колькасьць сродкаў, скласьці вядомы плян і парадак правядзеньня гэтых мерапрыемстваў у шырокіх разьмерах. Калі ставіцца пытаньне аб мільёнах дзесяцін зямлі ў сэнсе гаспадарчага скарыстоўваньня іх новым парадкам, і калі гэта скарыстоўваньне залежыць ад вялізарных мэліарацыйных пабудоў, прыстасаваньня ўсіх аснаўных рэк у якасьці вадапрыёмнікаў, тут неабходна вялікая ў дзяржаўным маштабе навукова-дасьледчая праца.

Бязумоўна, гэтым зусім не выключаецца, а наадварот, робіцца неабходнай такая-ж праца і для мэліарацыйных таварыстваў, якая напэўна заўсёды вызначаецца абшарамі мэліарыраванае зямлі. Але само таварыства, па зусім зразумелых прычынах, у гэтых адносінах далей „свайго тыпу“ ня пойдзе, пагэтаму неабходна агульная асноўная і кіруючая наву-

кова-дасьледчая праца ў галіне мэліарацыі, якая праводзілася-б самой дзяржавай.

Калі-ж ўзяць такую справу як вопытная, якая патрабуе вялікіх затрат сродкаў, без адпаведнага непасрэднага звароту гэтых затрат, якія толькі з часам акупаюцца ў калясальных разьмерах пры прыстасаваньні вынікаў досьледаў да масы гаспадарак, дык стане зусім зразумелым, што такая праца павінна праводзіцца галоўным чынам за сродкі дзяржавы, якая не пашкадуе сродкаў для выкрыцьця новых спосабаў на культуры няпрыгодных зямель. Нам добра вядома, што вялізарныя багацьці нашых балотаў былі выкрыты толькі тады, калі навука „залезла" ў гэтыя балоты і на практычных прыкладах свае працы паказала, якія цуды можна ўтвараць на дзікіх землях. Бяз гэтых надзвычайна дзіўных прыкладаў і фактаў цяжка і немагчыма было-б стварыць такі будаўнічы энтузіязм да сучаснага нашага мэліарацыйнага будаўніцтва.

Поплеч з дзяржаўнай вопытнай справай. павінна і будзе пашырацца шляхам закладваньня вопытных і паказальных вучасткаў вопытная праца і на сялянскіх землякарыстаньнях самым насельніцтвам. Але гэтай працай будуць галоўным чынам папулярызавацца тыя дасягненьні і мажлівасьці, якія ўжо выкрыты вопытнымі станцыямі і фактычна такая праца будзе прыстасаваньнем да практычнага прымяненьня выкрытых досьледамі дасягненьняў. Будзе тое, што інвэнтар навуковых досьледаў пяройдзе ў працоўныя рукі сялян і будзе скарыстоўвацца імі ў іхным гаспадарчым будаўніцтве.

---

Нельга тварыць правільныя мэліарацыйныя прадрыемствы без складаньня *агульных плянаў* работ, якія па існасьці будуць ахапляць тысячы дзесяцін зямлі. У нашых умовах складаньне амаль што кожнага такога пляну будзе мець сувязь з рэгуляваньнем якога-небудзь з вадаўспрыёмнікаў, да якіх у большасьці выпадкаў. належаць рэкі. Тут маленькім плянам якога-небудзь аднаго, двух і нават некалькі таварыстваў ня толькі нічога ня зробіш, але нават можаш патапіцца ў балоце разам з гэтым сваім маленькім плянам і са сваімі добрымі імкненьнямі.

Практыка паказала, што рэгуляваньне ўсіх асноўных водаўспрыёмнікаў павінна быць справай дзяржавы і толькі пасьля правядзеньня гэтых работ створацца магчымасьці і ўмовы для сялянскіх работ, пад якія сродкамі дзяржавы будзе падведзен моцны падмурак.

Сялянства дзесяцігодзьдзямі і стагодзьдзямі жыло на балотах, цярпела рознае ліха ад іх, але нічога не магло дарадзіць датуль, пакуль дзяржава не пачала прыкладваць і будаваць вадаўспрыёмнікі. Праўда, што ў старыя часы на гэта былі адпаведныя прычыны, аб якіх я ўжо казаў, але зараз пры савецкай уладзе пачаткам шырокага мэліарацыйнага будаўніцтва можна лічыць той момант, калі мы плянава пачалі праводзіць вадаўспрыёмнікі. Толькі пасьля гэтых нашых работ сялянства масай ўскаланулася і пачало, па яго уласнаму выразу, „грызьці зямлю зубамі"...

Пагэтаму, складаньне і выкананьне плянаў рэгуляваньня рэк, вадазьмясьцілішчаў, нашым заканадаўствам прадугледжваюцца як заботы дзяржаўнага значэньня і ўтварэньне іх павінна ісьці за разрахунак казны. Да катэгорыі гэтых работ будуць таксама належаць пабудова аснаўных каналаў, магістраляй і ўсялякіх іншых пабудоў, якія павінны будуць ствараць неабходныя ўмовы для сялянскіх мэліарацыйных работ. Поплеч з гэтым да веданьня і абавязкаў дзяржаўных ворганаў павінна належаць падрыхтоўка і

ўтрыманьне яго тэхнічнага пэрасаналу, як па гідратэхніцы, таксама і па культуртэхніцы. Такія выдаткі на спэцыялістых неабходны ў дадзены момант нашага мэліарацыйнага будаўніцтва, асабліва калі гэтыя работы знаходзяцца яшчэ ў пачатковай стадыі разьвіцьця і калі насельніцтва яшчэ не пасьпела і не змагло атрымаць адпаведнае карысьці ад мэліарыруемае зямлі, таму што гэтыя прыбыткі будуць пастурпаць толькі праз некалькі год і насельніцтва, пры яго беднасьці, бязумоўна, ня ў сілах будзе само траціць сродкі на ўтрыманьне спэцыялістых. Патрэба ў гэтым пэрсанале пры тым размаху працы, які пачаўся і тэй непрыстасаванасьці насельніцтва да гэтае працы, якую мы назіраем, гэта патрэба з кожным годам будзе ўзрастаць і патрабаваць вялікіх затратаў, якія не пад сілу сялянству. Падрыхтоўка і ўтрыманьне спэцыялістых, асабліва на першых парах, павінна быць ускладзена на плечы дзяржавы. У далейшым, па меры павялічэньня тэй карысьці, якую насельніцтва будзе атрымоўваць ад гэтых зямель, створацца эканамічныя мажлівасьці для таго, каб частку іх, асабліва культуртэхнікаў, перавесьці на сродкі організаванага насельніцтва. Поруч з усімі гэтымі выдаткамі, дзяржава бярэ на сябе назіраньне і кантроль за ўсімі мэліарацыйнымі пабудовамі, незалежна ад таго, кім яны былі пабудованы, а таксама права нагляду за правільнаю эксплёатацыею мэліарыраваных зямель.

Вось галоўнейшыя плянавыя работы і мерапрыёмствы, якія павінны зьяўляцца дзяржаўнымі. Па прыблізных нашых падрахунках яны будуць складаць ня менш 50 проц. вартасьці ўсіх работ.

Да абавязкаў насельніцтва пасьля таго, як дзяржавай будуць створаны неабходныя ўмовы для мэліарацыйнага будаўніцтва, будуць належаць работы, якія знаходзяцца ў сувязі з канчатковым асваеньнем і прыстасаваньнем да культурнага сельска-гаспадарчага скарыстоўваньня зямель. Тут, прыкладна, можна пералічыць, такія мерапрыемствы, як пабудова сетак для абсушкі ці абвадненьня, якія знаходзяцца ў сувязі з мэліарыруемым вучасткам, правядзеньне культуртэхнічных работ, куды ўвойдуць ворава, раскарчоўка, сяўба, пабудова дранажу, рамонт і нагляд за праведзенымі пабудовамі і шмат іншай работы.

Я баюся, каб такое тлумачэньне задач па мэліарацыі не зразумелі-б так, што мы занадта многа работ бярэм на кошт дзяржавы і вельмі мала даем месца ініцыятыве і сродкам самага насельніцтва.

На самой справе гэта ня так. Пасьля нашых вялікіх дзяржаўных работ, перад сялянскім насельніцтвам, якое занята мэліарацыйнай працай, паўстануць яшчэ большыя задачы і яшчэ большыя цяжкасьці, чым яны стаялі перад дзяржавай. Да гэтага часу, нажаль, мы, разам з насельніцтвам, аддавалі занадта многа ўвагі і захапленьня нашым каналам, якія так шпарка глытаюць балотную ваду, а таксама шпаркай абсушцы непраходных балот, па якіх цяпер пачалі ўжо езьдзіць на калёсах, але мала думалі аб далейшай культуры гэтых балотаў, мяркуючы, што калі абсушылі, дык там сама ўжо культура, якая захочаш, вырасьце і без далейшых мерапрыёмстваў. А на самай справе, мы праводзім толькі так званую экстэнсіўную мэліарацыю, якая абмяжоўваецца, галоўным чынам, толькі абсушкаю балотаў. Гэтым самым мы зрабілі толькі першыя крокі да таго, каб заваяваць дзікія землі. Вельмі дрэнна, што яшчэ да гэтага часу сялянства лічыць, што мэліарацыя абмяжоўваецца толькі абсушкай і боль-

шасьць мэліарацыйных работ, якія праводзіліся насельніцтвам залічае да мерапрыёмстваў, зьвязаных, галоўным чынам, з абсушкай.

Культуртэхніка толькі за апошні час пачынае прыівацца. На тое былі адпаведныя і вельмі ўважлівыя прычыны, якія заключаюцца ў тым, што культуртэхніка, калі судзіць з пункту погляду парадку пасьлядоўнасьці работ, і павінна разьвівацца пасьля гідратэхнікі.

Значыцца, да таго часу, пакуль не праведзены гідратэхнічныя работы, няма ні тэхнічнай ні эконамічнай базы для культуртэхнічных мерапрыёмстваў. Работамі па мэліарацыі ў папярэднія гады гэтыя ўмовы намі ствараліся і зараз, паралельна з работамі па абсушцы балотаў, павінны будуць праводзіцца культуртэхнічныя мерапрыёмствы. Пачынаецца паласа для культуртэхнічнага будаўніцтва, і вось зараз і патрэбны будуць вялікія затраты сродкаў з боку нашых мэліарацыйных таварыстваў.

Але з гэтымі работамі, якія прыпадаюць выключна на кошт насельніцтва, яно, без адпаведнай дапамогі з боку дзяржавы, ня зможа справіцца і мы павінны будзем для насельніцтва організаваць адпаведны грашовы крэдыт, наладзіць дастаўку яму неабходнага насеньня і штучных угнаеньняў, машыны і іншыя сродкі вытворчасьці, а таксама забясьпечыць работы тэхнічным кіраўніцтвам спэцыялістых.

VII.

Самым галоўным і асноўным пытаньнем, ад правільнае пастаноўкі і вырашэньня якога будзе залежаць пасьпяховае разьвіцьцё мэліарыйнае справы, зьяўляецца ўстанаўленьне права, парадку і сталасьці землякарыстаньня на мэліарыруемых і мэліарыраваных землях. У галіне гэтых пытаньняў трэба перш за ўсё ўстанавіць—каму будуць прадастаўляцца землі, якія патрабуюць правядзеньня мэліарацыйных мерапрыёмстваў. У дадзеным выпадку мэліарацыйны закон бярэ ў аснову прыкладна той парадак прадастаўленьна зямель, які, як я казаў, існуе і на другія землі сельска-гаспадарчага прызначэньня.

Згодна мэліарацыйнага кодэксу, землі будуць прадастаўляцца насельніцтву ў парадку працоўнага землякарыстаньня, установам і прадпрыёмствам, якія будуць праводзіць мэліарацыі зямель, для якіх-небудзь сваіх гаспадарчых патрэб, напрыклад:—саўгас будзе мэліарываваць свае забалочаныя ужыткі для палепшаньня кармовага становішча жывёлагадоўлі, або фабрыка будзе праводзіць мэліарацыю для далейшых торпараспрацовак. Акрамя таго, калі будуць організоўвацца спэцыяльныя фонды зямель з мэтамі нутраное калёнізацыі, г. з. за кошт, галоўным чынам дзяржавы, тады пры ўдзеле насельніцтва будуць прыстасоўвацца масывы непрыгодных зямель, галоўным чынам з тарпяных і травянных балот, і для засяленьня іх безьзямельным і малазямельным сялянствам. Панскія землі ў сучасны момант ужо перайшлі ў рукі сялянства і зараз надыходзіць пара разьмеркаваньня спэцыяльнага організаванага фонду для бяднейшага сялянства, які ў бліжэйшыя часы будзе перададзен, а пасьля таго адзіным фондам, на які можна спадзявацца ў сэнсе данадзяленьня будуць зьяўляцца няўдобныя землі, якія да таго часу трэба прыстасаваць пад сельска-гаспадарчыя ўжыткі. І як ні цесна перанаселена наша Рэспубліка, аднак ня гледзячы на гэта, мы яшчэ маем некаторыя магчымасьці для ўнутры—рэспубліканскай калёнізацыі. Месцам для яе будзе служыць галоўным чынам раён Палесься, дзе яшчэ да гэтага часу вельмі рэдкае насельніцтва, і дзе яшчэ, дзякуючы вя-

лікай забалочанасьці, маюцца вялізарныя абшары балот, якія і зьявяцца месцам ўнутраное калёнізацыі. Прыдзецца нашую глухую краіну, Палесьсе, якое зьяўляецца самым заняпалым раёнам у сельска-гаспадарчых адносінах, мэліарыраваць і засяляць.

Больш за ўсё складаным і спутаным зьяўляецца пытаньне аб працоўным карыстаньні, таму, што адна частка зямель, патрабуючых мэліарацыі, ўжо знаходзіцца ў працоўным карыстаньні, другая частка,—быўшыя непрацоўныя землі, па існуючаму зямельнаму заканадаўству лічацца ў працоўным карыстаньні. Пры такой прававой спутанасьці пытаньня, ствараецца такое становішча, дзякуючы якому, і ня гледзячы на тое, што мы маем больш мільёну дзесяцін балот, прыгодных для сельска-гаспадарчых ужыткаў, мы пакуль што ня можам вырашыць, якія землі з мэліарыруемых мы можам скарыстаць для патрэб калёнізацыі. Акрамя таго, мы ня ведаем, якой дакладна колькасьцю зямлі ўладаюць тыя зямельныя вобчаствы, за якімі лічацца няўдобныя вучасткі і ня ведаем таксама, якіх разьмераў гэтыя вучасткі. Усё гэта ўскладняе пытаньне аб унутрырэспубліканскай калёнізацыі.

Аднак, такое становішча не затрымае нашага мэліарацыйнага будаўніцтва і работа будзе праходзіць, галоўным чынам, у такім парадку, што большасьць мэліарыраваных вучасткаў пойдзе ў парадку прырэзкі да тых удобных сялянскіх зямель, з якімі мяжуецца той ці іншы балотны масыў. Пры такой палітыцы калёнізацыйны фонд фактычна будзе ствараецца ў кожным зямельным вобчастве, дзе будзе праходзіць мэліарацыя. Такая мэліарацыйная палітыка, па нашай думцы, будзе найбольш эканамічна-карыснай для дзяржавы і больш за ўсё адпавядаючай інтарэсам сялянскага насельніцтва. Дзяржава, пры такім становішчы, будзе мець кадры гаспадарак, зацікаўленых у пашырэньні землякарыстаньня, прычым амаль што ўсе такія сяляне будуць распалагаць сваімі гаспадаркамі і, такім чынам, будуць зьяўляцца матар'яльна больш-менш забясьпечаным элементам, які, седзячы на месцы, будзе дабівацца павялічэньня колькасьці зямель. Сялянства будзе здабываць карысьць таму, што пры такім ходзе работ ня трэба будзе сьпяшацца з перасяленьнем, якое зьвязана з вялікімі затратамі сродкаў, патрэбных для самой мэліарацыі.

У гэтым кірунку цікавасьць набывае другі бок пытаньня, які патрабуе яснасьці. Тут мы сустрэнемся з такімі фактамі, на якія неабходна даць з прававога боку практычны адказ. Да таго моманту, пакуль землі знаходзіліся ў дзікім выглядзе і ня прыносілі ніякае карысьці, яны знаходзіліся, галоўным чынам, у грамадзкім карыстаньні, і ніхто з земляўпарадкавацеляў не дабіваўся ўстанавіць разьмеры яго землякарыстаньня на гэтых землях. Катэгарычныя патрабаваньні ўстанавіць гэтае землякарыстаньне напэўна пачнуцца, калі пройдуць мэліарацыйныя работы, калі насельніцтва ўбачыць істотную карысьць ад гэтых зямель. Гэты момант мы павінны прадугледзіць у сваім заканадаўстве таму, што па гэтаму пытаньню з боку сялян будзе найбольш спрэчак і судовае цеганіны. І сапраўды, тут спутаны вузел таму, што тыя няўдобныя землі, якія да рэвалюцыі знаходзіліся ў руках сялян, у значнай сваёй частцы былі ў руках заможных, якія і будуць імкнуцца да таго, каб іх пакінулі і надалей пры іхным быўшым землькарыстаньні. Бядняк-жа, які мае вельмі нязначную колькасьць прыгодных зямель, яшчэ менш мае зямель няўдобных. Тыя-ж няўдобныя землі быўшага непрацоўнага карыстаньня, якія перайшлі ў карыстаньне сялян,

у большасьці выпадкаў ніякаму разьмеркаваньню яшчэ не паглягалі і, пагэтаму, з самага пачатку правядзеньня мэліарацыйных работ, трэба будзе вырашыць пытаньні, зьвязаныя з разьмерамі землякарыстаньня. Па маёй думцы, у дадзеным выпадку, ня варта імкнуцца дасканала вызначаць разьмер землякарыстаньня на гэтыя землі, ды гэта будзе, па існасьці, і немагчымая ў большасьці выпадкаў задача. У падобных выпадках, лепш за ўсё разьмер працоўнага карыстаньня кожнага члена мэліарацыйнага таварыства, ці асобнага землякарыстацеля, вызначыць перад пачаткам правядзеньня мэліарацыйных работ.

Праводзячы ўсе мерапрыёмствы па мэліарацыі, дзяржава мае на ўвазе дзьве мэты: з аднаго боку, непрыгодныя землі зрабіць культурнымі, а з другога,—правесьці дапатковае землянадзяленьне беззямельнага і малазямельнага сялянства. Бяднейшае сялянства павінна ведаць, што фонд мэліарыраваных зямель будзе апошнім фондам, адкуль можна будзе атрымаць дадатковы надзел, пагэтаму яно павінна быць само досыць актыўна ў гэтых адносінах, тым больш, што магчымасьці для асваеньня гэтых зямель маюцца вялікія.

Устанаўліваючы разьмер землякарыстаньня кожнага ўдзедьніка мэліарацыі перад правядзеньнем работы, па мойму, трэба выходзіць з такіх палажэньняў: па-першае, з неабходнасьці правясьці дадатковае землянадзяленьне беднаты зямлёй, для якой гэтыя балотныя землі з'яўляцца новым каленізацыйным фондам; па-другое, разам з беднатой уцягнуць ў мэліарацыйнае будаўніцтва сілы і сродкі серадняка, пры дапамозе якога, у большай меры створацца мажлівасьці для правядзеньня мэліарацыі і, дзякуючы гэтаму, будзе пашырана таксама і землякарыстаньне серадняка. Пры такой пастаноўцы пытаньня, мы будзем мець мажлівасьць эканамічна замацаваць саюз паміж бедняком і серадняком вёскі. Па-трэцьцяе,—вывучыць пытаньне аб існаваньні землякарыстаньня на забалочаных землях, устанавіць канчатковы разьмер землекарыстаньня, прыстасоўваючыся да тых нормаў землякарыстаньня, якія будуць устаноўлены і на мэліарыраваныя землі.

Але уцягваючы бедняка і серадняка, ў першую чаргу, ў мэліарацыйнае будаўніцтва, як асноўную масу, мы, ў той-жа час ня можам зусім зачыніць дзьверы да мэліарацыі і для заможнай вярхушцы вёскі, якая мае для гэтае мэты і неабходныя сродкі і сілы. Уцягваньне заможнае вяршынкі вёскі ў мэліарацыйныя мерапрыёмствы, па маёй думцы, ніякае небясьпекі ня створыць, а для нас гэта будзе эканамічна карысна, ў зьвязку з тым, што капіталы іхнія, замест квотніцтва, будуць скарыстаны для нашых вытворчых мэтаў і скарыстаны на каапэрацыйных началах, шляхам уцягваньня іх ў мэліарацыйныя таварыствы. Пры такой пастаноўцы пытаньня, само сабой зразумела, што перад намі стаіць неабходнасьць пашырыць існуючыя нормы землякарыстаньня, якія прыстасованы, галоўным чынам, для удобных зямель, і якія прымяняліся пры дадатковым землянадзяленьні і ўнутрысялённым землеўпарадкаваньні, не даючы указаньня адносна мэліарыраваньня зямель.

Мы лічым, што выходзячы з інтарэсаў нашае аграрнае палітыкі, якая становіць адну з асноўных задач як найшырэй скарыстаць усе няпрыгодныя землі, што трэба існуючыя максімальныя нормы павялічыць за лік мэліарацыйных зямель ў паўтара разы для асобных гаспадарак, а для калектываў—удвая. Толькі праводзячы такое пашырэньне нормаў, мы дадзім юрыдычную мажлівасьць і тэй частцы вёскі, якая хоць і мае неабходную

норму зямлі, уцягнуцца ў гэтыя работы і ўносіць свае сродкі і сілы. Павінна быць зразумелым для усіх, што, без мажлівасьці пашырыць свае існуючае землякарыстаньне, ніводзін селянін не уцягнецца ў мэліарацыю. У дадзеным выпадку дабрачыннасьці мы не атрымаем, хоць-б і на такую добрую справу, як мэліарацыя, калі селянін ня будзе мець прырэзу зямлі.

Разьмер землекарыстаньня для кожнага удзельніка павінен вызначыцца ў самым вобчастве спэцыяльнай камісіяй, ў якую абавязкова павінен уваходзіць і мэліаратар. Гэта работа Камісіі павінна лічыцца як праэкт, які абавязкова разглядаецца і зацьвярджаецца раённай Зямельнай Камісіяй. Апошняя павінна лічыцца з усімі тымі разнагалосьсямі, якія будуць узьнікаць на месцы, ў парадку разгляду спрэчных спраў.

Мы далі такое шырокае тлумачэньне мэліарацыі з прычыны існуючых апасак, што для падвышэньня нормы землекарыстаньня, землекарыстацель будзе праводзіць якое-небудзь частковае мерапрыёмства з тою мэтаю, каб атрымаць падвойную норму зямлі, і што на гэтай глебе могуць паўстаць злоўжываньні. Магчымасьць такіх непаразумеьнняў павінна быць прадугледжана законам ў такім парадку, што толькі той селянін будзе мець права на пашырэньне свайго землякарыстаньня, якім будуць зроблены ўсе стадыі мэліарацыйных работ, прадугледжаных плянам, ці дадзена на гэта адпаведныя абавязацельства, якія гарантуюць іх утварэньне. Пляны, вядома, будуць складацца гідратэхнікамі, культуртэхнікамі і зацьвярджацца зямельнымі органамі. Дзякуючы гэтаму, чакаць такіх выпадкаў, што за выкапку студні будуць павялічваць максімальную норму ў паўтара разы, ня прыходзіцца. Максімальныя нормы будуць павялічвацца толькі за кошт падлягаючых зямель, якія зьяўляліся не выкарыставанымі ў гаспадарчых адносінах і належаць да катэгорыі няпрыгодных, ці бросавых зямель.

Для таго, каб уцягнуць шырокія масы сялянскага насельніцтва ў правядзеньне мэліарацыі, неабходна, поплеч з пашырэньнем нормаў землякарыстаньня, стварыць і іншыя спрыяючыя умовы. Да такіх мер, якія будуць ствараць стымул для ўцягваньня, належыць, галоўным чынам, сталае замацаваньне за кожным землякарыстацелям тых вучасткаў, на якіх будуць праведзены мэліарацыйныя мерапрыёмствы.

Закон у гэтым кірунку ідзе даволі далёка насустрач сялянству і ўводзіць такое палажэньне, згодна якому мэліарыруемые вучасткі застаюцца за тымі землякарыстацелямі, якія правялі гэтыя палепшаньні, нават у тых выпадках, калі праводзіцца ўнутрысяленны ці іншы від земляўпарадкаваньня, калі-б нават гэтыя вучасткі уваходзілі ў агульную дачу разьверстаньня, яны застаюцца за старымі землякарыстацелямі бяз зьмены межаў.

Увядзеньне такога палажэньня ў закон дасьць шырокую магчымасьць сялянству бяссумненна праводзіць палепшаньне, як зямель, якія знаходзяцца ў яго працоўным карыстаньні, таксама і новых зямель, якія яно зможа атрымаць у якасьці прырэзу з няпрыгодных. Усім вядома, што наша сялянства любіць, як кажуць, пакарыстацца дармавізнай і праводзіць такую палітыку ў адносінах да суседа:—ты, брат, мэліарыруй, паляпшай зямлю, а а мы паглядзім; а як толькі сусед скончыць працу па палепшаньню, дык тады падымаецца такі гвалт, што палепшаная (мэліарыраваная) зямля пойдзе ў агульную разьвёрстку, і таго, хто папяпшаў, назавуць яшчэ вар'ятам. Каб такіх выпадкаў. якія затрымліваюць арганізацыю культурнага інтэнсыўнага земляробства, ня было, зякон і ствараe гарантыі кожнаму селяніну ў тым, што ў выпадку ўтварэньня ім мэліарацыі, гэтая зямля за-

стаецца за ім у сталым землякарыстаньні пры ўсялякіх умовах, калі толькі ня будзе агульна-дзяржаўных прыбыткаў у гэтай зямлі. Толькі ў выключных выпадках закон дапушчае адрэзку мэліарыраваных зямельі калі гэта будзе выклікацца дзяржаўнымі патрэбамі, напрыклад, для правядзеньня жалезнай каляі, пабудовы фабрыкі і г. д. Тады дзяржава можа праводзіць адрэзку гэтых зямель, заплаціўшы з пачатку поўную суму тых затрат, якія былі ўкладзены ў мэліарацыю дадзенага вучастку.

Такім чынам, да стымулаў, якія ствараюць эканамічную зацікаўленасьць для сялянства і пасоўваюць вёску на мэліарацыю, належыць стварэньне сталага землякарыстаньня, на падставе якога, нават пры земляўпарадкаваньні мэліарыраваныя землі застаюцца ў сталым карыстаньні бязьзьменна, па-другое, павялічэньне нормаў землякарыстаньня да разьмераў у паўтара разы большых.

Усе гэтыя палажэньні аб мэліарыраваных землях выклічуць вялікую зацікаўленасьць вёскі да гэткага будаўніцтва.

Разам з тым, калі законадаўства—дасьць такія выгады ўдзельнікам мэліарацыйнага будаўніцтва, мы будзем рашуча весьці барацьбу з тымі вобчаствамі і асобнымі гаспадаркамі, якія, маючы забалочаныя землі, адказваюцца праводзіць мэліарацыйныя палепшаньні і пакідаюць няпрыгодныя землі ў тым выглядзе, у якім яны знаходзяцца зараз. У такім выпадку, мы маем справу з гаспадаркамі, якія, як гэта кажуць,—„ляжаць на сене (ды яшчэ на якім добрым сене), самі не ядуць, ды і другім не даюць". Звычайна, такія самыя каштоўныя па якасьці землі скарыстоўваюцца толькі пад выганы, але на іх ніколі і ніякіх палепшаньняў не робіцца. Гэтыя выганы такія, што на іх скот можа толькі галадаваць—і фактычна галадуе. Пры гэтым, шмат якія вобчаствы і асобныя гаспадаркі, хаця і маюць усе патрэбныя мажлівасьці да таго, каб праводзіць палепшаньні, наадрэз ад гэтага адказваюцца, чым прыносяць вялікую шкоду як сабе асабіста, так і дзяржаве. Дапушчаць ў далейшым такое становішча не мажліва; закон вырашае так, што ў выпадку адказу з боку насельніцтва праводзіць мэліарацыю падобных зямель, яны будуць адбірацца ў прымусовым парадку і будуць перадавацца тым вобчаствам і землякарыстацелям, якія пойдуць на ўтварэньне гэтых палепшаньняў. Прынцып прымусовага адабраньня зямель пашыраецца і на землі працоўнага карыстаньня, якія патрабуюць мэліарацыйных палепшаньняў. Гэтым самым мы хочам сказаць, што наяўнасьць непрыгодных зямель у вобчастве ці ў гаспадарцы зьяўляецца не няшчасьцем, а брыдотай, нават злачынствам, якое неабходна і трэба прыкончыць шляхам адабраньня гэтых зямель.

Адабраньне зямель будзе ўтварацца як для іншых сялян, якія пажадаюць правесьці палепшаньне, таксама і ў дзяржаўны фонд, калі ня знойдзецца ахвотнікаў іх паляпшаць. Дзяржава сама іх мэліарыруе і скарыстоўвае як калёнізацыйны фонд для засяленьня беззямельнымі і малазямельнымі сялянамі з тых раёнаў, дзе адчуваецца вострая патрэба ў зямлі.

Далей спынімся на пытаньні аб парадку і формах землякарыстаньня і на тым, як будуць утварацца мэліарацыйныя работы. Адносна формы землякарыстаньня закон дапушчае поўную слабоду выбару гэтых формаў, таксама як і на ўдобных землях. Мы адкідаем прынцыпы прымусовай калектывізацыі на мэліарыраваных землях і лічым, што прымусам вёску не калектывізуеш. Для гэтага патрэбны адпаведныя эканамічныя мерапрыёмствы і ўмовы. Дапушчаючы слабоду выбару форм землякарыстаньня, мы

гэтым самым кажам селяніну, што ён можа карыстацца мэліарыруемай зямлёй самотна ці калектыўна, як ён пажадае. Практыка паказала, што сяляне для ўтварэньня мэліарацыйных мерапрыёмстваў хаця і аб'яднаюцца ў таварыствы для больш пасьпяховага правядзеньня работ, але землякарыстаньне ўстанаўліваецца самотнае. Гэтыя паступкі сялян можна тлумачыць тым, што мэліарыраваныя землі ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца толькі дадаткам да іхнага асноўнога фактычна самотнага землякарыстаньня і яны на мэліарырваных землях праводзяць форму землякарыстаньня па ўзору і падабенству сваёй вясковай формы.

На тых вучастках, дзе будзе праводзіцца калёнізацыя, і дзе ўсё землякарыстаньне будзе складацца з мэліараваных зямель, можна будзе адразу-ж арганізаваць калектыўнае земляробства. Праўда, што спрыяючыя ўмовы маюцца для калектывізацыі і ў тым выпадку, калі праводзіцца толькі прырэзка. Сяляне адзіночным парадкам ня могуць справіцца з работамі, і іхны жыцьцёвы вопыт у гэтай справе досыць моцна пераканаў іх, што самотныя мерапрыёмствы бескарысны, і не дарэмна яны масамі, ў большасьці па сваёй ініцыятыве, аб'яднаюцца ў мэліарацыйныя таварыствы. У далейшым, пасьля сканчэньня мэліарацыйных работ, хаця зямля скарыстоўваецца і ў парадку самотным, але зробленыя мэліарацыйныя пабудовы могуць прыносіць карысьць толькі ў тым выпадку, калі яны застануцца ў калектыўным карыстаньні.

Далейшае набыцьцё спэцыяльнага інвэнтару пад сілу будзе толькі таварыствам, а не самотнай гаспадарцы. Пагэтаму, эканамічныя варункі для калектыўнага карыстаньня мэліарыраванай зямлёй маюцца ў наяўнасьці і толькі замацаванае карыстаньне і навычка падштурхваюць сялянства да драбленьня калектыўна асвоеных зямель.

Дапушчаючы, аднак, слабоду выбару форм землякарыстаньня, закон у парадку абавязковым прадугледжвае калектыўнае карыстаньне мэліарацыйнымі пабудовамі.

Іншага карыстаньня ў дадзеным выпадку і дапусьціць немажліва, таму што досыць толькі аднаму якому-небудзь члену таварыства, скажам, па злабе загарадзіць, ці заперці канал, які спускае ваду, як вада можыць затапіць землі ўсяго таварыства. Акрамя таго, калектыўным парадкам лягчэй праводзіць рамонт, уход за пабудовамі, рабіць у далейшым новыя палепшаньні і г. д.

Што тычыцца парадку мэліарацыйных работ, дык яны будуць утварацца, ў першую чаргу, ў тых мясцох, дзе утвораны насельніцтвам мэліарацыйныя таварыствы. Мэліарацыйны рух сярод сялянства зьяўляецца вернай прыметай таго, што ў дадзенай мясцовасьці вострае аграрнае перанасяленьне, ці будаўнічая цяга насельніцтва да арганізацыі інтэнсыўнае гаспадаркі. Як у першым, так і ў другім выпадку, сялянства зусім сьвядома выступае за безадкладнае палепшаньне непрыгодных зямель, прадастаўляючы нам тыя сродкі і рабочыя сілы, якія маюцца ў яго.

У такіх мясцох маюцца зусім спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця мэліарацыйных работ і поўная гарантыя таго, што справа будзе праходзіць з большым посьпехам і дасьць добрыя вынікі. Практыка такога падыходу да работу цалкам спраўджвае сябе, і мы лічым што яе трэба прытрымлівацца і надалей.

Але гэтым зусім не выключае неабходнасьці правядзеньня мэліарацыйных работ і ў тых мясцох, дзе яшчэ няма мэліарацыйных таварыстваў.

Фактычна роўналежна праводзіцца мэліарацыя як у раёнах з наяўнасьцю мэліарацыйных таварыстваў, так і ў тых, дзе іх няма. Але ў апошнім выпадку яна праводзіцца для такіх мэтаў, як арганізацыя каленізацыйнага фонду, рамонт старых мэліарацыйных пабудоў, для пабудовы сплаўных каналаў і г. д. Аднак, пры выбару месца работ, пераважнасьць аддаецца тым месцам, дзе насельніцтва да гэтага падрыхтавана.

VIII.

Далей стаіць пытаньне аб тым, на якіх землях дзяржава мае права праводзіць мэліарацыйныя мерапрыемствы? Тут закон дае выразны і недвухсэнсавы адказ, што дзяржава мае права праводзіць мэліарацыю на ўсіх землях бяз выключэньня. Іншае пастаноўкі гэтага пытаньня, пры сучасным нашым становішчы і разгарнутым мэліарацыйным будаўніцтве, і дапусьціць нельга. Самае нязначнае абмежаваньне такога права можа толькі зрываць нашы мэліарацыйныя мерапрыемствы і тым самым прыносіць вялікую шкоду справе.

Хоць мы зараз і маем значнае імкненьне сялян да утварэньня мэліарацыі, хоць гэта імкненьне ўжо практычна вылілася ў вялізарную работу, якая праводзіцца самым сялянствам, але, поплеч з гэтым цыемным зьявішчам, у кожнай вёсцы, у кожным сельсавеце можна спаткаць супрацiўнікаў, якія лічаць, што з балота толку ня будзе і таму не патрэбна займацца мэліарацыяй. Акрамя таго, на мэліарацыю ідуць толькі тыя вёскі, якія паблізу знаходзяцца ад балотных абшараў, або ў тым выпадку, калі гэтыя абшары лічацца ў іншым працоўным карыстаньні. Усе гэтыя сяляне мяркуюць пры дапамозе правадзімых мер палепшыць непасрэдна сваё матар'яльнае становішча, Вёскі, якія знаходзяцца далёка ад гэтых балот, і ў якіх пад носам не відно гэтае рэальнае выгады, будуць адносіцца пасыўна да мэліарацыі, калі толькі праводзімыя кяналы ня будуць парушаць іхнага землякарыстаньпя. Бязумоўна, яны могуць і актыўна перашкаджаць, калі, напрыклад, для абсушкі балота чужое вёскі неабходна будзе праводзіць каналы праз іх землякарыстаньні. Поплеч з гэтым будуць сустракацца і іншыя выпадкі, якія могуць затрымліваць разьвіцьцё мэліарацыйнага будаўніцтва, якое праводзіцца дзяржаўнымі органамі.

У сучасны момант дзяржаве прыходзіцца мець справу з вялікімі балотнымі абшарамі, водапрыемнікамі, для якіх у большасьці выпадкаў зьяўляюцца рэкі, да якіх прылягаюць цэлыя дзесяткі, а то і сотні вёсак. Тут могуць часта сустракацца выпадкі, калі асобныя вёскі будуць перашкджаць правядзеньню гэтых работ і тым самым затрымліваць, а то і зусім зрываць вялікія работы. Могуць быць і такія прыклады, калі прылягаючыя к балотам вёскі ў здавальняючай меры забясьпечаныя, прыгоднымі землямі і зусім не зацікаўленыя ў балотах, будуць адказвацца праводзіць мэліарацыю, а скарыстоўваць іх у якасьці пашы. Усе гэтыя няўдобныя землі неабходна будзе адабраць ад зямельных вобчаств для арганізацыі калёнізацыйнага фонду і для засяленьня сялянамі, якія маюць у зямлі патрэбу. Вядомая справа, што сяляне такіх вёсак будуць не згаджацца з правядзеньнем мэліарацыі і, магчыма, будуць супярэчыць супроць дзяржаўных мерапрыемстваў.

Штош-ж лепш у дадзеным выпадку і правільней дзяржаве рабіць? Ці пакінуць гэтыя вельмі каштаўныя для сельска-гаспадарчай культуры балоты ў якасьці пашы вёскам і без таго ў здавальняючай меры забясь-

печаным удобнымі землямі, ці гэтыя балоты скарыстаць для калёнізацыйлага фонду і такім чынам пачаць іх эксплёатацыю з найвялікшай вытворчасьцю? Усякі адкажа, што правільней будзе прыстасаваньне пад калёнізацыю гэтых балот. На практыцы сустрэнем яшчэ тысячы прыкладаў, якія могуць так ці іначай стрымліваць нашы мэліарацыйныя работы. Задача нашага савецката законадаўства заключаецца ў тым, каб усебакова прадугледзіць прычыны, якія могуць стрымліваць наша будаўніцтва і ўнесьці ў закон такія палажэньні, якія-б цалкам выключылі гэтыя тормазы (перашкоды) і, як дзяржаве, так і насельніцтву разьвязвалі-б рукі для больщага мэліарацыйнага будаўніцтва. Пагэтаму закон і гаворыць, што дзяржаўныя органы маюць права праводзіць мэліарацыю на любых землях, а сяляне як адзінкі, так і аб'яднаныя ў мэліарацыйныя таварыствы, маюць права на прымусовае правядзеньне мэліарацыйных работ, калі гэта тэхнічна неабходна, і на землях чужога карыстаньня. Такім чынам, адна з асноўных прычын, якая перашкаджала ў старыя часы прыватнай уласьнасьці на зямлю, зяймацца справай мэліарацыі,—нашым законадаўствам зусім адкідаецца і закон рашуча становіцца на бок сялян актыўных у гаспадарчых мерапрыемствах па культуры балотаў. Галоўнейшай догмай і прынцыпам нашага закону павінна быць задача найвялікшага разьвіцьця нашае гаспадаркі, разам з перабудовай яе і рэарганізацыяй на сацыялістычных асновах. Тым жа перадавым сялянскім масам, якія актыўна пачынаюць адбудоўваць і рэарганізоўваць сялянскую сельскую гаспадарку, якія пераварачаюць дзікія балоты ў найкультурнейшыя сельска-гаспадарчыя ўжыткі, закон рашуча павінен іськці на сустрэч.

Аднак, закон ня толькі разьвязвае сабе і насельніцтву рукі у мэліарацыйным будаўніцтве, але і ўводзіць нават некаторы прынцып прымусу для тых селян, праз землякарыстаньне якіх будуць правадзіцца мэліарацыйныя мерапрыемствы і ад якіх яны будуць атрымоўваць карысьць. У такіх выпадках землякарыстацель павінен удзельнічаць сваёй працай у мэліарацыйных работах, ці зрабіць адплату ў разьмеры тых выгад, якія ён атрымае ў выніку правядзеньня мэліарацыйных палепшаньняў. Што тычыцца страт, якія могуць быць прычынены землякарыстацелю дзаржаўнымі мэліарацыйнымі мерапрыемствамі, дык закон ніякіх адплат не прадугледжвае, у зьвязку з тым, што пры нашых вялікіх работах можа быць з боку нездаволеных прад'яўлена столькі, нават і безпадстаўных прэтэнзій, якія зьявяцца толькі вялікім тормазам і зьвядуць „на-нет“ шырокае права дзяржавы на правядзеньне мэліарацыйных работ.

Тут яшчэ патрэбна ўлічваць і тое, што дзяржава бярэцца выконваць, у першую чаргу, работы эканамічна здавальняюча карысныя, якія ўсё-ж у паасобных выпадках могуць прыносіць некаторую шкоду. Дзякуючы гэтаму, дзяржаве для правядзеньня вялікіх гаспадарча цалкам—карысных мерапрыемств неабходна плаціць, як быццам выкупляць у іх права на правядзеньне гэтых неабходных дзяржаўных работ. Прынцыпова патрэбна ў дадзеным выпадку стаць на такі пункт погляду, каб ніхто і нічога, ні прама, ні пабочна не тармазіў дзяржаўным органам займацца правядзеньнем мэліарацыйных работ. Што-ж тычыцца шкоды, якая можа быць прычынена мэліарацыйнымі таварыствамі, або асобнымі землякарыстацелямі праводзячымі работы, дык адплата страт з іх боку прадугледжваецца (але не за зямлю).

Тут маюцца на мэце, галоўным чынам, такія страты як зьнішчэньне

часткі пасеву, напрыклад, альбо калі канава праходзіць цераз гарод, канюшыну, альбо калі неабходна знасіць будоўлю. У такім выпадку пацярпеўшаму павінны быць выплачаны страты. Але разам з тым, калі тая асоба, праз зямлю якой праводзяцца мэліарацыйныя пабудовы, будзе ад гэтага атрымліваць карысьць, то яна абавязваецца працай альбо грашовымі выдаткамі ўдзельнічаць у правядзеньні гэтых работ.

Да парадку правядзеньня мэліарацыйных работ дадаецца яшче і такое палажэньне, згодна якому забараняецца (без адпаведных досьледаў і пляну) праводзіць самачынна мэліарацыйныя мерапрыемствы. Гэта палажэньне тычыцца, галоўным чынам, воднае мэліарацыі. Неабходнасьць яго ўвядзеньня тлумачыцца тым, што ў нас на практыцы ўжо былі выпадкі, калі без тэхнічнае дапамогі і ўказаньняў выкапваліся сялянствам канавы, каб спусьціць з балота ваду, а выходзіла якраз наадварот: вады прыбывала больш, таму што работы не адпавядалі простым тэхнічным запатрабаваньням. Пагэтаму, самачынныя мерапрыемствы па воднай мэліарацыі дапускацца не павінны і не будуць.

У адносінах да іншых відаў мэліарацыі як раскарчоўка, збор каменьня, замацоўка пяскоў, віроў, пабудова грунтавых студняў для іншых мерапрыемств, якія не ўплываюць на агульны рэжым вады, закон прадастаўляе неабмяжованую магчымасьць сялянству праводзіць гэтыя работы па ўласнай іх ініцыятыве. Бязумоўна, забарона населаніцтву па іхняму пачыну праводзіць работы па воднай мэліарацыі можа адбіцца да некаторай ступені на размаху работ, але гатага можна ўнікнуць павялічэньнем колькасьці тэхнічнага пэрсаналу, абслугоўваючага мэліарацыйныя таварыствы.

Дасьледчыя работы і складаньне плянаў работ па мэліарацыі будуць утварацца, галоўным чынам, дзяржавай праз ворганы і спэцыялістых Наркамзема і праз Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут імя У. І. Леніна.

Усе такія работы дзяржава будзе праводзіць па ўласнаау пачыну, ці па заяве групаў землякарыстацеляў і асобных сялян. Але разам з гэтым дзяржава прадастаўляе магчымасьць салянству за свой кошт запрашаць спэцыялістых для правядзеньня гэтых работ, але ў кожным асобным выпадку павінен быць атрыман адпаведны дазвол ад зямельных ворганаў правядзеньне падобных работ павінна рэгістравацца для вучоту іх і ўключэньня ў агульныя пляны па мэліарацыі.

Што тычыцца самаго парадку правядзеньня мэліарацыйных работ, складаньня плянаў па іх і прад'яўленьня іх насельніцтву, дык усе гэтыя справы бугуць праводзіцца так-жа сама як і земляўпарадкаваўчыя справы. Да апошняга часу ў гэтым кірунку было шмат путаніны дзеля таго, што ня было закону аб тым, як праводзіць гэтыя справы, і часта яны вырашаліся толькі самым мэліарацыйным таварыствам без дзяржаўных ворганаў. З прычыны гэтага, па старых мэліарацыйных работах таварыстваў сабралося шмат недарэчнасьцяй. Пагэтаму, зараз нельга абмяжавацца толькі прынцыповай пастаноўкай пытаньня аб тым, што справы павінны таксама разглядацца як і земляўпарадкоўчыя, а неабходна будзе яшчэ выдаць і падрабязную інструкцыю па дадзенаму пытаньню.

---

**А. Умнякоў.**

# „Гайна“.

*(З падарожнага блёк-ноту).*

Моцныя, бязупынныя дажджы. Рэкі ня могуць адвесьці ўсёй вады, асабліва ва ўмовах беларускай нізіны. Яны разьліліся і шырокімі каламутнымі струменямі, нібы ў часе паводкі, нясуць свае воды. Не зьяўлецца выключэньнем з гэтага і р. Гайна, правая прытока р. Бярэзіны. І без таго яна, падпёртая з вусьця Бярэзінай, зьвілістая, бяз пэўнага ўхілу, зьяўляецца дрэнным шляхам для вады, а тут яшчэ дажджы. У выніку—поймы затоплены, балоты звыш меры насычаны вадой і ваколіцы зрабіліся непраходнымі.

Гадоў дзевятдзесят таму назад, па словах старажылаў, прабавалі раку прывесьці ў парадак, але справа скончылася няўдачай. Цяпер ледзь-ледзь прыметны сьляды старога няправільна праведзенага каналу. Між тым Гайна ў сваім натуральным стане прыносіць многа шкоды. Прылеглыя да яе сенажаці ўсе забалочаны; з вялікай цяжкасьцю і з рызыкай штогоднага затапленьня зьбіраюць з іх асаковае малакаштоўнае сена. А плошча сенажаці значная—4000-га. За паласою травянога балота-сенажаці ідуць вялікія прасторы, пакрытыя лесам—звыш 5000 га. Лес таксама забалочаны, прыметна значнае прыгняценьне дрэваў, дзякуючы блізкасьці грунтовых вод. Сплаў лесу таксама нялёгкі, дзякуючы зьвілістасьці ракі.

Шырокія магчымасьці сплаву, асушкі лесу і сенажаці, магчымасьць разгарнуць мэліорацыйныя работы па левай прытоцы р. Гайны—р. Цне, у пойме якой ёсьць шмат мэліорацыйных т-ваў і да 12000 га балот,—усё гэта высунула работы па рэгуляваньні р. Гайны на першы плян. Гідротэхнічныя дасьледваньні, пачатыя яшчэ ў 1913—1914 гадох, былі дапоўнены ў 1925-26 годзе і проэкт Гайны быў зацьверджаны Тэхнічным Камітэтам. Проэкт вельмі цікавы. Справа ў тым, што сярэдняя частка р. Гайны знаходзіцца бліжэй ад р. Бярэзіны, чым ад свайго вусьця, дзякуючы вялікай зьвіліне р. Бярэзіны. Такое географічнае ўзаемапалажэньне рэк навяло на думку: адмовіцца ад звычайных мэтодаў—выпрастаньня, пашырэньня і паглыбленьня, а выкарыстаць блізкасьць Бярэзіны для збросу лішніх вод, што перагружаюць Гайну.

Доўга шукалі найлепшых шляхоў гэтага збросу, многа было варыянтаў каналу. У канцы канцоў шлях быў намечаны ад Гайны праз ручай Кормшчанку і р. Бродню*).

Заместа таго, каб праводзіць вялікія работы, якія дорага будуць каштаваць, па рэгуляваньні на значнай адлегласьці, хопіць кароткага каналу, які супадае ў большай сваёй частцы з існуючымі рэчышчамі. Агульны кошт работ роўны 143955 р., што на гэктар балота, якое можна будзе мэліараваць, кладзецца невялікім выдаткам, ня кажучы ўжо аб сплаве.

Работы па Гайне распачаліся ў 1926 годзе на адлегласьці 4 клм. ад вусьця р. Бродні. Разам з работамі бягучага году будзе зроблена 9,4 клм. каналу. Уся даўжыня каналу роўна 18,98 клм., з якіх 13,34 клм. па р. Бродні.

Камісіі па агляду і папярэднім, перад пачаткам рабат, абмеры р. Бродні, якая сабралася 23—24 чэрвеня ў в. Стахаў Барысаўскага раёну,

---

*) Гл. схэму на наступнай старонцы.




нямала дасталася ад камароў. Камары заляплялі ўсе адкрытыя месцы на целе і ніякія спосабы змаганьня з імі не дапамагалі. Калі мы былі паблізу кухні для рабочых, тут-жа каля ракі, стары грабар гаварыў: „вось была-б кара, каб прывязаць да дрэва і пакінуць тут чалавека. Дачыста-б камары зьелі“. Усе рабочыя лікам чалавек 90 сабраліся для высьватленьня пытаньняў аб цане за куб, перамычцы, дастаўцы продуктаў і г. д.

Пры аглядзе ракі Бродні і работ па ёй мінулага і бягучага году кідаецца ў вочы вялікая шпаркасьць, проста нязвычайная для палескай ракі. Мімаволі вынікае думка—чаму рака з гэткім вялікім разыходам, ня можа нормальна адводзіць ваду. Як відаць, тут неадпаведнасьць ракі ня з вадазборам, які зусім не такі значны, а з басэйнам, які захоплівае воды суседніх водазбораў і аддае іх Бродні. І запраўды, крыніц па Бродні вельмі многа. Гэтыя крыніцы прыносяць многа клопату і каштуюць шмат грошай, бо сталая перамычка вымагае ўвесь час рамонту, падсыпкі і г. д. Аднаго разу ўжо быў прарыў. Насыпаюць зямлю зьверху, а крыніцы б'юць зьнізу і выносяць грунт. Трэба-б было гэтае месца перарэзаць шпунтавікам. Гэтага ў свой час не зрабілі і цяпер робяць абкладаньне перамычкі мяшкамі з пяском.

Пры вялікім разыходзе вады ў Бродні толькі пры дапамозе бразэнтавых перамычак (дапаможнай і на адтуліне сталай перамычкі) можна, як кажуць грабары „даць спад вады“. Калі бразэнты закладзены, рака на вачох успухае, выліваецца з берагоў, пераліваецца праз перамычку і таксама скора спадае. Часта ламаюцца буйныя дрэвы, што падпіраюць часовую перамычку.

Там, дзе рака адрэгулявана, у вузкіх месцах поймы, балотны грунт зрабіўся больш шчыльным, але трава дрэнная. Працэс зьмены расьлін-



Замацоўка плятнём пакатаў пры рэгуліроўцы ракі Бродні, Барысаўск. р., Менскай акр. 1926-1927 г.

(Процэс работы).

насьці, які ідзе натуральным шляхым, пасоўваецца вельмі марудна-балотныя травы зьніклі, але новыя, больш каштоўныя яшчэ не пасьпелі расьсяліцца. Камісія цяпер разьвязвае рад пытаньняў аб дадатковых выпраставаньнях, аб узмацненьні пакатаў і павялічэньні рабсілы.

Абмер і нівэліроўка вельмі цяжкія. Чорная, вязкая і глыбокая дрыгва з астраўкамі асакі, праз якую трэба прабірацца—дарога нялёгкая. Трэба сказаць з купінкі на купінку, а то адразу набярэш у боты і вады і гразі. А тут яшчэ пікеты досьледаў 1925 г. ніяк ня знойдзеш.

Кінэматографічна ідзе дарога, ноч у Барысаве і зноў Менск з працай у звычайных умовах.

---

# ХРОНІКА.

## Першая гадавіна працы Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНКБ.

(*Кароткая інформацыя*).

Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР заснаваўся 26-га студзеня 1927 году.

Інстытут ставіць сваёю мэтаю сыстэматычнае і ўсебаковае вывучэчьне сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі, каб дапамагчы хутчэйшай перабудове яе на соцыялістычнай аснове і шпарчэйшаму разьвіцьцю вытворчасьці ўсяе народнае гаспадаркі БССР.

Свае заданьні Інстытут ажыцьцяўляе:

а) вывучэньнем сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі як праз стацыянальныя і экспэдыцыйныя досьледы, так і праз распрацоўку навуковых літаратурных матэрыялаў;

б) распрацоўкаю навуковых асноў рацыянальнасьці сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі і консультацыяю ў гэтых адносінах існуючых цэнтральных дзяржаўных устаноў БССР;

в) распрацоўкаю агульных тэорэтычных пытаньняў сельскае і лясное гаспадаркі;

г) падрыхтоўкаю маладых навукова-дасьледчых работнікаў у галіне сельска-гаспадарчых і лясных навук;

д) навуковым кіраваньнем і ўзгадненьнем дасьледчых работ дасьледчых устаноў, беспасрэдна неўваходзячых у склад Інстытуту, а таксама паасобных дасьледчыкаў, якія займаюцца вывучэньнем сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі;

е) аб'яднаньнем навокал устаноў Інстытуту і навуковым кіраваньнем работамі сялян-дасьледчыкаў;

ж) популярызацыяй сярод шырокіх гушч рэспублікі дасягненьняў сельска-гаспадарчых і лясных навук і практычным ужываньнем іх у сельскай і лясной гаспадарцы;

з) выконваньнем паасобных навукова-дасьледчых прац па заданьнях розных устаноў.

Інстытут разгортвае дасьледчую працу галоўным чынам па тых галінах гаспадаркі, якія да гэтага часу не абслугоўваліся існуючымі дасьледчымі ўстановамі Беларусі і якія маюць найпаважнейшае значэньне, як у

эканоміцы БССР, так і ў працы па аднаўленьню і разьвіцьцю сельскае гаспадаркі, згодна пэрспэкцыйнаму пляну.

У аснову дасьледчай працы Інстытуту пакладзены моманты, якія адпавядаюць тыпу сельскае гаспадаркі Беларусі і яго эволюцыі, маманты, адпавядаючыя дзяржаўным мерапрыемствам па аднаўленьню, рэконструкцыі і разьвіцьцю гэтае галіны народнае гаспадаркі.

У адпаведнасьці з высунутымі палажэньнямі, праца Інстытуту імя У. І. Леніна накіравана пераважна на вывучэньне наступных галін і аб'ектаў сельскае гаспадаркі:

1) жывёлаводзтва, і ў першую чаргу—сьвінаводзтва;

2) інтэнсыўных палявыў культур, і ў першую чаргу—бульбы;

3) на вывучэньне лесу, у прыватнасьці—лясных насаджэньняў, лесагадоўлі, хэмічнай і мэханічнай тэхнолёгіі лесу;

4) мэліорацыі і культуры балот;

5) на ўстанаўленьне мэтадаў земляўпарадкаваньня і выпрацоўкі асноў гаспадаркі з найвялікшай рацыяналізацыяй ва ўмовах Беларусі;

6) дасьледваньне па сэлекцыі, па інтэнсыўных непалёвых культурах (сад, гарод);

7) на вывучэньне эканомікі сельскае гаспадаркі.

У адпаведнасьці са сваімі мэтамі і заданьнямі, Навукова-Дасьледчы Інстытут складаецца з 5 асноўных аддзелаў і будуе свае дасьледчыя установы па тыпу Цэнтральных Дасьледчых Станцый.

Маштаб і тэмп паступовага разьвіцьця Інстытуту ў значнай меры залежыць ад адпаведнага фінансаваньня яго дасьледчых устаноў, налічча высокакваліфікаваных навуковых працаўнікоў, адпаведнага абсталяваньня і забясьпячэньня належнымі зямельнымі, ляснымі і іншымі ўгодзьдзямі, адпавядаючымі важнасьці заданьняў, якія стаяць перад Інстытутам, і яго палажэньню ў сыстэме дзяржаўных пачынаньняў у галіне сельскае і народнае гаспадаркі.

У 1927 годзе,—першым гадзе свайго існаваньня,—Інстытут працаваў у скадзе толькі 3 Аддзелаў: *1.—Аддзелу Лясное гаспадаркі, 2.—Мэліорацыі і Культуры балот і 3.—Сельска Гаспадарчай Экономіі і Аграрнай Палітыкі;* Інстытут меў пры гэтым 4-ры дасьледчыя станцыі: Менскую *Балотную* Станцыю, Менскую *Паляводную*, Менскую Станцыю *Аховы Расьлін* і Цэнтральную *Лясную* Станцыю.

Аддзелы-ж Жывёлагадоўлі і Расьлінагадоўлі пачалі організоўвацца толькі ў 1927-28 гаспадарчым годзе; пры іх таксама засноўваюцца 4 новых дасьледчых станцыі—Цэнтвальная Сьвінаводчая Станцыя, Станцыя Чырвонага Беларускага быдла, Цэнтральная бульбяная і Мэліорацыйна-Гідролёгічная станцыя. У гэтым-жа годзе Інстытут прыняў ад НКЗБ Палескую Пяшчана-Балотную Станцыю і Мэтэоролёгічнае Бюро. Для Палескай Станцыі Інстытут адшукаў адпаведную плошчу пад балотную базу (у Мар'іне, на калёнізацыйным фондзе),—Мэтэоролёгічнае-ж Бюро разгортваецца ў Беларускую Геофізычную службу (Белгеофіз), з пабудовай Белгеофізычнай Обсэрваторыі ў Менску.

## ШТАТНЫ СКЛАД ІНСТЫТУТУ Ў 1926-27 ГОДЗЕ.

| | Навуковы пэрсональ: | Навукова-тэхнічны: | Абслугоўваючы: | УСЯГО: |
|---|---|---|---|---|
| Інстытут . . . | 24½ | — | 8 | 32½ |
| Менская Балотная Дасьледчая Станцыя . . | 6 | 1 | 4 | 11 |
| Менская Паляводная Станцыя . . . | 8 | 9½ | 20 | 37½ |
| Менская Станцыя Аховы Расьлін . . . | 4 | 3 | 2 | 9 |
| Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя . . | 5½ | 4 | 1 | 10½ |
| | 48 | 17½ | 35 | 100½ |

У склад навуковага пэрсоналю ўваходзілі: Навук. Спэцыялістых Інстытуту і Станцый—17, Асыстэнтаў—4, Асьпірантаў—13.

## БЮДЖЭТ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ ІМЯ Ў. І. ЛЕНІНА ў 1927 г.

| | |
|---|---|
| 1. Інстытут . . . . . . | 60.000 р. |
| 2. Менская Балотн. Дасьлед. стан. . . | 18.453 р. |
| 3. Паляводная Дасьлед. стан. . . . | 52.640 р. |
| 4. Станцыя Аховы Расьлін . . . | 12.897 р. |
| 5. Цэнтр. Лясн. Дасьл. станцыя . . | 26.821 р. |
| Разам . . | 170.871 р. |

Апрача таго на работы па заданьню Наркамзему . 34.323 р.
А ўсяго ў 1927 годзе асыгнавана на дасьл. справу—па Дасьледчаму Інстытуту . . . . . 205.194 р.

У першы год свайго існаваньня Інстытутам праведзены наступныя галоўныя працы:

І АДДЗЕЛ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ ЭКАНОМІІ І АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ. Аддзел праводіць свае досьледы настунымі мэтодамі: мэтодам стацыянарных рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадарках, мэтодам экспэдыцыйным, мэтодам анкетным, мэтодам стацыянарна-хронометрычным і мэтодам камеральна-статыстычным.

На працягу году Аддзел правёў некалькі экспэдыцый:

1) Па вывучэньню форм эфектыўнасьці землеўпарадкаваньня;
2) Па вывучэньню экономікі мэліорацыі (па ўсёй БССР);
3) Экспэдыцыя эканамічнага профілю БССР па 54 паралелі;
4) Па экономіцы ільнаводзтва;
5) Па экономіцы сельскае гаспадаркі Мазырскага Палесься;
6) Па вывучэньню рыначных умоў таварнае сьвінагадоўлі на Случчыне.

Распачата стацыянарнае вывучэньне організацыі сельскае гаспадаркі, дзеля чаго закладзены рахунковыя запісы ў 72-х гаспадарках, па 6 на кожны раён. Матэрыялы, якія ўжо паступаюць у Аддзел за першае паўгодзьдзе, часткова ўжо распрацоўваюцца і канчаткова ўсталяецца мэтодолёгія апрацоўкі іх.

Заканчваюцца працы па вывучэньню народнае гаспадаркі Зах. Бела-

русі—і па дробнаму раёнаваньню БССР. Працы будуць надрукаваны ў гэтым-жа годзе.

Аддзелам вядзецца праца па вывучэньню процэссу дыфэрэнцыяцыі сялянскае гаспадаркі і ролі ў гэтым процэсе крэдытнай коопэрацыі.

Пры аддзеле працавалі 4-ры асьпіранты: двое з іх распрацоўвалі тэмы па эканоміцы землеўпарадкаваньня і перасяленьня ў БССР, адзін—па організацыі гаспадаркі і адзін—па вывучэньню аграрнае рэволюцыі на Беларусі.

II. АДДЗЕЛ МЭЛІОРАЦЫІ І КУЛЬТУРЫ БАЛОТ. Аддзел разгортвае сваю дасьледчую працу на аснове запатрабаваньня ў практыкі вытворчых работ па асушцы балот і асваеньню забалочаных прастораў, высьвятляючы неабходнасьць і вынікі гэтых работ.

Пры наліччы ў складзе Інстытуту спэцыяльнага эканамічнага аддзелу, Аддзел Мэліорацыі концэнтруе сваю ўвагу пераважна на пытаньнях тэхнікі мэліорацыі. Усе living рознастайныя тэмы, якія падлягаюць распрацоўцы на працягу бліжэйшых 5-ці год, падзелены на 10 цыкляў, з якіх першыя два распрацоўваліся на працягу мінулага году. Гэтыя два першыя цыклі можна формулявяць так:

1) Найбольш выгадныя адлегласьці між абсушальнымі канавамі і

2) Формы і разьмеры ўстойлівых магістралей дзеля адводу вады.

Вынікі гэтых досьледаў зьяўляюцца падставай усёй тэхнікі мэліорацыі на Беларусі; частка з іх дэталёва распрацована ўжа і паступіла ў друк пад назваю „Рэнтабельнасьць інтэнсыўнай культуры балот“.

Па цэламу шэрагу рэчак зроблена ўжо нівеліроўка на працягу 7040 клм., вызначаны заносы рэчак пяском, зьмены спадаў гэтых рэчак, скорасьць вады ў іх і г. д.

Побач з працаю асноўнага штату, Аддзел організоўвае стацыянарныя пункты і праводзіць часовыя экспэдыцыі па вывучэньню паасобных раёнаў у мэліорацыйных адносінах.

**Балотная Станцыя** галоўную ўвагу аддала працы;

1) па вывучэньню мэтодаў культуры балот;

2) культываваньню розных палявых і травяных расьлін на балоце, найкарысьнейшаму ўжываньню мінэральных угнаеньняў пад іх і інш.;

3) вывучэньню спосабаў барацьбы са сьметнякамі;

4) досьледам з экстэнсыўным лугаводзтвам і шэрагу іншых пытаньняў па культуры балот.

Па Аддзелу *Вегетацыйнага Павільёну*. Станцыя вывучала ўплыў living рознага ўгнаеньня на нізінным балоце, ўплыў глыбіні грунтовай вады на ураджай расьлін і інш.

Па *Батанічнаму* Аддзелу вяліся нагляданьні над монолітамі з расьліннымі асоцыяцыямі, працы па сэлекцыі цыкорыі і інш. Праведзены дзьве геоботанічных экспэдыцыі: каля Талькі, па Мазыршчыне і ўсяму Палесьсю.

Па Аддзелу *Хэмічнай Ляборатoрыі* зробленана каля 50 с-г. аналізаў торфу і—каля 2000 тэхнічных аналізаў розных торфаў.

Апрача таго, Балотная Станцыя зьяўлялася цікавым для насельніцтва аб'ектам азнаямленьня і вывучэньня. Усяго за год наведалася на Балотную Станцыю 40 экскурсій з лікам у 1875 чалавек; у 13 мэліорацыйных таварыствах закладзены досьледы; супрацоўнікі станцыі выяжджалі 158 дзён у розныя мэліор. т-вы і для дасьледваньня балот; праведзены курсы па культуры балот; праводзіліся лекцыі—гутаркі з рабочымі і

сялянамі, на якіх прысутнічалі 125 чалавек; абменена з насельніцтвам 400 пудоў насеньня на сортавое і іншае.

III. АДДЗЕЛ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ І ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЛЯСНАЯ ДАСЬЛЕДЧАЯ СТАНЦЫЯ, з яе 5-ю П/Аддзеламі, галоўным чынам працавалі над:

1) вывучэньнем дэндролёгіі і біолёгіі дрэўных парод БССР (сасны, дуба, бярозы, асіны, ёлкі);

2) вывучэньнем біолёгіі лясных насаждэньняў Беларусі, іх тыпаў і догляду за імі;

3) складаньнем сартымэнтных табліц дзеля лясоў Беларусі;

4) вывучэньнем лясной і глебавай рэнты, складаньнем такс на лясныя матэрыялы;

5) вывучэньнем падсочкі сасны; над вывучэньнем заган і фаўтаў дзераўляных парод.

**Менская Арганамічная Станцыя** працавала ў 1927 г. як база для разгортваньня у наступным годзе Аддзелу Расьлінагадоўлі.

На працягу году яна вывучала:

1) Спосабы павялічэньня вытворчасьці лёгкіх Беларуских глеб; 2) севазвароты сорта вывучэньне, тэхніку культур лёгкіх глеб і распрацавала звыш 40 паасобных тэм.

**Станцыя Аховы Расьлін**—вывучала розных шкоднікаў палёвых расьлін, галоўным чынам збожжа (ячмяню, жыта); са шкоднікаў асабліва ўважліва вывучаліся: швэцкая муха і трыпсы.

**Выдавецтва Н. Д. Інстытуту** разготваецца па 4-х напрамках: 1) выданьне паасобных навуковых прац, 2) выпускі навукова-дасьледчых прац па кожнаму Аддзелу, 3) 2-х месяц ная навукова-практычная часопісь „Сельская і Лясная Гаспадарка" і 4) навукова-папулярная літаратура.

У 1927 годзе выданы: 1) „Кліматычны Атляс Беларусі"— праф. А. І. Кайгародава (78 карт), 2) адзін выпуск прац Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі, 3) два выпускі работ станцыі Аховы Расьлін, 4) тры нумары часопісі „Сельская і Лясная Гаспадарка", 5) навукова-папулярная літаратура: „Рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках—Х. А. Плятнэра і „Валакаламскія севазвароты ў параўнаньні з беларускімі—асьпір К. Кіпрыянец і 6) Зборнік: „Першы год працы НДІ.

ОРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ. Апрача дасьледчае працы, Інстытут імя Ў. І. ЛЕНІНА праз увесь год вядзе навукова арганізацыйную працу; 1) падрыхтоўваліся матэрыялы па арганізацыі і разгортваньню 2-х астатніх Аддзелаў Інстытуту—Аддзелу Расьлінагадоўлі і Прыкладное Батанікі і Аддзелу Жывёлагадоўлі і Прыкладное Зоолёгіі, а таксама і па арганізацыі Белгеофізу.

2) Ішла папярэдняя падрыхтоўка матэрыялаў да складаньня пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну навукова-дасьледчай працы па сельскай і лясной гаспадаркі.

3) Праводзілася арганізацыя Інстытуту сялян-дасьледчыкаў, які адчыніўся і працуе на правох аддзелу Н.-Д. І.

Інстытут імя Ў. І ЛЕНІНА мае такія дапаможныя ўстановы: 1) Цэнтральную Хэмічную Ляматорыю (аб'яднаньне трох хэм. лябор.—Балотнай, Агранамічнай Станцыі і Інстытуту Беларускае Культуры). 2) Дасьледчы Музэй і 3) Бібліотэку, прыблізна каля 10.000 тамоў навуковай літаратуры.

Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут зьяўляецца ня толькі чыста-навуковай установай, якая прарабляе ў сваіх лябораторыях і габінэтах грунтоўныя проблемы навукі і навукова-прыкладных ведаў; Інстытут—таксама і навукова-грамадзкая ўстанова, якая зьвязана з усёй Беларусьсю, з яе дзяржаўнымі, грамадзкімі і дасьледчымі установамі, так ці інакш датычнымі да вывучэньня вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы і маючымі які-колечы ўплыў на яе разьвіцьцё і прадукцыйнасьць. Таму Інстытут наладжвае сувязь і будзе сьцісла падтрымоўваць яе ня толькі з навуковымі і навучальнымі установамі БССР і Саюзу, але і з некаторымі замежнымі дасьледчымі інстытуцыямі.

На тых-жа прынцыпах аб'яднаньня і сталай сувязі з шырокімі масамі працоўнага сялянства будуецца пры Інстытуце імя Ў. І. Леніна—Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў, які ў 1926/27 годзе выявіў і аб'яднаў 434 селяніна-дасьледчыкі і правёў 259 досьледаў, галоўным чынам па паляводзтву і па культуры балот.

Інстытут асабліва шырока разгорне досьледы па тых галінах гаспадаркі па якіх Беларусь вылучаецца з паміж іншых раёнаў Саюзу: Сьвінагадоўля. Бульбяная гаспадарка, Мэліорацыя і Культура балот.

Дасьледчыя ўстановы па гэтых галінах павінны будуць набыць усесаюзнае значыньне, што і надасьць Беларускаму Навокова-Дасьледчаму Інстытуту імя Ў. І. ЛЕНІНА годнасьць быць дастойным членам будучае ўсесаюзнае Акадэміі Сельскай і Лясной Гаспаўаркі імя Ў. І ЛЕНІНА.

Навуковы Сэкратар Б. Н-Д. Ін-ту І. Серада.

---

## Надзвычайная нарада пры НКЗ БССР па пытаньнях культуры балот і складаньню гэнеральнага пляну мэліорацыі.

15—18-га кастрычніка 1927 году ў г. Менску адбылася надзвычайная нарада па культуры балот на Беларусі, якая была склікана, згодна асобай пастановы СНК БССР, па ініцыятыве Наркамзему.

У працах нарады прымалі ўдзел, як беларускія працоўнікі па мэліорацыі--кіраўнікі і спэцыялістыя Наркамзему БССР, супрацоўнікі С.-г. Сэкцыі Дзяржпляну БССР, акруговыя спэцыялістыя, дасьледчыкі і прадстаўнікі с.-г. каапэрацыі, Белсельбанку, Прафсаюзу і інш., а таксама і шэраг выдатнейшых дзеячоў у гэтай галіне з дасьледчых, вытворчых і плянавых органаў СССР і суседніх Саюзных Рэспублік (РСФСР і УССР).

Усяго ў нарадзе прымала ўдзел 118 чалавек, з якіх з рашаючым голасам 74 чал. (з іх каля 18 проц. падае на саюзных працоўнікаў і працоўнікаў суседніх Рэспублік) і з дарадчым 44 чал.*).

Аснаўнымі пытаньнямі програмы нарады зьявіліся распрацоўка мэтадаў і прынцапаў гэнеральнага пляну мэліорацыі і шляхоў разьвіцьця культуры балот у БССР.

Нараду адчыніў Народны Камісар Земляробства Зьм. Ф. Прышчэпаў уступнай прамовай, у якой ён адзначыў вялікае значэньне мэліорацыі ва ўмовах Беларусі, бо яна (мэліорацыя) зьяўляецца грунтоўным пры вырашэньні ўсіх зямельных пытаньняў на Беларусі; наша Рэспубліка па мінуламу і асабліва па сучаснаму маштабу разгарнуўшыхся прац па мэліорацыі займае адно з першых месц у Саюзе. Перад Беларусьсю стаіць задача ўцягненьня больш, чым 2 мільлёнаў гэктар балот у с.-г. карыстаньне, што мае асаблівае значэньне дзеля нашае аграр-

*) Між іншым на нарадзе прысутнічалі: проф. Р. П. Спарро—Старшыня Тэхнічнага Камітэту па мэліорацыі НКЗ РСФСР, праф. А. Д. Дубах—Старшыня Тэхнічнага Камітэту па мэліорацыі НКЗ БССР, праф. А. М. Дзьмітрыяў—Дырэктар Лугавога Інстытуту ў Маскве, проф. І. І. Беляеў—член-супрацаўнік с.-г. Сэкцыі Дзяржпляну СССР; інж. А. С. Пампулаў—член-супрацоўнік Воднае Сэкцыі Дзяржпляну СССР; Р. А. Бонч-Асмалоўскі (с.-г. Сэкцыя Дзяржпляну БССР); інж. А. Д. Брудастаў (Ціміразеўская Акадэмія); праф. Г. В. Розен (Ціміразеуская Акадэмія); праф. Н. С. Фралоў; проф. Доліна-іванскі і проф. К. К. Кісялёў (Беларуская Дзяржаўная Акадэмія С. і Л. Гаспадркі), проф. П. В. Панфёраў Самарскі С.-Г. Інстытут—раней працаваў у Беларускай С.-Г. Акадэміі); Г. І. Гарэцкі—Дырэктар Навукова-Дасьледчага Інстытуту ім. Ў. І. Леніна; М. В. Дакукін, Б. А. Ганжа (Менская Дасьледчая Балотная Станцыя); В. Р. Рыдзігер (Цэнтральная вопытная мэліорацыйная організацыя—РСФСР) і інш.

на-перанасялёнай Рэспубліні. Загэтым перад народай НКЗ-емам ставіцца задача распрацоўкі мэтадаў і прынцыпаў складаньня гэнеральнага пляну мэліорацыі ўсіх балот БССР. Пры вырашэньні гэтага вельмі складанага пытаньня важна скарыстаць вопыт дарэвалюцыйны, вопыт цяперашняга нашага будаўніцтва і вопыт іншых Рэспублік і выдатнейшых спэцыялістых.

Далей тав. Прышчэпаў зварочвае ўвагу нарады на неабходнасьць абгаварыць пытаньні калёнізацыі нашых балот, лічачы, што „праводзіць мэліорацыю ў нашых умовах без калёнізацыі балот гэта значыць канчаткова грунтоўнай мэты не дасягнуць". Тут зьяўляецца, асноўным, якія работы трэба выконваць за сродкі дзяржавы і якія за сродкі насельніцтва; як організаваць крэдыт, каб калёністы маглі самастойна вясьці правільна ў далейшым гаспадарку на мэліараваных вучастках. Але стварыць калёнізацыйны фонд магчыма толькі пры такім ухутчэньні тэмпу мэліорацыйных работ, які дазволіў-бы вясьці іх прыблізна паралельна з земляўпарадкаваньнен.

Плян мэліорацыйных работ павінен вызначыць раёны інтэнсыўнай і экстэнсыўнай мэліорацыі ў дапасаваньні з агульнымі эканамічнымі і сельска-гаспадарчымі раёнамі ў Рэспубліцы.

З вялікай увагай нарада заслухала даклад проф. А. Д. Дубаха „аб мэтадах складаньня гэнеральнага пляну".

Аснаўныя думкі дакладу заключаліся ў наступным:

Апошнія тры гады зьяўляюцца гадамі разьвіцьця параўняючы вялізарных гідратэхнічных работ на Беларусі. У 1925 г. дзяржавай была страчана каля 370.000 руб., і гэты год зьяўляецца граніцаю між мінулым і сучасным тэмпам мэліорацыйных работ. У 1926 г. расходваецца ўжо 632.000 руб., прычым апроч разьвіцьця гідратэхнічных работ гэты год даў організацыю культуртэхнічнай службы. Як асаблівасьць 1927 г. быў адзначаны далейшы рух уперад крэдытаў на мэліорацыю (прыблізна на 50 проц.) і мерапрыёмствы НКЗ па мэханізацыі гідра—і культур-тэхнічных работ (набыцьцё 2 землечэрпалак, 12-ці трактароў, 200 балотна-лугавых плугоў і г. д.).

За тры гады ўсяго была страчана дзяржаваю каля 2.000.000 руб. Апроч таго, насельніцтвам укладзена сваёй працай і капіталам да 50 проц. ад выдаткаў дзяржавы. Адначасова былі організаваны і праводзіліся навукова-дасьледчыя работы па мэліорацыі, быў складзен 5-ці гадовы пэрспэктыўны плян, ухвалены ў асноўным Дзяржплянам БССР і СССР, прычым С.-Г. Сэкцыяй Дзяржпляну СССР вынесена пастанова аб прызнаньні неабходнасьці ажыцьцяўленьня мэліорацыі на плошчы 1.500.000 дзес. у пэрыяд 15-ці гадоў (бяз Гомельшчыны). За гэты-ж час ЦВК СССР прызнаў за мэліорацыйнымі работамі на Беларусі ўсесаюзнае значэньне.

Дакладчык далей працягвае характэрыстыку падрыхтаванасьці Беларусі да шырокага разгортваньня мэліорацыйных работ.

Беларуская Дзяржаўная Акадэмія выпусьціла каля 150 спэцыялістых. Падрыхтоўка тэхнічнага пэрсаналу добрая, нічым ня ўступае падрыхтоўцы мінулых гадоў. Вялікая частка гэтых спэцыялістых працуе каля 3-х гадоў у Беларусі. Акадэмія вядзе і далейшую падрыхтоўку спэцыялістых-інжынэраў.

Такім чынам, паважны фактар дзеля разьвіцьця мэліорацыі, як налічча тэхпэрсаналу, вырашан здавальняюча.

Далей распрацованы тэхнічныя нормы на падставе вельмі шырокіх работ, якія вяліся калісь-та на Беларусі і якія стварылі тут музэй па сельска-гаспадарчай гідратэхніцы.

Што зьяўляецца ў нас чарговым, гэта высьвятленьне пытаньня аб далейшым напрамку і характару асушэньня: ці павінна яно пайсьці, галоўным чынам, па лініі інтэнсыўнага асушэньня з далейшай культурай балота, альбо па лініі экстэнсыўнага ў мэтах стварэньня здавальняючых даступных натуральных сенажацяй. Дакладчык лічыць, што мэліорацыя ў агульным павінна ў БССР насіць характар экстэнсыўны і толькі ў некаторай частцы на працягу 15-ці гадоў можа быць праведзена інтэнсыўная культура балот, а дзе, павінна даць адказ эканамічнае дасьледваньне

Дакладчык прыходзіць да вываду, што асноўная падрыхтоўчая праца дзеля разгортваньня мэліорацыйных работ Наркамземам і ўрадам БССР праведзены.

У аснову складаньня пляну мэліорацыі трэба палажыць тое, што сельская і лясная гаспадарка дзеля Беларусі ёсьць крыніца ўсяе народнае гаспадаркі і цяпер і ў будучым, бо ніякіх выкапняў на Беларусі ня знойдзена. Адмоўным бокам сельскае гаспадаркі зьяўляецца вялізарная забалочанасьць краіны. Вельмі цяжка вызначыць дакладна плошчу балот у БССР. Наркамзем спрабаваў зрабіць гэта шляхам скарыстаньня 3-х верстнай мапы Галоўнага Штабу, якая складана вельмі дакладна, бо гэтыя здымкі рабіліся дзеля абароны краіны. Ніякія анкеты, ніякія экспэдыцыі, ніякія статыстычныя досьледы, па думцы дакладчыка, ня могуць даць такой дакладнасьці. Вызначэньне плошчы балот па гэтай мапе зьяўляецца падрыхтоўчай працай да складаньня пляну. Пазытыўным дзеля сельскай гаспадаркі ў БССР зьяўляецца клімат, які мае яшчэ большае значэньне, чым глеба: на беларускіх пяскох мы маем ураджаі ў два разы большыя, чым

на паўднёва-усходніх чорназёмах. Калі мэліорацыя будзе напраўлена, дык у нас уклады працы і капіталу дадуць больш верныя і забясьпечаныя вынікі, чым у шмат якіх іншых мясцох. Гэтае палажэньне абавязкова трэба прыняць пад увагу пры складаньні пляну.

Далей дакладчык разгортвае асноўныя прынцыпы і тэхніку складаньня пляну. Плян павінен складацца па прыродна-гістарычнаму прызнаку--па басэйнах рэк,--але не па адміністрацыйных межах, якія вельмі часта зьменяліся на Беларусі. Басэйны рэк у колькасьці 52 разьмеркаваны паміж 6-ю вялікімі рэкамі: Дняпром (беспасрэдна), Прыпяці, Бярэзінай, Сожам, Зах. Дзьвіной і Нёмнам.

Вельмі паважнае пытаньне аб чарговасьці работ дакладчык прабуе вырашыць шляхам прыстасаваньня распрацованага ім, так званага, „коэфіцыенту прыродна-эканамічнай патрэбы ў мэліорацыях", які атрымоўваецца ад памнажэньня процэнту плошчы нязручных зямель (да ўсяе плошчы краіны) на колькасьць насельніцтва на 1 кв. клмтр. (уключыўшы гарады) і дзяленьня атрыманай лічбы на 100. Па думцы дакладчыка, гэты мэтад павінен даць магчымасьць мэханічна вызначаць чарговасьць паасобных работ, бо ў гэтым коэфіціенце прымаецца пад увагу 2 асноўных фактары--прыродны і эканамічны. Напэўна, трэба будзе ўвесьці кожны раз шэраг папраўак да коэфіцыенту, але яны самастойнага значэньня ня маюць. Пералічыўшы чарговасьць патрэбы ў мэліорацыях дзеля розных губэрніяў РСФСР, згодна гэтага каэфіцыенту, дакладчык адзначае, што ў Беларусі на першым месцы па гэтаму коэфіцыенту стаіць б. Слуцкая акруга, потым ідзе Бабруйская (у старых межах), Віцебская, Менская, Мазырская, Магілёўская і г. д., а на апошнім месцы знаходзіцца Полацкая акруга.

Пераходзячы да пытаньня аб тэрміне, які павінен быць ахоплен гэнеральным плянам, дакладчык гаворыць, што плянам трэба прадугледзіць каналізацыю ўсіх балот Беларусі ў 15 гадоў, згодна адпаведнае пастановы Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі Дзяржпляну СССР, прычым плян павінен будзе вызначыць тую частку, той маштаб культур-тэхнічных работ, якія неабходна правесьці ў жыцьцё за гэты-ж тэрмін.

У заключэньне проф. Дубах выказвае тую думку, што дасьледчыя матарыялы па высьвятленьню характару глебы, флёры, клімату, воднаму рэжыму балот і г. д. на Беларусі досыць багатыя і ствараюць поўную магчымасьць прыступіць да складаньню гэнеральнага пляну мэліорацыі ўсіх балот БССР. Нарэшце, ім быў выкладзен пералік тых матарыялаў, якія неабходны для складаньня гэнеральнага пляну.

Даклад проф. А. Д. Дубаха выклікаў вельмі ажыўленыя спрэчкі як па першай частківяго, дзе даказвалася падрыхтованасьць Беларусі да далейшага яшчэ большага разьвіцьця мэліорацыйных работ, так і другая частка, у якой былі высьветлены асноўныя прынцыпы і мэтады пабудаваньня пляну.

У выніку дакладу і спрэчак нарадай была прынята пастанова, якая ў агульным складаецца з наступнага:

1. У аснову гэнеральнага пляну павінна быць пакладзена пастанова Саюзнага ЦВК аб усесаюзным значэньні мэліорацыйных работ у БССР і пастанова С.-Г. Сэкцыі Дзяржпляну аб правядзеньні мэліорацыі ў межах БССР за тэрмін 15 год, бо гэтымі пастановамі вызначаецца роля мэліорацыйных мерапрыемстваў у агульным пляне народнай гаспадаркі БССР і СССР у цэлым.

2. Адзначаецца нарадай падрыхтованасьць НКЗ БССР да ажыцьцяўленьня намечаемых работ, якая выражаецца ў хуткім разьвіцьці і пасьпяховым выкананьні работ у апошнія тры гады, у выніках працы Менскай Балотнай Станцыі, у падрыхтоўцы тэхнічнага пэрсаналу вышэйшай і сярэдняй адукацыі, у разгортваньні навукова-дасьледчае працы, у наліччы больш 600 актыўных таварыстваў, у правільнай організацыі 6 проц.-га доўгатэрміновага мэліорацыйнага крэдыту і ў зацьверджаньні водна-мэліорацыйнага Кодэксу. Адначасова нарада зварочвае ўвагу НКЗ на неабходнасьць далейшага разьвіцьця і вывучэньня прыродна-гістарычных умоў дзеля ажыцьцяўленьня мэліорацыйнага будаўніцтва, асабліва: гідралёгічных дасьледаваньняў, вывучэньня балот, вывучэньня спосабаў мэханізацыі гідра—і культур-тэхнічных работ, вывучэньня і выяўленьня найбольш простых мэтадаў культуры балота, якія магчыма ажыцьцявіць ва ўмовах Беларусі.

3. У аснову гэнеральнага пляну—прызнала нарада—трэба пакласьці: пабудаваньне яго па гідралёгічных басэйнах з прыняцьцем пад увагу эканамічнага раёнаваньня Рэспублікі; неабходнасьць скарыстаньня вытворчых сіл мэліораваных зямель, як рацыяналізацыяй існуючых гаспадарак, так і шляхам калёнізацыі балотных масываў у мэтах забясьпекі ўнутры рэспубліканскага калёнізацыйнага фонду; ухутчэньня тэмпу коопэраваньня і калектывізацыі працы насельніцтва на падставе мэліорацыйнага будаўніцтва і далейшай эксплёатацыі мэліораваных плошчаў.

4. Нарада прызнае, што тэрміновасьць складаньня гэнеральнага пляну выклікае неабходнасьць карыстацца толькі тымі матэрыяламі, якія ўжо маюцца да сучаснага моманту, і пазбаўляе магчымасьці мець дастатачны матэрыял па прыродна-гістарычнай і эканамічнай характарыстыцы некаторых раёнаў.

Пералік канкрэтнага матэрыялу і тэм нарадай быў ухвален, прычым дадаткова нарадай высунуты наступныя тэмы:

а) узаемная увязка пляну земляўпарадкаваньня і шляхавага будаўніцтва з запытаньнямі засяленьня і эксплёатацыі мэліораваных зямель;

б) распрацоўка пляну ўцягненьня жывой сілы насельніцтва ў варыянтах экстэнсыўнага і інтэнсыўнага скарыстаньня мэліораваных зямель;

в) ацэнка значэньня мэліорацыйных мерапрыемстваў у справе палепшаньня санітарных умоў Рэспублікі;

г) вучот уплыву мэліорацыйных работ на зьмяненьне рэжыму грунтавых вод і галоўных рэчных артэрыяў:

д) выяўленьне і разьмеркаваньне плошчаў, якія патрабуюць мэліорацыі, па характару ўгодзьдзяў і па відах мэліорацыяй; у прыватнасьці высьвятленьне пытаньня дрэніраваньня палявых зямель.

Апроч таго, нарада лічыць вельмі важным узгадніць мэліорацыйныя работы з плянамі суседніх Рэспублік па воднай гаспадарці, а таксама з плянам воднай гаспадаркі Беларусі.

5. Прапанованы проф. Дубахам коэфіцыент дзеля ўстанаўленьня патрэбы паасобных раёнаў у мэліорацыях прызнаны заслугоўваючым увагі і далейшай праработкі шляхам утачненьня залежнасьці ад іншых прыродных і эконамічных фактароў.

Пытаньне вырашэньня чарговасьці выкананьня работ і аб напрамках і тыпах мэліорацыйных работ павінны выпрацоўвацца ў працэсе складаньня гэнэральнага пляну.

Наступным пунктам заняткаў нарады зьявіўся даклад К. А. Рашэтнікава „Шляхі разьвіцьця культуры балот у БССР“.

Даклад К. А. Рашэтнікава складаецца з 2-х частак: а) характэрыстыкі пэрыядаў і этапаў, якія пройдзены мэліорацыяй за пасьлярэвалюцыйныя гады і разьмераў работ, якія выкананы за гэтыя часы, і б) пераліку і абасновы тых грунтоўных мерапрыемстваў, якія неабходны дзеля забясьпекі максымальнага разьвіцьця культуры балот БССР.

Увесь пасьлярэвалюцыйны пэрыяд па галіне мэліорацыі у БССР падзяляецца дакладчыкам на 3 этапы: першы—гэта організацыйны пэрыяд, калі вялася організацыя апарату і мэліорацыйных таварыстваў, рабіліся першыя крокі ўцягненьня насельніцтва ў мэліорацыйныя работы і, нарэшце, вяліся асноўныя вышукальныя работы. Гэты пэрыяд цягнуўся да 1924 году. Другі этап—з 1924 г. па 1926 г.—дакладчык называе організацыйна-будаўнічым. Ён уключае ў сябе элемэнты грунтоўнага будаўніцтва. У гэты час выпрацаваны галоўныя організацыйныя моманты гэтага будаўніцтва і праведзена работа па стварэньню культуртэхнічнага апарату і наогул напраўленьня культутэхнічных работ. Нарэшце, з 1926—27 г. пачынаецца трэці этап організацыйна-будаўніча-эксплёатацыйны, якому ўласьцівы моманты першых 2-х этапаў, прычым ужо прыкмячаецца далейшае разгортваньне будаўнічых работ з прыстасаваньнем прыемаў мэханізацыі асушальных і культуртэхнічных работ. Новым момантам гэтага этапу зьяўляецца пачын эксплёатацыі вялізарных пабудоў і мэліораваных плошчаў.

Далей дакладчык характарызуе ўдзел насельніцтва ў мэліорацыйных працах на Беларусі за апошнія гады, лічачы, што процэнт гэтага ўдзелу, які складае да 50 проц. усіх затрат дзяржавы па мэліорацыі, зьяўляецца, хоць яшчэ і невялікім па абсалютным лічбам (каля 600.000 р. без 1926—27 г.), але досыць здавальняючым. Дакладчык аднак падкрэсьлівае, што апошнія гады далі ў выніку значную адсталасьць культур-тэхнічных работ ад гідратэхнічных.

Асноўнымі прычынамі, якія затрымлівалі разьвіцьцё мэліорацыйных работ насельніцтва, дакладчык лічыць адсутнасьць водна-мэліорацыйнага законадаўства, слабую кваліфікацыю культур-тэхнічнага пэрсаналу і слабае організацыйна-коопэратыўнае абслугоўваньне мэліорацыйных таварыстваў, якія ў большасьці да самага апошняга моманту застаюцца ў нас дзікімі.

У другой частцы свайга дакладу К. А. Рашэтнікаў намячае канкрэтна шляхі разьвіцьця культуры балот на падставе патрэб Рэспублікі і вопыту мінулага будаўніцтва.

Дакладчык знаходзіць, што культура балот павінна ісьці паралельна з агульным разьвіцьцём інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі і згэтым павінна праводзіцца ў тых раёнах, дзе наогул вядзецца найбольш інтэнсыўная гаспадарка. Да гэтакіх раёнаў ён адносіць Менскую, Віцебскую, Аршанскую і Магілеўскую акругі. Што датычыць Мазырскай, Полацкай, часткаю Гомельскай (б. Рэчыцкага уезду), часткаю Бабруйскай акругі, дык тут у бліжэйшыя гады пэўна павінна мець экстэнсыўная асушка культуры балота.

Далей дакладчык крытыкуе проэкт проф. Кірсанава, які ў галоўным прадугледжвае організацыю вялізарных дзяржаўных савецкіх гаспадарак на балотах, на плошчы да 1000—2000-га, з тым каб пасьля таго, як высьветліцца, што культура балот у данай гаспадаркі рэнтабельна, перадаць гэтыя плошчы на пэўных умовах насельніцтву дзеля далейшай эксплёатацыі. Гэты шлях укараненьня культуры балот сярод нашага сялянства—лічыць дакладчык—нельга прызнаць правільным. Культура балот у нас павінна галоўным чынам праводзіцца праз мэліорацыйныя таварыствы, за якімі трэба сачыць у тым напрамку, каб яны пасьля скан-

эньня гідратэхнічных работ ня прыпынілі колектыўнага мэтада працы пры пераходзе да эксплёатацыі мэліораваных плошчаў. Запэўна, гэта ня выключае організацыі дзяржаўных саўгасаў на балотах і работ паасобных сялян, але як мэтадаў другараднага значэньня.

Далей дакладчык выкладае некаторыя моманты практычнага характару, якімі трэба кіравацца пры разгортваньні культуры балота. Гэта, папершае, прынцып „гнездавога“ (групавога) абслугоўваньня таварыстваў, якія належаць да аднаго балотнага масыву і вадапрыемніку, бо гэтым будзе дасягнута вялікая эканомія ў працы тэхпэрсаналу пры большым афэкце; падругое, фарсіраваньне мэханізацыі мэліорацыйных работ; патрэцяе, сталая падрыхтоўка кваліфікаваных культуртэхнікаў праз Беларускую Дзяржаўную Акадэмію; і, пачацьвертае, організацыя мэліорацыйных сэкцыяў пры акрсельсаюзах дзеля забясьпекі організацыйна-коопэратыўнага інструктаваньня і кіраваньня таварыствамі.

У заключэньне дакладчык падкрэслівае, што на Беларусі культура балот пры гэткай вялізарнай плошчы іх павінна мець вялікае, а ў некаторых раёнах нават пануючае значэньне, як па прычыне значнай аграрнай перанасяленасьці Беларусі, так і па прычыне знахаджэньня нашае Рэспублікі ў блізасьці да замежных дзяржаў.

У зьвязку з дакладам аб шляхох разьвіцьця культуры балот у БССР быў заслуханы яшчэ і даклад В. Р. Рыдзігера на тэму „Інтэнсыўны і экстэнсыўны напрамак у скарыстаньні балот Мазырскага Палесься“.

У пачатку свайго дакладу В. Р. Рыдзігер прыводзіць лічбы з якіх, па яго думцы, вынікае, што балоты ў Палесьсі наступаюць на сухую зямлю і адбіраюць у нас апошнюю. Штогодна балоты вырастаюць ны 0,75 проц ад лічбы 1868 г. Дакладчык не забараняе дакладнасьць гэтае лічбы, але ўпэўнен, што ўзрастаньне неасушаных балот на Палесьсі ідзе больш хуткім тэмпам, чым ў іншых раёнах Саюзу. Сумесна з гэтым памяншаецца плошча вадазбору, а гэта адбіваецца вельмі дрэнна на ўрадлівасьці балот, на іх якасьці. Мала таго, узрастаньне балот робіць уплыў на пед'ём грунтовых вод, якія служаць прычынай вымаканьня пасеваў.

Значна вырасла і плошча пяскоў.

Такім чынам, плошча нязручных зямель на Мазыршчыне расьце вельмі хутка.

Выхадам з гэтага цяжкага отановішча трэба лічыць асушку нават экстэнсыўную, якая ня толькі затрымае рост балот, пад'ем грунтовых вод, але зьяўляецца сама па сабе вельмі карысней. Адзін прырост быдла і ральлі пакрывае ўсе выдаткі на асушку, прычым па прыблізных падрахунках магчыма чакаць да 20 проц. на расходаваны капітал.

У далейшым дакладчык затрымліваецца на эканамічным зналізе інтэнсіфікацыі і экстэнсыфікацыі Палесься. Інтэнсыўнасьць сельскай гаспадаркі В. Р. Рыдзігер вызначае па гуртавому прыбытку на адзінку плошчы і атрымлівае, што чым менш (да адзначэньня 1:1) плошча кармавых (натуральных) угодзьдзяў адносна ральлі, тым большы прыбытак дае гаспадарка і загэтым тым большая яе інтэнсыўнасьць. Найбольш вузкія ўзаемаадносіны ральлі і сенажаці 1:1 адпавядае максімальнаму ўзроўню інтэнсыўнасьці гаспадаркі (63 руб. 07 кап.) і наадварот найбольш шырокія ўзаемаадносіны--1:3,1 дае мінімум (21 руб. 50 кап.) Сярэдняя лічба прыбытковасьці сельскай гаспадаркі дзеля Беларусі, па данных дакладчыка, роўна 71,7 руб. (трэцяе месца ў СССР), а дзеля Палесься толькі ў 35 руб. на дзесяціну. На гэтым дакладчык вызначае, што асноўная наша задача падняць інтэнсыўнасьць Палесься да сярэдняе беларускай.

Праэкт праф. Кірсанава дакладчык лічыць недастатачна распрацованым, знаходзіць, што лічбы яго ў 2 разы павялічаны адносна Палесься і робіць той вывад, што ў гэтым раёне зусім ня трэба вясьці такую інтэнсыўную гаспадарку, як гэта прапануе праф. Кірсанаў, калі дабівацца аднаго і рэяльнага пакульшто-гэта падвышэньня інтэнсыўнасьці да *сярэдняга беларускага ўзроўню* інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі. Галоўны пакуль што шлях дзеля асваеньня балот Палесься, па думцы дакладчыка, гэта экстэнсыўнае іх скарыстаньне пры умовах сплашнога земляўпарадкаваньня і мэліарацыі з зьнішчэньнем празпалосіцы і калёнізацыя балот. Гэта першы этап, пасьля якога магчыма разьлічваць на больш інтэнсыўнае іх скарыстаньне па нямецкаму спосабу.

У другіх раёнах (Меншчыне, Віцебшчыне і г. д.) дакладчык дапушчае рэальнасьць разьвіцьця інтэнсыўнай культуры балота (па нямецкаму спосабу).

У ажыўленых і цікавых спрэчкбх па апошніх двух дакладах выступіла 24 прамоўцы, думкі якіх амаль што ўсе знайшлі адбітак ў адпаведнай пастановы нарады.

Нарада канстатавала, што інтарэсы народнае гаспадаркі Беларусі і ў прыватнасьці сельскае гаспадаркі патрабуюць далейшага разьвіцьця і паглыбленьня мэліорацыйнага будаўніцтва ў бліжэйшыя гады, прычым нарада адзначыла галоўныя дасягненьні, якія зроблены БССР у гэтым напрамку, а ўласне:

а) выданьне Водна-мэліорацыйнага Кодэксу;

б) ажыцьцяўленьне першапачатковых, але важных мерапрыемстваў па мэханізацыі гідратэхнічных і культур-тэхнічных работ;

в) правядзеньне значных работ па стварэньню калёнізацыйных фондаў на балотах і

г) организацыі культур-тэхнічнай службы і іншых мерапрыемстваў па культур-тэхніцы.

Аснаўное пытаньне праграмы нарады аб далейшым напрамку асушальных работ— інтэнсыўнаму альбо экстэнсыўнаму—вырашана ў тым сэнсе, што ў бліжэйшым будучым мэліорацыя ў БССР павінна пайсьці, як па лініі інтэнсыўнага асушэньня з далейшай культурай балота, так і экстэнсыўнага асушэньня з павярховымі палепшаньнямі яго, *у адпаведнасьці з прыроднымі і эканамічнымі умовамі раёнаў БССР.* Самы разьмер работ у паказаных напрамках павінен вызначыцца 5-ці гадовым пэрспэктыўным плянам НКЗему, зацьверджаным Дзяржпляням СССР, прычым нарада прызнае маштаб работ па культуры балот, згодна гэтага пляну *мінімальным.*

Такім чынам, у гэтым асноўным першачарговым пытаньні нарада ўхваліла палітыку, якая праводзіцца Наркамземам, бо прынцыпы, прынятыя нарадай, поўнасьцю адпавядаюць кірунку працы Наркамзема. Але адначасова нарада канстатавала, што работы па культуры балот, якія праводзяцца ў сучасны момант, зьяўляюцца *далёка недастатачнымі і значна адстаўшымі, як ад пэрспэкцыйнага пляну, так і ад патрэб жыцьця.*

У той-жа час нарада зьвярнула увагу на неабходнасьць разьвіцьця работ па ўгнаяльнаму арашэньню балот у зьвязку з асушэньнем, падлічыўшы 30-ці-гадовы вопыт Капацэвічскага саўгаса ў гэтым напрамку.

Трэба адзначыць, што вопыт гэты пакуль што зусім ня скарыстан у другіх мясцох Беларусі, ня гледзячы на шэраг даных, якія, па думцы некаторых спэцыялістых, сьведчаць аб карыснасьці гэтага віду мэліорацыі пры спрыяючых тэхнічных умовах.

Нарада адхіліла ў асноўным проэк праф. Кірсанава аб ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па культуры балот галоўным чынам праз буйныя дзяржаўныя гаспадаркі на балотах і прызнала мэтазгодным і неабходным праводзіць масавую культуру балот сярод сялянства ў першую чаргу праз мэліорацыйныя таварыствы, а таксама праз калектыўныя гаспадаркі; саўгасы-жа на балотах нарада прызнала другарадным мэтадам у справе разьвіцьця масавай культуры балот. На апошнім месцы ў гэтых адносінах павінны стаяць паасобныя гаспадаркі.

Нарада далей прызнала, што мэліорацыйныя таварыствы, як галоўныя праваднікі і рассаднікі культуры балот, павінны мець сваею мэтаю ня толькі выпаўненьні гідратэхнічных і культур-тэхнічных работ, але і самую эксплёатацыю мэліораваных плошчаў на коопэрацыйных падставах. Знаходзячы, што дзейнасьць мэліорацыйных таварыстваў хоць і разгортваецца з году у год, але разьвіваецца далёка ня так, як гэта павінна быць,—нарада бачыць асноўную прычыну гэтага ў 2-х фактах: а) слабым абслугоўваньні таварыстваў у коопэрацыйным сэнсе і б) у недастатачным азнаямленьні сялянства з дасягненьнямі Менскай Дасьледчай Балотнай Станцыі.

На падставе даных аб узрастаньні мэліорацыйнага будаўніцтва, аб посьпехах, якія дасягнуты Беларусьсю у гэтым напрамку з аднаго боку і выяўленьня, характэрыстыцы і вызначэньня прычыны цэлага шэрагу недахопаў з другога боку, нарада высунула наступныя практычныя мерапрыемствы, якія павінны стварыць спрыяючыя умовы дзеля агульнага пашырэньня культуры балот наогул і выкананьня пэрспэкцыйнага пляну:

1. *З боку дасьледчага:*

а) Працягнуць і ўсімі мерамі разьвіваць дасьледваньні і вывучэньне балот БССР у мэтах устанаўленьня іх тыпаў, вучоту і *культуртэхнічнай* ацэнкі—што забясьпечыць магчымасьць вызначыць чарговасьць работ.

б) Выканаць мэліорацыйнае РАЁНАВАНЬНЕ БССР з выдзяленьнем тых раёнаў, дзе культура балот павінна праводзіцца ў першую чаргу.

2. *З боку організацыйнага і організацыйна-тэхнічнага:*

а) Прытрымлівацца гнездавога мэтада абслугоўваньня таварыстваў, зьвярнуўшы асаблівую увагу на масывы, дзеля якіх ужо падрыхтованы вадапрыемнікі, організаваўшы дзеля гэтага вучастковую культур-тэхнічную службу.

б) Прысьпешаць організацыю мэліорацыйных сэкцыяў пры Акрсельсаюзах, якім і даручыць уцягненьне таварыстваў у с.-г. коопэрацыю і адпаведнае абслугоўваньне іх.

в) Узмацніць мэханізацыю гідратэхнічных работ, пры правядзеньні буйных магістраляй так і пры дрэнажы і будаваньні адчыненай дробнай асушальнай сеткі.

г) Узмацніць мэханізацыю культур-тэхнічных работ асабліва пры першай успашцы шляхам масавага прыстасаваньня трактароў і фрэзераў, наперад спрабаваўшы розныя іх тыпы ва ўмовах БССР. У мэтах забясьпекі насельніцтва луга-балотным інвэнтаром, насеньнем лугавых траў і штучным угнаеньнем прыняць меры да вырабу і здабываньня іх у СССР; пакуль жа дабівацца значнага павялічэньня імпортнага пляну ў гэтай галіне да патрэбных разьмераў.

3. *З боку вучэбнага.*

Стварыць Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С і Л. Гаспадаркі спрыяючыя умовы дзеля разгортваньня пры Мэліорацыйным факультэце Акадэміі культуртэхнічнага аддзяленьня.

Апошняе мерапрыемства павінна будзе забясьпечыць сталую падрыхтоўку кваліфі-

каваных культур-тэхнікаў. лік якіх ня толькі ў БССР, але ў СССР наогул пакуль што невялік, ня гледзячы на тыя вялікія запатрабаваньні, якія ў бліжэйшыя гады будуць на адпаведных спэцыялістых пры гэтакім шырокім разьвіцці культуры балот.

На нарадзе яшчэ былі заслуханы наступныя інфармацыйныя даклады:

1) Праф. А. М. Дзьмітрыева—„Аб рабоце Дзьяржаўнага Лугавога Інстытуту ў Маскве".

2) М. В. Дакукіна—„Аб працы Менскай Дасьледчай Балотнай Станцыі" і

3) М. Л. Лейвікава—„Паасобныя ўражаньні аб культуры балот у Нямеччыне".

Гэтыя 3 даклады былі прыняты да ведама.

Такім чынам, асноўнае значэньне нарады, як гэта і адзначаў у заключным слове загадчык адмэліозему А. І. Шычко, заключаецца ва Ўсесаюзнай крытыцы работ Беларусі і ў стварэньні ў працаўнікоў Беларусі ўпэўненасьці ў правільнасьці ўжо праробленага і высьвятленьні паасобных грунтоўных недахопаў, а таксама і спосабаў іх зьнішчэньня.

М. Лейвікаў.

## Вышэйшая мэліорацыйная асьвета на Беларусі.

Праф. А. Н. Касцякоў у сваёй апошняй кнізе „Основы Мелиорации" *) па пытаньню аб пэрспэктывах мэліорацыі прыходзіць да наступнага вываду (ст. 459):

„Главнейшие районы развития осушительных работ в Европейской части СССР будут следующие:

1) В области избыточного увлажнения: 1) Западный (Белорусская СССР, Гомельская, Витебская и Смоленская губ.) 2) Северо-Западный (Ленинградская, Новгородская, Череповецкая, Псковская губернии) и Северный (Архангельская, Вологодская, Олонецкая губернии)".

З прыведзенага вынікае, што ня гледзячы на тое, што ўжо больш 50 год прайшло ад часу, калі была заложана Заходняя Экспэдыцыя і што вялізарныя плошчы балот пакрыты сеткай асушальных канаў, усе-ж патрэбнасьць у такік асушальных работах прадаўжае перавышаць патрэбнасьць у такіх работах іншых рэспублік Савецкага Саюзу. Мала таго: адкуль-жа вынікае, што у Беларусі маецца больш, чым у іншых мясцох, прадпасылак для ажыцьцяўленьня мэліорацый інтэнсыўных?

Аналёгічныя вывады можна-б было зрабіць і з дакладаў надзвычайнай Нарады па Культуры балот, якая адбылася пры Наркамземе БССР у кастрычніку месяцы бягучага году, а таксама з заключэньняў і пастаноў вышэйшых урадавых і плянавых органаў.

Пастановай Усесаюзнага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту за мэліорацыйнымі работамі Беларусі прызнана Ўсесаюзнае значэньне.

Пастановай Дзяржпляну СССР прызнана неабходным ажыцьцяўленьне мэліорацыйных работ у БССР у працягу 15-гадовага пэрыяду на плошчы каля $1^1/_2$ мільёнаў дзесяцін, пя лічачы буйных работ, якія намячаюцца у Гомельшчыне і бы́ўшай Рэчыцкай акрузе.

Ажыцьцяўленьне намечаных меліорацый будзе патрабаваць шырокага ўцягненьня беларускага сялянства ў мэліорацыйную працу. Аднак гэта, як правільна, адзначае ў сваім дакладзе на Нарадзе інжанэр К. А. Рэшэтнікаў, *) магчыма толькі пры наліччы цэлага шэрагу ўмоў, галоўнаі з якіх зьяўляецца прывядзеньне у належны парадак вадапрыёмнікаў і рэгуляваньня іх за кошт дзяржавы. Што датычыцца работ па ўтварэньню бочнай праводзячай і, уласна, рэгулюючай сеткі і культуртэхнічных работ, дык і гэтыя работы магчыма ажыцьцявіць толькі пры умове дапамогі з боку дзяржавы. Гэтая дапамога, як кажа дакладчык, мысьліцца і павінна ісьці ў напрамку дармовага тэхнічнага абслугоўваньня мэліорацыйных работ насельніцтва, крэдытаваньня іх і г. д.

Што насельніцтва можа быць уцягнута ў гэтую працу і што яно ўсьвядаміла сабе настойную неабходнасьць у мэліорацыі, ня можа быць сумненьня.

Статыстычныя данныя аб няўхільным штогоднім росьце мэліорацыйных таварыстваў з дасканальнай відавочнасьцю сьцьвяржаюць гэта, а іменна: *)

| Годы | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік Т-ваў | 13 | 59 | 103 | 254 | 254 | 617 |
| Організована нанова. | 46 | 46 | 44 | 151 | 171 | 192 |
| Лік сяброў Т-ваў | 449 | 2790 | 4868 | 13811 | 24746 | 35871 |

Жаданьне з боку насельніцтва організавацца у т-вы маецца вялізарнае. Па некаторых акругах заяўкі на організацыю т-в ляжаць без здавальненьня па некалькі год.

Не падлягае ніякаму сумляваньню, што пры: 1) наліччы вялізарнейшай патрэбнасьці у мэліорацыі, 2) пры надзвычайна шпаркім разгортваньні і пасьпяховым выкананьні мэліорацыйнага будаўніцтва на працягу апошніх год, 3) наліччы буйных асушальных устройстваў мінулага часу, якія патрабуюць за сабой належнага догляду, 4) штогоднім росьце ліку мэліорацыйных товарыстваў і, урэшце, 5) прызнаньні неабходнасьці ажыцьцяўленьня інтэнсыўнага асушэньня,—Беларусі патрэбен вялікі штат спэцыялістых і, пры гэтым, спэцыялістых вышэйшай кваліфікацыі. Штат

*) А. Н. Костяков. „Основы Мелиораций". Изд. 1927 г.

*) К. Решетников „Пути развития культуры болот в Белоруссии".

*) Данныя аб росьце мэліор. т-в запазычаны з кнігі Г. П. Пятроўскага „Работы мелиоративных т-в 1926 г."

такіх працаўнікоў патрэбен будзе ня толькі цяпер і ня толькі на пэрыяд ажыцьцяўленьня пятнаццацёх гадовага пляну, але і далей на доўгія годы. З разьвіцьцэм сельскае гаспадаркі будзе тут расьці і патрэбнасьць у мэліорацыі, бо ўзровень разьвіцьця яе, у прыродных умовах Беларусі, у высокім стопні залежыць ад таго, наколькі поўнаю і дасканальнай зьявіцца магчымасьць выкарыстаньня аграмадных плошчаў балот.

У той час, калі былі яшчэ вельмі далёка ад думкі інтэнсыўнага асушэньня балот і ня задаваліся пытаньнем плянавага асушэньня ўсіх балот Беларусі, здавалася эшчэ магчымым весьці працу па пэўнаму шаблёну, прыцягваючы да гэтай працы не мэліоратараў, а тэхнікаў іншых спэцыяльнасьцяў.

Цяпер у гэтых адносінах абставіны рэзка зьмяніліся: і запатрабаваньні сельскае гаспадаркі і мэліорацыі настолькі ўзрасьлі і сама мэліорацыя, (у сэнсе тэхнікі) настолькі шагнула наперад, што бяз мэліоратараў высокай кваліфікацыі ажыцьцяўляць пытаньні асушэньня і культуры балот бязумойна нельга.

Але адкуль атрымаць такі штат? Ці можна разьлічваць на тое, каб патрэбныя для работы на Беларусі тэхнічныя сілы запазычаліся па замежамі Рэспублікі? Разьлічваць на гэта надзвычайна трудна. Патрэба у мэліоратарах вялізарная, бо ва ўсім Саюзе разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ідзе вялічэзнымі крокамі.

Існуючыя Вузы ня змогуць, здаволіць штогодня растучы попыт на мэліоратараў. Разам з тым нельга ня ўлічваць і той акалічнасьці, што ў адпаведнасьці са спэцыфічнымі асаблівасьцямі асобных частак нашага Саюзу, навучальныя пляны мэліорацыйных факультэтаў розных Вузаў пабудованы з тым ці іншым ухілам—лесамэліорацыйны, абвадняльны, вузка інжанерна-мэліорацыйны і г. д.; словам, памылкова было-бы думаць, што мэліорацыйны факультэт любога Вузу мог-бы адпавядаць умовам і запатрабаваньням Беларусі.

Адгэтуль зразумела, наколькі патрэбна Беларускай Рэспубліцы свая ўласная, прыстасованая да прыродных і гаспадарчых умоў заходняй часткі Саюзу вышэйшая мэліорацыйная школа Без яе адчуваўся-б надзвычайна гостры нядахоп у спэцыялістых, патрэбных для ажыцьцяўленьня тых мерапрыёмств, ад якіх залежыць магчымасьць пашырэньня культурнай зямельнай плошчы, далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, а значыцца, і замацаваньне эканамічнага дабрабыту сельскага насельніцтва Рэспублікі.

Мэліорацыйны факультэт Беларускай Акадэміі с.-г. да разьвязаньня гэтых задач ідзе шляхам адпаведнай пабудовы навучальнага пляну, адпаведнай дасьледчай працы і ўстаноўкай шчыльнай сувязі з дасьледчымі і вытворчымі органамі.

У залежнасьці ад вызначанага напрамку мэліорацыйнага будаўніцтва у БССР, факультэт складаецца з двох аддзяленьняў: інжанерна-мэліорацыйнага і культур-тэхнічнага. Першае з іх існуе з часу заснаваньня факультэту, чаму і мае ўсе 4 курсы. Другое, культур-тэхнічнае, заснавалася у бягучым годзе, дзякуючы чаму на гэтым аддзяленьні ёсьць пакуль толькі першы курс. Велічыня прыёму на першы курс вызначана ў 60 чалавек, г. з., усяго па 30 чалавек на аддзяленьне

Істотнай розьніцай паміж навучальных плянаў гэтых аддзяленьняў зьяўляецца у адным выпадку перавага дысцыплін інжанерных у другім—на культуры балот і лугаводзтву.

У параўнаньні з навучальнымі плянамі другіх Вузаў, навучальныя пляны абодвух аддзяленьняў Мэлфаку Беларускай с.-г. Акадэміі розьніцца ясна выяўляным напрамкам ў бок вывучэньня умоў, магчымасьцяй і спосабаў выкарыстоўваньня збыткова ўвільготняных зямель—для сельска-гаспадарчых мэт. Прыходзіцца адзначыць, што пытаньням вадаснабжэньня і абвадненьня павінна быць адведзена адпаведнае месца і у такой нават багатай вадой рэспубліцы, як Беларусь.

Збытак балот ня можа служыць таксама і адзнакай забясьпечанасьці залюдняных месц здаровай вадой для пітва.

Па афіцыйных статыстычных даных за 1924 год у Беларусі зарэгістравана было 111,764 выпадкі эпідэмічных захворваньняў, з якіх кішкавых—13.179, Акрамя таго, зарэгістравана 1659 выпадкаў нявызначаных відаў тыфусу. Калі аднесьці, прыкладам, 50% гэтай лічбы да захворваньняў брушным тыфусам, дык у канчатковым выніку колькасьць кішковых захворваньняў эпідэмічнага характару складзе каля 12 проц. ад агульнага ліку выпадкаў захворваньня эпідэмічнымі хваробамі.

Адсутнасьць даных спэцыяльнага абследаваньня стану вадаснабжэньня паселішч Беларусі, нажаль, пазбаўляе нас магчымасьці больш падрабязна спыніцца на гэтым пытаньні і ў даным выпадку застаецца толькі спаслацца на адну цікавую працу М. Е. Кавалёва, нядаўна апублікаваную, пад загалоўкам: „Прыродна-гістарычныя і эканамічныя прадпасылкі забясьпячэньня вадою сялянскіх гаспадарак Горацкага раёну“. Работа гэтая дае далёка ня бліскучы малюнак стану вадаснабжэньня насельніцтва.

Што датычыцца пытаньняў абвадненьня, дык і яны ня могуць быць застаўлены бяз увагі. Досыць было-б паказаць хоць бы на шпарка растучую зацікаўлснасьць да абвадненьня балот. Вельмі добрыя вынікі атрыманы у Капацэвічах і сумежным з гэтым саўгасам мясцовасьцях; ня меньш добрыя вы-

нікі досьледаў абвадненьня балот на Яхрамскай станцыі і г. д., усё гэта дае пацставу быць упэўненым у тым, што справе абвадненьня на Беларусі будзе ў недалёкай будучыне вызначана месца, адпавядаючае яе важнасьці і значэньню.

Напэўна, цэнтральнае месца ў навучальным пляне інжынерна-мэліорацыйнага аддзяленьня сярод іншых спэцыяльных прадметаў займае асушэньне. Натуральна, што па сутнасьці самага прадмету, найбольшая доля часу аддаецца тут практычным заняткам, як зімовым, так і летнім, пры гэтым летнія заняткі праводзяцца ва ўмовах блізкіх да тых, якія чакаюць студэнтаў у будучай іх дзейнасьці, г. з., праводзяцца выведы на зямлях якога-небудзь таварыства, а потым, на падставе гэтых выведаў, складаецца проэкт, які ў большасьці выпадкаў мае рэальнае значэньне.

Паколькі канечнай мэтай асушальных работ зьяўляецца выкарыстаньне балот пераважна ў мэтах сельска-гаспадарчых, у навучальны плян уведзен спэцыяльны прадмет—„лугаводзтва і культура балот". Улічваючы, далей, неабходнасьць выкарыстоўваньня тарфяных балот, у навучальным пляне маецца, як асобны прадмет—„Тарфяная справа".

Пытаньне вадаснабжэньня і абвадненьня, якія ва ўмовах Беларусі маюць меньшае значэньне, аб'яднаны ў адзін прадмет.

Пытаньні замацаваньня пяскоў і равоў, пабудовы мастоў і дарог (пераважна з праўдзеньнем мэліорацый), выкарыстоўваньне вадзяной энэргіі шляхам гідрасілавых установак, усе гэта, напэўна, знайшло павіннае адбіцьцё ў пляне, ў якім, у адпаведнасьці з пералічанымі пытаньнямі, уведзены самастойныя курсы.

Экономіка мэліорацый выдзелена ў асобны прадмет.

Як асобны прадмет, праўда ў невялікім ахопе, уведзена ў бягучым навучальным годзе азнамленьне студэнтаў з пытаньнямі організацыі работ і тэхнічнай справаздачнасьцю.

Пасьпяховае выкананьне і праэктаваньне мэліорацыйных работ магчыма толькі пры наліччы ў асоб пэўных інжынерных ведаў, якія і даюцца выкладаньнем ніжэй паказаных прадметаў: будаўнічае мастацтва, зялеза-бэтонныя конструкцыі, гідратэхнічныя пабудовы, агульнае і спэцыяльнае машыназнаўства, дэталі машын, электратэхніка і электрафікацыя, а таксама прадметаў, якія ляжаць у аснове вывучэньня мэліорацыі: гідраўліка, гідрамэтрыя, гідралёгія, гідрагеолёгія і геодэзія.

У сваю чаргу, вывучэньне большасьці залічаных прадметаў патрабуе адпаведнай матэматычнай падрыхтоўкі, для чаго ў навучальным пляне адведзена віднае месца вышэйшай матэматыцы, тэорытычнай і будаўнічай мэханіцы.

З натуральна-гістарычных прадметаў у плян уключаны: батаніка, геолёгія і мінэралёгія, глебазнаўства і мэтэоролёгія с кліматолёгіяй, а з графічных—інжынернае і топографічнае рысаваньне.

Таксама мэліоратарам павінны быць вядомы асновы сельскае і лясное гаспадаркі, чаму і гэтым двом прадметам вызначана адпаведнае месца.

Агульны лік усіх прадметаў у пляне—44.

Па ліку гадзін, якія вызначаны асобным прадметам у пляне, 27,6 проц. прыпадае на долю спэцыяльных прадметаў, 41,4 проц. — агульнатэхнічных і 31 проц.—агульнаасьветным.

У навучальным пляне культуртэхнічнага аддзяленьня значна меньш часу вылучаецца інжынерным і матэматычным навукам, але за тое ўведзяны: балотазнаўства, культура асушаных зямель, лугаводзтва і лугазнаўства, фізыялёгія расьлін, мікрабіолёгія і г. д., а таксама пашырана выкладаньне некаторых натуральных навук, у прыватнасьці, батаніка разьдзелена на агульную батаніку і спэцыяльную матэматыку расьлін. Больш падрабязна праходзіцца і хэмія. Замест асноў хэміі ўведзены: хэмія неорганічная, органічная і аналітычная.

Пераходзячы далей да пытаньня мэтаду выкладаньня, належыць адзначыць, што веды выкладаюцца як лекцыённа, так і правядзеньнем практычных заняткаў.

Практыка падразьдзяляецца на навучальную і вытворчую.

Наколькі шырока праводзіцца навучальная практыка, можна бачыць з прыведзянай табліцы, у якой паказана ў працэнтах лік гадзін, прызначаных для лекцыённых і практычных заняткаў.

| ПРАДМЕТЫ | %% лекц. гадз. | % гадзін практ. занятк. Зім. | Летн. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Агульнаасьветныя | 53,4 | 41,3 | 5,3 | 100 |
| Агульнатэхнічныя | 38.9 | 42,2 | 18,9 | 100 |
| Спэцыяльныя . . | 41,2 | 42,2 | 16,6 | 100 |
| У сярэднім. | 47,1 | 45,7 | 7,2 | 100 |

Што датычыцца вытворчай практыкі, дык яна праводзіцца ў жыцьцё таксама надзвычайна шырока. Нельга ня адзначыць у даным выпадку поўнага садзейнічаньня з боку Наркамзему БССР, які дае студэнтам мэліо-

рацыйнага факультэту месцы. Так, прыкладам, у летку 1927 году адбыла вытворчую практыку 46 проц. агульнага ліку студэнтаў факультэту.

Вытворчую практыку ў 1927 годзе атрымалі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| на | I курсе | 3% | агульн. | ліку | студ. | курсу |
| „ | II „ | 34% | „ | „ | „ | „ |
| „ | III „ | 86% | „ | „ | „ | „ |
| „ | IV „ | 92% | „ | „ | „ | „ |

Недахоп месца ў кароткім артыкуле часопісу пазбаўляе нас магчымасьці падрабязна застанавіцца над навучальнай і дасьледчай працай факультэту. Пакажам толькі на тое, што дасьледчая праца вядзецца ў напрамку самых жыцьцёвых пытаньняў мэліорацыі Беларусі. Аб'ектам даследаваньня служыць галоўным чынам балота. Вывучаецца рост балот, уплыў забалочанасьці на рост лесу, работа асушальных канаў, якія пракладзены на балоце, сьцёк вады з балота і г. д. Для выкананьня такога роду дасьледчай працы факультэт мае спэцыяльны балотны вучасток.

Аднак абмяжоўвацца такімі вузкімі рамкамі і здавальняцца адным памяненым вучасткам нельга. Навуковыя працаўнікі факультэту вядуць вялікую дасьледчую працу ў сувязі з ажыцяўленьням Наркамземам пляну мэліорацыйных работ па Беларусі.

Аналёгічна гэтаму факультэтам налажана сувязь і па сутнасьці і пэрсанальна з дасьледчым Інстытутам імя У. І. Леніна і з Інстытутам Беларускай Культуры.

Што датычыцца сувязі з вытворчымі організацыямі, дык да пэўнага стопню яна ўжо выявілася памянёнымі вышэй прыкладамі дасьледчай працы для Наркамзему. Далей яна выяўляецца ў штодзённым удзеле студэнтаў мэлфаку ў работах Наркамзему ў часе вытворчай практыкі, і, нарэшце, у тым, што навучальны плян пабудаваны на аснове абмену думкамі паміж навуковымі працаўнікамі факультэту і працаўнікамі ў вытворчасьці, які меў месца на зьезде мэліоратараў у студзені 1927 году, скліканым па ініцыятыве Мэліорацыйнага Гуртка Акадэміі.

Закончым гэткую заметку пажаданьнем яшчэ большага паглыбленьня сувязі навучальнай і дасьледчай працы з вытворчасьцю, бо ў ёй залог посьпяху мэліорацыйнай справы, якая так неабходна на Беларусі.

Праф. В. Долініно-Іванскі

## Глебазнаўчая экспэдыцыя 1927 г.

Летам 1927 году згодна прапановы Навуковага Бюро па дасьледчай справе Беларусі і інш. Навукова-дасьледчага Інстытута ім. Леніна плянавыя досьледы глеб Беларусі был і перадвінуты ў Мазырскую акругу. Мелася на ўвазе, што глебаведная экспэдыцыя ў выніку сваіх досьледаў дасьць выстарчаючы матэрыял для таго, каб з большай адпаведнасьцю для акружаючага раёну выбраць месца пад дасьледчую Палескую пяшчана-балотную станцыю.

У сувязі з ад'ездам на лета кіраўніка глебаведнае экспэдыцыі-праф. Я. М. Афанасьева ў Амэрыку на сусьветны конгрэс глебаведаў досьледы былі праведзены пад кіраўніцтвам яго асыстэнта П. П. Рагавога. У склад экспэдыцыі ўваходзілі глебаведы экскурсанты— Т. М. Сырых, А. М. Дронжэўскі, С. А. Разанаў, В. Я. Капусьцін і П. С. Бондараў.

Досьледамі ў 3-х верстным маштабе пакрыта ўся плошча Мазырскае акругі і вельмі дэталёва была дасьледвана плошча урочышч Сосны колфонда Мар'а. На плошчы пяшчана-балотнага поля ў Скрыгалове, якое было дасьледавана дэталёва ў мінулым годзе, былі ўзяты пробы для вызначэньня pH глебы.

Досьледамі выкрыта вельмі аднастайная будова грунтаў на ўсей плошчы Мазыршчыны. У падаўляючай большасьці грунты складзены з глыбокіх сартаваных пяскоў, на роўных мясцох прыкрытых зьверху зьвязнымі пяскамі і супяскамі. Сярод іх шмат сустракаецца надутых пескавых дзюн (згодна праф. Туткоўскага барканай). На чуць прыпаднятых мясцох сустракаюцца супяскі і рэдка буйнапяшчаныя суглінкі, падасланыя блізка марэнай. Толькі вузкай палоскай, перасякаючай р. Прыпяць у напрамку праз Мазыр—Юравічы на Хойнікі, ляжаць лёсападобныя глыбокія супяскі і суглінкі, падасланыя марэнай. Ды ў раёне м. Турава паміж р. Ствігай і Прыпяцьцю і бліз Перарова невялікімі плямкамі знойдзены лёсападобныя цяжкія маргелістыя суглінкі.

Затое глебы Мазыршчыны, ня гледзячы нд аднайстайнасьць грунтоў, ведьмі стракаты. Глебы самых розных, нават рэдкіх форм ападзольваньня і забалачваньня. Характэрнай асаблівасьцю большасьці іх зьяўляецца блізкі ўзровень грунтовых вод.

Дзякуючы гэтаму шмат прадуктаў глебы вымываюцца ў грунтовыя воды і зносяцца далека і, наадварот, з грунтовых вод некаторыя прадукты адкладаюцца ў глебе (асабліва вапна і жалеза) і ствараюць каштоўныя перагнойна-карбонавыя глебы (каля Турава).

Акрамя Мазыршчыны па прапанове Навукова-Досьледчага Інстытута былі праведзены вельмі дэталёвыя досьледы глеб саўгасаў Сьлепня, Сьляпянка і Буйнічы. Ва ўсіх гэтых матэрыялах азначаны pH непасрэдна пасьля таго, як былі ўзяты пробы. На аснове ўсіх даных складзены папярэднія глебавыя карты гэтых вучасткаў.

Пры удзеле геа-батанікі М. Е. Баранавай сабраны дэталёвы матэрыял на плошчы Сьлепні і Сьляпянкі, што дае мажлі-

васьць, на аснове зробленай вельмі дакладнай нівеліроўкі паверхні, падсьцілаючай марэны і глыбіні грунтавых вод данае мясцовасьці, скласьці вельмі дэталёвую глебавую карту на аснове комплекса даных аб глебатворчай пародзе, расьліннасьці і морфолёгізных адзнак глеб.

П. Рагавы.

## Досьледы па Эканоміцы Мэліорацыі.

У пачатку 1924 году, у сувязі з прадпрынятымі ў Б. С. С. Р. у тым-жа годзе, у першы раз пасьля Рэвалюцыі, досыць вялікімі мэліорацыйнымі працамі, у Наркамзема, утварыўшага іх, паўстала патрэба ў арганізацыі навукова дасьледчых прац па розных пытаньнях тэорыі і практыкі мэліарацыйнае справы. У шэрагу другіх досьледаў, была высунута думка аб арганізацыі экспэдыцыйных дасьледваньняў па пытаньням эканомікі мэліорацыі. Так як мэліорацыйныя працы 1924 г. сьціскаліся ў першаю чаргу з арганізацыяй асадніцкіх фондаў, то ў задачу эканамічных досьледаў было пастаўлена вытлумачэньне пытаньняў зьвязаных з гэтым. Але ўжо ў той час было досыць ясна, што пастаноўка дасьледчых прац па эканаміцы мэліорацыі апраўдае сябе толькі ў тым выпадку, калі задача іх ня будзе сьціснута пытаньнямі датычыўшыміся толькі асадніцкіх праблем. Па гэтаму, у зацьверджанай, у чэрвені 1925 г. Народным Камісcарам, дакладной запісцы па пытаньню аб арганізацыі эканамічных досьледаў было сказана, што ў задачу іх павінна ўваходзіць вытлумачэньне асадніцкай ёмістасьці забалочаных абшараў, але і наогул рэнтабельнасьці розных відаў мэліорацыі і культур-тэхнічных мерапрыемств у сувязі з тыпамі гаспадарак дасьледваных акругоў.

Распачынаючы выбары досьледаў Кіраўмэліазема вызначыў у якасьці раёну-досьледаў 1925 г. паўднёвую частку Беларусі (Мазырскую вакругу), якая зьяўляецца адным з найбольш забалочаных раёнаў. Тут каля возера Князь, на абшарах Марыінскага саўхозу была намечана арганізацыя асадніцкага вучаётку на балоце і Кіраўмэліазему было неабходна сабраць матар'ялы патрэбныя для разьвязаньня пытаньняў паўстаючых у сувязі з арганізацыяй гаспадаркі на гэтым вучастку. Акрамя таго, Мазырская вакруга прадстаўляе абшар, дзе захавалася досыць значная сетка абсушвальных каналаў, экспэдыцыі Жылінскага і прадстаўляла вялікую цікавасьць раструмачыць, ці чыніць і які ўплыў на сельскую гаспадарку гэта досыць экстэнсыўнае абсушваньне, гэтыя старыя каналы, нахадзіўшыяся ў вельмі запушчаным становішчы. Высьвятленьне гэтага пытаньня прадстаўляе значны інтарэс для разьвязаньня больш агульнага пытаньня аб мэтазгоднаоьці для Беларускае сельскае гаспадаркі экстэнсыўната абсушваньня.

Па ўсім гэтым мяркавананям, было намечана для вывучэньня ў першую чаргу Палесьсе, а незначнасьць адпушчаных сродкаў прымусіла абмяжавацца досьледам аднаго Мазырскага раёну.

Такім чынам былі намечаны адзначаныя задачы досьледу, выцякаўшыя пераважна з непасрэдных практычных патрэб кіраўнічага органу мэліарацыйнай справай.

Што датычыцца складаньня дэталёвае праграмы досьледу, выбару мэтаду працы і арганізацыі яе, то у гэтых адносінах Упраўмэліазем ня меў і ня мог даць якіх небудзь істотных паказаньняў.

Ня толькі ў Б. С. С. Р. але прынамсі, паколькі справа датычыцца абсушвальвых мэліорацый, то і ў ва ўсім С. С. С. Р. мы ня мелі ні ў даваенны час ні ў час пасьлярэвалюцыі падобных досьледаў. Практыка-ж падобных прац у галіне арасіцельных і абваднісцельных мэліорацый таксама ня вельмі багатая, для дадзенага выпадку была мала прыгодная, таму-што тут мы маем зусім іншыя абставіны ў эканамічных адносінах. Галоўныя труднасьці ўкладваліся тут у тое, якім шляхам выявіць рэнтабельнасьць абсушвальных мэліарацый і ступень іх рэнтабельнасьці, калі на абсушаных (адносна абсушаных) землях мы маем справу з такою-ж гаспадаркаю, з гэтакім жа агульным вызыскам іх, як і на ўсіх астатніх землях не абсушаных. Паглыбілася-ж гэта труднасьць яшчэ і тым, што гаспадары, якія карысталіся плошчай ня рэдка ня мелі непасрэдных адносін к тым стратам, якія былі ўтвораны на пабудову абсушвальных канаў (дзяржавай, б. памешчыкамі і г. д.) нічога не маглі сказаць аб велічыні гэтых страт, чым і перашкаджалася і рабілася немагчымым параўнаньне страт з адтрыманым прыбыткам. Пры наяўнасьці гэтых усіх перашкод, пры наяўнасьці малай навучанасьці сялянскай гаспадаркі Беларусі, а ў асабліваcьці Палесься, прыхадзілася нанава разьвязваць пытаньне аб праграме і пляне досьледу[1],

Складзеная і зацьверджаная Упраўмэліаземам праграма досьледу у грунтоўным мела наступны зьмест: досьлед было назначана ўтварыць па способу экспэдыцыйнага выбарачнага паселішчнага і падворнага, для чаго быў складзены адпаведны блянк. У зьмест блянку ўваходзілі ўсе агульныя пытаньні статыстычна-эканамічнага характару з значным разьвіцьцём адзелаў датычышчыхся уго-

---

1) Арганізацыя досьледу была даручана прафэсару у тэй час Горацкага С. Г. Інстытуту (цяпер Беларускай С. Г. Акадэміі) Н. С. Фралову і ажыцьшявлася ў 1925—26 г. г. пры бліжэйшым удзеле А. І. Гарэлікава, а ў 1927 г. таксама і К. С. Загорскага.

дзій. і розных відаў нягожых зямель, жывёлагадоўлі і ўмоў утрыманьня жывёлы, умоў уборкі сенажацей і ўмовы кармовога пытаньня і г. д., а таксама быў складзен спэцыяльны аддзел датычашчыйся абсушваньня і др. відаў мэліарацыі зямель. Упоруч з гэтым, дзеля немагчымасьці хоць як даеканала абхапіць непасрэдным выпытам назначаную для досьледу ўсю вакругу, было пастаноўлена, па першае, абабраць для кожнага адміністрацыйнага раёну ўсе якія маюцца статыстычныя дадзеныя ў аграномаў, страхагэнтаў, лясьнічых, а таксама агульна-статыстычныя дадзеныя (вясеньніх выбарачных досьледаў і др.) у статбюро і, па другому, зрабіць выпіску (суцэльную) паселішчных, і (справаждаючы яе групіроўкай) штодворных падатковых дадзеных, маючыхся ў раённых выканаўчых камітэтах; урэшце, у найболш зацікавіўшай Упраўмэліазема; па ўжо выкладзенай вышэй думцы, заходняй часткі Мазырскай вакругі, у прыватнасьці ў Жыткавіцкім раёне, дзе знаходзіцца саўхоз Марына былі зроблены бюджэтныя досьледы (28 гаспадарак).

З пачатку 1926 г. досьлед быў скончан і ўлетку таго-ж году была апублікавана справаздача аб працах 1925 году [1]).

Улетку 1926 г. дасьледваны былі Бабруйская і Слуцкая вакругі. Праграма досьледу была наогул тая-ж але штодворнае дасьледваньне было зусім паасоблена ад паселішчнага і для яго быў складзены паасобны блянк. На летні час 1927 г. быў назначан канчатак досьледу ў ва ўсіх астатніх вакругах Б.С.С.Р. у тым ліку і ў нанава далучаных Гомельскай і Рэчыцкай. Прыймаючы пад увагу тое, што гэта быў апошні год досьледу, што ў мінулым ужо былі 2 гады практыкі, уся праграма была перапрацована. Спосаб досьледу быў застаўлены той-жа, але як паселішчны, так і штотдворны блянк былі нанава складзены. Найбольш значныя зьмены былі такія: па першаму быў пашыран аддзел мэліарацыі, больш падрабязгова распрацованы пытаньні, зьвязаныя з гэтым і па другому, форма картак была складзена такім чынам, каб шляхам накладваньня была магчымасьць зручней падлічваць з самой карткі, бяз пераносу лічбаў на распрацовачныя касьнікі (ленты).

Такая-ж форма была дадзена бюджэтнаму блянку. У папярэдні гады блянк для бюджэтнага апытваньня, якім карысталася экспэдыцыя. ні па форме, ні па зьместу, не адрозьніваўся колькі небудзь па сутнасьці ад звычайных форм бюджэтнага выпыту. Пры перапрацоўцы праграмы досьледу ў 1927 г. ў блянку бэджэтнага выпыту, складзенаму, апрача некаторых статыстычных рубрык, па сыстэме паасобных рахункаў (рахунак ральніцтва, гародніцтва, сенажаці, буйнай рагатай жывёлы, аўчарства і г. д.) былі падрабязгова распрацованыя пытаньні неабходныя для складаньня рахункаў мэліарацыі і асобных яе відаў (дрэнажа, скараджэньня, сенажаці і г. д.).

Выбарка падатковых дадзеных была застаўлена ў праграме досьледу з той зьменай, што паселішчныя падатковыя дадзеныя выпісваліся ўсьцяж, а падворныя ў кожным дзесятым (па сьпісу) дварэ.

Акрамя таго на кожным паселішчным падатковым касьніку (картцы) запiываліся, па выпыту ў РВК-е плошчы нягожых зямель і балот у селішчы, а таксама ці ёсьць у гэтым селішчы абсушвальныя канавы. У наступны час распрацоўка гэтых картак не пачата, але як відаць апошнія з спамянутых пытаньняў, маючыя вельмі важнае значэньне для групаваньня падатковых картак, зроблены па 30—40 % селішч.

У агульным падрахунку за тры гады працы быў дасьледван наступны лік акругаў і раёнаў і зроблена наступная колькасьць розных картах.

| ГАДЫ. | Лік дасьледаваных. | | Лік зробленых блянкаў. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Акругаў. | Раёнаў. | Пасёлішчных. | Падворных. | Бюджэтаў. | | Падатковых. | |
| | | | | | Поўных. | Скарочаных. | Паселішчных. | Падатковых. |
| 1925 г. . . | 1 | 7 | 34 | 279 | 8 | 20 | 623 | — |
| 1926 г. . . | 2 | 14 | 171 | 1678 | 43 | 88 | 3622 | 12706 |
| 1927 г. . . | 9 | 71 | 567 | 7187 | 72 | 128 | 18937 | 52104 |
| За ўсе гады | 12 | 93 | 772 | 9144 | 123 | 236 | 23182 | 64810 |

1) Н. К. З. Б. Упраўленьне земляўпарадкаваньня і Мэліарацыі. Навукова-дасьледчыя працы 1925 году. вып. 5 Н. С. Фралоў. Пытаньні эканомікі мэліярацыі ў Мазырскім Палесьсі. Менск 1926 г.: аднпачасова з гэтым, частка распрацованых матар'ялаў экспэдыцыі была апублікавана адным з асоб прыймаўшых удзел гэтай распрацоўцы ў „Працах Навуковага Таварыства“ т. I Горкі 1926 год.

Такім чынам, сабраны досыць вялікі матар'ял, якога, у галіне пытаньняў экономікі мэліарацыі, калі ня лічыць Туркестану, іншыя часткі С.С.С.Р. ня маюць. Досьлед насіў выбарачны характар, але досыць значная колькасьць апісаных гаспадарак, складзеных бюджэтаў і выбарных падатковых дадзеных падстаўляючых усе вакругі і раёны Б.С.С.Р. даюць магчымасьць шляхам аналізу і вывучэньня гэтых матар'ялаў, высьвятліць назначаныя і высунуць шэраг новых пытаньняў і галіне экономікі мэліарацыі.

Пры абгаварэньні пытаньня на конт распрацоўкі матар'ялаў досьледаў 1925 і 1926 г. г. у Тэхнічным Камітэце Упраўмэліазема, у Земплане і ў Калегіі Наркамзему, былі прыняты ў якасьці грунтоўных задач для распрацоўкі наступнае: а) адзначыць і характарызаваць у адносінах мэліарацыі паасобныя раёны Беларусі (мэліарацыйныя раёны), б) высьвятліць ступень і нормы рэнтабельнасьці асобных відаў мэліорацый па гэтых раёнах, в) высьвятліць пэрспэктывы іх у адносінах павялічэньня іх сельска-гаспадарчай (ужо асадніцкай на мэліарыруемых землях) ёмкасьці. У гэтым, навогул напрамку ішла распрацоўка матар'ялаў досьледу 1925 г. (апублікаваны ў адзначанай вышэй працы), у гэтым-жа напрамку распрацаваны матар'ялы досьледу 1926 г. (друкуецца). Аднак-жа галоўная частка працы па распрацоўцы і вывучэньню матар'ялаў яшчэ ўперадзе. Працы першых двох гадоў насілі да некатарай ступені накіравальны характар. Цяпер досьлед поўнасьцю скончаны.

Сабраны вялікі матар'ял дазваляе зрабіць апрацоўку матар'ялаў ня толькі шляхам іх параённага групаваньня па адной прымеце, але таксама спосабам камбінацыйнага аналізу. Зробленыя ўжо ў гэтым напрамку працы, напрыклад, К. С. Загорскага „Прыбытак сярэдняй сялянскае гаспадаркі ў сувязі з забалочанасьцю і абсушваньнем зямель“ (друкуецца), скарыстаўшага для камбінацыйнага групаваньня па ступені забалочанасьці і процанту абсушваньня, сабраныя экспэдыцыяй матар'ялы (паселішчныя), даюць магчымасьць зрабіць вельмі істотныя і важныя для практычных разьлікаў, вынікі аб сувязі паміж гэтымі зьявішчамі. У гэтым жа напрамку выконваецца у наступны час праца А. І. Гарэлікавым, вывучаючым сувязь паміж гэтымі самамі фактарамі і прыбытачнасьцю гаспадаркі, як яна адбіваецца дадзенымі бюджэтных досьледаў.

Далей, рахунковы аналіз большага ліку сабраных бюджэтаў, з выдзяленьнем спэцыяльных рахункаў мэліарацыі, павінен даць грунт для разьвязаньня пытаньня аб нормах рэнтабельнасьці, а сумесна з гэтым і аб граніцах страт на мэліарацыі пры ўмовах іх рэнтабельнасьці, каб найбольш рэнтабельных відах мэліарацыйных страт і г. д. На грунце гэтае аналітычнае працы можна будзе падыйсьці к разьвязаньню пытаньня аб шляхах разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў сувязі з мэліарацыяй нягожых зямель і праблемы аб гранях увелічэньня сельскя-гаспадарчай ёмістасьці Беларусі. У шэрагу з гэтым на грунце матар'ялаў экспэдыцыі будзе магчыма прапрацоўка шэрагу пытаньняў, якія датычацца экономікі паасобных відаў мэліарацыі зямель.

Для таго, аднак, каб падыйсьці к гэтаму заключнаму этапу досьледа, неабходна прапрацаваць вялікую колькасьць рахунковых і вылічыцельных прац, на што неабходны значная колькасьць сродкаў. Агульная колькасьць адпушчаных і страчаных на навукова-дасьледчыя працы па экономіцы мэліарацыі сумы відна з наступных лічбаў.

| Бюджэтны год | Страчана на апрацоўку матар'ялаў | Страчана на экспэдыцыйныя досьледы | УСЯГО |
|---|---|---|---|
| 1924-5 | — | 3250 | 3250 |
| 1925-6 | 2890 | 3472 | 6362 |
| 1926-7 | 3863 | 11800 | 15663 |

Павялічэньне сродкаў на экспэдыцыйныя досьледы па каштарысу 1926-7 году было зроблена ў выніку таго, што замест прапанаванага раней 5-ці гадовага тэрміну досьледу (па пэрспэктыўнаму пляну НКЗ назначана было павялічэньне асыгнаваньняў на ўсе навукова-дасьледчыя працы па мэліарацыі з 21 тыс. у 1925-6 да 50 тыс., у 1928-9 і такое-ж сумы в 1929—30 г.) пастаўлена было ў мэтах магчымасьці параўнаных матар'ялаў скончыць працу ў тры гады. Першапачаткава па каштарысу НКЗ на экспэдыцыйныя эканамічныя досьледы 1927 году было назначана 18 тыс. руб., але потым, перад пачаткам летніх прац, сума гэта была скарочана да 11 тыс. рублёў.

У наступны час паўстае пытаньне аб тым, у якім становішчы будзе знаходзіцца водпуск сродкаў на распрацоўку матар'ялаў досьледу 1927 г. Вопыт папярэдніх гадоў як і звычайная практыка статыстычна-эканамічных досьледаў падобнага роду паказвае, што распрацоўка матар'ялаў досьледаў, патрабуе каля такой-жа колькасьці сродкаў, як і іх збор. Згодна складзенага для гэтага каштарысу найменьшая колькасьць сродкаў неабходных дзеля распрацоўкі матар'ялаў экспэдыцыі вылічаны ў колькасьці 12421 руб.

Паміж іншым, да наступнага часу пытаньне аб даставаньні гэтых сродкаў знаходзіцца ў неазначальным становішчы, што пагражае бязумоўным зрывам усяе працы ў яе заключнай стадыі. Будзем спадзявацца, што

гэтага няздарыцца, і што прымаючы пад увагу тое значэньне, якое маюць досьледы для накіроўваньня мэліарацыйных прац у Беларусі а таксама і тыя працы і сродкі, якія ўжо страчаны на гэту справу,—неабходныя матар'яльныя ўмовы для пасьпяховага сканчэньня працы будуць забясьпечаны.

Н. Ф.

## Курсы сялян - дасьледчыкаў.

Пачынаючы з Сьнежня і на працягу 4—5 і месяцаў Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна будзе праводзіць праз часопіс „Плуг" завочныя курсы для сялян-дасьледчыкаў.

Курсы маюць сваею мэтаю даць сялянам-дасьледчыкам і наогул усім сялянам, якія цікавяцца дасьледчай справай адпаведны напрамак і кірунак у іх дасьледчай працы, а таксама належным чынам падрыхтаваць іх дзеля больш сталага правядзеньня досьледаў.

Курсы будуць праводзіцца па наступнай праграме:

### I. Агульная часьць.

1) Пабудова дасьледчай справы на Беларусі.

2) Значэньне сялянскага досьледу ў палепшаньні і перабудове сельскае гаспадаркі.

3) Як будуецца Інстытут сялян-дасьледчыкаў у БССР.

### II. Палявая гаспадарка.

1) Апрацоўка глебы, 2) занятыя папары, пажніўныя і ладсяўныя культуры. 3) Запраўка глебы арганічнаю масаю (гной, торф, кампост і зяленае ўгнаеньне). 4) Мінэральныя ўгнаеньні. 5) Некаторыя асаблівасьці культуры бульбы і корэньплодаў. 6) Сортаспрабаваньне. 7) Вывучэньне севазваротаў, 8) Як ставіц досьледы на полі.

### III. Культура сенажаці і балота

1) Біолёгія сенажаці, характарыстыка балот.

2) Спосабы палепшаньня сенажаці і досьледы.

2) Спосабы культуры балот і досьледы.

### IV. Жывёлагадоўля.

1) Што трэба ведаць пры пастаноўцы досьледаў па жывёлагадоўлі.

2) Досьледы скармленьня малочнае жывёлы.

3) Досьледы з выхаваньнем маладняку.

4) Досьледы з адкормам сьвіней.

5) Досьледы па малочнай гаспадарцы.

### V. Садоўніцтва і гародніцтва.

1) Якія і як трэба ставіць досьледы ў садзе.

2) Досьледы на гародзе.

### VI. Эканоміка сельскае гаспадаркі.

1) Значэньне рахунковых запісаў для сельскае гаспадаркі і як іх весьці.

### VII. Лекавыя расьліны.

1) Лекавыя расьліны і як ставіць з імі досьледы.

У курсах будуць прымаць удзел Народны Камісар Земляробства БССР—Прышчэпаў, Дырэктар Інстытуту імя ЛЕНІНА—Гарэцкі, Праф. Скандракоў, праф. Бурштэйн, праф. Пеліхаў, праф. Найдзёнаў, спэцыялістыя і асыстэнты Навукова-Дасьледч. Інстытуту, спэцыялістыя Нарказему, загадчыкі спэцыястыя Дасьледчых Станцый.

У першым нумары выкладзены пытаньні па жывелагадоўлі. У другім нумары пойдуць пытаньні расьлінагадоўлі.

Вельмі пажадана, каб усе працаўнікі на мясцох прынялі шчыры ўдзел у распаўсюджываньні і тлумачэньні гэтага матар'ялу, а сялянам-дасьледчыкам неабходна яго стала прапрацаваць. Таксама неабходна гэты матэр'ял прапрацаваць у ва ўсіх гуртках, школах і г. д., каб гэтым самым пашыраць веды па дасьледчай справе сярод шырокіх мас сялянства.

Бюро сялян-дасьледчыкаў.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Н. Пелехоў.** *Справаздача Аддзелу Жывёлагадоўлі Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі. („Працы Горацкай Сельска-Гаспадарчай Дасьледчай Станцыі за 1924-26 г. том II“).* У № 10 часопісі „Наш Край“ і ў № 10 часопісі „Плуг“ зьмешчаны паведамленьні М. С. Савіцкага аб дасягненьнях дасьледчае працы ў розных галінах сельскае гаспадаркі БССР. Пры гэтым аўтар падрабязна спыняючыся, напр., на працы аддзелаў сэлекцыі расьлін, Гародніцтва ды інш.,--аніводнага слова ня кажа аб працы з найважнейшых галін сельскае гаспадаркі БССР., у жывёлагадоўлі. Дзеля гэтага мы і лічым за карыснае дапоўніць у гэтым напрамку зьвесткі аўтара, хаця-б на адной Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі.

Каб можна было судзіць аб працы якога-колечы з аддзелаў Дасьледчае Станцыі, неабходна высьніць наступнае: 1) у якой меры стан гэтага аддзелу (штат, абсталяваньне ды інш.) адказвае таму месцу, якое займае ў эканоміцы краіны даная галіна гаспадаркі; 2) ступень жыццёвасці тэм, якія распрацоўваюцца аддзелам і 3) наколькі правільна чы ны распрацоўваюцца г. ё. у якой меры можна даверыцца на вывады аддзелу. З гэтых трох бакоў мы і разгледзім працу Аддз. Жывёлагадоўлі, паколькі яна адбіваецца ў II томе „Прац Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі“.

Нажаль у прадмове, напісанай Дырэктарам Станцыі, няма даных ні аб лічэбнасьці штатаў, ні аб вялічыні опэрацыйных сродкаў розных Аддзелаў. Аднак, з справаздачы Аддзелу Жывёлагадоўлі відаць, што ўвесь штат гэтааа аддзелу складаецца, калі ня лічыць загадчыка, з аднаго навуковага супрацоўніка. Калі пацікавіцца як гэта справа стаіць у іншых аддзелах, дык можна пабачыць, што Аддзел Сэлекцыі мее, апроч загадчыка, шэсьць супрацоўнікаў, Аддзел Агрохэміі— 5 супрацоўнікаў і 2-х студэнтаў-практыкантаў і г. д. Ужо адно гэта паказвае, што з Аддзелам Жывёлагадоўлі ня ўсё добра. Далей, у прадмове падрабязна пералічваюцца найболей вострыя патрэбы Станцыі—неабходнасьць пабудовы вэгэтацыйнай хаткі, будынкаў для малацьбы і перахоўваньня ураджаю з досьледчых дзялянак і г. д. Пра Аддзел Жывёлагадоўлі пры гэтым няма і мовы; тымчасам, наколькі нам ведама, быдла Аддзелу стаіць у гнойных хлявох, кармушкі для быдла не разгароджаныя, і індывідуальнае кармленьне, неабходнае для досьледаў, немагчыма. Нават і самое быдла (ангельскай пароды, якая ўжо выраджаецца) бадай ці падыходзіць для досьледаў пры ўмовах БССР. Гэтае змаўчаньне аб патрэбах Аддзелу Жывёлагадоўлі ёсьць вельмі красамоўнае. Цікава параўнаць з гэтым палажэньні Наркамзему БССР, які ў сваім „Перспективном Плане Развития Сельск. Хозяйства“ гаворыць наступнае: „анализ структуры валового дохода дает нам право констатировать факт закономерного роста удельного значения животноводства в сельском хозяйстве БССР за счет земледелия“,*) і далей: „По отдельным сельско-хозяйственным районам нужно отметить ту-же характерную черту полеводства, что и по БССР в целом—это его служебный животноводству. Эта характерная черта полеводства БССР тем отчетливей выступает по отдельным сельско-хоз. районам, чем выше общий уровень интенсивности их сельского хозяйства и животноводства в частности“**). Гэта думка праходзіць чырвонаю ніткай праз увесь „Перспективный План“ НКЗ, але на працы Дасьледчае С.-Г. Станцыі яна не адбіваецца. А раз гэта так, дык натуральна, што ад працы другараднага аддзелу, якім зьяўляецца на Станцыі Аддзел Жывёлагадоўлі, нельга дамагацца вялікіх дасягненьняў.

Разгляд справаздачы гэтага Аддзелу пацьвярджае гэту думку. Справаздача распадаецца на дзьве амаль роўныя часткі: 1) Вывучэньне быдла Горацкага раёну; 2) Досьледы па кармленьні быдла і сьвіней. Пра першую частку шмат гаварыць ня прыходзіцца: у ёй зьмешчаны даныя па прамерах, удою, жырнасьці малака ды інш., больш як ад трохсот кароў, вылічэньня коэфіцыенту варыяцыі і сярэднія лічбы розных прамераў, прычым і тыя

*) Перспективный план...“ вып. I, ст. 89.
**) Там-жа, ст. 92.

і другія дадзены з параўнаньнем для кароў непалепшаных і палепшаных мэтызацыяй (ангельн., швіц). Тое-ж самае зроблена адносна чыстае пароды ангельн. і швіц Гэта частка працы бязсумліўна каштоўная, тым болей, што ў нас амаль няма даных аб беларускім быдле. Трэба адзначыць, што ў гэтай частцы працы бралі ўдзел і студэнты дыплёманты, якія працавалі на тэмы дадзеныя праф. Найдзенавым і пад яго кіраўніцтвам, г. ё. у гэтай працы брала ўдзел і Катэдра Прыватнай Зоотэхніі С.-Г. Акадэміі.

Другая, дасьледчая частка працы належыць цалкам да Станцыі. Усе тэмы пастаўленыя Аддзелам і цікавыя, і жыцьцёвыя. Першыя чатыры досьледы мелі ня мэце вывучэньне параўнальнага выкарыстаньня ангельнамі і швіцамі штучных выганаў (выка з аўсом і канюшына з цімафейкаю), а таксама параўнаць выкарыстаньне гэтых мешанін шляхам выпасу і карменьня ў стойле. Нажаль, гэтыя чатыры досьледы пададзены так коратка (на 3-х старонках), што чытачу немагчыма зрабіць якія-колечы пэўныя вывады аб іх выніках. Сам аўтар, аднак, прыходзіць да вываду, што „эфэкт скарыстаньня зялёнай выкова-аўсянай мешаніны большы пры карменьні кароў скошанаю травоы, а эфэкт скарыстаньня канюшыны з цімафейкаю, наадварот, большы пры выпасе кароў па дацкаму спосабу". Чым тлумачыцца гэта розьніца і ці не зьяўляецца яна выпадковай, з даных досьледа ня відаць, бо няма цэлага раду неабходных зьвестак: не паказана, напрыклад, як зьмянялася жывая вага кароў: пра кароў, якія карміліся выкова-аўсянаю мешанінай, сказана, праўда, што іх жывая вага павялічылася, а што да вагі кароў канюшынавай групы,—не сказана нічога, дзеля гэтага і параўна́ць гэтыя дзьве групы трудна. Не сказана нават, як давалася скошаная трава ў стойлах,—ці толькі ў дзень, ці пакідалася і на ноч, а гэта можа мець у такім досьледзе рашаючае значэньне, ды інш. Бяз гэтых даных, вывад аўтара, магчыма што і зусім правільны, траціць, як чыста суб'ектыўны, ўсякае значэньне. Гэткае скарачаньне справаздачы аб досьледах, якое зьнішта-жае нават самы сэнс друкаваньня яе, аўтар тлумачыць недахопам сродкаў на друкаваньне. Аб гэтым-жа падрабязна гаворыць: Дырэктар Станцыі, які скардзіцца, што „адсутнасьць сродкаў не дае магчымасьці друкаваць поўнасьцю ўсіх матэрыялаў". Поўнасьцю, ёсьць ведама, і ня трэба друкаваць матэрыялы, гэта амаль што ніколі і ня робіцца. Але апрацаваныя матэрыялы трэба друкаваць у той колькасьці, якая неабходна для угрунтаваньня зробленых вывадаў і ілюстрацыі паданых палажэньняў. Справаздача павінна быць нагэтульки дакладная, каб чытач мог крытычна разабрацца ў матэрыяле і скласьці свае суджэньне аб вывадах, якія зроблены аўтарам. Калі так надрукаваць ня можна, дык не належыць друкаваць зусім.

Ня гледзячы, аднак, на недахоп сродкаў на друкаваньне ў „Працах" ёсьць і лішні матэрыял. Да гэткага матэрыялу мы залічылі-б усю справаздачу аб досьледах параўнальнага карменьня сьвіней бульбаю з аўсянаю мукою і бульбаю з „субарнай" мукою (1/3 аўсянай, 1/3 жытняй і 1/3 ячменнай мукі). Гэты досьлед быў пастаўлены на дзьвёх аднародных групах сьвіней з мэтаю выясьненьня— у якой меры, „субарная" мука, як складзеная з болей рознастайных бялкоў, выкліча большы продукцыйны эфэкт, чым роўная, па крухмальных эквівалентах і страўным бялку, колькасьць аўсянай мукі. Апошняе, г. ё. роўнасьць корму, зьяўляецца абавязковай умовай досьледу. Аднак, пасьля правядзеньня досьледу і аналізу кормаў, выявілася, як кажа аўтар, што група, якая кармілася „субарнай" мукою, атрымала на 38 кг. крухм. эквів. больш, чым аўсяная група. Першая група і дала, як і трэба было спадзявацца, большы прырост чым другая. Аўтар па гэтай прычыне гаворыць: „Бяручы пад увагу, што і крухмальных эквівалентаў „субарная" група зьела больш, чым „аўсяная" на 41,3 кг., ці на 5.8% (на ст. 165 сказана—38 кг.)—трэба лічыць, што лішак прыросту ў субарнай групе тлумачыцца, галоўным чынам, лішкам зьедзеных ёю крухмальных эквівалентаў. Уплыў-жа мешаніны трох сартоў мукі ў вышэйпаказанай прапорцыі на прырост жывой вагі досыць ня выяўлены". Але калі ўплыў мешаніны мукі, дзякуючы тэхнічнай памылцы ў досьледзе, ня выяўлены, як аб гэтым і гаворыць сам аўтар, значыць досьлед ня ўдаўся. Памылка, ведама, заўсёды магчыма, але які-ж сэнс друкаваць справаздачу і матэрыялы з тэхнічна няправільнага досьледу? Праўда, ў выніку гэтага досьледу аўтар зрабіў вывад, што якасьць мясных продуктаў была лепшая у „субарных" сьвіней, чым у аўсяных, але гэта-ж агульна-вядомая праўда, аб якой гаворыцца і ў папулярных брошурках па сьвінаводзтве. Гэты вывад, так як ён паданы ў справаздачы, г. ё. як чыста-суб'ектыўнае ўражаньне, ніякай навуковай вартасьці ня мае. На падставе сказанага мы лічым, што справаздача з гэтага досьледу надрукавана надарэмна.

Сур'ёзная тэхнічная памылка дапушчана і ў 2-м досьледе па выкарму сьвіней, які праведзены Я. Сяржанавым. Мэта досьледу—параўнаньне вынікаў выкарму простых і палепшаных (мэтысных) сьвіней, пры аднолькавых умовах карменьня і утрыманьня. Для гэтага былі складзены дзьве групы сьвіней па 4 штукі ў кожнай; досьлед быў пастаўлены ў сялянскіх гаспадарках, дзеля гэтага ня можна было мець індывідуальныя кармушкі і важыць сьвіней па дэкадах. Нормы ўкладаліся ў кармовых адзінках. Досьлед паказаў,

па думцы аўтара, што па здольнасьці да выкарму мэтысныя сьвіньні лепшыя за простых. Для пацьвярджэньня гэтага зьмяшчаюцца падробныя даныя, якія абагульнены аўтарам у наступнай табліцы.

| Парода сьвіней | Проц. прыросту ад першапачатковай жывой вагі | З 100 кармовых адзінак атрымана прыросту | На 1 фунт прыросту скормлена кармовых адзінак | Убойная вага |
|---|---|---|---|---|
| Мясцовая мэтыс (мясц. і іоркшыр) | 31,34 | 13,18 ф. | 7,58 | 82,13% |
| | 31,71 | 15,28 ф. | 6,54 | 82,89% |

Вынік, здавалася-б, зусім натуральны, супярэчыць яму ня прыходзіцца. Але разглядзеўшы падрабязна паштучныя даныя, на падставе якіх складзена паданая ўжо таблічка, —з вывадамі апошняй прыходзіцца, нажаль, спрачацца. Гэтак, у рубрыцы: „на 1 ф. прыросту скормлена кармовых адзінак“ мы бачым для асобных сьвіней наступныя лічбы: 6,70; 6,07; 6,62; 6,87; 6,89 і... 13,46! Апошняя сьвіньня мясцовая, пры пачатку выкарму яна мела 8 пуд. 06 ф. жывой вагі. За час выкарму, на працягу 38 дзён яна павялічылася ў вазе на 28 ф. Мэтысная сьвіньня (7 п. 10 ф.) за гэты час дала прырост на 2 п. 04 ф., а мясцовая пачаткова вагі 6 п. 22 ф. прырасла на 1 п. 24 ф. Калі выразіць іх прырост у % ад пачатковай вагі, мы атрымаем згодна разьліку Я. Сяржанава: для першай сьвіньні 8,59%, для мэтыснай 28,97% і для другой простай—24,43%, г. ё. інтэнсыўнасьць прыросту першай была ў тры разы меншая як у другіх. Пытаньне—ці можна карыстацца данымі па выкарму першай сьвіньні для вываду сярэдніх лікаў па групе простых сьвіней, як гэта робіць Я. Сяржанаў? Мы думаем што нельга: прырост гэтай сьвіньні так далёка адыходзіць ад нормы, што ёсьць падстава, каб западазрыць у даным выпадку хваробу. Нават пры найбольш экстэнсыўным, працяглым выкарме сьвіней на сала (т. зв. украінскім), на 1 ф. прыросту ідзе каля 9 карм. адзінак*). Нават дарослыя оўцы пры працяглым 3-х месячным выкарме даюць 1 ф. прыросту прыблізна з 11½ карм. адзінак**). Праўда, Я. Сяржанаў піша, што ў часе досьледу і пры ўбоі ўсе сьвіньні былі здаровыя. Нам здаецца, аднак, што ня кажучы ўжо пра такія хваробы, як напр. хронічны нефрыт, нават катар страўніка альбо кішок, пры агульным утрыманьні сьвіней у сялянскіх умовах, мог застацца незаўважаны. Гэта тым болей магчыма, што ў Я. Сяржанава, як відаць, ня было нат' сумліву адносна здароўя сьвіньні. Хоць яна і аплачвала корм горш чым аўца*). Калі-ж выключыць з вылічэньняў даныя адносна гэтай сьвіньні, дык вывады з досьледу прыдзецца зрабіць зусім інакшыя. Калі мы нават, разам з Я. Сяржанавым, прызнаем гэту сьвіньню за здаровую, дык усё-ж яе прыдзецца выключыць з досьледу, згодна з тым правілам варыяцыйнай статыстыкі, якое выключае ўсе варыянты, што адрожніваюцца ад М больш, чым на 3,56, бо тады яны належаць да іншага раду**). Тут гэта розьніца будзе большая. Калі-б мы нават, міма вымаганьняў статыстыкі, ўсё-ж такі залічылі гэту жывёліну, дык і тады вывады аўтара застаюцца сумліўнымі, бо група мэтысных сьвіней складаецца з маладзейшых жывёл чым група простых: сярэдні ўзрост сьвіней першай групы 13,5 мес., а другой — 19 мес.; натуральна што больш маладыя сьвіньні і прырастаюць хутчэй, мэтызацыя тут можа быць ні прычым. Дзеля гэтага трудна згадзіцца з Я. Сяржанавым, што яго досьлед нібыта паказаў селяніну „што простыя сьвіньні куды горш аплачваюць корм які зьядаюць, чым гэтыя-ж сьвіньні, але з дабаўленьнем ангельскае крыві...“ Хаця само па сабе гэтае палажэньне бязсумліўна правільнае (пры нармальных умовах кармленьня і утрыманьня).

*) Проф. Н. П. Чирвинский—„Общее Животноводство ч. I.“ Ст. 231.
**) Там-жа Ст. 236.

На падставе ўсяго сказанага нам здаецца, што мясцовыя агранамічныя працаўнікі зробяць асьцярожны ўчынак, калі ўстрымаюцца да часу выкарыстоўваньня ў сваёй працы даных Аддзелу Жывёлагадоўлі Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі.

**Інжынер-аграном Г. Н. Лубяка.** *Часопісь „Der Kulturtechniker“ за 1-ую палову 1927 г. (кароткі агляд).*

Абмяжоўваючыся толькі тымі пытаньнямі, якія маюць значэньне ў справе мэліорацыі Беларусі, належыць спыніцца на наступных артыкулах, зьмешчаных у часопісі.

*Helmrich: „Таварыства па арашэньню „Чорнага Кута“ (Die Bewässerung-Genossenschaft Schwarzer Winkel).*

Артыкул гэты цікавы таму, што ён дае сапраўдны прыклад патрэбнасьці і рэнтабельнасьці арашэньня (ва ўмовах Нямечыны).

Мясцовасьць пад назвай „Чорный Кут“ (па беразе р. Одэра) з пакон веку славіцца сваімі ураджаямі. Прычынай гэтаму з'яўляецца прыстутнасьць прыроднага дрэнажу ў выглядзе слою пяску пад глебай.

Каб зьменшыць залежнасьць рэжыму грунтовай вады ад хістаньня ўзроўню вады

*) Паводле даных праф. Е. А. Багданава („Откармливание с.-х. животных“) у сьвіней ад 7 п. 13 ф. да 8 п. 13 ф. жывой вагі, на 1 ф. прыросту ідзе ў сярэднім 6,14 ф. збожжа.
**) Проф. Ю. А. Филипченко „Изменчивость и методы ее изучения“ ст. 43-44.

ў р. Одэр, у свой час там была пабудована асушальная канава. Але ў сухія гады пры гэтых геолёгічных умовах узровень грунтовае вады спускаўся ніжэй, чым гэта было патрэбна, што і адбівалася на ўраджаі.

Шлюзаваньне канавы не дало ніякіх вынікаў, бо ў сухія гады ўсё роўна канава была амаль без вады.

З прычыны гэтага і быў складзен праэкт арашэньня. Спраэктаваная канава перахватвала дугу, якую тут выгібае р. Одэр, у выглядзе хорды. Гэтым дасягнута была мэліорацыя ў яе найбольш закончанай форме. Пры дапамозе адпаведных дапаможных пабудоў можна было па гэтаму каналу праводзіць ваду для арашэньня і адводзіць яе для асушкі,—гледзючы па патрэбе.

Арашэньне па большай часьці спраэктавана са штучным пад'ёмам вады з канавы, прычым, дзеля гэтага скарыставана энэргія руху вады ў самой канаве.

Гэткая мэліорацыя, пры плошчы ў 1900 гэктараў, каштуе 1,3 мільёнаў марак і дае чыстага прыбытку 13,5 проц.

*H. Richter: „Здымкі з паветра на службе ў культуртэхніцы" (Das Luftbild im Dienste der Kulturtechnik) і*

*W. Basse: „Здымкі з паветра, як дапаможнік для складаньня культурехнічных плянаў (Das Luftbild—ein Hilfsmite der kulturtechnischer Planung).*

Сучаснае становішча гэтай галіны ведаў, якая мае за сабою вялікую будучыню, ужо і зараз дае магчымасьць атрымоўваць ня толькі дасканалы плян у вызначаным маштабе, але разам і рэльеф у гарызанталях. Пры адноснай таннасьці і хуткасьці выкананьня, здымкі гэтыя эканомяць шмат сродкаў і працы.

У канцы 1926 гаду ў Бэрліне адбыўся зьезд Інтэрнацыянальнай Грамады Фотограмметрыі, на якой, акрамя дакладаў, шэраг фірм экспаніравалі здымкі з павета на спэцыяльнай выстаўцы. Сярод экспанатаў былі здымкі для гідротэхнічных прац — рэгуляваньня рэк (Эльбы, Одэра, Леха, Ізара і інш.), пабудавы грэбель і г. д.

У артыкулах ёсьць фатаграфіі з павятраных здымкаў.

*Schroeder: „Ізноў аб працэнтах і пагашэньні мэліорацыйнага крэдыту (Nochmals die Verzinsung und Tilgung von Meliorationskrediten).*

У часопісі абгаварваецца пытаньне аб мэліорацыйным крэдыту. Ідуць спрэчкі паміж двума поглядамі. Прыхільнікі аднаго погляду кажуць, што мэліорацыйны крэдыт павінен быць доўгатэрміновым—10—30 гадоў, залежна ад велічыні працы. У гэтым сэнсе і напісаны артыкул Schroeder'а.

Прыхільнікі-ж другога пагляду, далучаючыся да тэй думкі, што мэліорацыйны крэдыт па сутнасьці ёсьць доўгатэрміновы крэдыт, лічаць, што пры вызначэньні тэрміну крэдытаў патрэбен індывідуальны падыход да кожнага асобнага праэкту.

Погляд гэты абараняецца Barock'ай.

*Праф. A. Kleinlogel: „Цэментбэтон у балотных глебах" (Zementbeton in Moorböden).*

У большасьці выпадкаў прычынаю разбурэньня бэтонных пабудоў у балотных глебах з'яўляецца прысутнасьць у ёй свабодных сульфатаў, сернай і вугальнай кіслотаў. (Уплыў гумусавых кіслотаў яшчэ канчаткова ня высьветлены). У цякучай вадзе яны могуць разбурыць бэтон, знаходзячыся ў ёй нават у нязначных колькасьцях.

Пры асьцярожным ужываньні бэтону патрэбен хэмічны аналіз глебы. Па Baumann—Gully, да 100 гр. глебы дадаецца 200 гр. воцатна-кіслага натру; і калі колькасьць утворанай пры гэтым кіслаты (1/10 нарм.) больш за 20 гр., дык (па Dr. H. Gessner'у) ужываньне бэтону, напрыклад у выглядзе бэтонных дрэнажных труб, зьяўляецца ня пэўным.

Гэтымі 20-ю грамамі кіслаты і абмяжоўваецца ўжытак бэтону. Таму патрэбна ўзьнімаць пытаньне аб мэтазгодных мерапрыемствах па скасаваньню гэтай мяжы.

Некаторых вынікаў можна дасягнуць і адпаведным падборам частак, з якіх складаецца бэтон; але большую надзею можна ўскладаць на пакрыцьцё бэтону ўпорчывімі матэрыяламі. Па праведзеных вопытах дзеля гэтага можна ўжываць Jnertol. Бэтонныя дрэнажныя трубкі, пакрытыя ім, праляжаўшы ў балоце 10 гадоў, засталіся цэлымі.

На жаль аўтар ня закрануў эканамічнага боку гэтага пытаньня.

*Nolda: „Культуртэхніка і сялянская гаспадарка ў Прусіі (Kulturtechnik und Landwirtschaft in Preussen).*

У Прусіі, ў галіне мэліорацыі, у розных установах працуюць 149 мэліоратараў і культуртэхнікаў з вышэйшай адукацыяй і 607 з іншай адукацыяй.

Банкаўскі фонд для мэліорацыйнай пазыкі дасягае 40 мільёнаў марак. Дзяржава да гэтага фонду дадавала кожны год па 6 міл. марак і 12 міл. давала Нямецкае Культуртэхнічнае Акцыянэрнае т-ва. Пазыка гэта 5-ці працэнтная і даецца на тэрмін толькі 5-8 гадоў. Ёсьць імкненьне павялічыць гэты тэрмін да 15 гадоў. Апрача памянёных, некаторыя сродкі атрымоўваюцца і з фонду паашчэрэньня сельскае гаспадаркі.

У Прусіі ў 25 годзе налічвалася розных мэліорацыйных таварыстваў 7250 на плошчы 3,46 міліёнаў гэктар. З іх 4120 па асушцы, арашэньню і рэгуляваньню рэк і 1892 па дрэнажу.

*Праф. Bertram: „Гаспадарка і тэхніка вадачэрпальных пабудоў (Wirtschaft und Technik Schöpfwerkbau).*

Вадапад'ёмныя пабудовы ўжо даўно ўжываюцца пры асушцы так званых польдзераў.

Але яны могуць ужывацца і ў іншых выпадках. Раней гэтыя пабудовы рабіліся праз карыстаньне сілы ветру ў выглядзе млыноў. Каштоўнасьць іх была вялікая, каля 60 марак на кіл-мэтр працы. Сучасная тэхніка, з яе цэнтрабежнымі помпамі і электрычнай энэргіяй, дае магчымасьць зьменьшыць гэтую цыфру да 12 марак на кгрмэтр. Калі падлічыць страту грошай на адзінку плошчы, дык гэта дае таксама каля 12 марак на гэктар.

Цікава тое, што гэтыя будовы працуюць іншы раз на працягу году каля 30 і меньш дзён, а тым ня менш у Нямеччыне яны зьяўляюцца рэнтабельнымі. У артыкуле ёсьць шэраг указаньняў тэхнічнага і эканамічнага характару і аб гэтым-жа аўтарам выдана асобная кніга.

*Fickert: „Дасьледчая праца гідролёгічнай установы Саксоніі (Forschungsarbeiter des Sächsischen Amtes für Gewässerkunde).*

Дзеля нагляданьняў за роўнем вады ў рэчках установа мае каля 150 рэяк. Прыблізна ў 100 месцох пабудованы рэйкі-самапісцы. Апошнія ўжываюцца 3-х тыпаў —адны непасрэдна рэгіструюць хістаньні роўню вады пры дапамозе барабана і плаваючага цела, другія рэгістрыруюць пры дапамозе ціску вады і трэйція—электрычыя.

Па гэтых бязупынных назіраньнях за роўнем вады далей вылічваюцца бязупынныя расходы вады ў рэчках. Дзеля гэтага папярэднімі вопытамі ўсталяецца спачатку сувязь паміж расходамі і роўнямі вады ў выглядзе крывой, якая кожны год кантралюецца. Потым гэты каштоўны матэрыял распрацоўваецца такім чынам, як гэта патрэбна для належнага ўгрунтаваньня гідротэхнічных і гідросілавых пабудоў.

Шляхам параўнаньня гэтых нагляданьняў з нагляданьнямі за ападкамі, параваньнем і г. д. установа імкнецца да расчыненьня ўзаёмаадносін паміж асобнымі элемэнтамі воднага багацьця краіны і законаў, якімі яно кіруецца.

*H. Claus: „Мая сыстэма дрэнаваньня папярок водных жыл (кароткага дрэнажу). (Mein System der Wasseradern—Querdränung (Kurzdränung).*

У аснове гэтай „новай“, як яе заве сам аўтар, сыстэмы дрэнаваньня ляжыць прадпасылка, што грунтовая вада цячэ не суцэльным патокам, які запаўняе ўсе прасторы між часткамі глебы, а асобнымі струменьнямі і жыламі. Пры чым могуць яны не адпавядаць рэльефу падлягаючага мэліорыраваньню вучастка.

Сутнасьць сыстэмы ляжыць ў тым, што дрэнажныя лініі распарадкоўваюцца папярок гэтых струменяў і жыл, якія напярод павінны быць знойдзены шляхам інструмэнтальных вышуканьняў.

Для азначэньня месцазнаходжаньня падземных жыл і токаў, аўтар ужывае ня гэтак даўно вынайдзеную прыладу пад назвай: „Wünschelrute“ — „чараўнічы кій“,—ці па расейску—„волшебный жезл“, які паказвае крыніпы вады (альбо інш. подземныя скарбы).

Гэтай цікавай прыладзе, якой мы тут датыкаемся толькі павярхоўна, прысьвечаны некалькі артыкулаў на старонках гэтага самага часопісу за ранейшыя гады.

Па гэтых артыкулах дзеяньне прылады грунтуецца на зьменах электра - магнітнага поля ў зьвязку з перамяшчэньнямі падземнае вады. Ужываць гэтую прыладу, як кажа аўтар, „лёгка і пэўна“.

Адлегласьці між дрэнамі пры гэтым спосабе, зразумела, павінны быць больш, чым звычайна рэкамандуецца ў кніжках. А ў зьвязку з гэтым дрэнаж карацей і сродкаў патрэбна меней. Адносна адлегласьці паміж дрэнамі аўтар хоць і кажа, што пачынальнікі павінны браць яе толькі ў 2 разы больш звычайнай, але-ж наогул лічыць, што можна яе павялічыць у 3—4 якіх разы. Аўтар піша пра адзін выпадак, калі ён паслаў праф. Zunker'у спробу глебы для азначэньня адлегласьці між дрэнамі. Тую адлегласьць, якуюі даў праф. Zunker, ён павялічыў у 5 разоў і быццам атрымаў здавальнаючыя вынікі абсушкі.

Эканомія сродкаў хістаецца між 20 90 проц. У артыкуле ёсьць водзывы асоб, якія ўжылі гэты мэтад. Спосаб гэты патэнтован.

*Праф. Zunker: „Да спосабу дрэнаваньня папярок водных жыл (Zum Verfahren ber Wasseradern—Querdränund).*

Праф. Zunker ня лічыць сысгэму Claus'а за арыгінальную вынаходку. Няма нічога новага ў тым, што ёсьць выпадкі, калі грунтовая вада цячэ ў выглядзе асобных жыл і токаў. Ужо Vincent і Herhardt (Zunker прыводзіць з іх цытаты) казалі аб выпадках прыроднага дрэнажу і аб асаблівасьцях праэкту ў гэтым разе—як павялічэньне адлегласьці між дрэнамі і г. д.

Таксама даўно вядома, што дрэны трэба распарадкоўваць папярок руху грунтовае вады. Гэта рабіў яшчэ Elkington па прыкладу старадаўных рымлян. Zunker лічыць, што вывучэньне руху грунтовае вады, які зразумела ляжаў і павінен ляжаць у аснове дрэнажнага праэкту, павінна весьціся пры дапамозе геолёгічных, глебазнаўчых і батанічных вышукваньняў. І толькі ў некаторых выпадках і „Wunschesrute“ можа зьявіцца дапаможнай зброяй мэліоратара.

*Праф. Zunker: „Новы спосаб пабудовы дрэн для балотных глеб (Neue Bauweisen von Holzkasten dräns für Moorböden).*

Дрэнаж Бутца зьяўляецца ня трывалым. Скора іржа пераядае жалезныя гвязды, дошкі дрэнажу раз'яжджаюцца пад цяжарам балотных каткоў і ўвесь дрэнаж разбураецца.

Schtahlschmidt прапанаваў іншую канструкцыю драўлянага дрэнажу, які складаецца толькі з т-р-о-х дошчак. Пры чым гэтыя .тры дошкі, якія ствараюць у разрэзе трохкутнік, унізе перахвачаны планкаю, у якой сядзіць па канцох два драўляныя гвязды з галоўкамі. Жалеза зусім адсутнічае. Дрэнаж кладзецца з кускоў гэткіх труб даўжынею на 2 мэтры. На гэту вынаходку ўзяты патэнт. Па Zunkery тут ёсьць шэраг недахопаў, галоўнае з якіх гэта тое, што тут многа асобных частках, якія патрабуюць досыць дасканалага дапасаваньня, чаго цяжка дасягнуць у вытворчасьці. Сыстэма мала ўпорчывая пад ціскам з боку.

Таму Zunker прапануе сваю зусім простую сыстэму. Яго дрэна таксама складаецца з трох дошчак. Ніжняя дошка мае 2 пазы. Дзьве другія дошкі становяцца ў гэтыя пазы і ўверсе адна з іх уваходзіць у паз другой; жалезныя гвязды патрэбны толькі для лепшай укладкі дрэн. Кладуцца яны таксама як дрэнаж Бутца.

Пасьля ўкладкі сыстэма і бяз гваздоў устойліва. Каштоўнасьць, па пакуль што яшчэ не вялікаму вопыту, каля $28^{1}/_{2}$ перелічаў на паг. мэтр.

**Н. М. Савіч.** *„Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде" изд. Управл. НКЗБ. Минск 1926 г.*

Сучасны напрамак сельскай гаспадаркі Беларусі прымушае зьвярнуць асаблівую ўвагу на высьвятленьне становішча кармовай плошчы. Напрамак і найлепшыя спосабы скарыстаньня прыроднай кармовай плошчы залежаць ад грунтоўнасьці нашых ведаў аб яе гэнэзісе, тыпе і каштоўнасьці. З гэтага боку праца Савіча, якая датычыцца галоўным чынам кармовай плошчы басэйна і самый поймы Дняпра, адпавядае сучасным патрэбаваньням.

У працы змешчаны вынікі дасьледаваньняў сухадольных і балотных сенажацяй ў басэйне Дняпра па рэчцы Добрыцы і паёмных альбо заліўных сенажацяй па Дняпру.

Характэрыстыка кармовай плошчы праводзіцца шляхам якаснага апісаньня па мэтоду Друдэ галоўных згуртаваньняў лугавой расьліннасьці, а таксама і колькаснага высьвятленьня сельска - гаспадарчай вартасьці, шляхам групавога аналіза ўкосоу, ураджайнасьці і распаўсюджваньня розных згуртаваньняў.

У выніку досьледаў высьветляна, што сухадольныя сенажаці, распаўсюджаныя на другой і трэцяй трэці схілаў, на ілаватабалотных глебах складаюць згуртаваньні.

1) Brizetum media, якое зьмяшчаецца ў верхніх частках схілаў і дае ўраджай 103 пуды з дзезяціны.

2) Caricetum godenoughii ponicea, — на больш палогіх схілах ніжэй вышэйпамяненага згуртаваньня на больш цьвярдой глебе з высокім роўнем грунтовай вады.

3) Deschampsia caespitosa—на самым нізе схілаў.

Ураджайнасьць гэтага згуртаваньня 103 пуды на дзес.

Якасны састаў сена па даных групавога аналіза ўкосаў з плошчы 1 мэтр. паказвае наступнае:

Збожжавых траў 53,73 проц.
Асокі 32,01 проц.
Рознатраў'я 14,19 проц.
Бабовых 0,07 проц.

Нізінныя сенажаці на тарфяных глебах займаюць даволі значныя плошчы балот. Гэтыя сенажаці маюць наступныя згуртаваньні:

1) Agrostidetum albae — яно распаўсюджана галоўным чынам там, дзе ўзровень грунтовай вады ляжыць аначна ніжэй павехрні балота.

Ураджай з гэтага згуртаваньня 107 пудоў на дзесяціну, сельска-гаспадарчая вартасьць сена відна з прыведзенага аналіза ўкосаў па галоўных групах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) збожжавых траў | ад 65,67% | до | 70,56% |
| 2) асакі | „ 30,98 | „ | 22,59 „ |
| 3) рознатраўя | „ 3,35 | „ | 6,85 „ |

2) Glycerietum flitantis - таксама па тарфяных глебах, але ў месцах выхода грунтовых вод на паверхню. Плошчы распаўсюджываньня гэтага згуртаваньня не асабліва вялікія. Ураджай з дзесяціны 178 пудоў. Аналіз укосаў паказвае, што гэта сена складаюць:

1) збожжавых 89,3 проц.
) асокі 6,0 „
3 рознатраўя 10,1 „

Акрамя гэтых апісаны яшчэ згуртаваньні, якія распаўсюджаны ў залежнасьці ад асушкі:

1) Poaetum palistris — больш далёка ад канаў,

2) Caricetum rostrata — на сярэдзіне між канавамі

і 3) Phragmitetum communis—каля самых канаў.

З гаспадарчага боку найбольшую каштоўнасьць мае згуртаваньне Agjostidetum albae, як больш распаўсюджанае з добрай якасьцю сена.

Што датычыць досьледаў заліўных ці паемных лугоў Дняпра, дык тут, паводле існуючых ў сучасны момант клясыфікацый, выдзелены: 1) луга прытэраснай поймы і 2) луга сярэдняй поймы.

Сярод лугоў прытэраснай зоны апісаны лугі нізкага роўня, сярэдняга і высокага

Па сутнасьці яны адпавядаюць раней

апісаным сухадольным сенажацям, а дзякуючы таму, што яны распаўсюджаны на невялічкай плошчы, для гаспадаркі яны ня маюць галоўнага значэньня.

На іх выдзелены згуртованьні:

1) Brisetum media ці Anthoxantaetum adarotae—на высокім роўні;

2) Deschampsietum caespitosae—на сярэднім роўні;

3) Caricetum caespitosae—на нізкім роўні.

Сярэдняя зона поймы займае найбольшую плошчу і мае найбольшую каштоўнасьць для сельскай гаспадаркі. Па рэльефу яна слаба зьмяняецца з ухілам ад ракі к каранному берагу.

Калі ідэальна прадставіць сабе разьмеркаваньне не згуртаваньняў па профілю ад ракі к каранному берагу, дык трэба адзначыць, што найбольш высокія месцы бліжэй да ракі займаюць згуртаваньні:

1) Agrostidetum albae—гэта луга высокага роўня; ніжэй па рэльефу распаўсюджаны:

1) Alepecurietum prafensis,

2) Beekmanietum eruciformis—лугі сярэдняга роўня; яшчэ ніжэй—

1) Caricetum vulpinae,

2) Caricetum gracilis

і 3) Poaetum palistris — луга нізкага роўня.

З гэтых згуртаваньняў найбольш каштоўнымі ў сельскай гаспадарцы зьяўляюцца лугі сярэдняга роўня.

У абодвы бакі ад іх якасьць сена і лугоў памяньшаецца.

М. Б.

**М. В. Дакукін.** *Das grünland. (früher Mitteilangen des Vereins zur Forderung der Moorkultur im Deutzchen Reiche) 1924.*

Гэтая часопісь да 1924 году была органам „Нямецкага таварыства дзеля садейніцтва культуры балотаў“ і ў гэтай ролі існавала 41 год, ад часу заснаваньня таварыства. З 1924 году робіцца спроба пашырыць праграму часопісі і адвесьці яе старонкі асьвятленьню пытаньняў ня толькі балотнай культуры але і кормаздабываньню і лугава-пашавай гаспадарцы ў шырокім сэнсе.

Для беларускага культуртэхніка і агранома часопісь вельмі цікавая, паколькі кліматычныя умовы паўночнае Нямеччыны ня маюць прынцыпова рэзкіх адрозьніваньняў ад Беларусі і паколькі пяскі і балоты гэтае краіны моцна нагадваюць нашыя бязьмежныя балоты і сыпучыя пяскі. Калі не забываць ні на хвіліну аб прынцыповых адрозьніваньнях у эканамічным укладзе Беларусі і паўночнае Нямеччыны, то чытач здабудзе ў гэтай часопісі шмат цікавага і навучальнага.

Ніжэй мы даем агляд найбольш цікавых артыкулаў у №№ grünland за 1924 год.

У военны і пасьляваенны пэрыяд прадукцыя насеньня лугавых траў у Нямеччыне прыйшла да занядаду і ўраду і с.-г. таварыствам прыйшлося шмат папрацаваць дзеля аднаўленьня гэтае вельмі істотнае для культуры балотаў галіны гаспадаркі. Добры стымулюючы уплыў зрабіла прэміраваньне пасеваў насеньня. На 1925 год была устаноўлена сыстэма прэміяў памерамі ад 200 да 1000 марак. Гаспадары якія хацелі атрымаць прэмію павінны былі мець ня меней 1/2 гэкт. тэй ці іншай травы на насеньне; насеньнікі павінны быць агледжаны ўлетку прадстаўніком балотнага фэрэйну і апрача таго гаспадары павінны надасланы у кантору фэрэйну сярэднюю пробу насеньня ў 250 гр. Журы складаецца з нэйтральных асобаў: праф. Вэбэр (Брэмен) і прастаўнік ад балотнага таварыства.

Недахоп і дарагоўля лугавога насеньня нярэдка вабіць гаспадароў эканоміць на насенным матар'яле. Прафэсар Фрэкман, дырэктар балотнае вопытнае станцыі ў Нэйгаммярштэйне прасьцерагае гаспадароў ад захапленьня такой эканоміяй, таму што яна абыходзіцца нарэшце вельмі дорага. Нармальнаю колькасьцю насеньня траў на гэктар ён лічыць 20-30 кгр. Спробы з памяншэньнем высеву да 6-10 кгр. на 1 гэктар, ня гледзячы на самую пажаданую падрыхтоўку, глебы паказалі вельмі моцнае памяншэньне ўкосаў у працягу першых 2-3 гадоў, пасьля чаго ўраджаі выраўніваліся з пасевамі нормальнае гушчыні. Спроба падмяніць частку дарагога насеньня танным адналетнім, напрыклад некалькімі кілёграмамі серадэлі, так каб ў год пасеву атрымаўся даволі высокі ўкос, скончыліся стратамі, калі гэтага насеньня бралі надта поўна.

Той самы праф. Фрэкман паведамляе далей аб цікавым спрабаваньні гатункаў бульбы ў 1923 годзе на балотнай гаспадарцы ў Нэйгаммэрштэйне.

Пры падборы гатункаў бульбы для балота лічацца галоўным чынам з двума фактарамі: 2) каб гатунак быў, як мага больш устойлівым супроць веснавых і летніх замаразкаў, вельмі звычайных у Памэраніі, дзе знаходзіцца балотная гаспадарка; другі момант—добрае разьвіцьцё батвы, якая павінна зацяняць глебу і перашкаджаць разьвіцьцю зельля.

У Сярэднім з усіх шматлікіх гатункаў, з якімі рабіліся спробы аказалася:

| | Клубняў у цэнтн. на моргэн | проц. крухмалю | Ураджай крухмалю ў цэнтн. на моргэн |
|---|---|---|---|
| Пры насыпной культуры | 110.06 | 12,06 | 14,48 |
| Пры чорнай культуры . | 99,72 | 15,00 | 14,96 |

Лепшы вынік далі раньнія і сярэднія гатункі. Добрае утрыманьне крухмалю як і раней паказалі „Сілезія“ і „Вольтман“.

Нямецкае балотнае таварыства кожны год

звычайна ўлетку наладжвае агульны сход сяброў таварыства. У часе сэсіі заўсёды організуюцца паездкі сяброў таварыства дзеля агляду больш цікавых гаспадарак, або за межы (Аўстрыя, Голяндыя і г. д.). У часе сэсіі спэцыялістыя таварыства выступаюць з дакладамі. Традыцыйнае паведамленьне робіць дырэктар Брэменскае балотнае сранцыі праф. Такс аб навінах у балотнай справе за мінулы год.

Гэтыя апошнія даклады бываюць часта цікавымі ня толькі для нямецкіх гаспадароў. але і для больш шырокіх колаў аграномаў. Дзеля гэтага я адважуся прорэфэрыраваць даклад прачытаны праф. Такс на 41 сходзе сяброў балотнага таварыства.

Перш за ўсё докладчык закрануў пытаньне аб рацыянальным асушэньні нізінных балотаў. Часта гэтыя балоты маюць слабы, або памяркоўны прадольны ўхіл, але вельмі вялікія папярэчныя ўхілы, якія яшчэ больш павялічваюцца пасьля правядзеньня каналу па тальвэгу балота. Такія выпадкі мы часта маем і ў нас пры зарастаньні вазёраў і забалочваньні невялікіх рачных лагчын. Ня рэдка розьніца высотаў паміж восьсю балота і пэрыфэрыяй дасягае 5 мэтраў. Асушэньне такіх балотаў дранажам або канавамі пэрпэндыкулярнымі восі, г. зн. прадольным дрэнажам вядзе да таго, што кіраваньне водным рэжымам глебы становіцца немагчымым. Дакладчык раіць у такіх выпадках ужываць асушэньне доўгімі адчыненымі каналамі, паралельнымі прадольнымі восі балота і паралельнымі абавязковай у такіх выпадках лоўчай канаве ўздоўж мінэральнага берагу, дзе такія балоты бываюць моцна вільготнымі ад выхаду грунтовых водаў. Рэкамэндуемае распалажэньне асушальных канаў ня робіць перашкоды апрацоўцы, але робіць магчымым рэгуляваньне вільгаці шляхам шлюзаў.

Далей дакладчык спыняецца на пытаньні аб найбольш выгодным тыпу дрэнажу ў нямецкіх умовах. Тамака бутцаўскі дрэнаж абыходзіцца даражэй за ўсё з-за дарагоўлі драўніны і рабочых рук. Фашынныя або гліняныя трубы вось самыя выгодныя формы дрэнажу для нямецкіх варункаў. Пры гэтым на глыбокіх балотах дрэны ўкладаюцца на штучным ложы з верастку.

. Пры распалажэньні дрэн у вельмі ілістай падглебе праз стыкі труб можа працякаць плывун і забіваць дрэны, дзеля гэтага ў плывунох падыходзіць адзіная форма дрэнажу-фашына.

У нямецкіх умовах цэмэнтавыя дрэнажныя трубы абыходзяцца таней гліняных, дзеля гэтага ў гаспадароў заўсёдная спакуса дапасаваць у сябе на балоце цэмэнтавыя трубы

Кожны ведае, што дапасаваньне апошніх пры дрэнажы кіслых махавых балотаў немагчыма, але як абстаіць справа на нізінных балотах, якія ня маюць і сьледу кіслінаў. Дакладчык апавядае пра нядаўні выпадак у Швэйцарыі, дзе на аднэй вялікай балотнай мэліорацыі дапасавалі цэмэнтавыя дрэнажныя трубы і ў кароткі прамежак часу цэмэнтавыя трубы распаліся да-званьня, ня гледзячы на нейтральную рэакцыю торпу. Па спробах Брэменскае станцыі цэмэнт моцна руйнуецца углекваснаю вадою і яшчэ хутчэй серавадародам, якога шмат мае вада нізінных балотаў. Дзякуючы таму што вада якая працякае прыносіць усё новыя і новыя масы углекваснасьці і серавадароду, то разбурэньне надыходзіць вельмі хутка.

Далей дакладчык спыняецца на задачы першай апрацоўкі балота. Яна бывае часам вельмі цяжкаю ў выніку лямцавобразнага стану дзярніны і куп'я або з-за вялікае колькасьці пнёў і вялікіх карэньняў у ворыўным пласьце.

Задача апрацоўкі балотнае глебы надае ёй дробнакамкаваты строй. Часам патрэбна пасьля апрацоўка плугам, рандалём і бараною, каб прывесьці вузка валакністую глебу ў стан сьпеласьці. Гэты стан дасягаецца адразу шляхам некалькіх праходаў Фрэзэра, такім чынам пры першай апрацоўцы балота Фрэзар часта бывае вельмі добрай машынай. Паўтарэньне з году ў год апрацоўкі балотнае глебы Фрэзэрам пры палявой культуры наадварот, ўжо не пажадана, бо торп вельмі хутка дробніцца пры гэтым і ператураецца ў парашок. Калі глеба забруджана рэштками і драўніны лепш працуюць моцныя ў 60 і болей конскіх сіл трактары і паравыя плугі.

Незаменімымі зьяўляюцца апошнія два тыпы прыладаў і пры апрацоўцы верасчанікаў, дзе часта глеба заэьмецьцена каменьнямі і дзе патрэбна зруйнаваць орштэйн.

У Нямеччыне культура махавых балотаў і верасчанікаў распаўсюджана досыць моцна і пытаньне вапнаваньня мае актуальнае значэньне. Дакладчык паведамляе свае нагляданьні калі кавалачкі вапняку пралянжалі ў балотнай глебе 10 і болей гадоў і не зьмяніліся, дзякуючы таму, што яны пакрыліся з паверхні пластам гумінавакваснае вапны. Па назіраньням Брэменскае станцыі чым танчэй памол, тым больш спрыяючае дзеяньне вапняку або мэргелю. Браліся напр. тры фракцыі мэргелю: 1) вялічынёю зярня 0,5—1,0 м. м., 2) 0,1—0,2 м. м. і 3) танчэй 0,1 мм. Калі прыняць ураджай канюшыны бяз вапны за 100, то пры грубым памоле атрымаем ураджай 212, пры сярэднім 252 і пры тонкім 275. Яшчэ нават у Нямеччыне няма паміж гаспадароў яснага разуменьня карысьці ад ужываньня тонка намолатага мэргелю, дзеля гэтага нярэдка атрымоўваюцца страты ад нявыстарчальнае вапністасьці.

Вялікае значэньне і для нашых варункаў мае патрабаваньне правільнага ўгнаеньня

культур па балотах. Спынімся спачатку на угнаеньні пад бульбу.

У Голяндыі прынята ўгнойваць бульбу высокапроцантавым тукам — серкавакваснай калі магнэзіяй. Па досьледах Брэменскае станцыі пры ўнясеньні аднолькавае колькасьці $K_2O$ ў рознай форме атрымаліся наступныя вынікі.

| | Ураджай клубняў у дв. цэнтнэрах (6 л.) на 1 гэкт. | Проц. утрыманьня крухмалю | Ураджай крухмалю у дв. цэнтн. на 1 гэк. | Адноснае утрыманьне хлёрофілу ў лісьцях |
|---|---|---|---|---|
| 50% кал. солі | 85,4 | 13,8 | 11,8 | 1 |
| серкавак. калі | 12,3 | 15,4 | 19,0 | 1,6 |
| Сер. калі магнэзія | 12,6 | 15,8 | 19,9 | 1,8 |

Пры цане крухмалю па 0,26 маркі за 1 клгр. серкаваквасны калі даў на 187 марак і калі магнэзія на 212 марак больш чымся 50% кал. соль. Вынік вельмі навучальні; прычыны зьявішча, як удалося устанавіць, у больш багатым утварэньні хлёрафілу пры ўжываньні калі магнэзіі.

Далей дакладчык прыводзіць цыфравы матар'ял, з якога відаць, што на паплавох ужываньне 40% калі солі мае перавагу перад каінітам. Каб дасягнуць ураджаю ў 60 дв. цэнтн. сена на 1 гэкт. рэкамандуецца ўносіць штогодна 3 дв. цэнтн. 40% калі солі.

Досьледы па ўжываньню фосф. кіслых. угнаеньняў, якія праводзіліся саюзам сель.-гасп. станцыі Нямеччыны паказалі, што 60% культурных глебаў Нямеччыны могуць абыйсьціся вельмі памяркоўным фосф. кісл. угнаеньнем і 40 проц. павінны мацней угнойваццa фосф. кісьлінай. Фосфатнае пытаньне ў Нямеччыне наогул стаіць даволі востра з тае прычыны што за адсутнасьцю сваіх залежаў фосфарытаў уся супэрфасфатная прамысловасьць Нямеччыны працуе на замежным фосфарыту. Рабіліся ўсялякія спробы ўзмацніць выкарыстоўваньне глебавых запасаў фосф. кісьліны. Але гэтыя спробы не далі пакуль станоўчых вынікаў.

Між іншым для нас мае цікавасьць спроба з угнаеньнем лубіну на ўпершыню завораным верасаўніку:

| | Ураджай сухое масы лубіну ў дв. цэнтн. на 1 гэктар |
|---|---|
| Вез угнаеньня | 8,9 |
| K+P | 30.0 |
| K+P+N | 38,8 |
| P | 28,7 |
| K | 2.6 |
| K+N | 2,8 |

Вельмі цікавыя зьвесткі падае дакладчык аб сваіх досьледах з медзяным купаросам. Апошні ўжываўся спачатку пад конскім бобам у Купраў і даў добрыя вынікі. Пасьля пытаньне распрацоўвалася ў Нэйгаммэрштэйне. Аказалася, што ўнясеньне ў глебу медзянага купаросу служыць як-бы сродкам, якое забясьпечвае ня толькі боб, але і шмат якія іншыя травы ад шкоды замаразкаў. І гэты уплыў, механізм якога ня высьветлен праяўляецца на працягу некалькіх гадоў пасьля ўнясеньня. Так у 1916 годзе на досьледчым полі на Каралеўскім балоце (Königsmoor) адзін кавалак быў угноены медзяным купаросам з разьліку 30 клгр. на 1 гэкт. пад боб. Уплыў на боб тады зусім ня прыкмечаўся. У 1923 годзе, праз 7 гадоў пасьля ўнясеньня медзянага купаросу плошча была занята зімоваю пшаніцаю. 7-8 чэрвеня здарыўся моцны мароз, які амаль што зусім зьнішчыў пшаніцу на тых дзялянках якія ня былі угноены медзяным купаросам, так што з іх атрымаўся збор толькі 3,2 дв. цэнтн. на 1 гэкт. збожжа і 11,0 дв. ц. саломы, між тым, як па дзялянцы угноенай медз. купаросам у 1916 годзе атрымалі 15,5 дв. ц. збожжа і 29,4 дв. ц. саломы на 1 гэкт.

Далей дакладчык падкрэсьлівае, якое істотнае значаньне мае для балотных культур насеньне выгадаванае ў адпаведных кліматычных умовах. Досьледы насеньня канюшыны рознага паходжаньня паказалі, што насеньне якое было прывезена з поўдню (Францыя, Італія) давала недоўгавечныя пасевы між тым, як паўночнае (Данія, Швэцыя) давала устойлівыя пасэвы. Цікава для нас паведамленьне д-ра Фэльдта (Кэнігсбэрг) аб лугавой гаспадарцы, культуры балотаў і кормаздабываньня ва Ўсходняй Прусіі, зробленае на 41 песеджаньні балотнага таварыства.

Провінцыяльнае кіраўніцтва мае асобны аддзел мэліарацыі, на службе ў якім маюцца: 6 дзяржаўных меліоратараў і 36 акруговых лугаводаў. У правінцыях маюцца: 30 сель.-гас. школаў, балотна-консультацыйнае бюро і сельска-гасп. консультацыя пры сель.-гасп. камеры. На чале гэтых устаноў стаяць спрактыкаваныя людзі, якія наведваюць правінцыю. Далей маецца 1000 таварыств па асушцы і меліоратыўных, якія маюць, 2 міліёны моргэнаў зямлі. Палепшаньне натуральных заліўных сенажацяў і культура балотаў у мэтах лугавое гаспадаркі мае ў краіне шматгадовую гісторыю, пры чым у ранейшыя часы галоўнымі сродкамі угнаеньня і палепшаньня сенажяцяў і пашы зьяўляліся: гной, кампост і гнойная жыжка. У сучасны момант маюць вялікае ўжываньне мінэральныя угнаеньні, як дабаўленьне да хлеўнага ўгнаеньня.

43 проц. ўсяе сельска-гасп. плошчы аддадзена тутака пад культуру кармоў. У вя-

лікім ліку маёнткаў з мінэральнай глебай на якой збажына не дае надзейных ўраджаяў; у апошні час абарочваюць палі ў сенажаці і папасы, якія складаюць 90 проц. усяе плошчы маёнткаў.

Дакладчык ведае шмат месцаў, дзе некольні дзесяткаў год таму назад была пасеяна цімафеяўка з белаю канюшынай і цяпер на гэтых мясцох утварыліся травастоі, якія маюць ўсе гатункі траў ўласьцівыя для гэтага клімату.

Ўсходняя Прусія краіна самае прадуктыўнае жывёлагадоўлі дзякуючы сваім прыродным умовам. Вялікая колькасьць балотаў і беднае мінэральнае зямлі, на якой збажына ўдаецца дрэнна прымушаюць земляроба засяваць вялікія плошчы травамі, заводзіць больш жывёлы, гной ад якой ідзе ня толькі на поле, але таксама на сенажаць і пашу.

Што дае большую рэнту на такой зямлі даводзіцца навочнай табліцай:

| | Палявая сенажаць. 30 цэнт. сена на 1 моргэн ф. | А в ё с. 8 цэнт. збожжа 12 „ саломы 1 „ мяк. на 1 морг. ф. | Ячмень. 8 цэнт. збожжа 12 „ саломы 1,5 „ мяк. на 1 морг. ф. | Азімовае жыта. 8 цэнт. збожжа 15 „ саломы 2 „ мяк. на 1 морг. ф. | Зім, пшаніца. 8 цэнт. збожжа 12 „ саломы 2 „ мяк. на 1 морг. ф. |
|---|---|---|---|---|---|
| Пераварімы бялок. | 253 | 82 | 70 | 88 | 74 |
| „ тлушч | 46 | 39 | 26 | 16 | 14 |
| „ угляводы | 866 | 676 | 768 | 728 | 725 |

У часопісі чытач знойдзе шмат артыкулаў па насеньнягадоўлі, лугавых траў, па торфатэхніцы, сілосаваньню і г. д. а таксама даведкі аб цэнах, літаратуры і цікавую паштовую скрынку. Часопіс каштуе 6 рублёў на год.

---

Адказны рэдактар **Зьм. Прышчэпаў**. Рэдактар: **Рэдколегія**.

# ЗЬМЕСТ



## ХРОНІКА.



## БІБЛІОГРАФІЯ.

